БЕЛАРУСКАЯ МОВА

ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ

Г. М. Валочка, В. У. Зелянко, І. Л. Бурак

# ПРАКТЫКУМ ПА АРФАГРАФІІ І ПУНКТУАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 10—11 КЛАСЫ

Вучэбна-метадычны комплекс

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2010

УДК 373.5.016:811.161.3
ББК 74.286Беи
В15

*Серыя заснавана ў 2010 годзе*

**Валочка, Г. М.**
В15 Практыкум па арфаграфіі і пунктуацыі беларускай мовы. 10—11 кл. : вучэб.-метад. комплекс / Г. М. Валочка, В. У. Зелянко, І. Л. Бурак. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. — 286 с. — (Беларуская мова. Факультатыўныя заняткі).
ISBN 978-985-465-768-4.

Вучэбна-метадычны комплекс прызначаны для правядзення факультатыўных заняткаў у 10—11 класах. Змешчаны ў ім тэарэтычны і практычны матэрыял забяспечвае замацаванне і сістэматызацыю ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, засваенне змен у напісанні некаторых слоў у адпаведнасці з новай рэдакцыяй «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі».

**УДК 373.5.016:811.161.3**
**ББК 74.286Беи**

**ISBN 978-985-465-768-4**

# ПРАКТЫКУМ ПА АРФАГРАФІІ.
# 10—11 КЛАСЫ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА

### Тлумачальная запіска

Арфаграфічная пісьменнасць з'яўляецца адным з паказчыкаў маўленчай і агульнай культуры чалавека. Для таго каб авалодаць арфаграфіяй, неабходныя добра развіты маўленчы слых, веданне граматыкі, валоданне аналітыка-сінтэтычнымі ўменнямі, дастатковы запас лексікі, развітыя памяць, мысленне.

Праца па арфаграфіі можа праходзіць паспяхова толькі тады, калі яна праводзіцца ў непарыўным адзінстве з вывучэннем фанетыкі, лексікі, словаўтварэння, граматыкі, развіццём маўлення вучняў. Недахопы ў арфаграфічнай пісьменнасці, як правіла, сведчаць пра недастатковае развіццё маўлення вучняў, неразуменне імі значэнняў слоў, іх частак, сэнсавых і граматычных адносін паміж словамі. Таму паслабленне ўвагі да любога ўзроўню моўнай сістэмы ўплывае на фарміраванне канкрэтных маўленчых уменняў, у прыватнасці, арфаграфічных уменняў і навыкаў.

Ва ўмовах блізкароднаснага білінгвізму навучанне арфаграфіі беларускай мовы павінна арыентавацца на пераадоленне міжмоўнай інтэрферэнцыі, у прыватнасці, на размежаванне фанетычнага прынцыпу беларускага правапісу і марфалагічнага прынцыпу рускай арфаграфіі (бел. *жыццярадасны* — рус. *жизнерадостный*).

**Мэта** прапанаваных факультатыўных заняткаў заключаецца ў павышэнні арфаграфічнай пісьменнасці вучняў, развіцці культуры пісьма.

**Задачы** факультатыўных заняткаў:

— замацаваць, паглыбіць і сістэматызаваць веды вучняў па арфаграфіі беларускай мовы з апорай на веды па іншых раздзелах (фанетыка, лексіка, састаў слова і словаўтварэнне, граматыка, тэкст);

— удасканальваць арфаграфічную пісьменнасць вучняў;

— сфарміраваць разуменне таго, што арфаграфічная пісьменнасць з’яўляецца адным з паказчыкаў маўленчай і агульнай культуры асобы, сведчыць пра адукаванасць чалавека.

Тэарэтычны матэрыял, вывучаны ў папярэдніх класах, паўтараецца на факультатыўных занятках шляхам арганізацыі падагульняльных гутарак і арфаграфічнага разбору слоў, які прадугледжвае выяўленне ўзаемасувязі фанетычнай і (або) марфалагічнай характарыстык слова з яго правапісам. Пры выкананні разнастайных відаў моўнага разбору ўзмацняецца іх практычная накіраванасць на авалоданне арфаграфічнай пісьменнасцю: аналізуючы фанетычны склад слова, вучань указвае магчымыя варыянты яго пераносу, называе арфаграмы, якія падпарадкоўваюцца фанетычнаму, марфалагічнаму прынцыпам правапісу; пры марфемным, словаўтваральным і марфалагічным разборы слоў тлумачацца асаблівасці іх напісання, абумоўленыя марфемнай будовай (напрыклад, пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычны, перад літарамі *е*, *ё*, *ю*, *я*, *і* пішацца апостраф: *без’языкі*), словаўтварэннем (напрыклад, разам пішуцца прыслоўі, утвораныя спалучэннем прыназоўніка *у* з поўнымі прыметнікамі: *усляпую*), граматычным значэннем (напрыклад, адрозніваюцца ў напісанні канчаткі дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку будучага простага часу абвеснага ладу і канчаткі дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу: *потым адпачн**яце** — крыху адпачн**іце***).

Праца па арфаграфіі праводзіцца паралельна з працай над тэкстам (у форме тлумачэння арфаграм, спісвання (выбарачнага, ускладненага і інш.), групоўкі прыкладаў на пэўныя правілы арфаграфіі і да т. п.).

Сістэматызацыя ведаў па арфаграфіі і ўдасканаленне на гэтай аснове адпаведных уменняў і навыкаў прадугледжвае выкарыстанне на факультатыўных занятках разнастайных метадаў і прыёмаў:

• арфаграфічны разбор слоў, які праводзіцца ў наступнай паслядоўнасці:

— запіс слова, абазначэнне націску, падкрэсліванне арфаграм;

— вызначэнне тыпу арфаграмы (якому правілу падпарадкоўваецца);

— фармулёўка правіла, падбор прыкладаў слоў на гэтае правіла;

— указанне прынцыпу напісання;

• пабудова абагульняльных схем і складанне табліц (напрыклад, схема «Правапіс спалучэнняў зычных на стыку марфем», табліца «Асабовыя канчаткі дзеясловаў I і II спражэння»);

• семантычны аналіз выказвання і пошук неабходных пісьмовых сродкаў для выражэння сэнсу (напрыклад, некаторыя назоўнікі 2-га

скланення мужчынскага роду ў родным склоне могуць ужывацца як з канчаткам -*а* (-*я*), так і з канчаткам -*у* (-*ю*), выбар якога залежыць ад значэння назоўніка: *у канцы лістапад**а*** (назва месяца) — *пара залатога лістапад**у*** (з'ява прыроды) і пад.);

• праца з арфаграфічнымі слоўнікамі і даведнікамі;

• арфаграфічны аналіз структурна-семантычных схем слоў (або словаўтваральных мадэлей), які развівае здольнасць прадбачыць арфаграфічныя цяжкасці, абумоўленыя марфемнай будовай слова:

галосная *і* *ць* (інф. зак. тр.) — ***й*** *ва* *ць* (інф. незак. тр.)

(калі ў неазначальнай форме дзеясловаў закончанага трывання на -*іць* мае папярэдні галосны, то ў незакончаным трыванні ўжываецца суфікс -*ва*-, а замест *і* вымаўляецца і пішацца *й*: *абнадзеіць — абнадзе**й**ваць*, *супакоіць — супако**й**ваць*);

• пабудова алгарытмаў дзеянняў па размежаванні моўных з'яў (напрыклад, алгарытмы «Мяккі знак у прыметніках перад суфіксам -*ск*-»; «Правапіс склонавых канчаткаў назоўнікаў агульнага роду») з наступным выкананнем практыкаванняў на іх аснове;

• выкананне тэставых заданняў па арфаграфіі і марфалогіі і інш.

Асаблівую актуальнасць прапанаваныя факультатыўныя заняткі набываюць у сувязі з уступленнем у сілу з 1 верасня 2010 г. Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», прынятага Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 24 чэрвеня 2008 г., адобранага Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 28 чэрвеня 2008 г. і падпісанага Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 23 ліпеня 2008 г. Актуальнасць заняткаў тлумачыцца змяненнем і ўдакладненнем некаторых правапісных нормаў сучаснай беларускай мовы, засвоеных вучнямі ў папярэдніх класах: пашырэннем прынцыпу перадачы акання пры напісанні запазычаных слоў (*тры**а**, адажы**а**, Токі**а***); пашырэннем напісання нескладовага *ў* у большасці слоў іншамоўнага паходжання (*ва **ў**ніверсітэце*, *фа**ў**на*); спрашчэннем правілаў пераносу слоў і інш.

## Змест курса
## (35 гадзін на год)

### Уводзіны
### (1 гадзіна)

Арфаграфія як сістэма агульнапрынятых правіл напісання слоў і іх формаў. Прынцыпы сучаснай беларускай арфаграфіі: фанетычны прынцып, яго апора на беларускае літаратурнае вымаўленне; марфалагічны прынцып, яго значэнне для хуткага разумення і асэнсавання напісанага; традыцыйныя і дыферэнцыйныя напісанні.

Замацаванне арфаграфічных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў арфаграфічных слоўніках і даведніках.

### Правапіс галосных
### (5 гадзін)

Правапіс галосных ***о***, ***э***, ***а***. *Роля націску пры напісанні* ***о, э, а****. Адлюстраванне на пісьме чаргаванняў* **[ро] — [ры]**, **[ло] — [лы]** (*бровы — брыво, глотка — глытаць*). *Перадача на пісьме ненаціскнога* **[э]** *ў запазычаных словах* (*экзамен, рэкорд*).

Правапіс галосных ***е***, ***ё***, ***я***. *Роля націску пры выбары арфаграм* ***е — я****. Нарматыўнае вымаўленне часціцы* ***не*** (*не сеяў — не пасеяў*), *прыназоўніка* ***без*** (*без солі — без вады*).

Правапіс галосных ***о***, ***э***, ***а***, ***е***, ***ё***, ***я*** ў складаных словах. *Роля націску ў другой частцы складанага слова пры напісанні арфаграм* **о — а**, **ё — е** *ў першай частцы (добразычлівы — дабраякасны, лёгкаатлетычны — легкадумны). Умовы выбару злучальных галосных* **о, а, е, ё, я** (*ільновалакно, баяздольны*).

Правапіс спалучэнняў галосных ***іё*** (***ыё***), ***ія*** (***ыя***), ***іе*** (***ые***), ***іо*** (***іа***), ***ео*** (***еа***), ***эо*** (***эа***) у іншамоўных словах. *Напісанне* **іо** (**іа**) *у пачатку слоў* (*іон, іанізацыя*). *Перадача гукавога спалучэння* **[й]** *з галоснымі ў словах іншамоўнага паходжання ётаванымі галоснымі* (*маянэз, ёгурт, Нью-Ёрк*).

Правапіс прыстаўных галосных ***і***, ***а***.

Правапіс літар ***і***, ***ы***, ***й***.

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс галосных. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

### Правапіс зычных
### (6 гадзін)

Правапіс і вымаўленне звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных.

Правапіс ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц***. *Захаванне* ***д*** *у складзе прыстаўкі і* ***т*** *у складзе суфікса перад мяккім* [в'] (*адвезці, у агенцтве*). *Напісанне* ***дз***, ***ц*** *перад суфіксамі* (*спалучэннямі*) ***-ін-***, ***-ір-***, ***-ік-***, ***-ёр-***, ***-еец-***, ***-ейск-*** (*камандзір,*

*білецёр, гвардзейскі*). ***Дз* і *ц*** *у некаторых словах іншамоўнага паходжання* (*бардзюр, уверцюра*).

Правапіс падоўжаных зычных. *Адсутнасць падвоеных літар у запазычаных словах* (*тэрыторыя, піца*).

Правапіс некаторых спалучэнняў зычных. *Спрашчэнне спалучэнняў зычных* ***здн — зн****;* ***згн — зн****;* ***стн****,* ***сцн — сн****;* ***скн — сн****;* ***стл****,* ***сцл — сл****;* ***рдн — рн*** (*праязны, кантрасны, міласэрны*).

Правапіс прыстаўных і ўстаўных літар ***в***, ***г***.

Правапіс літар ***у***, ***ў***.

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс зычных. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

## Правапіс мяккага знака і апострафа (2 гадзіны)

Змякчальны мяккі знак як сродак абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага.

Правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа. *Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс мяккага знака і апострафа. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

## Ужыванне вялікай і малой літар (2 гадзіны)

Вялікая і малая літары ў асабовых назвах; у прыметніках, утвораных ад асабовых назваў; у геаграфічных і астранамічных назвах; у назвах дзяржаўных органаў і іншых арганізацый; у найменнях пасад і званняў.

Вялікая і малая літары ў назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, рэліквій, дзяржаўных узнагарод; у назвах дакументаў, унікальных прадметаў, твораў; у назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, свят.

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць ужыванне вялікай і малой літар.*

## Правапіс назоўнікаў (5 гадзін)

Напісанне складаных назоўнікаў разам і праз злучок. *Апазнавальныя прыметы злітных і паўзлітных напісанняў. Умовы выбару дэфісных напісанняў назоўнікаў з аднаслоўным прыдаткам* (*дзяўчына-красуня — красуня дзяўчына*).

Правапіс суфіксаў назоўнікаў.

Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў 1-га скланення (давальны і месны склоны адзіночнага ліку); назоўнікаў 2-га

скланення мужчынскага роду (родны і месны склоны адзіночнага ліку); назоўнікаў 3-га скланення (творны склон адзіночнага ліку); рознаскланяльных назоўнікаў; назоўнікаў множнага ліку (родны і творны склоны). Скланенне назоўнікаў, якія абазначаюць імёны, прозвішчы і назвы населеных пунктаў, на ***-оў*** (***-ова***), ***-ёў*** (***-ёва***), ***-аў*** (***-ава***), ***-ін*** (***-іна***), ***-ын*** (***-ына***) (творны склон адзіночнага ліку).

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс канчаткаў назоўнікаў. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

## Правапіс прыметнікаў
## (2 гадзіны)

Напісанне складаных прыметнікаў разам і праз злучок.

Правапіс суфіксаў прыметнікаў ***-еньк-*** (***-аньк-***, ***-эньк-***); ***-энн-*** (***-енн-***); ***-еў*** (***-ев-***), ***-аў*** (***-ав-***), ***-оў*** (***-ов-***), ***-ёў*** (***-ёв-***) і інш. Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў прыметнікаў.

## Правапіс лічэбнікаў
## (2 гадзіны)

Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў колькасных, парадкавых, зборных, дробавых лічэбнікаў. Нарматыўная пабудова колькасна-іменных спалучэнняў.

## Правапіс займеннікаў
## (1 гадзіна)

Нарматыўная пабудова словазлучэнняў і сказаў са склонавымі формамі займеннікаў *ты*, *сябе*, *сам*, *самы*, *ніхто*, *нішто*, *нехта*, *нешта* і інш.

## Правапіс дзеясловаў
## (3 гадзіны)

Правапіс суфіксаў дзеясловаў.

Нарматыўнае ўжыванне асабовых дзеясловаў I і II спражэння, рознаспрагальных дзеясловаў. Ужыванне і правапіс дзеясловаў загаднага ладу.

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс суфіксаў дзеясловаў, асабовых канчаткаў дзеясловаў. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў. *Захаванне на пісьме галоснай* ***я*** *дзеяслоўнай асновы пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў ад дзеясловаў на* ***-яць*** *(пасеяць — пасеяны). Выбар суфікса дзеепрыслоўя незакончанага трывання ў залежнасці ад спражэння ўтваральнага дзеяслова.*

Нарматыўнае ўжыванне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў.

## Правапіс прыслоўяў
## (1 гадзіна)

Напісанне прыслоўяў разам і праз злучок. Правапіс блізкіх да прыслоўяў спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі. *Адрозненне прыслоўяў ад аманімічных спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі.*

*Цяжкія выпадкі ў прымяненні арфаграфічных правіл, якія рэгулююць правапіс прыслоўяў. Вызначэнне правапісу такіх слоў па слоўніку.*

## Правапіс службовых часцін мовы
## (2 гадзіны)

Правапіс асобна, разам, праз злучок прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц.

Значэнне часціц ***не*** і ***ні***. Правапіс ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы.

## Правілы пераносу слоў
## (1 гадзіна)

## Падагульненне вывучанага
## (2 гадзіны)

Падагульняльны тэст па арфаграфіі і марфалогіі і яго аналіз.

## Прагназуемыя вынікі

Вучні павінны **ведаць**:
- сістэму правіл беларускай арфаграфіі;
- прынцыпы беларускай арфаграфіі;
- арфаграфічныя слоўнікі і даведнікі беларускай мовы.

Вучні павінны **ўмець**:

— захоўваць арфаграфічныя і граматычныя нормы ва ўласных выказваннях;

— размяжоўваць фанетычныя, марфалагічныя, традыцыйныя, дыферэнцыйныя напісанні;

— выяўляць асаблівасці слоў (фанетычныя, структурныя, марфалагічныя, семантычныя), ад якіх залежыць выбар арфаграмы;

— карыстацца арфаграфічнымі слоўнікамі і даведнікамі;

— аналізаваць асаблівасці ўжывання адзінак мовы ў пісьмовым маўленні з пункта погляду захавання арфаграфічных і граматычных нормаў;

— валодаць разнастайнымі прыёмамі прымянення правіл; адрозніваць націскныя і ненаціскныя склады; правільна ўспрымаць фанетычны і марфемны састаў слова; кваліфікаваць ролю слова ў словазлучэнні, сказе і тэксце.

## Прыкладнае тэматычнае планаванне вучэбнага матэрыялу

(35 гадзін на год)

| № п/п | Тэма заняткаў | Коль-касць гадзін |
|---|---|---|
| 1 | Уводзіны | 1 |
| | ***Правапіс галосных*** (*5 гадзін*) | |
| 2 | Правапіс галосных ***о***, ***э***, ***а*** | 1 |
| 3 | Правапіс галосных ***е***, ***ё***, ***я*** | 1 |
| 4 | Правапіс галосных ***о***, ***э***, ***а***, ***е***, ***ё***, ***я*** ў складаных словах | 1 |
| 5 | Правапіс спалучэнняў галосных ***іё*** (***ыё***), ***ія*** (***ыя***), ***іе*** (***ые***), ***іо*** (***іа***), ***ео*** (***еа***), ***эо*** (***эа***) у іншамоўных словах | 1 |
| 6 | Правапіс прыстаўных галосных ***і***, ***а***. Правапіс літар ***і***, ***ы***, ***й*** | 1 |
| | ***Правапіс зычных*** (*6 гадзін*) | |
| 7 | Правапіс і вымаўленне звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных | 1 |
| 8 | Правапіс ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц*** | 1 |
| 9 | Правапіс падоўжаных зычных | 1 |
| 10 | Правапіс некаторых спалучэнняў зычных | 1 |
| 11 | Правапіс прыстаўных і ўстаўных літар ***в***, ***г*** | 1 |
| 12 | Правапіс літар ***у***, ***ў*** | 1 |
| | ***Правапіс мяккага знака і апострафа*** (*2 гадзіны*) | |
| 13 | Змякчальны мяккі знак як сродак абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага | 1 |
| 14 | Правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа | 1 |
| | ***Ужыванне вялікай і малой літар*** (*2 гадзіны*) | |
| 15 | Вялікая і малая літары ў асабовых назвах; прыметніках, утвораных ад асабовых назваў; у геаграфічных і астранамічных назвах; у назвах дзяржаўных органаў і іншых арганізацый; ў найменнях пасад и званняў | 1 |

| | | |
|---|---|---|
| 16 | Вялікая і малая літары ў назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, рэліквій, дзяржаўных узнагарод; у назвах дакументаў, унікальных прадметаў, твораў; у назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, свят | 1 |
| ***Правапіс назоўнікаў*** (*5 гадзін*) | | |
| 17 | Напісанне складаных назоўнікаў разам і праз злучок | 1 |
| 18 | Правапіс суфіксаў назоўнікаў | 1 |
| 19, 20 | Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў 1, 2, 3-га скланення | 2 |
| 21 | Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў рознаскланяльных назоўнікаў, назоўнікаў множнага ліку | 1 |
| ***Правапіс прыметнікаў*** (*2 гадзіны*) | | |
| 22 | Напісанне складаных прыметнікаў разам і праз злучок | 1 |
| 23 | Правапіс суфіксаў прыметнікаў. Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў прыметнікаў | 1 |
| ***Правапіс лічэбнікаў*** (*2 гадзіны*) | | |
| 24 | Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў колькасных, парадкавых, зборных, дробавых лічэбнікаў | 1 |
| 25 | Нарматыўная пабудова колькасна-іменных спалучэнняў | 1 |
| ***Правапіс займеннікаў*** (*1 гадзіна*) | | |
| 26 | Нарматыўная пабудова словазлучэнняў і сказаў са склонавымі формамі займеннікаў | 1 |
| ***Правапіс дзеясловаў*** (*3 гадзіны*) | | |
| 27 | Правапіс суфіксаў дзеясловаў | 1 |
| 28 | Нарматыўнае ўжыванне асабовых дзеясловаў I і II спражэння, рознаспрагальных дзеясловаў. Ужыванне і правапіс дзеясловаў загаднага ладу | 1 |
| 29 | Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў. Нарматыўнае ўжыванне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў | 1 |

| | | |
|---|---|---|
| ***Правапіс прыслоўяў***<br>(*1 гадзіна*) | | |
| 30 | Напісанне прыслоўяў разам і праз злучок. Правапіс блізкіх да прыслоўяў спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі | 1 |
| ***Правапіс службовых часцін мовы***<br>(*2 гадзіны*) | | |
| 31 | Правапіс асобна, разам, праз злучок прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц | 1 |
| 32 | Значэнне часціц ***не*** і ***ні***. Правапіс ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы | 1 |
| ***Правілы пераносу слоў***<br>(*1 гадзіна*) | | |
| 33 | Правілы пераносу слоў | 1 |
| | ***Падагульненне вывучанага***<br>(*2 гадзіны*) | |
| 34, 35 | Падагульненне вывучанага | 2 |

# МЕТАДЫЧНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

## Уводзіны

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў пра арфаграфію як раздзел мовазнаўства і сістэму правілаў перадачы вуснага маўлення на пісьме; развіваць уменне размяжоўваць напісанні, заснаваныя на фанетычным і марфалагічным прынцыпах беларускай арфаграфіі.

Азнаямленне старшакласнікаў з тэарэтычным матэрыялам, змешчаным у дапаможніку для вучняў, можа суправаджацца складаннем схемы «Прынцыпы арфаграфіі»:

**Фанетычны прынцып**
(напісанне слова адпавядае яго літаратурнаму вымаўленню: *б**я**роза, к**а**лоссе*)

**Марфалагічны прынцып**
(прадугледжвае аднастайнае напісанне марфем; вымаўленне і напісанне слова не супадаюць: *про**с**ьба, добру**ш**скі*)

**ПРЫНЦЫПЫ АРФАГРАФІІ**

**Традыцыйныя напісанні**
(передаюцца па традыцыі і не адпавядаюць сучасным нормам пісьма: *г**е**рой, ра**с**ада*)

**Дыферэнцыйныя напісанні**
(служаць для графічнага адрознення слоў з аднолькавым гучаннем, але розным значэннем: ***т**анк* — ***Т**анк* (*псеўданім*), *Барысав**ы**м* (*прозвішча*) — *Барысав**а**м* (*горад*))

Паколькі ў дапаможніку для вучняў паведамляецца пра асноўныя прынцыпы беларускага правапісу — фанетычны і марфалагічны, — настаўніку варта пазнаёміць старшакласнікаў з традыцыйнымі і дыферэнцыйнымі напісаннямі.

*Традыцыйныя напісанні* ўсталяваліся ў мінулым і не адпавядаюць сучасным нормам пісьма (выключэнні з правілаў): *рады**у**с*, *да **У**ладзіслава*, *к**е**фір*, *п**е**рсона*, *ра**с**ол*, *ра**с**аднік* ‘месца, скрынка для вырошчвання расады’ і інш.

*Дыферэнцыйныя напісанні* служаць для графічнага адрознення слоў (формаў слоў), якія гучаць аднолькава, але маюць розныя значэнні: *ліпень* (месяц) і *Ліпень* (прозвішча), *зрабій* *збольшага* (прыслоўе) і *сабраў парэчкі* *з большага* *куста* (прыназоўнік з прыметнікам) і інш.

На ўводных занятках удакладняецца разуменне вучнямі тэрміна **арфаграма** (грэч. orthos 'правільны', gramma 'пісьмовы знак, літара') — правільнае напісанне, якое выбіраецца з шэрагу магчымых і адпавядае правілам арфаграфіі або традыцыі.

Трэба пазнаёміць старшакласнікаў з **парадкам і ўзорам арфаграфічнага разбору слова**:

1. Запісаць слова, абазначыць націск, падкрэсліць арфаграмы.
2. Вызначыць тып арфаграмы (на якое правіла).
3. Сфармуляваць правіла напісання арфаграмы. Прывесці прыклады на гэтае правіла.
4. Указаць прынцып напісання[1].

***Узор***: *с п а з н і́ ц ц а*

— напісанне літары *с* адпавядае правілу «Правапіс прыставак на *з-*, *с-*»: прыстаўка *с-* пішацца перад літарай, якая абазначае глухі зычны гук (*скінуць*, *схапіць*, *стрымаць*); фанетычны прынцып;

— напісанне літары *а* адпавядае правілу «Перадача акання на пісьме»: не пад націскам пішацца літара *а* (*халады*, *пчала*, *чарнець*); фанетычны прынцып;

— напісанне спалучэння *зн* адпавядае правілу «Правапіс спалучэнняў *зн*, *сн*, *сл*, *рн*, *нц*, *рц*»: на месцы гістарычнага спалучэння *здн* пішацца *зн* (*праязны*, *выязны*, *позна*); фанетычны прынцып;

— напісанне спалучэння *зн* адпавядае таксама правілу «Правапіс мяккага знака»: пасля літары *з* мяккі знак не пішацца, таму што ў аднакаранёвым слове *позна* мяккасць зычных не захоўваецца (*у сне — сны*, *звінець — звон*, *шэсць — шосты*); марфалагічны прынцып;

— напісанне спалучэння *цц* адпавядае правілу «Напісанне *цц* у зваротнай форме інфінітыва»: у зваротнай форме інфінітыва пішуцца літары *цц* (*клапаціцца*, *ажаніцца*, *хвалявацца*).

На кожных занятках варта прапаноўваць вучням для арфаграфічнага разбору 2—3 словы, у якіх ёсць не менш за дзве арфаграмы (можна выкарыстоўваць словы, уключаныя ў тэарэтычны або практычны матэрыял дапаможніка для вучняў).

Пры размеркаванні старшакласнікамі слоў па групах у адпаведнасці з фанетычным і марфалагічным прынцыпамі арфаграфіі (практыкаванне 1) настаўніку варта звярнуць увагу вучняў на тое, што ў адным

[1] Куліковіч, У. Урокі арфаграфіі : Урок 1. Арфаграфія як раздзел мовазнаўства / У. Куліковіч // Роднае слова. — 2008. — № 11. — С. 41.

слове могуць сустракацца напісанні, заснаваныя як на фанетычным, так і на марфалагічным прынцыпах. Напрыклад, у слове *бясшэрсны* напісанне літары *я*, спалучэння *сн* заснавана на фанетычным прынцыпе арфаграфіі, напісанне літары *с* у прыстаўцы — на марфалагічным прынцыпе.

З верша К. Цвіркі «Там яна» (практыкаванне 2) старшакласнікі павінны выпісаць словы, напісанне якіх заснавана на фанетычным (*гамоніць*, *нябёс*, *Дняпро* і інш.) і марфалагічным (*Буг*, *Свіцязь*, *без дна* і інш.) прынцыпах. Пасля адказу вучняў на дадатковае пытанне «Як называецца “горад солі малады”?» (*Салігорск*) настаўнік паведаміць, што замест слоў у маўленні могуць ужывацца семантычна непадзельныя словазлучэнні — **перыфразы** (ад грэч. periphrasis — апісальны зварот), якія называюць прадметы, прыметы, дзеянні і адначасова характарызуюць іх. Старшакласнікам прапануецца замяніць наступныя перыфразы словамі (пры неабходнасці прыводзіцца ілюстрацыя ўжывання перыфразы ў творы мастацкай літаратуры) і выканаць арфаграфічны разбор гэтых слоў:

а) *белы пух*: «*Зямлі не чуеш пад сабою і ловіш белы пух рукою*» (Я. Колас) — *снег*; б) *салёная расінка*: «*Па шчацэ нечакана — расінка салёная*» (М. Арочка) — *сляза*; в) *захад жыцця*: «*Хіліцца к вечару дзень, і даўжэйшымі робяцца цені, з болем пад захад жыцця ўспомніш пра гэтае ты*» (М. Багдановіч) — *старасць*; г) *сінявокая радзіма*: «*Зямля мая далёкая, зямля мая цудоўная, радзіма сінявокая, каму красой ты роўная*?» (К. Буйло) — *Беларусь*; д) *пабачыць упершыню свет*: «*Дзе тыя стрэхі, пад якімі не адзін з нас упершыню пабачыў свет*?» (Э. Самуйлёнак) — *нарадзіцца*.

Пасля спісвання тэксту паводле У. Юрэвіча пра паходжанне слоў *грэчка*, *персік*, *фара* (практыкаванне 3) вучням можа быць прапанавана адказаць, які горад даў назву перасоўнаму лялечнаму тэатру — *батлейцы* (*ізраільскі горад Віфлеем* (*па-польску* Betleem), *дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос: у рэпертуары батлейкі пераважала рэлігійная тэматыка*).

## Правапіс галосных

### Правапіс галосных *о, э, а*

**Мэта заняткаў** — узнавіць і ўдакладніць веды вучняў аб правапісе галосных ***о***, ***э***, ***а***; удасканальваць навык перадачы акання на пісьме.

Пры засваенні правіла правапісу галосных *о, э, а* неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на тое, што зараз гэтае правіла не мае выключэнняў, як у «Правілах» 1959 года. Словы з ненаціскным кан-

цавым *о* (*адажыо*, *сальфеджыо*, *трыо* і інш.), якія паводле правілаў 1959 года пісаліся з *о*, перастаюць быць выключэннямі і пішуцца з канцавым *а*: *адажыа*, *сальфеджыа*, *трыа*, *партфоліа*, *Токіа*, *Ватэрлоа* і г. д.

Змены адбыліся і ў правапісе слоў іншамоўнага паходжання з канцавымі ненаціскнымі *-эль*, *-эр*, у якіх паводле правілаў 1959 г. захоўвалася нязменнае напісанне гэтых частак. У новай рэдакцыі «Правілаў» на напісанне гэтых слоў і вытворных ад іх паслядоўна распаўсюджваецца агульны прынцып адлюстравання акання на пісьме: *аўтсайдар* (*аўтсайдарскі*), *бартар* (*бартарны*), *бухгалтар*, *дэкодар, майстар*, *прынтар* (*прынтарны*), *камп'ютар* (*камп'ютарны*, *камп'ютаршчык*), *кандытар* (*кандытарскі*), *світар*, *фарватар* (*фарватарны*), *шніцаль*, *эспандар* і г. д.

Пры знаёмстве са змешчаным у дапаможніку для вучняў тэарэтычным матэрыялам можна прапанаваць старшакласнікам дапоўніць яго ўласнымі прыкладамі слоў, што ілюструюць розныя выпадкі правапісу літар *о*, *э*, *а*. У сшытках вучняў можа з'явіцца наступны запіс:

1) *слоўнік*, *паліто*, *оптыка*; 2) б) *гэтакі*; в) *пачэсны*, *цэгла*, *крэйда*; г) *этыка*, *эстрада*, *элементарны*; д) *рэзюмэ, Морзэ*; е) *мэтанакіраваны*, *рэдказубы*, *тэлебачанне*; 3) *добры — дабрыня*, *шэры — шараваты*; *баранаваць*, *папараць*, *фальварак*; 4) *крошка — крышыць*, *гром — грымоты*, *брод — брысці*; *брызентавы*, *бесцырымонна*, *канцылярскі*; 5) *шніцаль*, *форталь*, *тэндар*.

Для таго каб удакладніць разуменне вучнямі сэнсу некаторых іншамоўных слоў, даецца заданне знайсці сярод прыкладаў, што прыводзяцца ў тэарэтычным матэрыяле, назоўнікі, якія маюць наступныя лексічныя значэнні:

а) 'шыйная хустка або шалік' (*кашнэ*); б) 'афіцыйнае паведамленне, пераважна па пытаннях міжнароднага значэння' (*камюніке*); в) 'невялікая чыгуначная платформа або ваганетка, якая прыводзіцца ў рух уручную або рухавіком; выкарыстоўваецца для перавозкі людзей і грузаў на невялікую адлегласць' (*дрызіна*); г) '1) гераічныя народныя паданні; 2) апавядальны род мастацкай літаратуры ў адрозненне ад лірыкі ці драмы' (*эпас*); д) '1) павольны музычны тэмп; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе; 3) павольная частка сольнага або дуэтнага балетнага танца' (*адажыа*).

На аснове тэксту паводле Б. Бур'яна (практыкаванне 4) вучні практыкуюцца ў знаходжанні слоў, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс галосных *о*, *э*, *а*». Для таго каб старшакласнікі правільна назвалі арфаграмы ў выдзеленых словах (*схаваныя*, *адпавядаў*, *шапаценню*), варта акцэнтаваць іх увагу на тым, што арфаграма ёсць там, дзе ёсць выбар: у пэўнай частцы слова трэба выбраць адзін варыянт з шэ-

рагу магчымых. Так, у слове *адпавядаў* арфаграмамі з'яўляюцца літары *д* (выбіраем, што пісаць: *д* ці *т*), *я* (выбіраем паміж *я* і *е*), *ў* (выбіраем паміж *ў* і *л*).

Пры выкананні вучнямі дадатковага задання (растлумачыць розніцу ў лексічных значэннях слоў *галіністы* і *галінасты*) настаўніку трэба звярнуць увагу на тое, што пары слоў тыпу *галіністы* 'з вялікай колькасцю галін' і *галінасты* 'з вялікімі галінамі; разложысты, разгалісты' называюцца паронімамі. Замацаванню ўмення адрозніваць лексічныя значэнні паронімаў будзе спрыяць заданне запісаць сказы пад дыктоўку, выбіраючы з дужак патрэбнае па сэнсе слова, і растлумачыць правапіс галосных *о, э, а* ў гэтых словах:

1) *Утраіх спыніліся каля* (*рэгуліровачнага / рэгулярнага*) *паста, дзе сярод вуліцы стаяла русявая загарэлая дзяўчына са сцяжкамі* (І. Мележ). 2) *Мужчына хутка, па-вайсковаму надзеў* (*трэніраваны / трэніровачны*) *касцюм, абуў кеды і лёгенька, паволі пабег па сцежцы* (А. Жук). 3) *За мястэчкам* (*стральба / стрэльба*) *чутна была да самай раніцы* (К. Чорны). 4) *Пусцеў бераг, знікалі з вачэй* (*здробненыя / здрабнелыя*) *кропкі баркасаў*... (В. Карамазаў). 5) (*Вытворчыя / вытворныя*) *майстэрні вучылішча размяшчаюцца ў дрэваапрацоўчым цэху завода* (М. Даніленка).

Адказы: 1) *рэгуліровачнага*, 2) *трэніровачны*, 3) *стральба*, 4) *здрабнелыя*, 5) *вытворчыя*.

Практыкаванні 5, 6 могуць быць прапанаваны для самастойнага выканання. Пасля праверкі правільнасці выканання заданняў настаўнік дае заданне падкрэсліць сярод запісаных слоў тыя, што адпавядаюць наступным лексічным значэнням:

а) 'музычны твор для трох галасоў або музычных інструментаў з самастойнай партыяй у кожнага выканаўцы; ансамбль з трох выканаўцаў (спевакоў або музыкантаў)' (*трыа*);

б) 'узорны, выдатны твор мастацтва' (*шэдэўр*);

в) 'белыя рыхлыя крышталікі, формай падобныя да сняжынак, якія нарастаюць пры значным марозе і тумане на галінах дрэў, дроце і пад.; *перан.* сівізна; змрок, цемра' (*шэрань*);

г) 'хлеў або павець для дроў' (*дрывотня*).

Пасля спісвання сказаў з устаўкай прапушчаных літар (практыкаванне 7) вучням прапануецца знайсці сярод прыведзеных сказаў складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак і скласці яго схему (*Як цуд чужы вачэй ні цешыў, душа шаптала мне сама: ёсць край цяплейшы, багацейшы, але раднейшага няма* (Г. Бураўкін). Схема сказа: (*Як*... ), [ ]: [ ], *але* [ ]. ).

**Рубрыка «Правільнасць маўлення»** спрыяе ўсведамленню старшакласнікамі таго, што арфаграфічныя нормы дазваляюць размяжоўваць сэнс аднолькавых або блізкіх па гучанні слоў і іх формаў. Так, пры знаёмстве вучняў са значэннямі слоў *ордэн* і *ордар* трэба звярнуць увагу на тое, што названыя словы з’яўляюцца паронімамі, а словы *ордэн* ‘асобы знак узнагароды за выдатныя заслугі’ і *ордэн* ‘арганізацыя, таварыства з пэўным статутам’, *ордар* ‘пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне, выдачу чаго-небудзь’ і *ордар* ‘разнавіднасць спалучэння, парадак размяшчэння частак архітэктурных канструкцый’ — амонімамі.

Выконваючы практыкаванне 8, вучні пры неабходнасці могуць карыстацца руска-беларускімі слоўнікамі.

Са словамі, выпісанымі з практыкавання 9, старшакласнікам можна прапанаваць скласці словазлучэнні (*барацьба з тэрарызмам*, *працоўны дэсант*, *смелы рэфарматар* і інш.) і вызначыць від сінтаксічнай сувязі слоў у іх.

У якасці дадатковага задання да практыкавання 10 старшакласнікам прапануецца сярод прыведзеных сказаў знайсці той, у якім аўтарам выкарыстаны вобразна-выяўленчыя магчымасці гукапісу (*Навальніцы г**р**ымяць над к**р**учамі, з го**р** бягуць **р**учаі г**р**ымучыя* (Г. Бураўкін)).

## Правапіс галосных *е, ё, я*

**Мэта заняткаў** — узнавіць і ўдакладніць веды вучняў аб правапісе галосных ***е***, ***ё***, ***я***; удасканальваць навык перадачы якання на пісьме.

Пры засваенні правіла правапісу галосных *е*, *ё*, *я* неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на напісанне *я* замест *е* (*ё*) у першым складзе перад націскам у словах *дзявя́ты*, *дзся́ты*, *дзяся́тка*, *дзяся́тнік*, *сямна́ццаць*, *сямна́ццаты*, *васямна́ццаць*, *васямна́ццаты*, *пяцьдзяся́т*, *пяцідзяся́ты*, *шэсцьдзяся́т*, *шасцідзяся́ты*, *сямідзяся́ты*, *васьмідзяся́ты* і некаторых іншых словах іншамоўнага паходжання.

**Рубрыка «Правільнасць маўлення»** знаёміць вучняў з семантыкай першых частак складаных слоў *радыё-* ‘які мае адносіны да радыё’ і *радые-* (*радыя-*) ‘які адносіцца да радыю, радыяцыі’. Для фарміравання ў старшакласнікаў умення размяжоўваць названыя часткі настаўнік прапануе запісаць пад дыктоўку словы ў два слупкі: 1) словы з першай часткай *радыё-*; 2) словы з першай часткай *радые-* (*радыя-*):

*Радыёрэпартаж*, *радыеэкалогія*, *радыёпрыёмнік*, *радыёрубка*, *радыебіялогія*, *радыяхімія*, *радыёантэна*, *радыеактыўнасць*, *радыёхваля*, *радыевугляродны*, *радыеадчувальны*, *радыёсігнал*, *радыёспектакль*, *радыяметрыя*, *радыёпазыўныя*, *радыеўстойлівы*, *радыёканцэрт*, *радыелячэнне*.

Пасля вывучальнага чытання тэарэтычнага матэрыялу старшакласнікам даецца заданне запісаць па памяці 15—20 слоў, што прыводзяцца ў якасці прыкладаў для ілюстрацыі палажэнняў правіла аб правапісе галосных *е*, *ё*, *я*.

Пасля выканання практыкавання 11 настаўнік можа прапанаваць вучням знайсці сярод прыведзеных слоў такое слова, пры падборы адпаведніка да якога неабходна ўжыць словазлучэнне (*верашчака* — рус. *жидкое мучное блюдо*).

Спісванне слоў з практыкавання 12 можа завяршыцца ўзаемаправеркай у парах (вучні алоўкам выпраўляюць памылкі, дапушчаныя аднакласнікамі), пасля чаго адбываецца калектыўная праверка правільнасці выканання задання.

Практыкаванне 13 прапануецца для самастойнага выканання.

Пры падборы да слоў рускай мовы беларускіх адпаведнікаў (практыкаванне 14) настаўніку варта акцэнтаваць увагу старшакласнікаў на тым, што дзеясловы абодвух спражэнняў з націскнымі канчаткамі ў 2-й асобе множнага ліку маюць націск на апошнім галосным канчатка: *несяце́*, *ведзяце́, берацé, крычыце́, маўчыце́, гледзіце́* [2]. Рускаму слову *смесь* у беларускай мове адпавядаюць два назоўнікі: *мешаніна* (сукупнасць чаго-небудзь разнароднага) і *сумесь* (сукупнасць рэчываў).

Практыкаванне 15 вучні выконваюць самастойна. Падчас праверкі настаўнік прапануе сярод выпісаных слоў (з устаўленай літарай *е*) знайсці тыя, што адпавядаюць наступным схемам (шэрым колерам пазначаны націскны склад, колькасць складоў у словах на схемах не адлюстравана):



(словы, у якіх у першым складзе перад націскам захоўваецца літара *е*: *Тэгеран*, *Херсон*, *мелодыя* і інш.);



(словы, у якіх *е* пішацца не ў першым пераднаціскным складзе: *весялосць*, *заселянецъ*, *цецярук* і інш.);



(словы, у якіх *е* пішацца ў паслянаціскным складзе: *высеяць, вылечыць, колер* і інш.).

Дадатковыя заданні:

• Падбярыце сінонім да прыметніка *цягавіты* (*працавіты*).

• Якія з прыведзеных у практыкаванні назоўнікаў ужываецца ў параўнанні «*глухі як...*»? (*цецярук*).

---

[2]Кароткая граматыка беларускай мовы : у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. — Мінск, 2007. — Ч. 1 : Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. — С. 215.

Пры спісванні тэксту У. Коваля (практыкаванне 16) можа быць выкарыстана **вуснае каменціраванне**: адзін з вучняў сцісла тлумачыць правапіс слоў з прапушчанымі літарамі. Заўважым, што каменціраванне нельга атаясамліваць з паскладовым прагаворваннем, якое «не звязана з актывізацыяй мысліцельнай дзейнасці, выкарыстоўваецца толькі тады, калі тую ці іншую арфаграму ніяк нельга растлумачыць, пракаменціраваць»[3].

«Расшыфроўка» адрасаванага жняцам пажадання «*З коласа асьміна, з зярнятка — аладка!*» можа быць наступнай: «*Няхай будзе вельмі багаты ўраджай зерня, каб мукі хапіла і на хлеб, і на пірагі, і на аладкі!*».

Ахарактарызаваць асаблівасці вымаўлення слоў *адценні*, *расцвіталі*, *прыкладзешся*, *вільгаццю*, *матчыну*, *адчуеш* (практыкаванне 17) вучням дапаможа запіс гэтых слоў у фанетычнай транскрыпцыі і вызначэнне відаў асіміляцыі зычных гукаў: *адценні* [ац'ц'эн'н'і] — прыпадабненне [д] да [ц']; *расцвіталі* [рас'ц'в'італ'і] — асіміляцыя па мяккасці і да т. п. (пры неабходнасці рэкамендуецца звярнуцца да табліцы, змешчанай у вучэбным дапаможніку «Беларуская мова» для 10 класа (2009), с. 85). Дадатковае заданне да практыкавання патрабуе расказаць пра нацыянальныя звычаі і традыцыі, звязаныя з выкарыстаннем ручнікоў. Настаўнік можа дапоўніць вусныя паведамленні вучняў наступнай культуразнаўчай інфармацыяй:

— *Ручнікі традыцыйна выкарыстоўвалі для штодзённага і святочнага дэкаратыўнага ўбрання жылля, абразоў (ручнікі-набожнікі). Ручнікі былі неабходным атрыбутам у вясельным і пахавальна-памінальным абрадах. Яны ўваходзілі ў пасаг нявесты, з'яўляліся неабходнай часткай яе падарункаў жаніху, сватам, родзічам жаніха. Ручнікамі перавязвалі цераз плячо важных удзельнікаў вяселля. Ручнік пасцілалі як «падножнік», на які станавіліся маладыя ў царкве падчас вянчання, выкарыстоўвалі для абрадавага звязвання маладых, для абгортвання рук нявесты і жаніха ва ўрачыстыя моманты вяселля.*

*Ручнікі клалі нябожчыку ў труну, прывязвалі да павадоў каня, які вёз нябожчыка на могілкі. На ручніках апускалі труну ў магілу, ручніком упрыгожвалі надмагільны крыж. Як знак жалобы ручнік вывешвалі за акно на сарачыны (саракавы дзень пасля смерці чалавека), Дзяды.*

*У час засухі, эпідэмій, вайны жанчыны ўсяго сяла ткалі на працягу дня ці ночы абыдзённік. Згодна з народнымі вераваннямі беларусаў, навізна, а значыць асаблівая чысціня абыдзённіка надавалі яму магічную сілу супраць няшчасцяў.*

---

[3]Власенков, А. И. Обучение русской орфографии в школе с белорусским языком преподавания / А. И. Власенков. — Минск: Народная асвета, 1980. — С. 126.

*Узорыстыя ручнікі часта ахвяроўвалі як дар у царкву, касцёл, капліцу, вешалі на крыжы, што стаялі на расстайных дарогах.*

*Ручнікі займалі важнае месца ў каляндарных звычаях і абрадах. На Вадохрышча ручніком часам упрыгожвалі ледзяны крыж. На Сёмуху* (*сёмы тыдзень пасля Вялікадня*) *ручнікі ахвяроўвалі бярозе як духу раслiннасці. На Купалле* (*у ноч з 6 на 7 ліпеня*) *разам з вянкамі з жывых кветак ручнікі развешвалі на прыдарожных крыжах. На зажынках першы сноп абвязвалі стужкамі, прадзівам ці ручніком, ім жа ахінаді гэты сноп у куце* (Паводле энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі»).

### Правапіс галосных *о, э, а, е, ё, я* ў складаных словах

**Мэта заняткаў** — сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе галосных ***о***, ***э***, ***а***, ***е***, ***ё***, ***я*** ў складаных словах; замацоўваць уменне правільна пісаць літары ***о***, ***э***, ***а***, ***е***, ***ё***, ***я*** ў складаных словах.

Знаёмства вучняў з тэарэтычным матэрыялам можа суправаджацца складаннем схем, якія адлюстроўваюць правілы напісання літар *о*, *э*, *а*, *е*, *ё*, *я* ў складаных словах, напрыклад:




(калі ў другой частцы складанага слова націск падае на першы склад, то ў першай частцы замест *о* пішацца *а*);




(калі ў другой частцы націск падае не на першы склад, то ў першай частцы захоўваецца *о*);




(літара *о* пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з *ў*);







(калі першай часткай з'яўляецца аснова *велік-/вялік-*, то напісанне літары *е* або *я* залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы, то пішацца *е*, калі другі — пішацца *я*) і да т. п.

Выкананне практыкавання 18 спрыяе замацаванню ўмення правільна пісаць галосныя літары ў складаных словах, перадаваць на пісьме аканне і яканне.

Рашэнне словаўтваральных «прыкладаў» (практыкаванне 19) спрыяе не толькі замацаванню ў вучняў навыку правільна пісаць галосныя *о*, *э*, *а*, *е*, *ё*, *я* ў складаных словах, але і развіццю ўмення вызначаць спосаб утварэння складаных слоў (з гэтай мэтай настаўнік дае заданне вызначыць, якім спосабам утвораны словы *вастралісты*, *востравугольны*, *сямнаццацітонны*, *сямідзённы*, *многамільённы* і інш.). Варта звярнуць увагу старшакласнікаў на тое, што слова *вастралісты* ўтворана складана-бяссуфіксным спосабам (асноваскладанне з адначасовым выкарыстаннем нулявога суфікса): *вастр*-*а*-*ліст*-∅-(*ы*); спосаб утварэння астатніх прыметнікаў — складана-суфіксальны (асноваскладанне з адначасовым далучэннем суфікса): *востр*-*а*-*вуголь*-*н*-(*ы*) і да т. п.

Практыкаванне 20 можа быць выканана па варыянтах: першы варыянт — утварэнне і запіс складаных слоў з першымі часткамі *земле*-, *сонца*-, *вяліка*-, *шкло*-, *лёда*-; другі варыянт — утварэнне і запіс складаных слоў з першымі часткамі *земля*-, *санца*-, *веліка*-, *шкла*-, *леда*-. Узаемаправерка правільнасці выканання задання адбываецца ў парах.

Тэкст паводле У. Коваля (практыкаванне 21) узбагачае веды вучняў пра сімволіку дрэў (*дуб*, *явар*, *каліна*, *бяроза*, *вярба*). Старшакласнікі дапаўняюць устойлівыя параўнанні словамі — назвамі дрэў (*дрыжыць як асіна* (*асінавы ліст*), *гарыць чырванню як каліна*, *абдзерці як ліпку*, *здаравенны як дуб*, *нахілілася як вярба*). Фарміраванню ўмення тлумачыць сэнс сімвалаў культуры будзе спрыяць заданне вызначыць, каго сімвалізуе вярба ў народнай песні (*вярба сімвалізуе нявесту*):

Адхілілася вярба
Ад лазовага карча,
Прыхілілася яна
Да белай бярозкі.

Адхілілася Ганначка
Ад роду, ад племені,
Ад роднага баценькі,
Прыхілілася яна
Да маладога Андрэйкі.

## Правапіс спалучэнняў галосных *іё* (*ыё*), *ія* (*ыя*), *іе* (*ые*), *іо* (*іа*), *ео* (*еа*), эо (*эа*) у іншамоўных словах

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе спалучэнняў галосных ***іё*** (***ыё***), ***ія*** (***ыя***), ***іе*** (***ые***), ***іо*** (***іа***), ***ео*** (***еа***), ***эо*** (***эа***) у іншамоўных словах; удасканальваць уменне правільна

пісаць іншамоўныя словы са спалучэннямі галосных ***іё* (*ыё*)**, ***ія* (*ыя*)**, ***іе* (*ые*)**, ***іо* (*іа*)**, ***ео* (*еа*)**, ***эо* (*эа*)**.

Асэнсаванню вучнямі тэарэтычнага матэрыялу будзе спрыяць калектыўнае складанне табліцы «Правапіс спалучэнняў галосных у іншамоўных словах» на аснове прыведзенай у дапаможніку для вучняў інфармацыі:

| Спалучэнне галосных | Месца ў слове | Прыклады |
|---|---|---|
| *іо* (*іа*) | Пачатак слова | ***Іо**н, **іа**нізацыя* |
| *іё* (*ыё*), *ія* (*ыя*) | Сярэдзіна слова | *Б**іё**лаг, б**ія**логія, патр**ыё**т, патр**ыя**тызм* |
| *ео* (*еа*), *эо* (*эа*) | | *Арх**ео**лаг, арх**еа**логія, хар**эо**граф, хар**эа**графія* |
| *іе* (*ые*) | | *Кл**іе**нт, д**ые**та* |

У працэсе спісвання вучнямі слоў з устаўкай прапушчаных літар (практыкаванне 22) варта ўдакладняць разуменне сэнсу некаторых назоўнікаў (*сацыялогія* — навука аб грамадстве, аб адносінах у грамадстве; *абрэвіяцыя* — утварэнне складанаскарочаных слоў; *біёніка* — навука, якая вывучае будову жывых арганізмаў, каб ствараць машыны, якія набліжаюцца да характарыстык гэтых арганізмаў, *стацыянар* — 1) установа з пастаянным месцам знаходжання (напрыклад, бібліятэка-стацыянар); 2) лячэбная ўстанова, якая мае пастаянныя ложкі для хворых; 3) дзённае аддзяленне ў ВНУ і інш.).

Выкананне вучнямі практыкавання 23 можа быць дапоўнена **этымалагічным каментарыем** настаўніка (паведамленнем пра паходжанне слова *маянэз*):

— *У 1756 г. на востраў Менорку (Міжземнае мора) прыехаў адзін з французскіх вяльмож. На званым абедзе ў порце Маон быў пададзены новы соус. Яго назвалі* маянэзам — *г. зн. маонскім* (І. Шпадарук).

Пры выкананні практыкавання 24 (падбор да прапанаваных слоў аднакаранёвых) варта звярнуць увагу вучняў на правільнае вымаўленне слова *кіяскёр* ‘прадавец у кіёску’ (націск падае на трэці склад). Запіс паронімаў *метэор* і *метэарыт* суправаджаецца тлумачэннем іх значэнняў (старшакласнікі могуць звярнуцца да «Слоўніка

паронімаў беларускай мовы» (1994) С. М. Грабчыкава): *метэор* — распаленае цела касмічнага паходжання, якое ярка свеціцца і хутка рухаецца ў зямной атмасферы (сінонім *знічка* ‘падаючая зорка’); *метэарыт* — цвёрдае цела касмічнага паходжання, якое ўпала на Зямлю з міжпланетнай прасторы. Настаўнік прапануе вучням выправіць маўленчую памылку ў сказе «*А зараз даводзяць, што яны* [*кратары*] *ад падзення метэораў!..*» (А. Карпюк) (правільна: *метэарытаў*).

Практыкаванне 25 спрыяе не толькі замацаванню арфаграфічных навыкаў дзесяцікласнікаў, але і фарміраванню ўмення размяжоўваць лексічныя значэнні паронімаў. Запіс у сшытках вучняў мае наступны выгляд: *ідэальны* (2), *ідэалізаваны* (1), *рэалістычны* (3), *рэальны* (4), *нацыянальны* (5), *нацыяналістычны* (6), *варыянтны* (8), *варыяцыйны* (7).

Калі вучні запішуць сказы з практыкавання 26, уставіўшы прапушчаныя спалучэнні літар, варта звярнуць іх увагу на выказванне беларускага празаіка і драматурга Георгія Марчука: «*Патрыятызм — гэта ўпрыгожванне радзімы талентамі і справамі*». Старшакласнікам прапануецца выказаць уласнае разуменне патрыятызму. Можна даць заданне перакласці выслоўі з рускай мовы на беларускую і вусна пракаменціраваць іх:

• «*Любовь к Отчизне и любовь к людям — это два быстрых потока, которые, сливаясь, образуют могучую реку патриотизма*» (В. А. Сухомлинский);

• «*Патриотизм — это не значит только одна любовь к своей Родине. Это гораздо больше. Это — сознание своей неотъемлемости от Родины и неотъемлемое переживание вместе с ней ее счастливых и ее несчастных дней*» (А. Н. Толстой);

• «*Высочайший патриотизм — страстное, беспредельное желание блага Родине*» (Н. Г. Чернышевский).

Пры перакладзе апошняга выказвання неабходна звярнуць увагу вучняў на тое, што рускае слова *благо* (бел. *дабро*, *шчасце*) і беларускае *блага* ‘пра дрэнныя, неспрыяльныя абставіны; пра цяжкі фізічны або душэўны стан каго-небудзь’ — міжмоўныя амонімы.

Пераклад тэксту «Астероиды» на беларускую мову (практыкаванне 27) дазволіць не толькі замацаваць уменне вучняў правільна пісаць іншамоўныя словы (*дыяметр*, *метэорны*, *метэарыт*), але і ўдасканаліць навык падбіраць да рускіх моўных адзінак адэкватныя беларускія адпаведнікі: рус. *вращающиеся вокруг Солнца* — бел. *якія круцяцца вакол Сонца*; рус. *более 250 км* — бел. *больш за 250 км*; рус. *согласно одной из версий* — бел. *паводле адной з версій*; рус. *из-за удара астероида* — бел. *з-за ўдару астэроіда*, *з прычыны ўдару астэроіда*.

## Правапіс прыстаўных галосных *і, а*. Правапіс літар *і, ы, й*

**Мэта заняткаў** — замацаваць веды вучняў аб правапісе прыстаўных галосных ***і***, ***а***, літар ***і***, ***ы***, ***й***; удасканальваць уменне правільна пісаць словы з прыстаўнымі галоснымі, літарамі ***і***, ***ы***, ***й***; выпрацоўваць уменне размяжоўваць словы з прыстаўным ***і*** (*ільдзіна*, *ілгун*, *ільняны*, *іржаны*, *іржавы* і г. д.) і з ***і***, якое не з'яўляецца прыстаўным (*імперыя*, *імпульсіўны*, *імпарт*, *імправізаваць*).

Пры замацаванні правіла правапісу прыстаўных галосных варта адзначыць, што гэта з’ява не мае ўніверсальнага характару. Прыстаўныя галосныя паяўляюцца толькі перад некаторымі спалучэннямі зычных з першымі санорнымі *л*, *м* і *р* у спрадвечнабеларускіх словах (прыстаўныя галосныя, напрыклад, не з’яўляюцца ў словах *млын*, *млявы*, *мроіцца*, *мсцівец*, *ртуць*). Асаблівай увагі патрабуе варыянтнасць правапісу прыстаўных галосных (*ірваць* і *рваць*, *іржанне* і *ржанне*, *іржаны* і *ржаны*, *ільняны* і *льняны*), напісанне якіх залежыць ад месца слова ў сказе, ад знакаў прыпынку і г. д.

Засваенне правілаў правапісу слоў з літарамі ***і***, ***й***, ***ы***, у якіх на пісьме адлюстроўваюцца асаблівасці чаргавання галоснага *і* з *й* і *ы*, а таксама правапісу іншамоўных слоў з зыходным *й* у іх фанемным складзе абумоўлена наступным:

— пашырэннем у сучаснай пісьмовай практыцы ненарматыўнага напісання *й* у выпадках, не прадугледжаных гэтым параграфам;

— уплывам рускай мовы, згодна з правапіснымі нормамі якой у словах іншамоўнага паходжання захоўваецца напісанне *й* перад наступнай галоснай. Параўн.: бел. *маёр*, *раён*, *маянэз, фае*, *параноя, маяран* — рус. *майор*, *район*, *майонез*, *фойе*, *паранойя, майоран*. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, што змянілася напісанне слоў *Нью-Ёрк*, *Ёфе* (замест: *Нью-Йорк, Йофе*).

Неабходна асаблівую ўвагу акцэнтаваць на тым, што ў адпаведнасці з новай рэдакцыяй правілаў з ліку прыставак, пасля якіх захоўваецца напісанне літары *і,* калі з яе пачынаецца аснова слова, выключаюцца *суб-* і *дэз-*. Таму трэба пісаць: *субынспектар*, *дэзынтэгратар*, *дэзынтэграцыя*, *дэзынфармаваць*, *дэзынфармацыйны*, *дэзынфармацыя*, *дэзынфекцыйны*, *дэзынфіцыраванне*, *дэзынфіцыраваны*, *дэзынфіцыраваць* (было *субінспектар, дэзінтэгратар*, *дэзінтэграцыя*, *дэзінфармаваць*, *дэзінфармацыйны*, *дэзінфармацыя*, *дэзінфекцыйны*, *дэзінфіцыраванне*, *дэзінфіцыраваны*, *дэзінфіцыраваць*). Пры гэтым варта запомніць, што

*і* захоўваецца пасля прыставак *звыш-*, *між-*, *пан-*, *супер-*, *транс-*, *контр-*: *звышіндустрыяльны*, *звышінфляцыя*, *міжірыгацыйны*, *паніслакмізм*, *контрідэя*, *контрігра*, *суперінтэлект*, *трансіндыйскі*. У складананаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае *і* другога слова пішацца нязменна: *педінстытут*, *дзяржінспектар*, *палітінфармацыя*, *санінструктар*, *цяжіндустрыя*, *медінструменты*, *спецінструктаж*, *гарінспекцыя*.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу аб правапісе прыстаўных галосных вучням даецца заданне падрыхтаваць вуснае лінгвістычнае паведамленне на аснове наступных схем:

| | |
|---|---|
| ***і*** | *м* + зычныя |

(прыстаўная *і* пішацца ў пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай літарай *м*);

| | | |
|---|---|---|
| зычны | ***і*** | ***р/л*** + зычныя |

(прыстаўная *і* пішацца ў пачатку слоў перад спалучэннямі зычных з першымі літарамі *р*, *л*, калі слова з такімі спалучэннямі зычных стаіць пасля слова, што заканчваецца на зычны);

| | | |
|---|---|---|
| галосны | ~~*і*~~ | ***р/л*** + зычныя |

(калі слова з пачатковым спалучэннем зычных з першымі літарамі *р*, *л* стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосны, то прыстаўная літара *і* не пішацца);

| | | |
|---|---|---|
| ¬ на галосны | ~~*і*~~ | ***м/р/л*** + зычныя |

(пасля прыставак, якія заканчваюцца на галосны, прыстаўныя літары *і* і *а* перад *р*, *л*, *м* не пішуцца).

Практыкаванне 28 фарміруе ў вучняў уменне адрозніваць словы з прыстаўнымі галоснымі *і, а* (*ілжэсведка*, *імчацца*, *аржаны* і інш.) ад слоў, у якіх *і, а* не з'яўляюцца прыстаўнымі (*імператар*, *аркестр*, *азёры* і інш.).

Практыкаванні 29, 30 вучні выконваюць самастойна. Праца над практыкаваннем 31 можа адбывацца ў парах: адзін вучань складае сказы са словамі, дзе ёсць прыстаўныя галосныя (*ілгаць*, *ільвіца*, *ірваць*, *іржавы*), другі — са словамі, дзе прыстаўных галосных няма (*лгаць*, *львіца*, *рваць*, *ржавы*).

Вынікам знаёмства вучняў з семантыкай слоў *імшыць* ‘класці мох між бярвення ў новым зрубе; канапаціць мохам’, *імшэць* ‘зарастаць мохам’, *імжэць* ‘ісці, падаць, асядаць дробнымі кропелькамі (пра дождж)’ (рубрыка «Правільнасць маўлення») стане выкананне задання ўставіць у сказы прапушчаныя дзеясловы ў форме прошлага часу:

1) *Ноччу ляпіў мокры снег, раскісалі дарогі, а ўвесь дзень ... не то дождж, не то снег* (С. Грахоўскі). 2) *Дзе ... гнілое балота — сцяной стаяла густая, высокая пшаніца* (А. Якімовіч). 3) *Вось і хата: дзед яшчэ ... зруб яе смалісты, сукаваты* (М. Танк).

Адказы: 1) *імжэў*, 2) *імшэла*, 3) *імшыў*.

Для таго каб замацаваць веды вучняў аб правапісе літар *і*, *ы*, *й* пасля прыставак, даецца заданне суаднесці словы са схемамі, якія графічна тлумачаць іх правапіс.




а) узышоў
б) зайсці
в) контрігра
г) адысці
д) міжінстытуцкі
е) перайначыць
ж) звышімклівы
з) суперінтэлект
і) займеннік
к) абыграць
л) разысціся
м) выйграць

Адказы: 1 — б, е, і, м; 2 — а, г, к, л; 3 — в, д, ж, з.

Выкананне практыкавання 32 можа суправаджацца вусным складаннем сказаў з фразеалагізмамі *выйсці сухім з вады*, *адысці ў нябыт*, *прыйшло ў рукі*, *абысці бокам*, *адыгрываць ролю*, *займае дух*, *разыгрываць камедыю*, *перайсці дарогу*. У якасці дадатковага задання настаўнік прапануе вучням адказаць, якая народная прымета пакладзена ў аснову верша М. Маляўкі «Суседка»:

*— Добры дзень, суседка!*
*— Добры дзень!*
*— Заходзіш рэдка.*
*Як здароўе?*
*— Дзякуй богу.*
*— Перайшла з пустым дарогу,*
*Нешчаслівы буду, Насця.*
*Не шкада?*
*— У студні шчасце...*

(*Згодна з народнымі ўяўленнямі, сустрэча з чалавекам, які нясе пустыя вёдры, прыносіць няўдачу, няшчасце*)

Варта звярнуць увагу вучняў на тое, што ўжытае ў вершы словазлучэнне *перайшла дарогу* не з'яўляецца фразеалагічным.

Пісьмо па памяці верша С. Грахоўскага (практыкаванне 34) стымулюе запамінанне вучнямі напісанняў слоў з літарамі *й*, *ы* пасля прыставак (*перайсці*, *прайсці*, *узысці*). Вучні павінны растлумачыць сэнс уключанай у верш прыказкі «Жыццё пражыць — не поле перайсці» (*жыццё пражыць — не такая лёгкая справа*). Настаўнік можа паведаміць, што сінонімам да гэтай прыказкі з'яўляецца прыказка «Век зжыць — не мех сшыць».

З мэтай фарміравання ў старшакласнікаў умення правільна вымаўляць злучнік *і* ў розных становішчах настаўнік дае заданне прачытаць запісаныя на дошцы спалучэнні слоў і прыказкі ў адпаведнасці з нормамі літаратурнага вымаўлення:

*Лес і поле, прыназоўнік і назоўнік, песня і танец, Антон і Васіль, Ганна і Вера, Алег і Максім, месяц і зоркі, агуркі і памідоры, хлеб і малако, слоўнік і падручнік, прыказка і прымаўка, прыбег і паклікаў.*

*Не рабі ліхога і не бойся нікога. Як не пасееш, то і збіраць не будзе чаго. Без надзеі і жыццё не жыццё. Не наеўся, дык і не наліжашся. З ліхім чалавекам і гадзіна векам. Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда.*

Пры чытанні прыказак неабходна звярнуць увагу вучняў на правільнае вымаўленне часціцы *не*, прыназоўніка *без*.

Запісваючы словы, прыведзеныя ў транскрыпцыі (практыкаванне 35), вучні звяртаюць увагу на правільнае вымаўленне злучніка *і* ў розных пазіцыях. Запіс павінен быць такім: *святло і цемра, па Івана, луг і поле, бацька і сын, дзед і баба, смех і грэх, сцяна і столь, тонкі і тоўсты, лёд і полымя.*

Тэкст паводле П. Васілеўскага «Графіка Георгія Паплаўскага» (практыкаванне 36) прапаноўваецца для самадыктанта: вучні спачатку запісваюць тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі, пасля выконваюць узаемаправерку ці самаправерку. Настаўнік можа дапоўніць прыведзеную ў тэксце культуразнаўчую інфармацыю:

*— Народны мастак Беларусі Георгій Георгіевіч Паплаўскі праз усё жыццё пранёс любоў да кніжнай ілюстрацыі. Кожная кніга, аздобленая Г. Паплаўскім, — сапраўдны твор графічнага мастацтва. Кніжная графіка Г. Паплаўскага вядома не толькі ў Беларусі. Мастак неаднойчы ўдзельнічаў у прэстыжных міжнародных выстаўках і конкурсах (у Любліне, Кракаве, Венецыі і інш.). За афармленне кнігі Я. Коласа «Новая зямля» на конкурсе ў Лейпцыгу Г. Паплаўскі атрымаў дыплом «Найпрыгажэйшая кніга свету» (1968). За ілюстрацыі да кнігі Я. Коласа «Выбранае» мастак узнагароджаны сярэбраным медалём Акадэміі мастацтваў СССР (1984). Шмат разоў кніжная графіка Г. Паплаўскага адзначалася дыпломамі імя Ф. Скарыны* (Паводле А. М. Пікулік).

## Правапіс зычных

### Правапіс і вымаўленне звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе і вымаўленні звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных, спалучэнняў зычных на стыку прыстаўкі і кораня; удасканальваць уменне правільна вымаўляць і пісаць словы, у якіх адбываецца асіміляцыя зычных гукаў.

У працэсе азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам, прадстаўленым у табліцы, вучні прыводзяць уласныя прыклады слоў, у якіх адбываецца асіміляцыя зычных гукаў.

З мэтай замацавання ўмення вучняў правільна пісаць зычныя ў прыстаўках даецца заданне запісаць словы, выбраўшы з дужак патрэбную прыстаўку:

(*Ад / ат*)*правіць*, (*з / с*)*рэзаць*, (*дыз / дыс*)*гармонія*, (*з / с*)*пілаваць*, (*перад / перат*)*ваенны*, (*уз / ус*)*гадаваць*, (*без / бес*)*заганны*, (*аб / ап*)*тачыць*, (*раз / рас*)*галінаваны*, (*дыз / дыс*)*камфорт*, (*пад / пат*)*каваць*, (*уз / ус*)*хваліць*, (*над / нат*)*палубны*, (*раз / рас*)*кланяцца*, (*без / бес*)*пазваночны*.

Практыкаванне 37 спрыяе не толькі ўдасканаленню ўмення вучняў правільна пісаць словы, у якіх адбываецца асіміляцыя зычных гукаў, але і замацаванню ўмення падбіраць сінонімы да слоў.

Пасля знаёмства з рубрыкай «Правільнасць маўлення» (раскрыццё семантыкі слоў *уперамешку* ‘у перамяшаным выглядзе, у беспарадку’ і *ўперамежку* ‘папераменна чаргуючыся адно з другім, размяшчаючыся ў пэўным парадку’) вучням даецца заданне ўставіць у сказы словы *ўперамешку*, *уперамежку*:

1) *Спалі дзяўчаты ў сенцах. Раз уставала адна, другі раз — другая, ..., каб устаць з жаваранкамі* (М. Лобан). 2) *І бульба была ... з каменямі, і нават у бохан траплялі яны* (П. Панчанка).

Адказы: 1) *уперамежку*, 2) *уперамешку.*

Практыкаванне 38 вучні выконваюць самастойна. Перад напісаннем сачынення-мініяцюры на тэму аднаго з афарызмаў варта нагадаць старшакласнікам структуру тэксту-разважання: 1) тэзіс; 2) доказы; 3) вывады.

Тэкст паводле І. Лепешава «Вомегам вылазіць» (практыкаванне 39) можа быць выкарыстаны для **папераджальнага дыктанта**: спачатку аналізуюцца арфаграмы, якія могуць выклікаць у вучняў цяжкасці (*бяс̲следна*, *пака̲з̲чык*, *с̲пачатку*, *зла̲мо̲ўны* і інш.), пасля чаго старшакласнікі запісваюць тэкст пад дыктоўку або спісваюць, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі, выконваюць самаправерку ці ўзаемаправерку.

## Правапіс *д* і *дз*, *т* і *ц*

**Мэта заняткаў** — удакладніць і замацаваць веды вучняў аб правапісе літар ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц***; удасканальваць уменне правільна пісаць словы з літарамі ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц***.

Правіла звязана з адлюстраваннем на пісьме такой спецыфічнай асаблівасці беларускага вымаўлення, як дзеканне і цеканне. Правіла адносіцца да найбольш складаных у сучасным беларускім правапісе, бо ў пераважнай большасці слоў, у прыватнасці іншамоўнага паходжання, гэтая фанетычная з’ява праяўляецца непаслядоўна. Таму правапіс слоў з літарамі *д* і *дз*, *т* і *ц* у значнай ступені вызначаецца па слоўніку.

Замацаванне ведаў вучняў аб правапісе літар *д* і *дз*, *т* і *ц* можа адбывацца ў форме гутаркі:

1. Што такое дзеканне і цеканне? (*чаргаванне цвёрдых зычных гукаў* [д], [т] з мяккімі [дз’], [ц’]).

2. Перад якімі галоснымі літарамі замест *д*, *т* пішуцца адпаведна *дз*, *ц*? (*перад галоснымі* е, ё, ю, я, і).

3. Перад якім мяккім зычным гукам адбываецца дзеканне і цеканне? (*перад мяккім* [в’]).

4. У якіх выпадках гукі [д] і [т] перад мяккім [в’] на пісьме перадаюцца адпаведна літарамі *д* і *т*? (*калі* д *уваходзіць у склад прыстаўкі,* т — *у склад суфікса, а таксама ў словах* мардва ‘*карэннае насельніцтва Рэспублікі Мардовіі*’ — мардве, Літва — у Літве).

5. Перад якімі суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання адбываецца дзеканне і цеканне? (*перад* -ін-, -ір-, -ік-, -ёр-, -еец, -ейск-).

6. У якіх словах *д* і *т* пішуцца нязменна? (*у большасці слоў іншамоўнага паходжання*).

Параўнанне асаблівасцей вымаўлення слоў *цвёрдасць — твердость*, *сцябло — стебель*, *Радзіма — Родина*, *дзеці — дети* і іншых у беларускай і рускай мовах (практыкаванне 40) прывядзе вучняў да высновы аб тым, што ў адрозненне ад рускіх мяккіх зычных [д’] і [т’] беларускія [дз’] і [ц’] вызначаюцца свісцячым характарам вымаўлення. Настаўнік можа прапанаваць старшакласнікам пракаменціраваць выказванне А. В. Багдановіча — аўтара падручніка «Беларуская мова» (1927): «Беларусы вымаўляюць расійскае мяккае [д’] і [т’] як беларускія [дз’] і [ц’], на свой капыл... Для беларуса вымаўленне мяккага [д’] і [т’] па-расійску амаль немагчыма. Гэта ёсць тая адзнака, па якой заўсёды можна пазнаць беларуса...»[4].

Практыкаванні 41, 42, 44 вучні выконваюць самастойна, пры неабходнасці звяртаючыся да арфаграфічных і руска-беларускіх слоўнікаў.

Дадатковае заданне:

• Падкрэсліце словы, якія адпавядаюць наступным лексічным значэнням: а) ‘пясчаны пагорак, нанесены ветрам на марскім узбярэжжы’ (*дзюна*); б) ‘аб’яднанне асоб пэўнай спецыяльнасці (рамяства) для сумеснай працы з удзелам у даходах паводле дамоўленасці і агульнай адказнасцю’ (*арцель*); в) ‘магутны электрычны асвятляльны прыбор, які выкарыстоўваецца пры кіназдымках’ (*юпітар*); г) ‘вялікае памяшканне перад уваходам ва ўнутраныя часткі будынка грамадскага прызначэння’ (*вестыбюль*); д) ‘буйное вайсковае злучэнне з некалькіх палкоў або брыгад у розных відах узброеных сіл’ (*дывізія*).

Перакладаючы выказванне з рускай мовы на беларускую (практыкаванне 43), вучні замацоўваюць уменне правільна пісаць запазычаныя словы, у якіх *т* захоўваецца: *матыў*, *навелістыка*.

---

[4]Багдановіч, А. В. Беларуская мова : падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі / А. В. Багдановіч. — Мінск : Беларус. дзярж. выд-ва, 1927. — С. 77 — 78.

Выкананне практыкавання 44 спрыяе замацаванню ўмення вучняў правільна пісаць словы з літарамі *д* і *дз*, *т* і *ц*. Пасля афармлення сказаў у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі адбываецца калектыўная праверка правільнасці выканання задання.

Пасля спісвання тэксту паводле М. Касцюка пра талерантнасць як вызначальную рысу нацыянальнага характару беларусаў (практыкаванне 45) вучням даецца дадатковае заданне — устанавіць адпаведнасць паміж якасцямі характару беларусаў — складальнікамі талерантнасці і прыказкамі, у якіх знайшлі адбітак гэтыя рысы (адказы: *а-2*, *б-6*, *в-5*, *г-4*, *д-1*, *е-3*). У сувязі з тым, што ў тэксце ідзе гаворка пра міфічных асілкаў, вучням прапануецца назваць імёны вядомых ім беларускіх казачных волатаў (*Вярнідуб*, *Пакацігарошак*, *Хведар Набілкін* і інш.).

## Правапіс падоўжаных зычных

**Мэта заняткаў** — узнавіць веды вучняў аб правапісе падоўжаных зычных; замацоўваць уменні правільна пісаць словы з падоўжанымі зычнымі, адрозніваць падаўжэнне зычных ад падваення.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням прапануецца прывесці прыклады:

а) слоў з падоўжанымі зычнымі гукамі [з’], [л’], [н’], [с’], [дз’], [ц’], [ж], [ш], [ч];

б) запазычаных слоў, у якіх (у параўнанні з рускай мовай) падаўжэнне зычных не адбываецца;

в) запазычаных слоў з падоўжанымі зычнымі гукамі [н], [ц], [к].

Практыкаванне 46 вучні выконваюць самастойна з наступнай калектыўнай праверкай.

Перад выкананнем практыкавання 47 неабходна растлумачыць вучням розніцу паміж падаўжэннем і падваеннем зычных.

Варта, каб вучні ўсвядомілі, што для беларускай мовы характэрна ўжыванне падоўжаных зычных паміж галоснымі ў межах адной марфемы. Напісанне падвоеных зычных назіраецца толькі на стыку марфем:

• прыстаўкі і кораня: *рассыпаць*, *раззлавацца, аббегчы, аддаць, паддобрыць*;

• кораня і суфікса: *каменны*, *кішэнны*, *насценны*, *белакачанны, пераменны*;

• суфікса і постфікса: *весяліцца*, *вучыцца*, *старацца* (дзе першае *ц* з’яўляецца суфіксам, а другое *ц* — часткай постфікса): *вучыць* + *ца* — *вучыцца*, *весяліць* + *ца* — *весяліцца*.

Для размежавання падоўжаных і падвоеных зычных вучні могуць карыстацца «Школьным марфемным слоўнікам беларускай мовы» А. М. Бардовіча, Л. С. Мормыш, Л. М. Шакуна (2005).

Практыкаванне 48 вучні выконваюць самастойна, пасля чаго адбываецца ўзаемаправерка ў парах. Практыкаванне 49 можа быць выканана па варыянтах: першы варыянт выпісвае з тэксту словы з падаўжэннем зычных, другі варыянт — з падваеннем зычных.

Рубрыка «Правільнасць маўлення» акцэнтуе ўвагу вучняў на тым, што ўжыванне зборных назоўнікаў (*калоссе*, *карэнне*, *крылле*, *валоссе* і інш.) у форме множнага ліку (*калоссі*, *карэнні*, *крыллі*, *валоссі* і да т. п.) з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы. Старшакласнікам прапануецца выправіць граматычныя памылкі ў сказах:

1) *Гарачыя каменні былі пакрыты пылам.* 2) *Хатка на дзіцячай пляцоўцы была зроблена з сасновых бярвенняў.* 3) *Сонечныя праменні асвятлілі верхавіны дрэў.* 4) *У купальскія вянкі дзяўчаты ўплятали калоссі і стужкі.* 5) *Хлопцы назбіралі сухіх голляў для вогнішча.*

Рэканструкцыя тэксту паводле М. Я. Грынблата «Вітанні і зычэнні» (практыкаванне 50) будзе спрыяць узбагачэнню слоўніка вучняў формуламі беларускага маўленчага этыкету. Варта зрабіць арфаграфічны разбор 2—3 слоў з падоўжанымі зычнымі, ужытых у тэксце.

## Правапіс некаторых спалучэнняў зычных

**Мэта заняткаў** — узнавіць веды вучняў аб правапісе спалучэнняў зычных ***зн***, ***сн***, ***сл***, ***рн***, ***шч***, ***сч***; удасканальваць уменне правільна пісаць словы з гэтымі спалучэннямі зычных.

Пры вывучэнні правіла, якое перадае асаблівасці напісання некаторых спалучэнняў зычных у адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем, неабходна звярнуць увагу на тое, што ў новай рэдакцыі правілаў такая норма распаўсюджваецца і на шэраг слоў іншамоўнага паходжання, якія раней былі выключэннямі: *кампосны* (параўн.: *кампост*), *кантрасны* (параўн.: *кантраст*), *фарпосны* (параўн.: *фарпост*), *баласны* (параўн.: *баласт*), *аванпосны* (параўн.: *аванпост*). Асаблівую ўвагу трэба звярнуць і на правапіс слоў іншамоўнага паходжання з канцавымі спалучэннямі зычных *дт*, якія ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем перадаюцца праз *т*: *Гумбальт*, *Краншатат*, *Рэмбрант*, *Шміт*, *Клот* (параўн. рус.: *Гумбольдт*, *Кронштадт*, *Рембрандт*, *Шмидт*, *Клодт*).

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць схемы:




Выкананне практыкавання 51 можа суправаджацца вусным каменціраваннем.

З мэтай размежавання значэнняў паронімаў *пясчаны* ‘пакрыты пяском; з аднаго пяску; з вялікай прымессю пяску; у якім шмат пяску’ і *пясочны* ‘які мае адносіны да пяску; з пяску; шаравата-жоўты, колеру пяску; прыгатаваны з сухога, рассыпістага цеста’ (рубрыка «Правільнасць маўлення») старшакласнікам даецца заданне ўказаць, у якіх словазлучэннях парушана лексічная спалучальнасць:

а) *пясчаны бераг*; б) *пясочная бура*; в) *пясочнае пячэнне*; г) *пясчаны колер*; д) *пясчанае дно*; е) *пясчаны гадзіннік* (адказы: *б*, *г*, *е*).

Практыкаванні 52, 53 вучні выконваюць самастойна. Настаўнік удакладняе разуменне старшакласнікамі сэнсу слова *вашчэнне* — дзеянне паводле значэння дзеяслова *вашчыць* ‘націраць або насычаць воскам’.

Да слоў Е. Лось «Чужое неба сэрцу не дагодзіць, душы не загадае: «Не балі...» (практыкаванне 53) вучням прапануецца падабраць сінанімічныя прыказкі (*«Чужая старана — мачаха»*; *«У чужой старонцы не так свеціць сонца»*).

Можна даць заданне ўставіць у прыказкі прапушчаныя словы (іх напісанне адпавядае правілу «Правапіс спалучэнняў зычных»):

1) *Загляне ... і ў наша аконца.* 2) *... не камень.* 3) *Ранняя птушачка крылкі цярэбіць, а ... вочы працірае.* 4) *Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы ...*

Адказы: 1) *сонца*, 2) *сэрца*, 3) *позняя*, 4) *трашчаць*.

На гэтых занятках можа быць праведзены **слоўнікавы дыктант**, што ўключае словы, напісанне якіх адпавядае вывучаным правілам:

*Стагоддзе, узысці, Мацвей, сальфеджыа, радыёантэна, спортінвентар, маянэз, нясвіжскі, іанізацыя, кантрасны, чарнавокі, спадчына, саванна, велікарослы, подзвіг, вогнеўстойлівы, пясчаны, ёгурт, вокамгненна, пяцярня, у вопратцы, харэаграфія, фотаздымак, жамчужына, беспадстаўна, дзясяты, дысгармонія, кашнэ, счарсцвелы, заінтрыгаваць, інжынер, хвалюешся, Емяльян, ільнаводства, праязны, камп'ютар, зернясклад, пайменны, гушчар.*

## Правапіс прыстаўных і ўстаўных літар *в, г*

**Мэта заняткаў** — сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе прыстаўных і ўстаўных літар ***в***, ***г***; развіваць уменне правільна пісаць словы з прыстаўнымі і ўстаўнымі зычнымі.

Пры вывучэнні гэтага правіла неабходна засвоіць спісы слоў, у якіх прыстаўное (устаўное) *в* пішацца ва ўсіх выпадках без выключэння (напрыклад, *во́ка*, *во́стры*, *вако́л*; *ву́гал*, *ву́да*, *ву́галь*, *вуж*, *ву́зел*, *ву́ліца*, *вунь*, *вус*, *ву́сны*, *ву́ха*, *ву́чань*), і спісы слоў, у якіх правапіс прыстаўнога *в* залежыць ад месца націску (*во́зера*, *во́сень*, *во́кны*, *во́блака*, *во́бласць*, *во́страў*; **але**: *азёры*, *асе́нні*, *ако́нны*, *абласны́*, *астравы́*). Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на тое, што ўстаўное *в* пішацца цяпер у словах *есавул, есавульскі,* якія раней пісаліся без устаўнога *в*.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць **вуснае лінгвістычнае паведамленне** аб правапісе прыстаўных і ўстаўных літар *в*, *г* з апорай на наступныя прыклады:

I. 1) *восень*, *увосень*; *окаць*, *одум*; 2) *вобласць — абласны*; 3) *вокліч*, *вобземлю*, *водсвет*; 4) *вохра*, *воцат*; 5) *вузел*, *вузлаваты*; 6) *вупраж*, *вусцішна*; 7) *вока — вачэй*, *востры — вастрыць*, *восем — васьмёрка*, *вакол — ваколіца*, *воспа —васпаваты*, *навокал — наваколле*;

II. 1) *офіс*, *Орша*; 2) *ультрафіялетавы*, *Узбекістан*; *вустрыца*; 3) *угнаенне*, *унук*;

III. 1) *ніводны*; 2) *павук*, *павуцінне*; 3) *Тадэвуш*;

IV. 1) *гэты*, *гэтакі*, *гэтулькі*; 2) *гэтак*, *гэтаксама*, *адгэтуль*, *дагэтуль*; 3) *гэй*, *го*, *га*, *гэ*.

Мэта практыкавання 54 — сфарміраваць у вучняў уменне адрозніваць словы з прыстаўнымі *в*, *г* ад слоў, у якіх *в* і *г* не з'яўляюцца прыстаўнымі (*воля*, *горад* і інш.). Выконваючы практыкаванне, вучні могуць падбіраць да слоў адпаведнікі ў рускай мове: *вулей* — рус. *улей* (*в* прыстаўны); *голас* — рус. *голос* (*г* не з'яўляецца прыстаўным).

Выкананне практыкавання 55 можа суправаджацца вусным каменціраваннем.

Пасля ўдакладнення значэнняў слоў *вуж* 'адна з неядавітых змей сямейства паўзуноў' і *вужака* 'агульная назва паўзуноў з доўгім гнуткім целам без ног; змяя; ліхі, каварны чалавек' (рубрыка «Правільнасць маўлення») можна прапанаваць вучням растлумачыць сэнс фразеалагізмаў:

а) *як вуж (уюн) на гарачай патэльні* (пры гэтым фразеалагізме ўжываюцца словы-суправаджальнікі *круціцца*, *выкручвацца*; значэнне фразеалагізма — 'бесперастанку і не знаходзячы выйсця з цяжкіх абставін'); б) *звівацца вужам* ('хітрыць, спрытна выкручвацца'); в) *вуж галавы не ўткне* ('занадта густа' — пра густа пароcлыя дрэвы, кусты, травы).

Практыкаванні 56—58 вучні выконваюць самастойна.

Пры спісванні тэксту паводле М. Грынблата «Народныя параўнанні» (практыкаванне 59) вучні ўстаўляюць у яго прапушчаныя народныя параўнанні, прыведзеныя ў рубрыцы «Для даведкі» (прыём **рэканструкцыі лінгвакультуразнаўчага тэксту**). Дадатковае заданне патрабуе прывесці прыклады параўнанняў, у якіх знайшлі адбітак асаблівасці народнага побыту (з дапамогай зборніка «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» (1992) вучні могуць назваць параўнанні *схапіў як абцугамі*; *рыпіць як нямазанае кола*; *прыбраўся як хата перад вяселлем*; *гола як на таку*; *робіцца як у млынавым коле* і інш.).

## Правапіс літар *у, ў*

**Мэта заняткаў** — удакладніць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе ***у*** складовага і ***ў*** нескладовага; удасканальваць уменне правільна пісаць словы з ***у*** складовым і ***ў*** нескладовым.

Пры засваенні правілаў правапісу *ў* нескладовага неабходна звярнуць увагу на тое, што чаргаванне [у] з [ў] у словах іншамоўнага паходжання значна пашырылася: *царква ўніяцкая*, *дзяржаўны ўніверсітэт*, *каля ўніверсама*, *на ўнікальным матэрыяле*, *пасля ўрагану*, *здаць ва ўтыль*, *глыбокая ўтопія* і інш. Асаблівай увагі патрабуе засваенне тых слоў іншамоўнага паходжання, у якіх раней гэта чаргаванне не назіралася, а таксама новых запазычанняў, правапіс якіх

яшчэ не знайшоў замацавання ў нарматыўных слоўніках беларускай мовы: *раўнд*, *даўн*, *фаўна*, *андэграўнд*, *саўна*, *клоўн*, *шоўмен*, *ноўтбук*, *джоўль*, *ноўмен*, *пакгаўз*, *лакаўт*, *раўт*, *трэшкоўт*, *чаўш*, *скаўт* і інш.

Пасля знаёмства з тэарэтычным матэрыялам вучні павінны завяршыць выказванні:

1. У пачатку ўласных назваў пішацца... (*у* складовае). 2. Пад націскам пішацца... (*у* складовае). 3. На канцы запазычаных слоў пішацца... (*у* складовае). 4. У запазычаных словах, якія заканчваюцца на *-ум*, *-ус*, і вытворных ад іх пішацца... (*у* складовае). 5. Літара *ў* нескладовае пішацца пасля злучка ці двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца... (на галосны).

Пры выкананні практыкавання 60 варта растлумачыць лексічныя значэнні слоў *браўнінг* 'аўтаматычны пісталет асобай сістэмы' (паходзіць ад прозвішча амерыканскага канструктара), *гаўптвахта* 'памяшканне для ўтрымання пад арыштам ваеннаслужачых; каравульнае памяшканне ў крэпасці, горадзе XVII—XIX стст.)', *сімпозіум* 'нарада па якім-небудзь навуковым пытанні, звычайна міжнародная'. Практыкаванне 62 (выпісванне слоў з літарамі *у* і *ў*) можа быць выканана па варыянтах.

Практыкаванне 61 спрыяе ўзбагачэнню слоўніка вучняў беларускімі народнымі параўнаннямі: *надзьмуўся як мыш на крупы*, *трапіў як лісіца ў саладуху*, *спіць як пшаніцу прадаўшы*, *круціцца як уюн на гарачай патэльні*, *баіцца як воўк ягняці*, *бегае як з вуглямі ў нагавіцах*, *вые як воўк у піліпаўку*, *лезе як аса ў вочы*, *ляпнуў як лапцем па балоце пляснуў*, *маўчыць як воцату выпіўшы*.

Дадатковым заданнем да практыкавання 63 можа быць складанне схемы чацвёртага сказа: «*Францыск Скарына паказаў прыклад незвычайнай настойлівасці і працавітасці, творчай смеласці і духоўнай сілы, калі закладваў глыбокі падмурак кнігадрукавання ва Усходняй Еўропе, калі самаахвярна працаваў над перакладам і выданнем шматлікіх кніг на роднай мове*» (В. Чамярыцкі). Гэта складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем. Схема сказа: [ ], (*калі*...), (*калі*...).

## Правапіс мяккага знака і апострафа

### Змякчальны мяккі знак як сродак абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе змякчальнага мяккага знака; удасканальваць уменне правільна пісаць словы са змякчальным мяккім знакам.

Пры засваенні правапісу мяккага знака неабходна звярнуць увагу на ўдакладненне, якое ўніфікуе правапіс прыметнікаў, утвораных ад назоўнікаў на *-нь*: мяккі знак не пішацца ў прыметніках, утвораных ад кітайскіх назваў (*чань-чунскі*, *цянь-шанскі*, *уханскі*), якія раней пісаліся з мяккім знакам.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням даецца заданне запісаць пад дыктоўку словы (яны прыводзяцца ў якасці прыкладаў для ілюстрацыі палажэнняў правіла аб напісанні змякчальнага мяккага знака), размеркаваўшы іх у два слупкі: 1) словы, у якіх пішацца мяккі знак; 2) словы, у якіх мяккі знак не пішацца:

*Столькі*, *агледзься*, *голуб*, *шэсцьсот*, *старэнькі*, *цянь-шанскі*, *мядзведзь*, *дзьмуць*, *рэдзька*, *збіраць*, *любанскі*, *дзесьці*, *агеньчык*, *голле*, *жнівеньскі*, *ледзьве*, *стагоддзе*, *сем*, *людзьмі*, *Чэрвеньскі раён*, *дзверы*, *станьце*, *песенька*.

Пры праверцы правільнасці выканання задання старшакласнікі тлумачаць правапіс слоў з апорай на тэарэтычны матэрыял дапаможніка для вучняў.

Выкананне практыкавання 64 суправаджаецца **вусным каменціраваннем**, напрыклад: у слове *сенажаць* мяккасць зычнага гука [с’] абазначана на пісьме літарай *е*, мяккасць гука [ц’] — мяккім знакам; у слове *смех* мяккасць гука [с’] перад мяккім [м’] на пісьме не перадаецца, мяккасць гука [м’] абазначана на пісьме літарай *е*.

Пры ўтварэнні ад дзеясловаў формаў 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу (практыкаванне 65) настаўніку варта нагадаць вучням, што многія дзеясловы ўтвараюць формы 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу з дапамогай нулявога суфікса: *кінь*, *сып*, *стой* і да т. п. Формы 2-й асобы множнага ліку ўтвараюцца ад формаў адзіночнага ліку шляхам дабаўлення постфікса *-це*: *кіньце*, *сыпце*, *стойце* і да т. п. Увага старшакласнікаў акцэнтуецца на тым, што дзеяслоў закончанага трывання *глянуць* утварае форму 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу з дапамогай нулявога суфікса — *глянь*; дзеяслоў незакончанага трывання *глядзець* утварае форму 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу з дапамогай формаўтваральнага суфікса *-і* — *глядзі*.

Падчас выканання практыкавння 66 настаўнік звяртае ўвагу вучняў не толькі на правапіс мяккага знака перад суфіксам *-ск-*, але і на правапіс вялікай і малой літар у прыметніках (*Казанскі* — *казанскі*, *Любанскі* — *любанскі* і да т. п.): з вялікай літары пішуцца першае слова ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных назвах (*Чэрвеньскі раён*), назвах арганізацый, устаноў (*Любанскі музей народнай славы*) і інш.

Практыкаванне 67 вучні выконваюць самастойна, пасля чаго адбываецца ўзаемаправерка ў парах. Пры выкананні практыкавання 68 падводзіцца вынік заняткаў.

## Правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе раздзяляльнага мяккага знака і апострафа; удасканальваць уменне правільна пісаць словы з раздзяляльным мяккім знакам і апострафам.

Пры засваенні правіла правапісу раздзяляльнага мяккага знака і апострафа неабходна звярнуць увагу на тое, што раздзяляльны мяккі знак і апостраф выкарыстоўваюцца ў беларускай мове для адлюстравання на пісьме правільнага вымаўлення слоў з гукам [й] паміж зычнымі і галоснымі ў іншамоўных і некаторых уласна беларускіх словах. Пры гэтым раздзяляльны мяккі знак адначасова ўказвае на мяккасць папярэдніх зычных гукаў *л*, *с*, *ц* (з мяккага *т*), *дз* і непрыставачных *н*, *з* і наяўнасць гука [й] паміж імі і наступным галосным, які перадаецца на пісьме адпаведнай ётаванай галоснай літарай: *рэ*[л'йэ]*ф*, *ка*[л'йэ], *мі*[л'йо]*н*, *меда*[л'йо]*н*, *паві*[л'йо]*н*, *бі*[л'йа]*рд, пар*[ц'йэ]*ра* і інш. Апостраф указвае на наяўнасць (і неабходнасць вымаўлення) гука [й] паміж губнымі *б*, *в*, *м*, *п*, *ф*, заднеязычнымі *г*, *к*, *х*, зубнымі *д*, *т*, дрыжачым *р* і галоснымі ётаванымі літарамі *е*, *ё*, *і*, *ю*, *я*: *а*[бйа]*ва*, *ся*[мйа], *ка*[рйэ]*р*, *надво*[рйэ] і г. д.

Пасля азнаямлення вучняў з тэарэтычным матэрыялам настаўнік прапануе растлумачыць правапіс слоў (яны запісаны на дошцы), зачытаўшы адпаведнае палажэнне правіла аб правапісе раздзяляльнага мяккага знака і апострафа:

а) *Аркадзьевіч* (раздзяляльны мяккі знак пішацца ва ўласных імёнах, утвораных ад імёнаў на *-ій*, перад суфіксальным *-ев-*); б) *між'ярусны* (апостраф пішацца перад галоснай *я* пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную); в) *більярд* (раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля *л* перад галоснай *я* ў словах іншамоўнага паходжання); г) *б'ецца* (апостраф пішацца перад галоснай *е* ў сярэдзіне слова пасля зычнай *б*); д) *льецца* (раздзяляльны мяккі знак пішацца ў словах, утвораных ад дзеяслова *ліць*); е) *шмат'ядзерны* (апостраф пішацца ў складаных словах пасля часткі *шмат-* і перад галоснай *я*).

Мэта практыкавання 69 — удасканальваць уменне вучняў адрозніваць змякчальны і раздзяляльны мяккі знак.

Практыкаванні 70, 71 прапануюцца для самастойнага выканання.

Дадатковае заданне:

• Падкрэсліць словы, якія адпавядаюць наступным лексічным значэнням:

а) ‘прадпрыемства, на якім будуюць ці збіраюць судны’ (*верф*); б) ‘вакальныя практыкаванні для развіцця слыху і навыкаў чытання нот, пры якіх вымаўляюцца назвы нот’ (*сальфеджыа*); в) ‘венгр’ (*мадзьяр*).

Сярод сказаў з практыкавання 72 можна прапанаваць знайсці сказ, які адпавядае схеме: (*калі* ____ ____ , (*які* ____ ) *і* (*які* ____ ____ ), ), (*калі* ____ ____ ), [ ]. Вучням даецца заданне вызначыць від падпарадкавання дадзеных частак галоўнай.

(*Але калі я цяпер успамінаю той хлеб, які належала з’есці брату і які з’еў я, і той вечар, калі брат лёг спаць галодны, мне робіцца не па сабе* (Б. Сачанка) — складаназалежны сказ з паслядоўным і сузалежным аднародным падпарадкаваннем.)

Практыкаванне 73 (устанаўленне адпаведнасці паміж рускімі і беларускімі прыказкамі) спрыяе ўзбагачэнню слоўніка вучняў трапнымі народнымі выслоўямі, фарміраванню ўяўлення пра адметнасць беларускіх і рускіх парэмій (адказы: *а-6*, *б-1*, *в-3*, *г-7*, *д-2*, *е-5*, *ж-4*).

## Ужыванне вялікай і малой літар

**Мэта заняткаў** — пашырыць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе вялікай і малой літар; удасканальваць уменне правільна ўжываць вялікую і малую літары.

У працэсе азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам вучні выпісваюць прыклады слоў (словазлучэнняў), пры напісанні якіх яны маглі б дапусціць арфаграфічныя памылкі.

Пры выкананні практыкавання 74 варта пазнаёміць вучняў з назвамі беларускіх міфічных істот: *багнік*, *балотнік*, *вадзянік*, *гаюн*, *дамавік*, *лазнік*, *лясун*, *падпечнік*, *палявік*, *пуннік*, *пушчавік*, *хлеўнік*. Старшакласнікам прапануецца адказаць, дзе, згодна з народнымі ўяўленнямі, жывуць гэтыя міфічныя істоты, духі.

Практыкаванне 75 можа быць выканана па варыянтах: першы варыянт — запіс выразаў са словамі *Беларускі — беларускі*, *Дзень — дзень*, *Зорка — зорка*, *Багдановічаўскія — багдановічаўскія* (напрыклад, *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — беларускі лён*, *Дзень Перамогі — выхадны дзень*, *медаль «Залатая Зорка» Героя Савецкага Саюза — Палярная зорка*, *Багдановічаўскія чытанні — багдановічаўскія вершы*); другі варыянт — запіс выразаў са словамі *Усход — усход*, *Савет — савет*, *Мінскі — мінскі*, *Палац — палац* (напрыклад, *Блізкі Усход — усход сонца*, *Савет Бяспекі*

*Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — педагагічны савет, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт — мінскі хлеб, Палац мастацтваў — Зімовы палац*).

Спісванне сказаў (практыкаванне 76) варта суправаджаць вусным каменціраваннем. Дадатковае заданне можа заключацца ў пісьмовым апісанні маршруту да тых мясцін Мінска, якія згадваюцца ў сказах (*Літаратурны музей Янкі Купалы, плошча 8 Сакавіка, Палац мастацтваў*). У складзеных вучнямі сказах будуць ужыты назвы мінскіх вуліц, станцый метрапалітэна, выдатных мясцін і інш.

Можна прапанаваць старшакласнікам самім скласці тэксты для ўскладненага спісвання (з устаўкай прапушчаных літар, выбарам з дужак патрэбнай літары) пра славутых дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры (рэкамендуецца выкарыстаць энцыклапедычны даведнік «Асветнікі зямлі Беларускай», 2001). Картка з тэкстам павінна складацца з дзвюх частак: 1) тэкст, які трэба спісаць, рашаючы арфаграфічныя задачы; 2) тэкст для самаправеркі. Напрыклад:

| ВАЛЕНЦІЙ ВАНЬКОВІЧ | ВАЛЕНЦІЙ ВАНЬКОВІЧ |
|---|---|
| Жывапісец Валенцій Ванькові (1800—1842) нара(д / дз)іўся ў вёсцы (К / к)алюжыца на (М / м)іншчыне ў сям..і павятовага суд..і. Вучыўся ў (П / п)олацкім (Е / е)зуі(тс / ц)кім (К / к)алегі(у / ў)ме, потым у (В / в)іленскім (У / у)ніверсітэце. Пасля заканчэння (у/ ў)ніверсітэта за дз..ржаўны кошт быў накіраваны на вучобу ў (П / п)ецярбур..скую (М/м)астацкую (А/а)кад..мію.<br>Некаторыя карціны Ванськовіча захоўваюцца ў (Д / д)зяржаўным (М / м)астацкім (М / м)узеі (Р / р)эспублікі (Б / б)еларусь. Карціна «(М / м)адон..а з дзіцём» знаходзіцца ў (Л / л)уўры. | Жывапісец Валенцій Ванькові (1800—1842) нарадзіўся ў вёсцы Калюжыца на Міншчыне ў сям'і павятовага суддзі. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, потым у Віленскім універсітэце. Пасля заканчэння ўніверсітэта за дзяржаўны кошт быў накіраваны на вучобу ў Пецярбургскую мастацкую акадэмію.<br>Некаторыя карціны Ванськовіча захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Карціна «Мадонна з дзіцём» знаходзіцца ў Луўры. |

Практыкаванне 77 (вуснае каменціраванне) спрыяе замацаванню ўмення тлумачыць правапіс вялікай і малой літар у геаграфічных, асабовых назвах, назвах знамянальных падзей. Дадатковае заданне — запісаць назвы вядомых вучням «помнікаў гістарычнай барацьбы» (*Курган Славы, Помнік Перамогі, гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна»* і інш.).

Тэкст паводле Т. Песнякевіч пра беларускі ансамбль «Бяседа» (практыкаванне 78) акцэнтуе ўвагу вучняў на цяжкіх выпадках ўжывання вялікай і малой літар (вялікая і малая літары ў назвах арганізацый і ўстаноў (*Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі*), у найменнях званняў (*заслужаны артыст Беларусі*), дзяржаўных узнагарод (*Дзяржаўная прэмія Беларусі*) і інш.). Дадатковыя заданні да тэксту патрабуюць:

— назваць песні з рэпертуару ансамбля «Бяседа» («*Маруся*», «*Запрагай-ка, бацька, коней*» і інш.);

— растлумачыць розніцу ў лексічных значэннях беларускага слова *бяседа* і рускага *беседа* (бел. *бяседа* — збор гасцей з пачастункам; рус. *беседа* — размова; настаўніку варта нагадаць вучням, што падобныя пары слоў называюцца міжмоўнымі амонімамі).

Варта прапанаваць вучням раскрыць сэнс прыказкі «Без кавалачка хлеба кепская бяседа» (‘*без пачастунка збіраць гасцей не прынята*’).

Выконваючы практыкаванне 79, вучні замацоўваюць уменне правільна ўжываць вялікую і малую літары ў назвах дзяржаўных святаў, святочных і памятных дзён: *Дзень Канстытуцыі* (15 сакавіка), *Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі* (2 красавіка), *Дзень Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь* (другая нядзеля мая), *Дзень Перамогі* (9 мая), *Дзень Незалежнасці* (3 ліпеня), *Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь* (23 лютага), *Дзень жанчын* (8 сакавіка), *Свята працы* (1 мая), *Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны* (22 чэрвеня), *Радаўніца* (9-ы дзень пасля праваслаўнага Вялікадня).

# Правапіс назоўнікаў

## Напісанне складаных назоўнікаў разам і праз злучок

**Мэта заняткаў** — замацаваць веды вучняў аб правапісе складаных назоўнікаў; развіваць уменне правільна пісаць складаныя назоўнікі разам і праз злучок.

Пасля азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам вучням можа быць прапанавана прывесці ўласныя прыклады, якія ілюструюць розныя выпадкі правапісу складаных назоўнікаў разам і праз злучок, па аналогіі са словамі, запісанымі на дошцы:

1) *ільновалакно*, ... ; 2) *авіяпалёт*, ... ; 3) *сарвігалава*, ... ; 4) *Навагрудак*, ... ; 5) *шасціграннік*, ... .

1) *стоп-сігнал*, ... ; 2) *кілаграм-калорыя*, ... ; 3) *экс-чэмпіён*, ... ; 4) *Дунін-Марцінкевіч*, ... ; 5) *норд-ост*, ... ; 6) *паў-Беларусі*, ... .

Выкананне практыкавання 80 можа суправаджацца вусным каменціраваннем.

Практыкаванне 81 спрыяе развіццю арфаграфічнай пільнасці вучняў. Правільна напісаны ўсе словы ў 2-м і 5-м радках. Старшакласнікі павінны выпісаць словы *норд-ост*, *электрачайнік*, *лёгкаатлет*, *віцэ-адмірал*, *першапраходзец*, *Верхнеазёрск*, *трохсотгоддзе* (у практыкаванні гэтыя назоўнікі запісаны з памылкамі) і растлумачыць іх правапіс.

У рубрыцы «Правільнасць маўлення» тлумачацца значэнні прыставак *дыс-* (абазначае парушэнне, разлад, страту чаго-небудзь) і *дэз-* (абазначае выдаленне, знішчэнне, спыненне або адсутнасць чаго-небудзь). З улікам прыведзенай інфармацыі вучням прапануецца ўстанавіць адпаведнасць паміж назоўнікамі і іх значэннямі:

а) несуразмернасць паміж часткамі цэлага, адсутнасць прапарцыянальнасці
б) умовы жыцця, знаходжання, якія не забяспечваюць зручнасцей і спакою
в) распадзенне, расчляненне цэлага на састаўныя часткі
г) парушэнне гармоніі, адсутнасць сугучнасці; немілагучнасць; разлад, няўзгодненасць, парушэнне адпаведнасці чаго-небудзь чаму-небудзь
д) разлад арганізаванасці, парушэнне парадку, нармальнай дзейнасці каго-небудзь, чаго-небудзь

1) дысгармонія
2) дэзарганізацыя
3) дыспрапорцыя
4) дыскамфорт
5) дэзынтэграцыя

Адказы: а — 3, б — 4, в — 5, г — 1, д — 2.

Практыкаванне 82 выконваецца вучнямі самастойна з апорай на рубрыку «Для даведкі» (1 — *мотаролер*, 2 — *дыскваліфікацыя*, 3 — *дэзынфекцыя*, 4 — *зюйд-ост*, 5 — *прэм'ер-міністр*, 6 — *контратака*, 7 — *контр-адмірал*, 8 — *мультымільянер*, 9 — *прэс-канферэнцыя*, 10 — *унтэр-афіцэр*).

Пасля выканання практыкавання 83 вучням можна прапанаваць дадатковае заданне — знайсці сярод прыведзеных сказаў складаныя і вызначыць іх віды (1 — бяззлучнікавы складаны сказ; 4, 5 — складаназлучаныя сказы; 7, 8 — складаназалежныя сказы).

## Правапіс суфіксаў назоўнікаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць веды вучняў аб правапісе суфіксаў назоўнікаў ***-ак***, ***-ык*** (***-ік***), ***-чык***, ***-нік***, ***-ачк-***, ***-ечк-***, ***-ец*** (***-ац***), ***-інец*** (***-ынец***), ***-янец*** (***-анец***), ***-іц-*** (***-ыц-***), ***-ніц-***, ***-чык*** (***-чыц-***), ***-шчык*** (***-шчыц-***), ***-ств-*** (***-цтв-***), ***-ін-*** (***-ын-***), ***-шчын-***; удасканальваць уменне правільна пісаць суфіксы назоўнікаў.

З мэтай замацавання ведаў вучняў аб правапісе суфіксаў назоўнікаў пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу даецца заданне сфармуляваць правілы, якія могуць быць праілюстраваны наступнымі прыкладамі:

1) *дожджычак — дожджычку*; 2) *дожджык — дожджыку*; 3) *Волечка*, *Ганначка*; 4) *параходства*, *лясніцтва*, *княства*; 5) *Случчына*, *Навагрудчына*, *Міншчына*.

Выкананне практыкаванняў 84, 85 суправаджаецца вусным каменціраваннем.

Пасля спісвання сказаў (практыкаванне 86) можна прапанаваць вучням знайсці ў іх прыметнікі, у якіх напісанне зычных на стыку кораня і суфікса рэгламентуецца тым жа правілам, што і правапіс суфікса назоўнікаў *-ств-* (*людскога*, *Нясвіжскую*, *настаўніцкую*).

Практыкаванне 87 вучні выконваюць самастойна, пасля чаго знаходзяць у тэксце і падкрэсліваюць словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс суфіксаў назоўнікаў».

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў 1, 2, 3-га скланення

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб канчатках назоўнікаў 1, 2, 3-га скланення; удасканальваць уменне правільна ўжываць склонавыя формы назоўнікаў 1-га скланення (давальны і месны склоны), 2-га скланення (родны і месны склоны), 3-га скланення (творны склон).

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу ўвага вучняў акцэнтуецца на ўмовах выбару арфаграм у канчатках назоўнікаў: канчаткі назоўнікаў 1-га скланення залежаць ад характару асновы і месца націску; канчаткі назоўнікаў 2-га скланення мужчынскага роду залежаць ад лексічнага значэння слова і характару асновы. Можна прапанаваць старшакласнікам самастойна запоўніць табліцы, упісаўшы ў іх прыклады назоўнікаў 1, 2, 3-га скланення (для назоўнікаў кожнага тыпу скланення запаўняецца асобная табліца):

| Склон | Аснова на | | | |
|---|---|---|---|---|
| | цвёрды зычны | зацвярдзелы | мяккі зычны | *г, к, х* |
| Н. | | | | |
| Р. | | | | |
| Д. | | | | |
| В. | | | | |
| Т. | | | | |
| М. | | | | |

Мэта практыкаванняў 88—102 — замацаваць уменне старшакласнікаў правільна ўжываць склонавыя формы назоўнікаў 1, 2, 3-га скланення.

**Рубрыка «Правільнасць маўлення»** акцэнтуе ўвагу вучняў на тым, што ў некаторых выпадках канчаткі роднага склону *-а* (*-я*) і *-у* (*-ю*) ужываюцца для размежавання значэнняў назоўнікаў 2-га скланення. Настаўнік можа прапанаваць вучням скласці словазлучэнні або сказы з назоўнікамі *пераход*, *клён*, *люцік*, *камень*, *гранат*, *загад* так, каб адно і тое слова ў родным склоне ўжывалася з канчаткамі *-а* і *-у*: *перахода* (месца, па якім можна пераходзіць) — *пераходу* (дзеянне паводле дзеяслова *перайсці — пераходзіць*); *клёна* (дрэва) — *клёну* (драўніна); *люціка* (адна расліна) — *люціку* (сукупнасць раслін); *каменя* (абломак цвёрдай горнай пароды; ювелірна апрацаваны кавалак каштоўнага металу) — *каменю* (цвёрдая горная парода ў выглядзе суцэльнай масы); *граната* (паўднёвае дрэва, а таксама яго плод) — *гранату* (мінерал; празрысты каштоўны камень); *загада* (дакумент) — *загаду* (дзеянне паводле дзеяслова *загадваць — загадаць*).

Пасля выканання практыкавання 93 варта спытаць у вучняў, якую з прыведзеных прыказак ужываюць, калі якая-небудзь шумная справа завяршаецца нікчэмнымі вынікамі («*З вялікага грому малы дождж*»).

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў разнаскланяльных назоўнікаў, назоўнікаў множнага ліку

**Мэта заняткаў** — актуалізаваць веды вучняў аб скланенні разнаскланяльных назоўнікаў, назоўнікаў множнага ліку; развіваць уменне правільна ўжываць склонавыя формы разнаскланяльных назоўнікаў, назоўнікаў множнага ліку.

Азнаямленне вучняў з тэарэтычным матэрыялам пра асаблівасці скланення рознаскланяльных назоўнікаў можа суправаджацца запаўненнем табліцы «Скланенне рознаскланяльных назоўнікаў» прыкладамі:

| Склон | Рознаскланяльныя назоўнікі | | | |
|---|---|---|---|---|
| | назвы маладых істот | назоўнікі *імя племя стрэмя* | назоўнікі мужчынскага роду на *-а* (*-я*) | назоўнікі агульнага роду |
| Н. | | | | |
| Р. | | | | |
| Д. | | | | |
| В. | | | | |
| Т. | | | | |
| М. | | | | |

Мэта практыкаванняў 103—105 — замацаваць уменне вучняў правільна ўжываць склонавыя формы рознаскланяльных назоўнікаў.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу пра канчаткі роднага склону назоўнікаў множнага ліку старшакласнікам прапануецца ўтварыць і запісаць формы роднага склону ад наступных назоўнікаў: *мурашкі*, *перавагі*, *танцоркі*, *нявесткі*, *пушчы*, *апенькі*, *дыні*, *сардэлькі*, *кансервы*, *спакусы*, *сотні*, *анекдоты*, *тунэлі*, *кілаграмы*, *ансамблі*, *намаганні*, *ільны*, *ляшчы*, *насыпы*, *мышы*, *аповесці*, *дэталі* (*мурашак*, *пераваг*, *танцорак*, *нявестак*, *пушчаў*, *апенек*, *дынь*, *сардэлек*, *кансерваў*, *спакус*, *соцень* і *сотняў*, *анекдотаў*, *тунэляў*, *кілаграмаў*, *ансамбляў*, *намаганняў*, *ільноў*, *ляшчоў*, *насыпаў*, *мышэй*, *аповесцей*, *дэталей* і *дэталяў*).

Практыкаванне 106 спрыяе развіццю ўмення вучняў правільна ўжываць у маўленні склонавыя формы назоўнікаў множнага ліку. Настаўнік павінен звярнуць увагу школьнікаў на варыянтныя канчаткі некаторых назоўнікаў: *вішань* і *вішняў*, *дзвярамі* і *дзвярыма*, *плячамі* і *плячыма*.

Пераклад сказаў з рускай мовы на беларускую (практыкаванне 107) можа быць наступны: 1. *Па дне далін і цяснін цякуць бурлівыя горныя рэчкі, вада перакочваецца хвалямі па вялізных камянях.* 2. *Шэрыя камякі паўзуць па снегавых палях, чапляюцца за грады скал.* 3. *Вандроўніку давядзецца пераадолець доўгі пад'ём па травяністых адхонах або па гушчарах кустоў.* 4. *Па шырокіх насыпах многіх плацін пракладзены чыгункі і шашы.*

На аснове тэксту паводле В. Вольскага (практыкаванне 108) вучні замацоўваюць уменне правільна ўжываць склонавыя формы назоўнікаў розных тыпаў скланення.

## Правапіс прыметнікаў

### Напісанне складаных прыметнікаў разам і праз злучок

**Мэта заняткаў** — замацаваць веды вучняў аб правапісе складаных прыметнікаў разам і праз злучок; удасканальваць уменне правільна пісаць складаныя прыметнікі, адрозніваць складаныя прыметнікі (*нізкакаларыйны*, *чыстасардэчны*) ад словазлучэнняў «прыслоўе + + прыметнік (дзеепрыметнік)» (*нізка зрэзаны*, *чыста вымыты*).

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням даецца заданне падрыхтаваць вуснае лінгвістычнае паведамленне аб правапісе складаных прыметнікаў на аснове наступных прыкладаў:

I. а) *чарназёмны* (*чарназём*), б) *каменнавугальны* (*каменны вугаль*), в) *мукамольны* (*малоць муку*), г) *далёкаўсходні* (*Далёкі Усход*), д) *ваеннаабарончы*;

II. а) *навукова-тэхнічны*, б) *санкт-пецярбургскі* (*Санкт-Пецярбург*), в) *бела-ружовы*, г) *Усходне-Еўрапейская раўніна*, д) *10-тонны*;

III. *своечасова прыняты*.

Выконваючы практыкаванне 109, вучні замацоўваюць уменне пісаць праз злучок і разам прыметнікі, якія суадносяцца з колькасна-іменнымі спалучэннямі: *4-гадовы* і *чатырохгадовы* і да т. п.

Практыкаванне 110 (выпісванне з тэксту паводле З. Бандарынай складаных прыметнікаў і тлумачэнне іх правапісу) фарміруе ў вучняў навык пісьмовага каменціравання. Пры чытанні тэксту старшакласнікі павінны ўставіць замест шматкроп'яў прапушчаныя словы (*Купалле*, *папараць-кветка*).

Практыкаванне 111 вучні выконваюць самастойна з наступнай узаемаправеркай у парах.

Дадатковае заданне да тэксту:

• Узнавіць прыказку па пачатку: «Няма смачнейшай вадзіцы, як...» (*з роднай крыніцы*).

### Правапіс суфіксаў прыметнікаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе суфіксаў прыметнікаў ***-еньк-*** (***-аньк-***, ***-эньк-***), ***-энн-*** (***-енн-***), ***-еў*** (***-ев-***), ***-аў-*** (***-ав-***), ***-оў-*** (***-ов-***), ***-ёў-*** (***-ёв-***) і інш.; удасканальваць уменне правільна пісаць суфіксы прыметнікаў.

Пасля знаёмства з тэарэтычным матэрыялам вучні павінны завяршыць выказванні:

1. Суфікс -*еньк*- пішацца пасля... (мяккіх зычных і *г*, *к*, *х*). Суфікс -*эньк*- пішацца... (пад націскам пасля зацвярдзелых зычных). Суфікс -*аньк*- пішацца... (не пад націскам пасля зацвярдзелых зычных). 2. Мяккі знак пішацца перад суфіксам -*ск*- у прыметніках... (утвораных ад назваў месяцаў на -*нь* і назоўнікаў *восень*, *Чэрвень*). 3. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад назоўнікаў з дапамогай суфікса -*ск*- зычныя асновы *т*, *ц*, *ч*, *к* у спалучэнні з суфіксальным *с* на пісьме перадаюцца... (літарай *ц*). 4. З дзвюма літарамі *н* пішуцца прыметнікі, утвораныя... (з дапамогай суфікса -*н*- ад назоўнікаў з асновай на *н*; ад назоўнікаў на -*мя*; з дапамогай суфіксаў -*енн*-, -*энн*-). 5. У прыналежных прыметніках, утвораных ад назваў асоб мужчынскага роду, пішуцца суфіксы... (-*ёў* (-*ёв*-), -*оў*- (-*ов*-), -*еў* (-*ев*-), -*аў* (-*ав*-)). У прыналежных прыметніках, утвораных ад назваў асоб жаночага роду, пішуцца суфіксы... (-*ін*, -*ын*).

Выкананне практыкавання 112 суправаджаецца вусным каменціраваннем: вучні тлумачаць напісанне -*н*- і -*нн*- у прыметніках.

Утвараючы прыметнікі з дапамогай суфікса -*ск*- (практыкаванне 113), вучні могуць запісваць іх у два слупкі: 1) прыметнікі, у якіх на стыку кораня і суфікса адбываецца зліццё зычных гукаў, што перадаецца на пісьме (*беларускі*, *таварыскі*, *рыбацкі* і інш.); 2) прыметнікі, пры напісанні якіх апошні зычны кораня і *с* суфіксальнае захоўваюцца (*чэшскі* (чаргаванне [х] — [ш]), *узбекскі*, *гарадскі* і інш.).

Практыкаванне 114 прапануецца для самастойнага выканання.

Пасля выбарачнага спісвання (практыкаванне 115) можна прапанаваць вучням пытанні і заданні, накіраваныя на раскрыццё культурнага патэнцыялу тэксту «Жаночая мова»:

- Чаму аўтар тэксту сцвярджае, што беларускі ручнік можна «паставіць у адзін рад з фрэскамі егіпецкіх пірамід або з кельцкімі рунамі»? (*Егіпецкія фрэскі даюць уяўленне пра культуру старажытнага Егіпта; у кельцкіх рунах асноўныя сілы прыроды прадстаўлены ў выглядзе малюнкаў — піктаграм. Як і егіпецкія фрэскі ці кельцкія руны, ручнік «змяшчае інфармацыю пра тое, як жылі людзі, як уяўлялі сабе свет, прыгажосць»* (В. Мядзведзева)).
- Карыстаючыся кнігай-альбомам В. Лабачэўскай «Повязь часоў — беларускі ручнік» (2009), дакажыце, што «ў кожным рэгіёне, а часам і ў асобнай вёсцы ствараліся ручнікі, якія адлюстроўвалі асаблівасць менавіта гэтай мясцовасці».

Настаўнік можа зацікавіць старшакласнікаў інфармацыяй пра згаданыя ў тэксце мотальскія ручнікі, якія «вылучаюцца не толькі складаным тканым узорам, але і вузельчыкавымі карункамі на канцах»:

*— Ёсць меркаванне, што тэхніка ўтварэння плеценага дэкору мотальскіх ручнікоў бярэ пачатак ад старажытнага вузельчыкавага пісьма — сродку перадачы інфармацыі з дапамогай камбінацыі вузлоў. Мотальскія ручнікі адрозніваюцца таксама шляхетнасцю, што можна патлумачыць ужо іншым гістарычным перыядам. Калісьці каралева Бона прывезла ў Моталь нямецкіх і італьянскіх майстроў, а мясцовыя жыхары ўзялі ад іх умення лепшае і спалучылі гэта са сваёй традыцыяй ткацтва* (Паводле В. Мядзведзевай).

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў прыметнікаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб склонавых канчатках прыметнікаў; удасканальваць уменне правільна ўжываць у маўленні склонавыя формы прыметнікаў.

На аснове табліцы (практыкаванне 116) вучні павінны падрыхтаваць вуснае лінгвістычнае паведамленне аб правапісе склонавых канчаткаў прыметнікаў у адзіночным і множным ліку. Настаўнік можа прывесці прыклад фармулёўкі выказвання: «У родным склоне прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны, а таксама на *г*, *к*, *х* маюць канчаткі *-ога* (пад націскам), *-ага* (не пад націскам); з асновай на мяккі зычны — канчатак *-яга*. Прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны, а таксама на *г*, *к*, *х* маюць пад націскам канчатак *-ой* (*-ое*), не пад націскам — *-ай* (*-ае*); з асновай на мяккі зычны — канчатак *-яй* (*-яе*)».

Мэта практыкавання 117 — замацаваць уменне вучняў правільна ўжываць склонавыя формы прыметнікаў у складзе фразеалагізмаў *шыта белымі ніткамі*, *у чорным целе*, *пускаць чырвонага пеўня*, *зялёная вуліца*, *блакітная кроў*, *сіняя птушка*, *шэрая гадзіна*. Акрамя таго, вучням даецца заданне ўстанавіць адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі: (адказы: а — 3, б — 6, в — 1, г — 2, д — 4, е — 5, ж — 7).

Чытаючы ўрывак з апавядання Я. Коласа «Ноч, калі папараць цвіце» (практыкаванне 118), прысвечанага Я. Купалу, вучні знаходзяць «схаваныя» ў тэксце назвы яго твораў і кніг (драматычныя паэмы «Адвечная песня», «Сон на кургане», кнігі «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця», паэма «Курган», верш «Спадчына»).

Лагічным працягам працы з тэкстам паводле Я. Коласа, у якім згадваюцца *русалкі*, *лясун*, *ваўкалакі*, *вадзянік*, *дамавік*, з'яўляецца заданне ўстанавіць адпаведнасць паміж назвамі гэтых міфічных істот і іх характарыстыкамі (практыкаванне 119): (адказы: а — 4, б — 1, в — 5, г — 3, д — 2). На аснове прыведзенай у практыкаванні інфармацыі вучні

складаюць і запісваюць сказы. Можна параўнаць іх з апісаннем русалак і лесавіка з «Нарыса паўночнае Беларусі» Я. Баршчэўскага: «*Русалкі, калі жыта красуе ў полі, з распушчанымі доўгімі валасамі гушкаюцца на бярозах і спяваюць песні; іхні смех адгукаецца ў глыбіні лясоў і трывогай працінае тых, хто збірае грыбы або ягады. Лясны бог — пан дзікіх пустэчаў; каб чалавечы зрок не мог яго ўгледзець, ён ... хаваецца ў сваіх уладаннях; мінаючы лугі, так змяншаецца, што яго нельга ўбачыць у густой траве; ідучы праз пушчы, раўняецца з самымі высокімі хваінамі. Ён апякун звяроў і лясных птушак*».

## Правапіс лічэбнікаў

### Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў колькасных, парадкавых, зборных, дробавых лічэбнікаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб скланенні колькасных, парадкавых, зборных, дробавых лічэбнікаў; удасканальваць уменне правільна ўжываць у маўленні склонавыя формы лічэбнікаў.

У пачатку заняткаў неабходна ўзнавіць веды вучняў пра разрады лічэбнікаў. З гэтай мэтай можа быць выкарыстана табліца «Разрады лічэбнікаў», змешчаная ў вучэбным дапаможніку «Беларуская мова» для 10 класа (2009, с. 136).

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням даецца заданне запісаць формы творнага склону лічэбнікаў *два*, *дзве*, *шэсць*, *сем*, *адзінаццаць*, *сорак*, *дзевяноста*, *шэсцьдзясят*, *сто*, *восемсот*, *дзевяцьсот дваццаць пяць*, *дзевяцьсот дваццаць пяты*, *пяцёра*, *тры чацвёртыя*. Затым выконваецца калектыўная праверка правільнасці выканання задання.

Мэта практыкаванняў 120, 121 — удасканальваць уменне вучняў правільна ўжываць у вусным і пісьмовым маўленні склонавыя формы лічэбнікаў. Перад выкананнем практыкавання 121 настаўнік можа пазнаёміць вучняў з навуковай дзейнасцю І. І. Насовіча:

— *Іван Іванавіч Насовіч (1788—1877) — мовазнавец, фалькларыст, этнограф. Ён стварыў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы. У яго зборніках «Беларускія прыказкі і прымаўкі», «Беларускія прыказкі і загадкі» і іншых асэнсоўваецца жыццё і побыт народа, яго духоўны свет і мараль. За «Зборнік беларускіх загадак» І. І. Насовічу прысуджаны залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства. «Слоўнік беларускай*

*мовы» І. І. Насовіча ахоплівае больш за 30 тысяч слоў і з'яўляецца самым поўным на той час зборам лексікі і фразеалогіі беларускай мовы* (Паводле энцыклапедычнага даведніка «Асветнікі зямлі Беларускай»).

Практыкаванне 122 спрыяе ўзбагачэнню слоўніка вучняў фразеалагізмамі, кампанентамі якіх з'яўляюцца лічэбнікі: *іграць першую скрыпку*, *за сямю пячаткамі*, *да сёмага* (*дзясятага*) *поту*, *палка з двума канцамі*, *адным стрэлам забіць двух зайцаў*, *у чатырох сценах* (*сядзець, жыць*). Старшакласнікам даецца таксама заданне ўстанавіць адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі (а д к а з ы: а — 5, б — 2, в — 1, г — 3, д — 4, е — 6).

## Нарматыўная пабудова колькасна-іменных спалучэнняў

**Мэта заняткаў** — замацаваць веды вучняў аб правілах пабудовы колькасна-іменных спалучэнняў; развіваць уменне правільна ўжываць у маўленні колькасна-іменныя спалучэнні.

Пасля азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам вучням прапануецца прывесці ўласныя прыклады, якія ілюструюць розныя правілы спалучэння лічэбнікаў з назоўнікамі, па аналогіі з колькасна-іменнымі спалучэннямі, запісанымі на дошцы:

1) *тры цікавыя аповесці*, ... ; 2) *абедзве спявачкі*, ... ; 3) *шасцёра студэнтаў*, ... ; 4) *чацвёра шчанят*, ... ; 5) *пяцёра нажніц*, ... .

Практыкаванне 123 накіравана на развіццё ўмення вучняў правільна спалучаць зборныя лічэбнікі з назоўнікамі.

Практыкаванне 124 можа быць дапоўнена заданнем запісаць згодна з граматычнымі нормамі тыя колькасна-іменныя спалучэнні, у якіх склонавыя формы лічэбнікаў утвораны і ўжыты памылкова.

Практыкаванне 125 вучні выконваюць самастойна, пасля чаго адбываецца калектыўная праверка.

Пры перакладзе з рускай мовы на беларускую тэксту «Хоккей с шайбой» (практыкаванне 126) вучні практыкуюцца ў нарматыўнай пабудове колькасна-іменных спалучэнняў (рус. *2 вратаря* — бел. *два варатары*; рус. *не менее 4 игроков* — бел. *не менш за чатыры ігракі*; рус. *3 периода* — бел. *тры перыяды* і г. д.). Настаўніку варта звярнуць увагу старшакласнікаў на тое, што назвы адзінак вымярэння (*метр*, *сантыметр*, *міліметр*) пры дробавых лічэбніках ужываюцца ў адзіночным ліку: *адна цэлая дваццаць дзве сотыя метра*, *сто трыццаць чатыры цэлыя пяць дзясятых сантыметра*.

Пасля перакладу тэксту можна правесці «**Спартыўную віктарыну**»: настаўнік задае пытанні, вучні запісваюць адказы, ужываючы колькасна-іменныя спалучэнні. Пытанні для віктарыны:

- З якой колькасці ігракоў складаецца адна футбольная каманда? (*з адзінаццаці ігракоў*).
- Колькі падыходаў (спроб) даецца на выкананне кожнага практыкавання ў цяжкай атлетыцы? (*тры падыходы*).
- Колькі шароў патрэбна для гульні ў більярд? (*тры або шаснаццаць шароў*).
- Колькі таймаў уключае баскетбольны матч? (*чатыры таймы па дзесяць мінут чыстага часу*).
- У якім відзе спаборніцтваў у 2004 годзе Юлія Несцярэнка стала алімпійскай чэмпіёнкай? (*у бегу на сто метраў*).
- Якая даўжыня дыстанцыі марафонскага бегу? (*сорак два кіламетры сто дзевяноста пяць метраў*).
- Колькі гледачоў можа ўмясціць спартыўна-відовішчная арэна, што ўваходзіць у склад комплексу «Мінск-арэна»? (*пятнаццаць тысяч гледачоў*).

## Правапіс займеннікаў

### Нарматыўная пабудова словазлучэнняў і сказаў са склонавымі формамі займеннікаў

**Мэта заняткаў** — удакладніць веды вучняў аб правапісе займеннікаў розных разрадаў; удасканальваць уменне правільна ўжываць у маўленні склонавыя формы займеннікаў.

Перад чытаннем тэарэтычнага матэрыялу варта нагадаць вучням разрады займеннікаў. Для гэтага настаўнік дыктуе займеннікі (*увесь*, *што*, *нешта*, *нішто*, *штосьці*, *яна*, *гэты*, *ваш*, *такі*, *самы*, *ён*, *які*, *ніякі*, *сябе*, *свой*, *той*, *чый*, *нічый*, *хто-небудзь*, *мой*, *ты*, *кожны*), а вучні запісваюць іх, групуючы па разрадах: а) асабовыя, б) зваротны, в) прыналежныя, г) указальныя, д) азначальныя, е) пытальныя і адносныя, ж) адмоўныя, з) няпэўныя. Пры неабходнасці школьнікі могуць карыстацца табліцай «Разрады займеннікаў», змешчанай у вучэбным дапаможніку «Беларуская мова» для 10 класа (с. 140).

Тэкст песні «Люблю цябе, Белая Русь» (практыкаванне 127) старшакласнікі чытаюць, устаўляючы прапушчаныя займеннікі, пасля чаго адзін з куплетаў запісваюць па памяці:

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, —
Услухайся толькі — *усё* тут гаворыць:
Люблю *цябе* , Белая, Белая Русь.
Ну як не любіць *тыя* хаты ля гаю,
Ля сініх азёр і палёў залатых,
Дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць
І з песняй праводзяць, як родных *сваіх*.
Тут трэба ля *гэтых* азёр нарадзіцца
І слухаць гаворку, і бачыць зару,
Каб сэрцам і доляй навек прычасціцца
К *табе*, *мая* чыстая Белая Русь.

Пасля азнаямлення са змешчаным у рубрыцы «Правільнасць маўлення» матэрыялам аб значэнні і скланенні займеннікаў *самы* (*са́мая*, *са́мае*, *са́мыя*) і *сам* (*сама́*, *само́*, *са́мі*) вучням можна прапанаваць праскланяць наступныя словазлучэнні: *самы малады капітан*, *сам капітан*, *самая шчодрая гаспадыня*, *сама гаспадыня*, *самыя старанныя студэнты*, *самі студэнты* (гэта заданне можа быць выканана па варыянтах).

Задача практыкаванняў 128, 129 — удасканальваць уменне вучняў правільна ўжываць у маўленні склонавыя формы займеннікаў *самы* (*самая*) і *сам* (*сама*), *сябе* і *сабе*, *цябе* і *табе*.

Выкананне практыкаванне 130 спрыяе ўзбагачэнню слоўніка вучняў беларускімі прыказкамі (у іх трэба ўставіць прапушчаныя займеннікі):

1. *Хто каго любіць, той <u>таго</u> і чубіць*. 2. *Кожная сасна <u>свайму</u> бору песню спявае*. 3. *Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з <u>усіх</u> чатырох бакоў*. 4. *У <u>сваёй</u> хаце і качарга маці*. 5. *Не руш чужога і не бойся <u>нікога</u>*. 6. *Аржаная каша сама <u>сябе</u> хваліць*. 7. *На <u>сваім</u> сметніку і певень гаспадар*. 8. *Крывое кола на <u>сябе</u> гразь кідае*. 9. *Якое дрэва, <u>такі</u> клін, які бацька, <u>такі</u> сын*.

## Правапіс дзеясловаў

### Правапіс суфіксаў дзеясловаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правапісе суфіксаў дзеясловаў ***-ава-*** (***-ява-***), ***-іва-*** (***-ыва-***), ***-ва-***, ***-ірава-*** (***-ырава-***); удасканальваць уменне правільна пісаць суфіксы дзеясловаў.

У працэсе азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам вучні пісьмова тлумачаць правапіс суфіксаў дзеясловаў, што прыводзяцца ў якасці прыкладаў:

1) *даслед**ава**ць* — *даследую* (1-я ас. цяп. ч.); *дзяка**ва**ць* — *дзякую*;

2) *упрыгож**ва**ць* — *упрыгожваю* (1-я ас. цяп. ч.); *спіс**ва**ць* — *спісваю*;

3) *падтрымлі**ва**ць*, *падтрымлі**ва**й*, *падтрымлі**ва**ю*;

4) *супакой**ва**ць* (незак. тр.) — *супакоіць* (зак. тр.); *абнадзей**ва**ць* — *абнадзеіць*.

Практыкаванне 131 мае на мэце развіццё арфаграфічнай пільнасці вучняў. Правільна запісаны ўсе дзеясловы ў 2-м і 5-м радках. Дзеясловы, у якіх дапушчаны памылкі, вучні павінны запісаць згодна з арфаграфічнымі нормамі і растлумачыць іх правапіс: *заканч**ва**ць* — *заканчваю* (1-й ас. цяп. ч.); *даслед**ава**ць* — *даследую* (1-я ас. цяп. ч.); *загой**ва**ць* (незак. тр.) — *загоіць* (зак. тр.); *узвяліч**ва**ць* — *узвялічваю* (1-я ас. цяп. ч.).

Пры выкананні практыкаванне 132 вучні вусна тлумачаць значэнні запісаных дзеясловаў: *акліматызаваць* (прыстасаваць расліну, жывёліну да новага клімату), *ігнараваць* (свядома не звяртаць увагі на каго-небудзь, што-небудзь), *фінішаваць* (прыйсці да фінішу), *газаваць* (павялічваць скорасць машыны, самалёта і пад.) і *газіраваць* (насычаць вадкасць газам), *візаваць* (ставіць візу на дакуменце) і *візіраваць* (наводзіць аптычны ці вугламерны прыбор на які-небудзь пункт), *лабіраваць* (аказваць уплыў на ўладу ў інтарэсах той ці іншай эканамічнай і палітычнай групоўкі), *рэканструяваць* (перабудоўваць што-небудзь; аднаўляць што-небудзь па апісаннях ці рэштках, якія захаваліся).

Практыкаванне 133 прапануецца для самастойнага выканання.

## Нарматыўнае ўжыванне асабовых дзеясловаў I і II спражэння, рознаспрагальных дзеясловаў. Ужыванне і правапіс дзеясловаў загаднага ладу

**Мэта заняткаў** — сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе асабовых канчаткаў дзеясловаў I і II спражэння, рознаспрагальных дзеясловаў, дзеясловаў загаднага ладу; удасканальваць уменне правільна ўжываць у маўленні асабовыя дзеясловы.

Тэарэтычны матэрыял дапаможніка для вучняў можа быць дапоўнены інфармацыяй аб тым, што найбольш зручнымі для вызначэння спражэння дзеясловаў з’яўляюцца формы 3-й асобы адзіночнага ліку (*-э*, *-е*, *-а* (галосныя) — канчаткі дзеясловаў I спражэння; *-іць*,

-*ыць* — II спражэння) і множнага ліку (-*уць*, -*юць* — канчаткі дзеясловаў I спражэння; -*аць*, -*яць* — II спражэння).

Пасля чытання табліцы (практыкаванне 134) і падрыхтоўкі вуснага выказвання на яе аснове вучням прапануецца ўпісаць у наступную табліцу спрагальныя формы дзеясловаў *жыць*, *гнаць* (або іншых):

| Асоба | I спражэнне | | II спражэнне | |
|---|---|---|---|---|
| | адзіночны лік | множны лік | адзіночны лік | множны лік |
| 1-я | *жыву* | *жывём* | *ганю* | *гонім* |
| 2-я | *жывеш* | *жывяце* | *гоніш* | *гоніце* |
| 3-я | *жыве* | *жывуць* | *гоніць* | *гоняць* |

Выкананне практыкаванне 135 накіравана на развіццё ўмення правільна ўжываць у маўленні асабовыя дзеясловы, а таксама на ўзбагачэнне слоўніка вучняў беларускімі прыказкамі. Дадатковае заданне патрабуе сярод прыведзеных прыказак знайсці тую, адпаведнікам да якой у рускай мове з'яўляецца выслоўе «От добра добра не ищут» (*Шукаючы пірага, і хлеб згубіш*).

Практыкаванне 136 вучні выконваюць самастойна (адгадкі: 1) *плуг,* 2) *барана,* 3) *граблі,* 4) *серп,* 5) *піла,* 6) *сенакос,* 7) *вятрак,* 8) *млын*).

Перад чытаннем тэксту з кнігі А. Я. Міхневіча, Л. П. Кунцэвіч, Ю. В. Назаранкі «Слоўка за слоўкам» (практыкаванне 138) варта прапанаваць вучням утварыць формы загаднага ладу множнага ліку першай асобы ад дзеяслова *паслухаць*. Пасля знаёмства з тэкстам старшакласнікі адказваюць на пытанне «Якія ў нашай мове сродкі выражэння загаднага ладу множнага ліку першай асобы?» і зноў утвараюць гэтыя формы ад дзеяслова *паслухаць* (*давай*(*це*) *паслухаем*, *паслухайма*).

Каб дапамагчы вучням скласці сказы, у якіх у функцыі загаднага ладу ўжываюцца формы цяперашняга і прошлага часу абвеснага ладу, варта прывесці прыклад: *Мы танцуем лявоніху* (абвесны лад) — *Дзеці, танцуем разам!* (загадны лад).

Практыкаванне 139 накіравана на фарміраванне ўмення ўтвараць формы дзеясловаў загаднага ладу. Апісаная ва ўрыўку з аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» маўленчая сітуацыя дае падставу задаць наступныя пытанні:

- На якую рысу нацыянальнага характару беларусаў звярнуў увагу чытача аўтар? (*на гасціннасць беларусаў*; пацвярджаючы адказы

вучняў, настаўнік можа працытаваць У. Караткевіча: «*Галоўнае ў нашым характары — гасціннасць добрага да добрых*»[5]).

• Назавіце беларускія прыказкі, у якіх знайшла адбітак гэта рыса нацыянальнага характару (*Добраму госцю вароты самі расчыняюцца. Госць на парог — гаспадыня за пірог. Дзе госць, там і бог ёсць*).

• Як можна растлумачыць сэнс прыказак «І гасцей прымаць, то трэба меру знаць», «Ці з перцам, ці не з перцам — абы было са шчырым сэрцам» (*гаспадар павінен быць гасцінным*, *ветлівым*, *шчодрым*, *але не дакучлівым*; *галоўнае ў частаванні — шчырасць*).

• Якая байка рускага паэта І. Крылова дала жыццё фразеалагізму са значэннем ‘прымусовае, празмернае частаванне насуперак жаданню госця’? (*байка «Демьянова уха»*, *фразеалагізм* демьянова уха — *бел.* дзям’янава юшка).

На аснове інфармацыі, прыведзенай у тэксце «Ліпавая Калода» (практыкаванне 140), вучні павінны апісаць працэс вырабу борці, ужываючы дзеясловы загаднага ладу:

*Для таго каб змайстраваць борць, <u>выберыце</u> старую тоўстую сасну, дуб або ліпу, <u>зрэжце</u> верхавіну і <u>зрабіце</u> паглыбленне, падобнае да чашы. Пасля таго як дрэва струхлее і атрымаецца дупло, <u>вычысціце</u> яго, зверху <u>заштукуйце</u> здаровай драўнінай і <u>пакрыйце</u> бяростай. Збоку <u>зрабіце</u> лётку.*

Дадатковае заданне патрабуе ўказаць назвы населеных пунктаў Беларусі, звязаныя з бортніцтвам (*Бортнікі*, *Борці*). Настаўнік можа парэкамендаваць вучням, якія цікавяцца паходжаннем назваў населеных пунктаў, пазнаёміцца з кнігай В. П. Лемцюговай «Тапонімы распавядаюць» (2008).

## Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў. Нарматыўнае ўжыванне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе суфіксаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў; замацоўваць уменне правільна ўжываць у маўленні дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі.

Чытанне тэарэтычнага матэрыялу аб правапісе суфіксаў дзеепрыметнікаў можа суправаджацца складаннем схем, напрыклад:

---

[5]Караткевіч, У. Зямля пад белымі крыламі / У. Караткевіч // Зямля пад белымі крыламі : нарыс. Дзікае паляванне караля Стаха: аповесць. — Мінск, 1995. – С. 70.

| | | |
|---|---|---|
| ___________іць<br>___________ці | + **-ен-** | (суфікс -*ен*- пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на -*іць*, -*ці*); |
| ___________с/ш<br>___________з/ж<br>___________ц/ч<br>___________дз/дж | + **-ан-** | (пры чаргаванні ў аснове дзеяслова [с'] — [ш], [з'] — [ж], [ц'] — [ч], [дз'] — [дж] у дзеепрыметніках пішацца суфікс -*ан*-); |
| ___________яць + **-н- = ян** | | (спалучэнне *я* дзеяслоўнай асновы з суфіксам -*н*- пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на -*яць*). |

Мэта практыкавання 141 — фарміраванне ўмення вучняў размяжоўваць дзеепрыметнікі з суфіксам -*н*- (*выпіса-н-ы* — ад асновы інфінітыва *выпіса-ць*) і дзеепрыметнікі з суфіксамі -*ан*- (*вывуч-ан-ы* — ад *вывучы-ць*), -*ен*- (*прынес-ен-ы* — ад *прынес-ці*).

Пры выкананні практыкавання 142 варта звярнуць увагу вучняў на тое, што большасць дзеепрыметнікаў захоўвае націск інфінітыва, ад якога яны ўтвораны: *адшліфава́ны* (*адшліфава́ць*), *расфармірава́ны* (*расфарміравáць*) і да т. п.

Пры спісванні ўрыўка з рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» (практыкаванне 143) вучні ўтвараюць дзеепрыметнікі ад дзеясловаў, запісаных у дужках. Для таго каб адказаць, пра якое свята ідзе гаворка ў тэксце (*Каляды*), старшакласнікі павінны прыгадаць, што каза як сімвал урадлівасці з'яўляецца традыцыйным персанажам калядных свят:

Дзе Каза ходзіць, там жыта родзіць.
Дзе Каза рогам — там жыта стогам.
Дзе Каза нагой — там жыта капой.
Дзе Каза хвастом — там жыта кустом.

Варта звярнуць увагу вучняў на змешчанае ў тэксце апісанне казы: «*Каза была ў шэрым ваўчыным футры, у сушанай авечай масцы, з пукам каласоў замест барады*». Настаўнік можа паведаміць, што выканаўцу ролі казы звычайна апраналі ў вывернуты кажух, надзявалі маску (яе магла замяніць шапка з аўчыны). Галаву маскі выразалі з дрэва і абшывалі аўчынай. Да яе прымацоўвалі рогі, зробленыя з лазы ці скруткаў саломы, і вушы (часам са сталовых лыжак). Ніжняя сківіца з барадой з лёну была рухомай[6].

---

[6]Каладзінскі, М. А. «Каза» / М. А. Каладзінскі // Народная культура Беларусі : энцыкл. давед. / пад агул. рэд. В. С. Цітова. — Мінск, 2002. — С. 180.

Практыкаванне 144 акцэнтуе ўвагу вучняў на не ўласцівых сучаснай беларускай мове формах дзеепрыметнікаў з суфікасамі *-ўш-* (*анямеўшы*, *ажыўшы*, *прайшоўшы*), *-юч-* (*сцякаючы*). Настаўнік можа растлумачыць, што абмежаванае ўжыванне падобных дзеепрыметнікаў «звязана з тым, што ў мужчынскім родзе адзіночнага ліку яны фармальна супадаюць з дзеепрыслоўямі»[7].

Ва ўрыўку з рамана І. Мележа «Людзі на балоце» (практыкаванне 145) апісваецца абрад калядавання (шчадравання). Вучням няцяжка будзе адказаць, чаму песні, прыведзеныя ў тэксце, атрымалі назву «шчадроўкі» (ад слова *шчодры*). Настаўнік можа дапоўніць адказы старшакласнікаў культуразнаўчай інфармацыяй:

*— 13 студзеня спраўлялі «багатую», або «шчодрую», куццю (дазвалялася есці скаромнае, на стале было не менш за дванаццаць страў). Ад слова «шчодры» ўтварылася назва святочнага вечара — Шчадрэц. Выконвалі абрад шчадравання — абход вёскі калядоўшчыкамі, пры гэтым у склад гурта ўваходзілі толькі дзяўчаты. Выбіралі самую прыгожую дзяўчыну, апраналі яе ў святочнае адзенне, надзявалі вянок. Дзяўчыну-прыгажуню называлі «Шчодрай». Наведванне ёю сялянскіх хат сімвалізавала дабрабыт, багаты ўраджай* (Паводле А. Катовіч, Я. Крука).

Мэта практыкаванняў 146—148 — удасканальваць уменне вучняў правільна ўжываць у маўленні дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты.

## Правапіс прыслоўяў

### Напісанне прыслоўяў разам і праз злучок. Правапіс блізкіх да прыслоўяў спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правапісе прыслоўяў і блізкіх да іх спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі; удасканальваць уменні правільна пісаць прыслоўі, адрозніваць прыслоўі ад аманімічных спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі.

Пасля вывучальнага чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням даецца заданне запісаць па памяці 15—20 слоў, што прыводзяцца ў якасці

---

[7]Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. — Мінск, 2007. — Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. — С. 230.

прыкладаў для ілюстрацыі палажэнняў правіла аб правапісе прыслоўяў разам і праз злучок.

Выкананне практыкавання 149 можа суправаджацца вусным каменціраваннем.

З тэксту паводле У. Караткевіча (практыкаванне 150), змест якога пацвярджае знаходлівасць беларусаў, старшакласнікі выпісваюць прыслоўі і блізкія да іх спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, раскрываючы дужкі. Дадатковыя заданні патрабуюць: знайсці ў тэксце фразеалагізм і растлумачыць яго значэнне (*наступаць на пяты* ‘даганяць каго-небудзь’); высветліць велічыню меры даўжыні *вярсты* (*1,06 км*) і выразіць у кіламетрах адлегласць, якая аддзяляла паўстанцаў ад карнага атрада (*дзве вярсты — 2,12 км*).

Пры выкананні практыкавання 151 вучні не толькі замацоўваюць уменне правільна пісаць прыслоўі, але і практыкуюцца ў тлумачэнні сэнсу афарызмаў з беларускіх літаратурных крыніц.

## Правапіс службовых часцін мовы

### Правапіс асобна, разам, праз злучок прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правапісе асобна, разам і праз злучок прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц; удасканальваць уменне правільна пісаць прыназоўнікі, злучнікі, часціцы.

Замацаванне ведаў вучняў аб правапісе прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц можа адбывацца ў форме лінгвістычнай гульні «Працягні думку» (школьнікі павінны завяршыць выказванні словамі «*асобна*», «*разам*» ці «*праз злучок*» і прывесці 2—3 прыклады службовых часцін мовы, якія ілюструюць сфармуляваныя правілы):

1. Часціцы *бы, жа* пішуцца... (асобна: *зрабіла б, як жа*). 2. Прыназоўнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з назоўнікам, пішуцца... (разам: *наконт, замест*). 3. Злучнікі, якія з’яўляюцца вынікам зліцця прыназоўніка з займеннікам, пішуцца... (разам: *затое, прычым*). 4. Складаныя прыназоўнікі пішуцца... (праз злучок: *з-за, па-над*). 5. Словы ў састаўных злучніках пішуцца... (асобна: *як толькі, таму што*). 6. Часціца *такі* пасля дзеяслова пішацца... (праз злучок: *сказаў-такі, з’явіўся-такі*).

Выкананне практыкавання 152 можа суправаджацца вусным каменціраваннем. Практыкаванні 153, 154 вучні выконваюць самастойна з наступнай калектыўнай або ўзаемнай праверкай.

## Значэнне часціц *не* і *ні*. Правапіс *не* (*ня*), *ні* з рознымі часцінамі мовы

**Мэта заняткаў** — замацаваць веды вучняў аб значэнні і правапісе часціц (прыставак) ***не*** (***ня***), ***ні***; удасканальваць уменні размяжоўваць значэнні часціц ***не*** і ***ні***, правільна пісаць часціцы (прыстаўкі) ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу аб значэнні часціц *не* і *ні* настаўнік дае вучням заданне прывесці ўласныя прыклады сказаў, у якіх:

— часціца *ні* надае адмоўнае значэнне сказу без дзейніка (*На дрэве ні лісточка*);

— часціца *не* надае адмоўнае значэнне ўсяму сказу (*Андрэй не з'явіўся на сход*);

— часціца *ні* ўзмацняе адмаўленне, якое выражана часціцай *не* (*На градцы не вырасла ні агурка*);

— часціца *не* мае сцвярджальны сэнс у сказе пытальна-клічнага тыпу (*Кім толькі ён не марыў стаць!*);

— сказ з дзвюма часціцамі *не* мае сцвярджальны сэнс (*Вера не магла не хвалявацца перад выступленнем*).

Практыкаванні 155—158 спрыяюць замацаванню ўмення вучняў дарэчна ўжываць у маўленні часціцы *не* і *ні*.

Практыкаванне 159 патрабуе ўстанавіць адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі ўстойлівымі выразамі (адказы: а — 6, б — 7, в — 1, г — 5, д — 2, е — 8, ж — 3, з — 4) і запісаць беларускія ўстойлівыя выразы, устаўляючы прапушчаныя літары. Варта звярнуць увагу вучняў на адсутнасць коскі ў фразеалагізмах *ні свата ні брата*, *ні адтуль ні адсюль*, *ні лою ні ўдою* (лой — нутраны тлушч (авечы, ялавічны)) і пад.

Пасля азнаямлення вучняў з тэарэтычным матэрыялам аб правапісе *не (ня)*, *ні* з рознымі часцінамі мовы настаўнік прапануе на аснове наступных прыкладаў сфармуляваць правілы правапісу *не (ня)*, *ні* з рознымі часцінамі мовы:

I. 1) *незабудка*, *няволіць*; 2) *недаацэньваць*, *недагледзец* (дзіця); 3) *нешырокі* (вузкі), *нямнога* (мала); 4) *неасушаныя балоты*, *незачыненыя дзверы*; 5) *нешта*, *неяк*.

II. 1) *не высокі, а нізкі плот*; 2) *не заўважыў*, *не заўважыўшы*, *не заўважана*; 3) *не зачыненыя гаспадаром дзверы*.

Практыкаванне 160 спрыяе замацаванню ўмення вучняў адрозніваць выпадкі злітнага і асобнага напісання *не* з поўнымі дзеепрыметнікамі (*неправераныя сшыткі* — *не правераныя настаўнікам сшыткі* і да т. п.).

Выкананне практыкавання 161 можа суправаджацца вусным каменціраваннем.

У выніку выканання практыкавання 162 вучні павінны зрабіць вывад аб тым, што прыстаўка *не-* ўжываецца пад націскам (*нехта*, *нейкі*, *некалі*), *ні-* — не пад націскам (*ніхто*, *ніякі*, *ніколі*).

На аснове тэксту паводле Э. Ажэшкі пра народныя забабоны (практыкаванне 163) вучні замацоўваюць уменне адрозніваць ужыванне часціц (прыставак) *не* (*ня*) і *ні*.

Дадатковыя пытанні і заданні культуразнаўчага характару:

• У якія дні, згодна з хрысціянскімі запаведзямі, забараняецца працаваць? (*у нядзелю, у дні, калі адзначаюцца рэлігійныя святы*).

• Растлумачце паходжанне слова *нядзеля* (*ад слоў «не делать», «не рабіць спраў»*).

• Раскрыйце алегарычны сэнс прыказкі «І дурань ведае, што ў нядзелю свята» (*тое, што лічыцца агульнавядомым, не патрабуе доказу*).

• Як называюцца згаданыя ў тэксце «звязаныя ці заламаныя каласы», якія, згодна з уяўленнямі забабонных людзей, могуць наклікаць бяду на гаспадара нівы? (*залом*).

На тэму аднаго з афарыстычных выслоўяў Ніны Мацяш (практыкаванне 164) вучням прапануецца напісаць сачыненне-мініяцюру (тып маўлення — разважанне). Варта нагадаць, што тэкст-разважанне мае наступную структуру: 1) тэзіс (сфармуляваны ў выслоўі); 2) доказы; 3) вывады.

## Правілы пераносу слоў

**Мэта заняткаў** — удакладніць веды вучняў аб правілах пераносу слоў; замацоўваць уменне пераносіць словы з аднаго радка на другі.

З тэарэтычнага матэрыялу вучні выпісваюць прыклады, якія ілюструюць розныя правілы пераносу слоў, або прыводзяць уласныя прыклады пераносу:

1) *пе-ра-мо-га*; *пла-мбір* і *плам-бір*; *ра-злік* і *раз-лік*; 2) *ор-дар*, *ада-жыа*; 3) *па-дзея*, *ва-джу*; *пад-зорны*; 4) *гай-ка*, *каў-нер*; 5) *поль-ка*, *аб'-ём*; 6) *жыц-цё* і *жы-ццё*; 7) *безы-дэйны*, *без-ыдэйны*, *бе-зыдэйны*; 8) *пер-ша-дру-кар* і *пе-рша-дру-кар*.

Мэта практыкавання 165 — развіццё ўмення вучняў правільна пераносіць словы.

З тэксту паводле Л. Мурашкі пра гукавы сімвал нашай краіны — песню «Радзіма мая дарагая» (практыкаванне 166) — вучні павінны выпісаць выдзеленыя словы, падзяляючы іх для пераносу.

Старшакласнікам даецца таксама заданне запісаць па памяці тэкст першага куплета гэтай песні (словы А. Бачылы, музыка У. Алоўнікава):

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

## Падагульненне вывучанага

Самадыктант (практыкаванне 167) спрыяе замацаванню ўменняў вучняў афармляць тэкст у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

На апошніх занятках вучням прапануецца тэставая работа, якая ўключае заданні закрытага і адкрытага тыпу па арфаграфіі і марфалогіі.

Адказы:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **А 1** | **А 2** | **А 3** | **А 4** | **А 5** | **А 6** | **А 7** | **А 8** |
| 2, 3, 4 | 1, 3, 4 | 3, 5 | 2, 3, 4 | 1, 2, 5 | 1, 2, 5 | 1, 3, 5 | 2, 3, 5 |
| **А 9** | **А 10** | **А 11** | **А 12** | **А 13** | **А 14** | **А 15** | **А 16** |
| 1, 3 | 1, 3 | 2, 5 | 2, 3 | 2, 4, 5 | 1, 3, 4 | 1, 4 | 1, 4, 5 |
| **В 1** | | **В 2** | | **В 3** | | **В 4** | |
| ураганны | | вахцёр | | пасінелы | | лепш | |

# ЛІТАРАТУРА

1. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. — Мінск : Нац. цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008.

2. *Бадзевіч, З. І.* Вывучаем новую рэдакцыю правілаў беларускага правапісу / З. І. Бадзевіч // Рэпетытор. — 2010. — № 4.

3. *Дзятко, Д.* Беларускі правапіс і граматыка : Тэорыя і заданні для школьнікаў / Д. Дзятко, Н. Радзіваноўская, В. Урбан // Роднае слова. — 2010. — № 7.

4. *Іўчанкаў, В.* Беларускі правапіс : з дваццатага стагоддзя — у дваццаць першае / В. Іўчанкаў // Роднае слова. — 2009. — № 2.

5. *Іўчанкаў, В. І.* Пра змены ў беларускім правапісе / В. І. Іўчанкаў // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 1.

6. *Іўчанкаў, В. І.* Сучасны беларускі правапіс : семінар-практыкум / В. І. Іўчанкаў // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 11; 2010. — № 2, 4.

7. *Іўчанкаў, В. І.* Беларускі правапіс : Гісторыя і сучаснасць / В. І. Іўчанкаў // Беларускі гістарычны часопіс. — 2009. — № 7.

8. *Іўчанкаў, В. І.* Беларускі правапіс будзе рэгуляваца законам : урокі беларускага правапісу / В. І. Іўчанкаў // Настаўніцкая газета. — 2009. — № 121, 125, 128, 131, 134, 137, 141, 143, 146, 150, 154, 157, 160, 161, 165, 166; 2010. — № 3, 6, 11, 15, 18, 22, 25, 28, 31, 34, 37, 40, 43, 46, 49, 52 [публікацыя працягваецца].

9. *Іўчанкаў, В.* Беларускі правапіс у апорных схемах / В. Іўчанкаў // Роднае слова. — 2010. — № 5—7 [публікацыя працягваецца].

10. *Іўчанкаў, В. І.* Беларуская арфаграфія : Апавяданні і гісторыі / В. І. Іўчанкаў. — Мінск : Пачатковая школа, 2010.

11. *Іўчанкаў, В. І.* Беларускі правапіс у апорных схемах : Паводле новай рэдакцыі «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» / В. І. Іўчанкаў. — Мінск : Пачатковая школа, 2010.

12. Кароткая граматыка беларускай мовы : у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. — Мінск : Беларус. навука, 2007. — Ч. 1. — 351 с.

13. Кароткая граматыка беларускай мовы : у 2 ч. Ч. 2. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. — Мінск: Беларус. навука, 2009. —

14. *Лукашанец, А.* Вывучаем новыя правілы беларускага правапісу / А. Лукашанец, Л. Кунцэвіч, І. Кандраценя // Роднае слова. — 2009. — № 1—12; 2010. — № 1—4.

15. Пішам па-беларуску : даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі / З. І. Бадзевіч [і інш.]. — Мінск : Аверсэв, 2010.

16. *Раманцэвіч, В.* Слоўнікавыя практыкаванні як сродак навучання роднай мове: новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу / В. Раманцэвіч, М. Прыгодзіч // Роднае слова. — 2010. — № 4, 6.

17. *Савіцкая, І.* Беларускі правапіс : Дыдактычны матэрыял / І. Савіцкая // Роднае слова. — 2010. — № 6.

* * *

Беларускі арфаграфічны слоўнік / уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы.— Мінск : Беларус. навука, 2009.

# ДЫДАКТЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## УВОДЗІНЫ

**Арфаграфія** (ад грэч. orthos — правільны і grafo — пішу), або правапіс, — гэта сістэма правіл перадачы вуснага маўлення на пісьме. Арфаграфія вызначае аднастайнае, агульнапрынятае і абавязковае для ўсіх, унармаванае напісанне слоў і іх формаў.

Арфаграфія ўключае правілы: напісання слоў і іх частак; напісання слоў разам, праз злучок і асобна; ужывання вялікай літары; перанос слоў з аднаго радка на другі; напісання абрэвіятур і розных агульнапрынятых умоўных графічных скарачэнняў.

### Прынцыпы беларускай арфаграфіі (правапісу)

Арфаграфія любой мовы грунтуецца на пэўных навуковых асновах, прынцыпах. Правапіс беларускай мовы ў асноўным грунтуецца на фанетычным і марфалагічным прынцыпах.

**Фанетычны** прынцып правапісу прадугледжвае перадачу гукаў на пісьме ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем (як чуем, так і пішам). На гэтым прынцыпе грунтуюцца наступныя правілы:

- перадача акання;
- перадача якання;
- напісанне літары **ы** на месцы этымалагічнага [э] ў некаторых запазычаных словах: *інжынер*, *арышт*, *брызент*;
- напісанне спалучэнняў галосных у словах іншамоўнага паходжання: *біёніка*, *рацыён*, *бібліятэка*;
- правапіс прыставак **без- (бяз-**, **бес-**, **бяс-)**, **з- (с-)**, **раз- (рас-**, **роз-**, **рос-)**, **уз- (ус-)**, **цераз- (церас-)**: *узгадаць — успомніць*, *бяздушны — бясконцы*;
- перадача на пісьме дзекання і цекання;
- правапіс спалучэнняў **зн**, **нц**, **рц**, **рн**, **сн**, **сл** на месцы этымалагічных [здн], [лнц], [рдц], [рдн], [стн], [стл]: *праязны*, *сонца*, *сэрца*, *капусны*;
- перадача на пісьме фанетычнага падаўжэння зычных;
- узнікненне прыстаўных гукаў;
- напісанне літары **с** на месцы гістарычных спалучэнняў [жс], [гс], [шс], [хс] і спалучэння [сс] на стыку кораня і суфікса: *мноства*, *хараство*, *княства*, *птаства*, *адэскі*, *палескі*;

• напісанне літары **т** на месцы спалучэння [дт] на канцы іншамоўных слоў: *Шміт*, *Рэмбрант*;

• напісанне літары **ц** на месцы спалучэнняў [тс], [чс], [кс], [цс]: *савецкі*, *ткацкі*, *мастацкі*, *лельчыцкі*;

• правапіс **у** і **ў** у залежнасці ад пазіцыі ў слове;

• напісанне спалучэння **чч** у геаграфічных назвах тыпу *Полаччына*, *Случчына* на месцы спалучэння [цк];

• захаванне на пісьме асіміляцыі свісцячых да шыпячых у некаторых словах: *пяшчотны*, *нішчымны* і інш.;

• напісанне адной літары ў словах *алея*, *клас*, *тона*, *маса* і інш.

*Заўвага*: выключэнні з правіл не адпавядаюць фанетычнаму прынцыпу напісання.

**Марфалагічны** прынцып прадугледжвае аднастайнае напісанне марфем — незалежна ад таго, як яны вымаўляюцца. Напрыклад, у аднакаранёвых словах *горад*, *гарады*, *гарадскі* ў корані вымаўляюцца розныя гукі ([горат], [гарады], [гарацк’і]), але нязменна захоўваецца **д** пры напісанні. На гэтым прынцыпе грунтуюцца наступныя правілы:

• правапіс глухіх і звонкіх, свісцячых і шыпячых зычных (аглушэнне звонкіх зычных, азванчэнне глухіх, асіміляцыйная мяккасць зычных, прыпадабненне шыпячых да свісцячых і свісцячых да шыпячых);

• правапіс зычных на стыку марфем;

• напісанне спалучэнняў **дц**, **тц**, **чц** (у вымаўленні [цц]): *на кладцы*, *у хатцы*, *у хустачцы*;

• напісанне прыставак **аб-**, **ад-**, **над-**, **пад-** і прыназоўнікаў **аб**, **ад**, **над**, **пад**;

• напісанне прыназоўніка **без** і часціцы **не**;

• правапіс каранёвага **я** (*пояс*, *месяц*, *заяц*) і суфіксаў **-язь**, **-ядзь** (*боязь*, *дробязь*, *роўнядзь*);

• правапіс каранёвых зычных **з**, **ж**, **ш**, **г**, **х** перад суфіксам **-ск-** і каранёвага **д** перад суфіксальнай **с**: *французскі*, *нясвіжскі*, *чэшскі*, *казахскі*, *суседскі*.

**1.** Размяркуйце словы па групах: а) словы, напісанне якіх заснавана на фанетычным прынцыпе арфаграфіі; б) словы, напісанне якіх заснавана на марфалагічным прынцыпе арфаграфіі.

Бясшэрсны, нясвіжскі, нізкі, вокладка, просьба, грызці, дамы́, абсыпаць, машына, падсохнуць, грыб, завязь, вясновы, дзеці, біялогія,

бяздомны, зжаць, сэрца, патрыятызм, без сумнення, збожжа, восень, мноства, вугал, не чытаў, гарадскі, свіслацкі, без шуму, кроў, галоўка, заводскі, падкладаць, адпускаць.

**2.** Прачытайце верш. Выпішыце па сем прыкладаў напісанняў, заснаваных на фанетычным і марфалагічным прынцыпах.

ТАМ ЯНА

Там яна, дзе з небам сінім
Лес гамоніць шапаткі,
Дзе з бярозаю асіна,
З ясным ясенем рабіна
Абняліся на вякі.
Там яна, дзе Буг аблокі
Пазбіраў з усіх нябёс,
Дзе Вілля, Дняпро шырокі,
Белавежа, Налібокі,
Нёмна песеннага плёс.
Там яна, дзе Прыпяць, Шчара,
Случ, Бярэзіна, Дзвіна,
Дзе Князь-возера і Нарач,
Свіцязь светлая, як мара,
І Бяздоннае без дна.
Там яна, дзе Тураў, Полацк —
Найстарыя гарады,
Мінск, чый чутны ўсюды голас,
Гомель, Віцебск, Жлобін, Столін,
Горад солі малады.
Там яна, дзе з кожным маем
Яблынь цвет ляціць з галля.
Палявая, лугавая,
Нам, як маці, дарагая
Беларусь —
Твая зямля.

К. Цвірка.

• Як называецца «горад солі малады»?

**Мова ў дыялогу культур**

**3.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Якому прынцыпу правапісу падпарадкоўваецца іх напісанне?

Г..аграфічныя назвы маюць св..ё другое жыц..ё ў на..меннях рэчаў матэры..льнай кул..туры, экзат..чных р..слін, кветак, пл..доў. Слова

*гр..чка* ўтв..рылася ад назвы краіны *Гр..цыя*, дзе яна ўп..ршыню стала в..домай як кул..турная расліна. Слова *персік* набыло ў нашай мове св..ё жыц..ё пад уплывам *Персіі*, дзе гэта садавіна в..дома са стараж..тнасці. А..тамабіл..ная *фара* за..мела назву ад егіпе..кага гор..да *Фарэс*, каля якога быў збудаваны в..домы маяк. Фара, як і маяк, свеціц..а далёка (*Паводле У. Юрэвіча*).

# ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ

## Правапіс галосных *о, э, а*

1. Літара **о** пішацца толькі пад націскам: *мо́ра*, *кіно́*, *о́пера*, *О́рша*, *То́кіа*.

2. Літара **э** пішацца:

• у пачатку выклічнікаў *э*, *эге*, *э-ге-ге*, *эх*, *эй*;

• пасля прыстаўной літары **г** у слове *гэты* і вытворных ад яго (*дагэтуль*, *гэтулькі*), а таксама ў выклічніках *гэй*, *гэ*;

• пасля зацвярдзелых, [д] і [т]: *жэ́рдка*, *чэ́рствы*, *тэа́тр*, *ветэра́н*, *рэда́ктар*, *ка́тэт*, *дэта́ль*, *цэ́лы*, *ацэ́нка*, *шэ́лест*, *Жэне́ва*, *Цэйло́н* (у запазычаных словах напісанне **э** і **а** не пад націскам пасля іншых зычных рэгулюецца слоўнікам: *панэ́ль*, *тунэ́ль*; **але**: *шыне́ль*, *секта́нцкі*; *Зэ́льва*; **але**: *Зеўс* і да т. п.);

• пад націскам і не пад націскам у пачатку некаторых (пераважна запазычаных) слоў: *э́ра*, *э́пас*, *э́ўрыка*, *эква́тар*, *экзэмпля́р*, *Эсто́нія*, *Эфіо́пія*;

• на канцы запазычаных нязменных слоў, а таксама ўласных імён, геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя **л, к**: *купэ́*, *кафэ́*, *галіфэ́*, *кашнэ́*, *каратэ́*, *Хасэ́*, *Душанбэ́*, *Мо́рзэ*; **але**: *філе́*, *са́льта-марта́ле*, *піке́*, *камюніке́*.

3. Галосныя гукі [о], [э] ў ненаціскным становішчы чаргуюцца з [а], што і перадаецца на пісьме: *во́стры — вастры́ць*, *во́зера — азёрны*, *мо́ва — маўле́нне*, *цэ́гла — цагля́ны*, *жэ́мчуг — жамчу́жына*, *майстэ́рня — ма́йстар*.

Літара **а** пішацца не пад націскам незалежна ад паходжання слова: *бало́та*, *хо́лад*, *маразы́*, *рамо́нт*, *а́драс*, *лі́тара*, *хара́ктар*, *сакрэ́т*, *Сакра́т*, *Шаўчэ́нка*, *Чарнышэ́ўскі*, *Чалю́скін*, *ада́жыа*, *тры́а*, *сальфе́джыа*, *Ватэрло́а*.

4. У некаторых спрадвечна беларускіх словах са складамі **ро**, **ло** замест **о** не пад націскам пішацца літара **ы**: *бро́вы — брыво́*, *гло́тка —*

*глыта́ць*, *дро́вы — дрыво́тня*, *кро́ў — крыва́вы*, а таксама ў словах *я́блык*, *я́блыня*, *я́блычны*, *я́блыневы*.

У адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем літара **ы** пішацца ў некаторых запазычаных словах: *брызе́нт*, *дрызі́на*, *інжыне́р*, *по́чырк*, *канцыля́рыя*, *рысо́ра*, *цырымо́нія*, *трыво́га*, а ў некаторых словах пішацца літара **і**: *бліскаві́ца*, *блішча́ць*, *блі́скаўка*; **але**: *бля́ск*, *бляша́нка*.

5. Канцавыя ненаціскныя **-эль**, **-эр** у запазычаных словах перадаюцца як **-аль**, **-ар**: *шні́цаль*, *лі́дар*, *камп'ю́тар*, *ка́рцар*, *сві́тар*, *ме́неджар*, *пэ́йджар*, *о́рдар*, *кра́тар*, але ва ўласных імёнах неславянскага паходжання захоўваюцца **-эль**, **-эр**: *Ла́ндэр*, *Юпі́тэр*, *О́дэр*, *Пі́тэр*.

**4.** Прачытайце тэкст. Выпішыце з яго словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс галосных **о**, **э**, **а**», падкрэсліце арфаграмы.

Тэатральныя педагогі любяць вучыць маладых артыстаў, прыводзячы такі прыклад. У дрэва дзве кроны: тая, што мы бачым, верхняя, галіністая, і нябачная — *схаваныя* ў зямлі карані, разгалінаваныя не менш, чым вецце на паверхні. Такая і душа чалавека. Артысту ж наканавана жыць на сцэне, каб характар ягонага героя *адпавядаў* вонкаваму *шапаценню* лістоты і няўлоўнаму руху сокаў у лабірынтах каранёвай сістэмы.

Трэба дадаць, што сустракаюцца дрэвы (і людзі), чыя крона амаль як у люстэрку паўтараецца ў абрысах каранёў, а бывае і наадварот. Артыст пакутуе, пакуль не знойдзе логікі суладдзя ў чалавеку вонкавага і самага заблытанага, парадаксальнага, што так часта караніцца ў нашай душы (*Паводле Б. Бур'яна*).

• Назавіце арфаграмы ў выдзеленых словах.

• Растлумачце розніцу ў лексічных значэннях слоў *галіністы* і *галінасты*.

**5.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Ц..нтнер, ац..нка, с..кратар, ш..рсцяны, д..бра, тры.., ж..леза, ац..ніць, р..гіён, М..л..дзечна, Ч..рнышэвіч, кр..вавы, с..рца, р..монт, майст..р, кат..т, ш..снаццаць, бесц..р..монны, р..корд, м..розны, бухгалт..р, ш..дэўр, выс..ка, ш..рань, інж..нер, др..вотня, ч..рствы, сч..рсцвелы.

**6.** Змяніце словы або падбярыце да іх аднакаранёвыя, каб націскныя [о], [э] сталі не пад націскам. Запішыце словы парамі, растлумачце правапіс **о**, **э**, **а**.

Просьба, ігрок, чароды, крэмень, гонар, рэформа, Гомель, грэчка, пошта, посуд, шэпт, жоўты, футбол, неадчэпны, эпізод, адгрэбці, чэрпаць, конкурс.

**7.** Спішыце сказы, устаўляючы замест кропак літары **о, э** або **а**. Растлумачце іх правапіс.

1. Дарог у свеце вельмі мн..га, а ты між іх св..ю зн..йдзі (*П. Броўка*). 2. Любіць і шанаваць мову нас вучылі Пушкін, Талстой, Тургенеў, Ш..ўчэнка, Колас (*М. Лужанін*). 3. Буслы збіраліся ў ч..роды і доўга ст..ялі на грудах або ляніва аглядалі л..гчыны (*Я. Колас*). 4. Віта пачала нав..дзіць парадак на ст..ле, на ..тажэрцы, у шафе (*І. Шамякін*). 5. У Белавежы — ц..дзяць водар с..сны, на б..равінах млее р..дкі цень (*Н. Гілевіч*). 6. Як цуд чужы в..чэй ні цешыў, душа ш..птала мне сама: ёсць край цяплейшы, багацейшы, але р..днейшага няма (*Г. Бураўкін*). 7. Мяне ўразіла, як чытаў Дубоўка св..е пераклады ш..кспіраўскіх санетаў (*Д. Бугаёў*).

**8.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да слоў рускай мовы. Растлумачце правапіс **о, э** ў ненаціскных складах.

Репродукция, телефон, реклама, ордер, декрет, престиж, темперамент, оптика, характеристика, Женева, Череповец, Чернышевский, дефект, орден, прогресс, демографический, свитер, эстетика, адрес, гардероб, эпицентр.

---

**Правільнасць маўлення**

**ОРД<u>ЭН</u> – ОРД<u>АР</u>**

**Ордэн¹** — асобы знак узнагароды за выдатныя заслугі: *ордэн Маці*.
**Ордэн²** — арганізацыя, таварыства з пэўным статутам: *ордэн езуітаў*.
**Ордар¹** — пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне, выдачу чаго-небудзь: *ордар на кватэру*.
**Ордар²** — разнавіднасць спалучэння, парадак размяшчэння частак архітэктурных канструкцый: *грэчаскі ордар*.

---

**9.** Выпішыце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара **э**.

Т..рарызм, д..сант, ч..рніла, д..лікатэсны, бр..зент, д..лікатны, р..фарматар, д..сантнік, выстр..л, р..прадуктар, уц..лець, кар..спандэнт, агр..гатны, р..брысты, р..дыска, мад..льер, ч..мадан, вер..цяно, канц..лярыя, ш..раваты, кр..пасны (вал).

**10.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары, растлумачце правапіс.

1. Бар..льеф нагадвае разны абраз, падабенства акц..нтуецца рамай, у якую ўрэзаны, устаўлены фігуры (*Т. Бондар*). 2. Сумны в..сеньскі адвяч..рак поўніўся ш..расцю фарбаў, надакучлівай сцюдзёнай золлю і ўсеабдымнай тр..вогай навісла над краем бяда (*В. Быкаў*). 3. Навальніцы гр..мяць над кручамі, з гор бягуць ручаі гр..мучыя (*Г. Бураўкін*). 4. Ябл..-

ні выпростваюць замлелае пад ябл..камі голле, а ябл..кі, на дзіва сёлета ўр..длівыя, руж..вымі, духмянымі с..нцамі кладуцца ў скрыні са светлай дранкі, на свежую жытнюю с..лому (*Я. Брыль*). 5. Пад узг..ркам бл..шчала круглае возера, яно рухалася і пераліваласяя, як жывое ср..бра (*Я. Колас*).

## Правапіс галосных *е*, *ё*, *я*

1. У беларускай мове літара **ё** пішацца толькі пад націскам: *лёгкі*, *сёлета*, *вёсны*, *сёстры*, *вёска*, *цвёрда*.

2. У першым складзе перад націскам замест **е**, **ё** пішацца літара **я**: *вёска — вяско́вы*, *лёгкі — лягчэ́йшы*, *лес — ляснíк*, *мёд — мядо́вы*, *цвёрды — цвярдзе́йшы*, *дзе́вяць — дзявя́ты*, *дзе́сяць — дзudся́ты*, *сем — сямна́ццаць*, *во́сем — васямна́ццаць*.

У іншых ненаціскных складах **е** захоўваецца: *во́сень*, *легкаду́мнасць*, *лесніч́оўка*, *цвердава́ты*, *дзесятко́вы*, *дзевятна́ццаты*, *верацяно́*, *це́мень*.

3. У запазычаных словах у першым складзе перад націскам пішацца літара **е**: *секу́нда*, *леге́нда*, *семе́стр*, *генера́л*, *педа́ль*, *метро́*, *геро́й*, *кера́міка*, *мело́дыя*, *балеры́на*, *перспекты́ва*, *Везу́вій*, *Верса́ль*, *Бетхо́вен*, *Палесці́на*.

Літара **е** пішацца ў пачатку некаторых запазычаных слоў: *е́гер*, *ерэты́к*, *Еўро́па*, *Ерэва́н*, *Еўпато́рыя*, *Еўфра́т*, а таксама на канцы запазычаных слоў пасля мяккага знака і апострафа: *дасье́*, *калье́*, *канферансье́*, *кінаатэлье́*, *круп’е́*, *куцюр’е́*.

4. Часціца **не** і прыназоўнік **без** заўсёды пішуцца з літарай **е**: *не браў*, *не думаў*, *без кніг*, *не без смеху*.

Пры напісанні разам **не** і **без** падпарадкоўваюцца агульнаму правілу напісання **е**, **я**: *няха́й*, *бязву́сы*, *бяско́нцы*; **але**: *немалады́*, *безбаро́ды*, *бескары́сна*.

5. Каранёвая этымалагічная літара **я** захоўваецца на пісьме незалежна ад націску ў словах *вяза́ць*, *су́вязь*, *лямантава́ць*, *пяцярня́*, *за́вязь*, *цяжкава́ты*, *мяккава́ты*, *святкава́ць*, *яскра́вы*, *ты́сяча*, *по́яс*, *ме́сяц*, *па́мяць*, *дзе́вяць*, *дзе́сяць*, *дро́бязь*, *за́яц*, *Пры́пяць*, *Бе́сядзь*.

Літара **я** пішацца ў паслянаціскных складах у некаторых суфіксах назоўнікаў (*ро́ўнядзь*, *бо́язь*, *дро́бязь*) і дзеясловаў (*ла́яць*, *ве́яць*, *се́яць*, *ка́шляць*, *ба́яць*, *му́ляць*), а таксама ў аддзеяслоўных назоўніках (*ла́янка*, *ве́ялка*, *се́ялка*).

---

**Правільнасць маўлення**

**РАДЫЁ- — РАДЫЕ- (РАДЫЯ-)**

**Радыё-** — першая частка складаных слоў у значэнні ‘які мае адносіны да радыё’: *радыёвузел*, *радыётэхніка*, *радыёсувязь*, *радыёстанцыя*.

**Радые-** — першая частка складаных слоў у значэнні ‘які адносіцца да радыю, радыяцыі’: *радыеізатопы*, *радыеактыўнасць*, *радыетэрапія*. У першым складзе перад націскам у гэтым выпадку пішацца **я**: *радыялогія*, *радыяхімія*, *радыяграфія*.

---

**11.** Выпішыце ў алфавітным парадку словы, у якіх **е** захоўваецца ў першым пераднаціскным складзе.

Веранда, верашчака, гектар, Версаль, восень, секунда, Германія, цяплець, семестр, Апеніны, зелень, герань, дзеяч, калектыў, бетон, берагчы, гледачы.

**12.** Спішыце, устаўляючы літары **е, ё** ці **я**.

Б..здонны, ф..льетон, сп..вак, вас..мнаццаты, н..здарма, б..дната, Ал..ксандр, Б..лінскі, в..слярны, ..равы, л..бяда, з..л..наваты, пойдз..ш, Н..красаў, кал..ндар, б..з солі, с..зонны, н..сучы, н..ўгамонны, кал..ктыўны, дал..чынь, зв..чарэць, надв..чорак, б..спрытульны, сц..бло, н..ўстойлівы, страл..ніна, дал..ч.

**13.** Змяніце словы або падбярыце аднакаранёвыя, каб галосныя **е** і **ё** сталі не пад націскам. Запішыце словы парамі, растлумачце напісанне.

Плёскат, дзверы, адвесці, падземны, песня, сцежка, бегчы, светла, смех, месці, бедны, землі, вечар, веліч, несці, снежны, аддзел, клён, далёка, дзежка.

**14.** Падбярыце да слоў рускай мовы беларускія адпаведнікі, запішыце, растлумачце правапіс **е, ё** і **я**.

Зефир, оперный, полевой, сентябрь, лесник, операция, спектакль, песенка, веранда, легендарный, Несвиж, веселый, гербарий, ветер, смесь, герой, сержант, европейский, восемьсот, Енисей, Нева, Припять, несете, ведете, сенсация, Швейцария, обелиск, весенний, телефон, дежурный, Печора, Вьетнам, ячейка.

**15.** Выпішыце словы, у якіх пішацца літара **е**.

Сув..зны, Тэг..ран, Х..рсон, в..сялосць, заз..лянець, дз..сятка, м..лодыя, зб..нтэжыцца, ма..тнік, св..ткаваць, выс..яць, сан..т, п..хота, ц..цярук, ц..гавіты, кал..кцыянер, выл..чыць, кол..р, квец..нь, абан..мент, карычн..вы, атл..тычны.

**Мова і нацыянальная культура**

**16.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары.

«Спарыня ў дз..жу, сын на в..сну!» — з такім добрым пажадан..ем зв..рталіся с..ляне да гаспадыні, калі яна ра..чыняла ц..ста, м..сіла хлеб.

а «ра..шыфраваць» яго можна так: н..хай спорыцца, уз..ходзіць ц..ста ў дз..жы, н..хай нараджаецца хлеб; н..хай і ў самой гаспадыні народзіцца па в..сне сын — будучы памо..нік, апора с..м'і (*У. Коваль*).

• «Расшыфруйце» пажаданне «З коласа асьміна, з з..рнятка — аладка!» (*асьміна* — старая мера аб'ёму сыпкіх цел, роўная каля 105 л). Каму адрасавана гэта пажаданне?

**17.** Прачытайце верш. Дакажыце, што ручнік — рэч глыбока сімвалічная, шматзначная.

Вышывала маці... У руках,
Як вясёлкі, ніткі мільгацелі.
Клаліся на белых ручніках
Роднай нівы фарбы і *адценні*.

*Расцвіталі* ружы і ляны
Ў непаўторных веснавых узорах.
Упляталіся напевы, сны,
Промні сонца і далёкіх зорак.
Дочкі і сыны ў жыццёвы шлях

Гэты дар — благаславенне бралі;
Ў партызанскіх баравых лясах
Ручнікі на ранах абгаралі;

Тлелі пад снягамі і дажджом
На магільным помніку герою.
Сёння ў хатах многіх над Сажом
Ўзоры тыя зіхацяць зарою.

Крылы ільняныя... Ручнікі...
Ружы незавялыя і краскі...
*Прыкладзешся вільгаццю* шчакі —
Быццам *матчыну адчуеш* ласку.

А. Пысін.

• Выпішыце з верша словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс галосных **е**, **ё**, **я**».

• Назавіце арфаграмы ў выдзеленых словах.

• Раскажыце пра нацыянальныя звычаі і традыцыі, звязаныя з выкарыстаннем ручнікоў. Пры неабходнасці звяртайцеся да кнігі-альбома В. А. Лабачэўскай «Повязь часоў — беларускі ручнік» (2009).

## Правапіс галосных *о, э, а, е, ё, я* ў складаных словах

1. У складаных словах можа быць адзін асноўны і адзін або некалькі пабочных націскаў. Калі ў другой частцы складанага слова на-

ціск падае на першы склад, то ў першай частцы замест **о** пішацца **а**: *дабрадзе́й*, *вастразу́бы*, *чарнаво́кі*, *вадазбо́р*, *раўнапра́ўе*; калі ў другой частцы націск падае не на першы склад, то ў першай частцы захоўваецца **о**: *добразычлі́вы*, *востраканцо́вы*, *чорнавало́сы*, *водазабеспячэ́нне*, *роўназале́жны*.

2. Літара **о** захоўваецца ў складаных словах, першая частка якіх — **слова-**, **што-**, **фота-**, **мота-**: *словазлучэ́нне*, *словафо́рма*; *штого́д*, *штодзе́нь*; *фотазды́мак*, *фоталабарато́рыя* (**але**: *фатагра́фія* і вытворныя ад яго); *мотаспо́рт*, *мотаго́нкі* (**але**: *матацы́кл*, *матаво́з* і вытворныя ад іх), а таксама ў іншых словах, асабліва навуковых тэрмінах, у якіх выразна праяўляецца пабочны націск, хоць асноўны націск падае на першы склад другой часткі: *азо̀тнакі́слы*, *збо̀жжасхо́вішча*, *мо̀вазна́ўства*, *фо̀ндасхо́вішча*, *рабо̀тада́ўца*, *мато̀разбо́рка*, *во̀камгне́нна*, *ружо̀ватва́ры*, *усхо̀дазна́ўства*.

3. Літара **о** пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з **ў** (у нескладовага): *марозаўсто́йлівасць*, *збожжаўбо́рачны*, *торфаўтварэ́нне*.

4. Гук [э] ў першай частцы складаных слоў захоўваецца і абазначаецца літарай **э**: *мэтанакірава́ны*, *мэтазго́дна*, *рэдказу́бы*, *шэраво́кі*, *арэхападо́бны*, *крэдытаздо́льнасць*, *тэлеба́чанне*, *шэсцьсо́т*.

5. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў спалучэнні з назоўнікам, першая частка (лічэбнік) ставіцца ў форме роднага склону: *тры дні* — *трохдзённы*, *чатыры паверхі* — *чатырохпавярхо́вы*, *пяць тыдняў* — *пяцітыднёвы*, *сто метраў* — *стаметро́вы*; *сямікла́снік*, *васьмігадо́вы*, *дзевяцігра́дусны*, *саракаго́ддзе*.

6. У першай частцы складанага слова літара **е** захоўваецца незалежна ад таго, на які склад падае націск у другой частцы: *сенакасі́лка*, *беласне́жны*, *землетрасе́нне*, *светаўспрыма́нне*, *свежамаро́жаны*.

Калі першай часткай з’яўляецца аснова **велік-/вялік-**, напісанне літар **е** або **я** залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы, то пішацца **е**, калі другі — пішацца **я**: *велікаро́слы*, *велікакня́жацкі*, *велікасве́цкі* (**але**: *Вялі́кдзень*); *Вялікабрыта́нія*, *вялікадзяржа́ўны*, *вялікагало́вы*.

7. У першай частцы складанага слова літара **ё** захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі і замяняецца на **е**, калі націск падае на першы склад другой часткі: *лёгкаатлеты́чны*, *легкаве́рны*; *лёдадрабі́льны*, *ледарэ́з*; *мёдаварэ́нне*, *медано́сны*.

8. У складаных словах злучальныя галосныя **о, ё** пішуцца толькі пад націскам, **а** — у ненаціскным становішчы: *ільно́валакно*, *біблiёграф*, *ільнаво́дства*, *прыборабудаўні́чы*, *марозатрыва́лы*.

Злучальная галосная **е** ў складаных словах пераходзіць у **я**, калі націск падае на першы склад другой часткі: *зерняскла́д*; *земляро́бчы*; *жыццяра́дасны*.

Злучальная галосная **е** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з **ў** (у нескладовага): *вогнеўсто́йлівы*, *зерне-ўбо́рка*.

9. Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як простыя словы з адным націскам: *зямфонд*, *лясгас*.

10. Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная частка пішацца як асобна ўзятае слова: *паравозавагонарамонтны*, *авіяматорабудаванне*, *аэрафотапрыбор*.

**18.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, растлумачце правапіс.

1. Першы д..ўгачаканы прыезд, першыя, най..рчэйшыя ўсп..міны (*Я. Брыль*). 2. Рослы, светлы, ч..рнабровы люд, н..спакойны, малады, см..яўся сінімі в..чыма, гарэў в..сёлым макам шчок (*М. Калачынскі*). 3. Паглядзі на ж..ўталісты сад. Вунь ідзе між ябл..нь ліст..пад (*В. Вітка*). 4. Мары абуджаюць у с..рцы мужнасць і адвагу, выс..к..родныя імкненні да ведаў, да пазнання свету, да барацьбы і подзвігаў (*В. Вольскі*). 5. Сапраўдны мастак, у якой бы краіне ні жыў, спав..дае жыцц..-сцв..рджальную веру ў светлую будучыню чалавецтва (*Г. Вашчанка*). 6. Чырв..наватага адцення гранітная глыба, нібы выс..чаная моцнай рукой камен..чоса, адпав..дала нашай задуме (*В. Ляшковіч*).

**19.** Рашыце словаўтваральныя «прыклады».

*Узор*: воўна + прасці = прыметнік *воўнапрадзільны*.

| | |
|---|---|
| востры + ліст = прыметнік | вада + лячэнне = назоўнік |
| востры + вугал = прыметнік | вада + качаць = назоўнік |
| сямнаццаць + тон = прыметнік | агонь + тушыць = назоўнік |
| сем + дзён = прыметнік | радыё + перадача = назоўнік |
| многа + мільёнаў = прыметнік | радыяцыя + экалогія = назоўнік |
| многа + людзей = прыметнік | радый + нукліды = назоўнік |
| знешняя + палітыка = прыметнік | слова + творчасць = назоўнік |

**20.** Утварыце і запішыце складаныя словы. Растлумачце правапіс галосных.

| 1-я частка | 2-я частка |
|---|---|
| земле... | ...карыстанне, ...уласнік, ...роб, ...чарпалка, ...мерны |
| земля... | |

| | |
|---|---|
| сонца... <br> санца... | ...стаянне, ...пёк, ...ахоўны, ...падобны, ...любны |
| вяліка... <br> веліка... | ...душны, ...свецкі, ...дзяржаўны, ...галовы, ...рослы |
| шкло... <br> шкла... | ...тавары, ...пластык, ...кераміка, ...валакно, ...вырабы |
| лёда... <br> леда... | ...кол, ...утварэнне, ...спуск, ...забеспячэнне, ...ход |

**Мова і нацыянальная культура**

**21.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

Многія назвы дрэў — гэта адн..часова і св..еасаблівыя сімвалы, якія све..чаць пра пэўныя чалавечыя якас(?)ці. Так, дуб сімвалізуе дужага чалавека, асілка; явар — хлопца, закаханага н..рэдка ў каліну(?) красуню; б..роза — прыгожую дзяўчыну або маладую жанчыну.

В..рба ўвасабляе жыцц..здольнасць, пладавітасць: яна расце нават у н..спрыяльных для іншых раслін умовах.

Адно з народных свят мае назву (В/в)ербная (Н/н)..дзеля. У гэты в..сновы дзень, за тыдзень да (В/в)..лікадня, галінкі в..рбы, поўныя жыв..творнай сілы, выкарыстоўваліся як магічны сродак. Людзі верылі, што датыканне в..рбой да чалавека перадае яму ўласцівас(?)ці расліны. Таму шырока ра..паўсюджаным звыча..м (В/в)ербнай (Н/н)..дзелі было спецы..льнае, рытуальнае «біццё», пасцёб(?)ванне в..рбой родных і знаёмых з а(д/т)паведным прыгаворам: «Не я б..ю — в..рба б..е. За тыдзень (В/в)..лікдзень» (*Паводле У. Коваля*).

- Растлумачце правапіс галосных у складаных словах.
- Дапоўніце ўстойлівыя параўнанні словамі-назвамі дрэў: *дрыжыць як ...; гарыць чырванню як ...; абдзерці як ...; здаравенны як ...; нахілілася як ... .*

## Правапіс спалучэнняў галосных *іё* (*ыё*), *ія* (*ыя*), *іе* (*ые*), *іо* (*іа*), *ео* (*еа*), *эо* (*эа*) у іншамоўных словах

У беларускай мове спалучэнні галосных літар ужываюцца звычайна ў словах іншамоўнага паходжання. Таму іх напісанне лепш засвойваецца ў параўнанні, напрыклад, з рускай мовай.

Так, рускаму спалучэнню ***ио*** ў беларускай мове адпавядае:

• у пачатку слоў пад націскам спалучэнне ***іо****: Іосіф, іон*, а не пад націскам — ***іа****: Іарданія, іанізацыя*;

• у сярэдзіне слоў пад націскам спалучэнне ***іё*** (***ыё***): *аксіёма, біёграф, патрыёт, перыёдыка* (але*: Эфіопія, мільён, трыльён* і інш.), а не пад націскам — ***ія*** (***ыя***): *біялогія, бібліятэка, нацыянальны, патрыятызм* (але*: радыё*);

• на канцы слоў незалежна ад націску — ***іа*** (***ыа***): *трыа, Антарыа, Токіа.*

Спалучэнне ***иа*** незалежна ад націску перадаецца як ***ія*** (***ыя***): *мемарыял, піяніст, дыялог, Іліяда.*

Спалучэнні ***ие, еа, ео, оэ*** перадаюцца амаль што нязменна. Спалучэнне ***ие*** перадаецца праз ***іе*** (***ые***): *абітурыент, пацыент, кліент*; ***еа*** праз ***еа*** (***эа***): *Неапаль, рэаліст* (але: *акіян*); ***ео*** праз ***еó*** (***эó***), ***еа*** (***эа***): *фразеолаг, фразеалогія, археолаг, археалогія, харэограф, харэаграфія;* ***оэ*** праз ***аэ***: *арфаэпія, паэт.*

Пры перадачы спалучэнняў ***йо, йе, йа*** ў беларускай мове назіраецца сцяжэнне. Спалучэнне ***йо*** пад націскам перадаецца праз ***ё***: *ёг, ёгурт, ёд, ёдзісты, маёр, Нью-Ёрк*, а не пад націскам — праз ***я***: *маянэз.* Спалучэнне ***йе*** незалежна ад націску — праз ***е****: канвеер, Феербах, фае*, а спалучэнне ***йа*** — праз ***я***: *Мая, папая* (назва плода).

**22.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя спалучэнні літар, растлумачце правапіс.

Сац..логія, д..ганаль, асац..цыя, баст..н, т..рэма, дывіз..н, ав..тар, абрэв..цыя, вар..цыя, аўд..нцыя, т..рыя, пр..рытэт, б..ніка, г..лаг, абітур..нт, рац..н, акард..н, мел..рацыя, рэг..н, ф..далізм, ав..пошта, лаўр..т, канв..р, бібл..тэка, рад..станцыя, стац..нар, д..фільм, экватар..льны, рад..ла, ф..лка.

**23.** Запішыце словы па-беларуску, растлумачце правапіс спалучэнняў галосных.

Чемпион, клиент, бастион, патриот, специалист, реактив, неон, идеолог, диета, майонез, трио, биография, фейерверк, йод, грандиозный, район, радиоактивный, рацион, ион, официант, майор, гладиолус, Неаполь, фиолетовый, спартакиада, радиоузел, меридиан, проект, аттракцион.

**24.** Падбярыце да слоў аднакаранёвыя словы так, каб націскныя галосныя сталі не пад націскам, растлумачце правапіс.

*Узор*: біёлаг — біялагічны, біялогія.

Мільён, кіёск, біёграф, метэор, ідэолаг, археолаг, рэгіён, перыёдыка.

**25.** Запішыце словы з левага слупка, раскрываючы дужкі. Укажыце лічбу, пад якой тлумачыцца лексічнае значэнне кожнага прыметніка ў правым слупку.

*Узор*: ід<u>эа</u>льны (2).

| | |
|---|---|
| ід(эа, ыя)льны<br>ід(эа, ыя)лізаваны | 1) лепшы, чым у сапраўднасці, прыхарошаны;<br>2) узвышаны; вельмі добры, дасканалы; |
| р(эа, эя)лістычны<br>р(эа, эя)льны | 3) які зыходзіць з разумення і ўліку абставін;<br>4) які сапраўды існуе; магчымы для выканання; |
| нац(ыа, ыя)нальны<br>нац(ыа, ыя)-налістычны | 5) які мае адносіны да нацыі; уласцівы нацыі;<br>6) які мае адносіны да ідэалогіі і палітыкі, што прапаведуе выключнасць адной нацыі; |
| вар(ыа, ыя)нтны<br>вар(ыа, ыя)цыйны | 7) які мае адносіны да відазмянення;<br>8) які з'яўляецца разнавіднасцю чаго-небудзь |

З дзвюма парамі слоў (на выбар) складзіце і запішыце чатыры сказы.

**26.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя спалучэнні літар, растлумачце іх правапіс.

1. Патр..тызм — гэта ўпрыгожванне радзімы талентамі і справамі (*Г. Марчук*). 2. Калі ў парк урываўся прасолены ак..нічны вецер, дрэвы на момант ажывалі (*А. Шашкоў*). 3. Фартэп..на стаяла ў рэдакцыйным пакоі, ігралі на ім кампазітары, выканаўцы песень і п..ністы (*«Полымя»*). 4. Пакланюся баст..нам Брэсцкай крэпасці суровай, гераічныя імёны ўспомню светлым, шчырым словам (*П. Панчанка*). 5. Нельга не пагадзіцца з довадамі б..графаў Скарыны адносна таго, што ўся яго асветніцкая дзейнасць была накіравана на прапаганду гуманістычных ід..лаў (*С. Майхровіч*). 6. Сын беларускай зямлі, Ігнат Дамейка ўвайшоў у сусветную навуку, пакінуўшы прыкметны след у фізіцы, хіміі і металургіі, г..графіі і батаніцы, г..логіі і педагогіцы, этнаграфіі і з..логіі (*А. Мальдзіс*).

### Пераклад тэксту

**27.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

АСТЕРОИДЫ

Астероиды представляют собой небесные тела с каменистой поверхностью, вращающиеся вокруг Солнца. Диаметр самых крупных

астероидов составляет более 250 км. Размеры самых маленьких астероидов не больше нескольких десятков сантиметров.

Куски астероидов, движущиеся к Земле, называют также «метеорными телами». Если метеорное тело не разрушается полностью в земной атмосфере, оно может упасть на Землю. В этом случае речь уже идет о метеорите.

Следы кратеров, наблюдаемые на нашей планете, свидетельствуют о том, что в далеком прошлом Земля пострадала от ударов небесных тел значительных размеров. Согласно одной из версий, из-за удара астероида диаметром примерно в 10 км (это было 65 миллионов лет назад) вымерли динозавры (*По Ж. Ранцини*).

Слоўнік:

вращаться — *круціцца*;

крупный — *буйны*;

разрушаться — *разбурацца*;

пострадать — *пацярпець*.

Падкрэсліце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс спалучэнняў галосных у іншамоўных словах».

## Правапіс прыстаўных галосных *і*, *а*

1. Прыстаўная галосная **і** пішацца:

• у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай літарай **м**: *імшара*, *імчаць*, *імгла*, *імгненне*, *імклівы*;

• у пачатку некаторых слоў перад спалучэннямі зычных з першымі літарамі **р**, **л**, калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці слова, што заканчваецца на зычную: *пад ільдзінай*, *без ільгот*; *пачарнелы, іржавы цвік*; *Ільняное палатно беляць на роснай траве*. Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосную, і пасля яго няма знака прыпынку, то прыстаўная літара **і** не пішацца: *на льдзіне*, *на ржавым цвіку*, *палатно льняное*.

2. У некаторых словах можа з’яўляцца прыстаўная галосная **а**: *імшара* і *амшара*, *іржаны* і *аржаны*, *іржышча* і *аржанішча*.

3. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары **і** і **а** перад **р**, **л**, **м** не пішуцца: *заржавець*, *заржаць*, *зардзецца*, *замглёны*, *замшэлы*, *прымчацца*, *вокамгненна*.

**28.** Выпішыце словы, у якіх ёсць прыстаўная галосная **і** або **а**.

Ілжэсведка, імчацца, імператар, іржа, ільготы, аржаны, аркестр, азёры, імгненне, аўторак, алгарытм, ільвяня, ільнонарыхтоўка, аблічча, іскра.

**29.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прыстаўныя галосныя. Растлумачце іх наяўнасць або адсутнасць.

Па ..льготным білеце, на ..льдзіне, пад ..льдом, новы ..льнокамбінат, серп ..ржавы, словы ..лжывыя, пакрыцца ..ржой, да ведаў ..мкнуцца, над ..лбом, абутак ..рвецца, па ..ржэўніку, праезд ..льготны, машына ..рванула, леташняе ..ржышча, ластаўка ..мклівая, уперад ..рвануўся, рэакцыя ..мгненная.

**30.** Запішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, літару **і**, растлумачце правапіс.

1. Восень сцюдзёная, восень ..мглістая курыць сівым туманом (*Ю. Сергіевіч*). 2. Дзе ж гэта восень ..рдзее, залоціцца ў сонечным, яркім святле? (*Ю. Сергіевіч*). 3. Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора ..ржаных каласоў (*Я. Колас*). 4. Калі дождж да світання не сціхне, то нашы планы на сённяшні дзень са..рвуцца (*А. Чарнышэвіч*). 5. Не мяцель галосіць на заснуўшым полі, а ў ..мгле зблудзілі, пэўна, кулікі (*М. Танк*). 6. Заворана ..ржышча, і на чорнай раллі стаяць залатымі харомамі сціртры саломы (*Р. Семашкевіч*). 7. Хлеб з ..льняною мякінай не кроіўся (*Я. Брыль*). 8. Машына ..рванулася ў далейшую дарогу на ўсход (*К. Чорны*).

**31.** Складзіце са словамі сказы так, каб у адным выпадку з'яўляўся прыстаўны галосны, у другім — знікаў.

Ілгаць — лгаць, ільвіца — львіца, ірваць — рваць, іржавы — ржавы.

---

*Правільнасць маўлення*

**ІМШЫЦЬ – ІМШЭЦЬ – ІМЖЭЦЬ**

**Імшыць** — класці мох між бярвення ў новым зрубе; канапаціць мохам: *імшыць хату*.
**Імшэць** — зарастаць мохам: *балота імшэе*.
**Імжэць** — ісці, падаць, асядаць дробнымі кропелькамі (пра дождж): *дождж імжэе*.

---

## Правапіс літар *і, ы, й*

1. Гук [і] пасля прыставак на галосную чаргуецца з [й], што перадаецца на пісьме літарай **й**:

• у словах з коранем **іс**-ці, **ігр**-аць, **ім**-я, **інач**-ай на месцы ненаціскнога пачатковага каранёвага [і]: *выйсці*, *зайсці*, *пайсці*; *выйграць*, *зайграць*, *выйгрыш*; *найменне*, *перайменаваць*, *займеннік*, *пайменны*; *перайначыць*, *перайначанне*;

• у словах *займаць*, *наймаць*, *пераймаць*, *пераймане*, *праймаць*.

У астатніх выпадках пачатковы каранёвы гук [і] пасля прыставак на галосны перадаецца нязменна: *заіскрыцца*, *заікацца*, *заінець*, *заінтрыгаваць*, *праілюстраваць*, *праіснаваць*, *неістотны*, *Прыіртышша*, *Заілійскі*.

2. Пачатковае **і** захоўваецца пасля прыставак **звыш-**, **між-**, **пан-**, **супер-**, **транс-**, **контр-**: *звышімклівы*, *суперінтэлект*, *міжінстытуцкі*, *панісламізм*, *трансіндыйскі*, *контрідэя*, а таксама ў складаных словах: *бортінжынер*, *спортінвентар*, *спецінструктаж*, *педінстытут* і інш.

3. Пры спалучэнні прыставак (**аб-**, **ад-**, **пад-**, **над-**, **раз-**, **з-(с-)**, **уз**-, **перад-**, **дэз-**, **суб-** і інш.) са словамі, што пачынаюцца з **і**, вымаўляецца і пішацца **ы**: *абысці*, *надышоў*, *абыграць*, *падыграць*, *зыначыць*, *адыменны*, *узыход*, *спадылба*, *спадыспаду*, *перадыспытны*, *субынспектар*, *дэзынфармацыя*, *дэзынтэграцыя* і інш.

### ▸▸ Арфаграфія і фразеалогія

**32.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі:

| | |
|---|---|
| а) вы..сці сухім з вады<br>б) productions<br>в) пры..шло ў рукі<br>г) абы..сці бокам<br>д) ад..грываць ролю<br>е) за..мае дух<br>ж) раз..грываць камедыю<br>з) пера..сці дарогу | 1) зусім не закрануць, мінуць каго-небудзь, што-небудзь;<br>2) дзейнічаючы ашуканствам, застацца непакараным;<br>3) каму-небудзь становіцца цяжка дыхаць (ад хвалявання, перажывання і пад.);<br>4) перастаць існаваць, знікнуць назаўсёды;<br>5) перашкодзіць каму-небудзь, апярэдзіўшы ў чым-небудзь і перахапіўшы тое, на што разлічваў іншы;<br>6) вельмі лёгка дасталася;<br>7) мець значэнне, аказваць уздзеянне на каго-небудзь, што-небудзь;<br>8) прыкідвацца перад кім-небудзь, крывадушнічаць. |

Запішыце фразеалагізмы, устаўляючы, дзе трэба, літары. Растлумачце правапіс літар **і**, **ы**, **й**.

**33.** Выпішыце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару **ы**.

Пад..грацъ, звыш..ндустрыяльны, уз..ход, дэз..нтэгратар, контр..гра, дзярж..нспектар, паліт..нфармацыя, перад..мперскі, з..мправізаваць, дэз..нфармаваць, цяж..ндустрыя, сан..структар.

**Пісьмо па памяці**

**34.** Прачытайце верш С. Грахоўскага. Сфармулюйце яго ідэю.

Жыццё пражыць —
Не поле перайсці,
А трэба і жыццё
Прайсці, як поле,
І хоць адным зярняткам узысці,
А бур'яном не зарасці ніколі.

- Знайдзіце ў вершы словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс літар **і**, **ы**, **й**».
- Якая прыказка ўключана ў верш? Растлумачце яе сэнс.
- Запішыце верш па памяці. Выканайце самаправерку.

**!** Злучнік **і** ў розных становішчах можа абазначаць гукі [й] або [ы], што на пісьме не перадаецца. Злучнік **і** вымаўляецца як [й], калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *гукі і літары* [гук'і й л'ітары], *яна і я* [йана й йа]; як [ы] — пасля слова на цвёрды зычны (акрамя заднеязычных **г**, **к**, **х**): *брат і сястра* [брат ы с'астра], *дом і сад* [дом ы сат], **але**: *Полацк і Віцебск* [полацк і в'іц'эпск], *не мог і марыць* [н'а мох і марыц'].

**35.** Запішыце выразы, прыведзеныя ў транскрыпцыі.

[с'в'атло й ц'эмра], [па йвана], [лух і пол'э], [бац'ка й сын], [дз'эт ы баба], [с'м'эх і грэх], [сц'ана й стол'], [тонк'і й тоўсты], [л'от ы плам'а].

**Самадыктант**

**36.** Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

ГРАФІКА Г..ОРГІЯ ПАПЛАЎСКАГА

Адн..м з лід..раў нац..нальнай графічнай школы можна лічыць Г..оргія Паплаўскага. Не ў малой ступені дзякуючы ягоным намага(н/нн)ям беларуская кніжная графіка ад..шла ад пр..сталінейнай і(л/лл)юстрацыйнасці перастала быць цен(ню/ем) а(д/т)біткам надрукава(н/нн)ага слова.

У Паплаўскага няма і(л/лл)юстрацый у звыклым літ..ральным с..нсе. Яго і(л/лл)юстрацыя не кар(ты/ці)нка да тэкст.. а маста..кі

твор паводле твор.. літ..ратурнага. Не люстэркавы а(д/т)бітак а інт..р-пр..тацыя.

Ш..дэўрам кніжнай аздобы з..яўляюцца і(л/лл)юстрацыі Паплаўскага да (К/к)упалавай паэмы «Яна і я». Паэма ў графічнай версіі Паплаўскага добра кла(д/дз)ецца на ра(д/т)кі Купалы.

Лё..гка пазнаць поч..рк Паплаўскага і ў іншых аздобле(н/нн)ых ім кнігах «Выбра(н/нн)ым» Я. Коласа «Каме(ды/дзі)ях» і «Сан..тах» Ш..кспіра «Вандрава(н/нн)ях Гулівера» Д..фо (*Паводле П. Васілеўскага*).

# ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

## Правапіс і вымаўленне звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых зычных

1. У сучаснай беларускай мове аглушэнне зычных на канцы слова і перад глухімі, азванчэнне глухіх зычных перад звонкімі, прыпадабненне шыпячых да свісцячых і свісцячых да шыпячых **на пісьме не перадаецца**:

| Віды асіміляцыі зычных | Прыклады |
|---|---|
| асіміляцыя звонкіх зычных да глухіх | *бегчы* — бе[х]чы,<br>*вокладка* — вокла[т]ка |
| асіміляцыя глухіх зычных да звонкіх | *касьба* — ка[з’]ба,<br>*лічба* — лі[дж]ба |
| асіміляцыя па мяккасці | *каснік* — ка[с’]нік,<br>*змест* — [з’]мест |
| асіміляцыя свісцячых да шыпячых | *расчуліць* — ра[ш]чуліць,<br>*зжаўцелы* — [ж]жаўцелы |
| асіміляцыя шыпячых да свісцячых | *кланяешся* — кланяе[с’с’]я,<br>*у хустачцы* — у хуста[цц]ы |
| прыпадабненне [дч], [тч] да [ч] | *дарадчык* — дара[чч]ык,<br>*лётчык* — лё[чч]ык |
| прыпадабненне [дц], [тц] да [ц] | *адцурацца* — а[цц]урацца,<br>*нітцы* — ні[цц]ы |

| | |
|---|---|
| прыпадабненне [дс] да [ц] | *аўтазаводскі* — аўтазаво[ц]кі, *суседскі* — сусе[ц]кі |
| прыпадабненне [жс], [шс], [зс] да [с] | *парыжскі* — пары[с]кі, *латышскі* — латы[с]кі, *каўказскі* — каўка[с]кі |

2. Напісанне зычных **з** і **с** у прыстаўках адпавядае вымаўленню: перад галоснымі і звонкімі зычнымі пішуцца прыстаўкі **з-**, **уз-**, **без-**, **раз-**: *змаляваць*, *узлесак*, *безабаронны*, *бязрадасны*, *разбег*, *разагнацца*; перад глухімі зычнымі пішуцца прыстаўкі **с-**, **ус-**, **бес-**, **рас-**: *схапіць*, *успомніць*, *беспадстаўна*, *раскінуць*. Калі прыстаўка заканчваецца на **с**, а корань пачынаецца з **ч, ш**, спалучэнні *сч*, *сш* перадаюцца на пісьме нязменна, змяняецца толькі вымаўленне: *расчыніць* — [рашчын’іц’], *счарніць* — [шчарн’іц’], *сшытак* — [шшытак].

Ад такіх слоў трэба адрозніваць словы, у якіх корань пачынаецца спалучэннем *шч*: *прышчаміць*, *расшчодрыцца*, *адшчапіць*, *прышчапіць*. Фанетычнае напісанне спалучэння *шч* сустракаецца ў словах *шчасце*, *нішчымны*, *шчаслівы*, *рошчына*, *нашчадак*, *нішчымніца*.

На стыку прыстаўкі і кораня адбываецца падваенне зычных **з**, **с**: *бессаромны*, *раззлаваць*, *рассыпаць*, *бясспрэчна*. У словах *расада*, *расаднік*, *расадны*, *расольнік*, *расол*, *ростань* пішацца адна літара **с**.

**!** Прыстаўка іншамоўнага паходжання **дыс-** пішацца нязменна незалежна ад наступнай літары: *дыскваліфікацыя*, *дысгармонія*, прыстаўка **дыз-** пішацца перад галоснымі: *дызасацыяцыя*, *дыз’юнкцыя*.

Калі слова пачынаецца збегам зычных, пасля прыстаўкі ўзнікае беглы гук [а]: *падагнаць*, *сабраць*, *абагрэць*, *надарвацца*, *падабраны*, *разасланы*, *саскочыць*, *сагнуты*.

Прыстаўкі **ад-**, **пад-**, **над-**, **перад-**, **аб-** пішуцца перад глухімі і перад звонкімі нязменна: *адрабіць*, *адхапіць*; *падрэзаць*, *падкласці*; *надламаць*, *надпісаць*; *перадналіскны*, *перадсвяточны*; *абгрызці*, *абсекчы*.

**!** Незалежна ад вымаўлення пішуцца нязменна ўсе прыназоўнікі: *ад рэчкі*, *ад хаты*; *пад зоркамі*, *пад сталом*; *з мамай*, *з сястрой*; *без радасці*, *без памылак*.

**37.** Да слоў з левага слупка падбярыце сінонімы з правага слупка. Запішыце словы парамі, раскрываючы дужкі.

| | |
|---|---|
| Загарэцца, шчыпаць, ашукаць, акружыць, зняверыцца, спрактыкаваны, слабы, аблічча, каснік, эгаізм, абгрунтаванне, шост, шанс, рэха, фурман, баец, схіл, дзірка, здраднік, тайнік. | Дока(з/с), ма(г/х)чымасць, во(з/ш)чык, а(б/п)ступіць, абя(з/с)сілены, сту(ж/ш)ка, бара(дз/ц)ьбіт, ра(ш/с)чаравацца, а(д/т)кос, а(д/т)галосак, выгля(д/т), самалю(б/п)ства, а(д/т)ступнік, жэр(д/т)ка, дасве(д/ч)чаны, (з/с)ховішча, у(з/с)пыхнуць, ску(б/п)ці, а(б/п)хітрыць, а(д/т)туліна. |

Правільнасць маўлення

**УПЕРАМЕШКУ — УПЕРАМЕЖКУ**

**Уперамешку** — у перамяшаным выглядзе, у беспарадку: *гарох з фасоляй уперамешку*.

**Уперамежку** — папераменна чаргуючыся адно з другім, размяшчаючыся ў пэўным парадку: *вагоны размяшчаліся ўперамежку з цыстэрнамі*.

**38.** Прачытайце афарызмы, растлумачце іх сэнс. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі, растлумачце правапіс зычных.

1. Даецца жыццё нам, каб радас(?)ць (з/с) а..чаем вучыліся мы прымірацъ (*Н. Мацяш*). 2. Шкада, што казачныя словы мы хочам (з/с)бера..чы на потым (*С. Законнікаў*). 3. У блі..кіх мовах блі..касць родных душ, адзінай дружбы чыстыя крыніцы (*Н. Гальпяровіч*). 4. На хісткай кла(д/т)цы ты не пахіс(?)ніся, калі пра..сці патрэбна напраскі (*С. Грахоўскі*). 5. Хто мову сваю ганіць — ма..чын дар, не прын..се карыс(?)ці ён народу (*А. Грачанікаў*).

• Напішыце сачыненне-мініяцюру на тэму аднаго з афарызмаў (тып маўлення — разважанне).

**39.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі.

ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ

Беларускі фраз..лагізм *вомегам вылазіць* ужываецца са значэ(н/нн)ем «а(д/т)помсціцца, (не) праходзіць бя..следна», калі кажуць пра ра..-плату за які(?)небудзь кепскі ўчынак.

Паходжа(н/нн)е фраз..лагізм.. становіцца зразумелым, калі высв..тліць сэнс яго першага кампанент.. . Вомег — другая назва балігалову, двух(?)гадовай расліны з сям..і парасо(н/нн)авых. Пра страшэ(н/нн)ай сілы яд, выц..снуты з вомег.., ведалі яшчэ ў (С/с)тара(?)-жытнай Грэцыі і карысталіся ім для знішчэ(н/нн)я палі(ты/ці)чных сапернікаў. В..дома, (на) прыклад, што філосаф Сакрат быў атруча(н/нн)ы вомегам. Лісты і плады вомег.., калі трапяць у ежу, выклікаюць атручва(н/нн)е, знешнім пака..чыкам якога з..яўляюцца ваніты.

З ця..кім станам хворага і (з/с)вяза(н/нн)а ўзнікне(н/нн)е (з/с) пачатку свабоднага сл..вазлучэ(н/нн)я *вомег вылазіць*, а потым пераас..нсава(н/нн)ага, у якім пад уплывам фраз..лагізм.. *бокам вылазіць* першы кампанент (з/с)мяніў форму.

Выслоўе (на) пачатку свайго жыц..я ўжывалася, відаць, толькі ў кленічах і было зл..моўным пажада(н/нн)ем ця..кай хваробы і смерці ад атручва(н/нн)я вомегам (*Паводле І. Лепешава*).

## Правапіс *д* і *дз*, *т* і *ц*

У беларускай мове літары **д**, **т** пішуцца для перадачы на пісьме цвёрдых зычных гукаў [д], [т], а літары **дз**, **ц** — для перадачы мяккіх зычных гукаў [дз'], [ц'].

1. Чаргаванне цвёрдых зычных гукаў [д], [т] з мяккімі [дз'], [ц'] (дзеканне і цеканне) адбываецца:

• перад галоснымі **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**: *агарод — у агародзе*, *іду — ідзеш*, *вада — вадзяністы*, *палёт — у палёце*, *тру — церці*, *шосты — шэсць*, *латынь — лацінка*;

• перад мяккім **[в']**: *два — дзве*, *дзвесце*, *чэрствы — счарсцвелы*;

• перад суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання **-ін-**, **-ір-**, **-ік-**, **-ёр-**, **-еец**, **-ейск-** у словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, вытворных ад іх: *каманда — камандзір*, *індзеец*, *індзейскі* (**але**: *Індыя — індыец*, *індыйскі*, *індыйцы*), *гвардыя — гвардзеец*, *гвардзейскі*, *білет — білецёр*, *білецік*.

2. Літары **дз** і **ц** перад мяккім [в’] пішуцца згодна з вымаўленнем у словах *дзверы*, *чацвер*, *подзвіг*, *мядзведзь*, *цвёрды*, *цвярозы*, *цвік*, *цвілы*, *цвісці*, *ліцвін*, *ліцвінка*, *яцвяг*, *Дзвіна*, *Мацвей* і інш. **Выключэнне**: *твіст*.

3. **Д** у складзе прыстаўкі і **т** у складзе суфікса перад [в’] перадаюцца адпаведна літарамі **д** і **т**: *адвезці*, *падвязаць*, *у таварыстве*, *у агенцтве*, *у выдавецтве*, *аб прыродазнаўстве*, *у братэрстве*; *бітва — у бітве*, *брытва — брытве*, *брытвенны*, *клятва — клятве*, *клятвенны*.

Літары **д** і **т** пішуцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва — мардве*, *мардвін*, *Мардвінаў*, *Літва — у Літве*.

4. У пераважнай большасці слоў іншамоўнага паходжання ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем пішуцца **д** і **т**: *студэнт*, *дэпутат*, *дывізія*, *дэмакратыя*, *медыцына*, *апладысменты*, *дэманстрацыя*, *дыктатура*, *дысцыпліна*, *дэлегат*, *атэстат*, *кватэра*, *тыраж*, *тыгр*, *майстар*, *матэрыял*, *універсітэт*, *пластык*, *авантура* і інш.

У некаторых словах іншамоўнага паходжання ў адпаведнасці з традыцыяй і літаратурным вымаўленнем пішуцца **дз**, **ц**: *цір*, *арцель*, *эцюд*, *цюль*, *цюльпан*, *цюркскі*, *цітры*, *уверцюра*, *накцюрн*, *каранцін*, *карцеч*, *касцюм*, *цюбік*, *цюк*, *цюфяк*, *дзюбель*, *дзюдо*, *мундзір*, *дзюна*, *дзюшэс*, *бардзюр* і інш.

5. Ва ўласных назвах літары **д**, **т** і **дз**, **ц** пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем: *Дэфо*, *Балтыка*, *Ватыкан*, *Антарктыда*, *Тэгеран*, *Людміла*, *Дэтройт*, *Атэла*, *Тэрэза*, *«Юманітэ»*; *Хрысціна*, *Дзікенс*, *Гарыбальдзі*, *Аргенціна*, *Цюмень*, *Цімкавічы*, *Гаіці*, *Палесціна*.

**40.** Раскажыце пра дзеканне і цеканне ў беларускай мове. Параўнайце, як вымаўляюцца ў беларускай і рускай мовах наступныя словы.

Цвёрдасць — твердость, сцябло — стебель, Радзіма — Родина, дзеці — дети, дзверы — дверь, цішыня — тишина, мядзведзь — медведь, дзядзька — дядя.

**41.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс літар **д**, **т**, **дз**, **ц**.

(Ды/дзі)ктар, юпі(та/це)р, (тэ/це)арэ(ты/ці)к, (ду/дзю)на, (ды/дзі)візія, у Лі(т/ц)ве, ла(ты/ці)нь, (тэ/це)мп, гвар(дэ/дзе)йскі, (ту/цю)льпан, сту(дэ/дзе)нт, па(т/ц)вердзіць, у вучнёўс(т/ц)ве, С(тэ/це)ндаль, Гарыбаль(ды/дзі), Ма(т/ц)вей, канс(ты/ці)туцыя, ар(тэ/це)ль, вес(ты/ці)бюль.

**42.** Запішыце словы і словазлучэнні па-беларуску, растлумачце правапіс.

Юпитер, авторитет, аптечный киоск, латинский, этюд, подвиг, тигровая шкура, вахтер, партизан, твердый, плотина, Гаити, стадион, техника, карантин, академия, демонстрация, кандидат, дивизия, командир, ветеран, вестибюль.

### Пераклад тэксту

**43.** Перакладзіце выказванне на беларускую мову.

Неопровержимая истина: давняя бесправная деревня была плохо приспособлена для человеческого счастья. Настолько плохо, что мрачный отсвет ее зачастую ложится и на послевоенные судьбы людей, — мотив, к которому Янка Брыль не однажды обратится в позднейшей своей новеллистике (*В. Оскоцкий*).

**44.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары **д**, **дз**, **т**, **ц** і выбіраючы з дужак правільны варыянт.

1. Працуе Бабёр ін(тэ/це)лігентна і ар(ты/ці)с(ты/ці)чна (*А. Асташонак*). 2. Мастак не можа ў наш час бы..ь публі..ыстам, бо надта ж ужо вялікая спакуса бы..ь побач з чытачом адразу, у тую ж хвіліну нараджэння і ак(ты/ці)візацыі на(д/дз)ённай праблемы грама(д/дз)скага жыцця (*У. Юрэвіч*). 3. Шах(то/цё)ры і будаўнікі, калгасныя жнеі і агародніцы, настаўнікі і сту(дэ/дзе)нты, сівабародыя вучоныя і маладыя загарэлыя салдаты, (д/дз)е(т/ц)і іду..ь сюды, у Ясную Паляну (*Я. Брыль*). 4. Сярод разве..чыкаў самы высокі (ты/ці)тул у Смірнова — старшы сяржант (*І. Навуменка*).

### Мова і нацыянальная культура

**45.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

Тал..рантнас(т/ц)ь, што ў перакла(д/дз)е з ла(ты/ці)нскай мовы азначае (т/ц)ярпенне, л..гла ў аснову м..нталі(тэ/це)ту беларусаў. Яна ўключае такія якас(т/ц)і ў харак(та/це)ры і паво(д/дз)інах, як спакойны, вытрыманы нораў, добрыя адносіны да сусе(д/дз)яў, пачу(тт/цц)ё асабістай годнас(т/ц)і, любоў да сваёй зямлі, н..навіс(т/ц)ь да ворагаў, гатоўнас(т/ц)ь з самаа..данас(т/ц)ю, а калі трэба, і з самаахвярнас(т/ц)ю бараві(т/ц)ь родныя мяс(т/ц)іны.

Адна з найбольш яскравых праяў тал..рантнас(т/ц)і адлюстравана ў культуры — не толькі ма(тэ/це)рыяльнай, але і духоўнай. Харак(тэ/це)рна, што нашы прашчуры, з’яўляючыся мужнымі абаронцамі сваёй зямлі, будучы лю(д/дз)ьмі, якія вялі з ворагам самаа..даную і г..раічную бара(дз/ц)ьбу, у той жа час не праяўлялі заваёўніцкіх намераў. Гэта сугучна нават зместу вуснай народнай творчас(т/ц)і, якая, як вядома, дакладна адлюстроўвае душу народа. У старажытным эпасе беларусаў значна менш, у параўнанні з іншымі п..рсанажамі, праслаўля-

юцца волаты, якія наво(д/дз)ілі жах на сусе(д/дз)яў-заваёўнікаў (*Паводле М. Касцюка*).

• **Устанавіце адпаведнасць паміж якасцямі характару беларусаў — складальнікамі талерантнасці і прыказкамі, у якіх знайшлі адбітак гэтыя рысы.**

| | |
|---|---|
| а) спакойны, вытрыманы нораў | 1) Каб бачыць ворага спіну, бі яго ў лоб. |
| б) добрыя адносіны да суседзяў | 2) Не той моцны, хто стрымлівае коней, а той, хто стрымлівае сябе. |
| в) пачуццё асабістай годнасці | 3) Усякая птушка сваё гняздо бароніць. |
| г) любоў да сваёй зямлі | 4) Ідзі ў родны край, там і пад елкаю рай. |
| д) нянавісць да ворагаў | 5) Шануй сябе, то і людзі будуць шанаваць. |
| е) гатоўнасць з самаадданасцю бараніць родныя мясціны | 6) Добры сусед раднейшы за роднага брата. |

• Назавіце імёны беларускіх казачных асілкаў.

## Правапіс падоўжаных зычных

1. У беларускай мове ў становішчы паміж галоснымі зычныя гукі [з'], [л'], [н'], [с'], [дз'], [ц'], [ж], [ш], [ч] вымаўляюцца падоўжана. Такое іх вымаўленне на пісьме перадаецца падвоеным напісаннем адпаведных літар: *маззю*, *вяселле*, *насенне*, *калоссе*, *пяццю*, *збожжа*, *узвышша*, *ноччу*, *Наталля*, *Палессе*, *Закарпацце*. Падоўжаны гук [дз'] перадаецца на пісьме спалучэннем літар *ддз: суддзя*, *стагоддзе*.

2. Падаўжэнне зычных не адбываецца:

• у словах *Ілья*, *Ульяна*, *Касьян*, *Емяльян*, *Юльян*, *Юльяна* і вытворных ад іх: *Ільін*, *Ільіч*, *Ільінскі*, *Ульянаў*, *Ульянаўск*, *ульянаўскі*, *Касьянавіч*, *Емяльянавіч* і інш., а таксама ў словах, утвораных ад дзеяслова *ліць*: *лье*, *льецца*, *налью*;

• у запазычаных словах, у тым ліку ва ўласных імёнах і назвах і вытворных ад іх словах: *граматыка*, *сума*, *каса*, *алея*, *група*, *клас*, *калекцыя*, *тона*, *калектыў*, *Ала*, *Іна*, *Нона*, *Васа*, *Іпаліт*, *Кірыл*, *Генадзь*, *Адэса*, *Марока*, *Ніца*.

**!** Выключэнне складаюць словы: *ванна*, *манна*, *панна*, *бонна*, *мадонна*, *мецца*, *саванна*, *Ганна*, *Жанна*, *Мекка* і інш.

**46.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

Паэтэс..а, імгнен..е, кал..екцыя, калон..а, багац..е, кіпен..е, гнездаван..е, падарож..а, маз..ю, бар..ыкада, палоз..е, рал..я, сён..я, сол..ю, мас..аж, ван..а, узбярэж..а, ламач..а, ноч..у, навакол..е, раўнадуш..а, адзен..е, пер..он, Ул..янаў, Іл..іч, тысячагод..е, прагрэс..іўны, ім..унітэт, мас..іў, ап..анент.

**Запомніце!**

Ад падоўжаных зычных неабходна адрозніваць падвоеныя зычныя, якія ўзнікаюць на стыку прыстаўкі і кораня, кораня і суфікса, суфікса і постфікса: *рассмяшыць*, *аддаць*; *лімо*нны, *кішэ*нны, *каме*нны; *затрыма*цца, *усхапі*цца.

**47.** Выпішыце спачатку словы з падаўжэннем зычных, а затым — з падваеннем.

Рассячы, пытанне, паддобрыцца, закрыццё, Ганна, расступіцца, раменны, дзённы, сучча, аддзяленне, каменне, каменны, Замасточча, зелле, паўтарэнне, збожжа, расстраляць, запечча, асенні, прымадонна, бярвенне, Таццяна, бясспрэчны, сенажаццю, бяздонны, раздолле, падваенне, мяккі.

**48.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

1. Хлеб — часцінка нашага жыц..я. Хлебам-сол..ю нашы бацькі пачыналі зажынкі, з хлебам-сол..ю выходзілі насустрач самым жадан..ым гасцям, хлебам-сол..ю ў час вясел..яў сустракаюць маладых (*Б. Сачанка*). 2. Агонь дагараў. Куча гал..я змяншалася, канцы ламач..а тлелі навакол. У сярэдзіне было досыць вугол..я і жару, але святло ўсё слабела (*Я. Маўр*). 3. Калі пер..он сціх, апусцеў, старая ўслед за апошнімі пас..ажырамі выйшла на Прывакзальную плошчу (*І. Мележ*). 4. З цікавасцю разглядалі члены кал..егіі Францыска, калі на іх запрашэн..е той увайшоў у залу і вельмі сціпла і ветліва папрасіў дазволіць яму трымаць экзамен бясплатна (*А. Клышка*).

**49.** Выпішыце з тэксту спачатку словы з падаўжэннем, а затым — з падваеннем зычных.

Люблю я Пушкіна за яго прыгожы чароўны верш. Люблю Пушкіна за яго гордасць, за захаванне чалавечай годнасці, нават у акружэнні прыдворнай камарыллі.

Люблю я Пушкіна за тое, што ў дэспатычным жандарскім акружэнні ён, адзінокі, быў страшным для царскіх сатрапаў. Імператар быў бяссільны са сваёй аховай, прыдворнай гвардыяй і казематамі перад Пушкіным-паэтам. Вальнадумства Пушкіна было не толькі ў вершах і эпіграмах. Яго вальнадумства ішло ў нагу з дзекабрыстамі. Імператар,

які загнаў на вечную катаргу — у Сібір — лепшых барацьбітоў за свабоду — дзекабрыстаў, не пасмеў крануць безабароннага паэта (*Паводле Я. Купалы*).

---

**Правільнасць маўлення**

**КОЛАС – КАЛАСЫ – КАЛОССЕ**

Зборныя назоўнікі **калоссе**, **карэнне**, **галлё**, **насенне** і іншыя маюць толькі форму адзіночнага ліку.

Трэба адрозніваць зборныя назоўнікі ад аднакаранёвых адзіночнага і множнага ліку:

*камень* (адз. л.) — *камяні* (мн. л.) — *каменне* (зб.);
*бервяно* (адз. л.) — *бярвёны* (мн. л.) — *бярвенне* (зб.);
*прамень*, *промень* (адз. л.) — *прамені*, *прамяні*, *промні* (мн. л.) — *праменне* (зб.).

---

**Мова і нацыянальная культура**

**50.** Спішыце тэкст, устаўляючы ў яго народныя вітанні і зычэнні.

ВІТАННІ І ЗЫЧЭННІ

Сярод беларускіх народных выслоўяў шмат вітанняў з добрымі зычэннямі людзям, якія працуюць у хаце, на полі, на агародзе, на двары, на таку. У час працы зычылі спору, плёну. Сейбіту — ... ; агародніцы — ... ; жнейцы — ... ; ткаллі — ... ; рыбаку — ... . Гаспадыні, што рашчыняе хлеб, — ... ; доіць карову — ... ; збівае масла — ... ; пячэ бліны — ... . У гэтых ветлівых і сардэчных зваротах-зычэннях выяўлена вялікая павага да працы і да працоўнага чалавека.

Вядомы шматлікія добрыя пажаданні пры розных іншых акалічнасцях. Пры зборах у дарогу — ... ; на наваселлі — ... ; у лазні — ... ; пры чханні — ... ; пры наведванні хворага — ... (*Паводле М. Я. Грынблата*).

*Для даведкі*:

- «Поўны секі!»
- «Багата на ўток!»
- «Малочна вам!»
- «З вядро качаны!»
- «Падходна вам!»
- «Скачком бліны!»
- «Комам масла!»
- «Гладкае вам дарожкі!»
- «Бадай табе палепшала!»
- «Шоўкавы венік, лёгкі дух!»
- «Радзі, божа, на камені і пад каменем!»
- «Будзь здаровы на ўвесь год, як калядны лёд!»
- «Каб з аднаго каласочка было паўрашаточка, а з аднаго снапочка была цэла бочка!»
- «Гэтай будынкі на пастаянне, а вам на пражыванне!»

• Падкрэсліце словы, у якіх адлюстроўваецца на пісьме падоўжанае вымаўленне зычных.

• Якія вы ведаеце добрыя зычэнні?

## Правапіс некаторых спалучэнняў зычных

1. У асобных словах адбылося спрашчэнне груп зычных: гістарычныя спалучэнні **здн**, **згн**, **стн**, **скн**, **стл**, **рдн** вымаўляюцца як **зн**, **сн**, **сл**, **рн**, што і адлюстроўваецца на пісьме:

**здн — зн**: *праязны*, *выязны* (параўн.: *прыезд*, *выезд*), *позна*, *спазніцца*, *Познышаў*;

**згн — зн**: *бразнуць* (параўн.: *бразгаць*);

**стн — сн**: *пачэсны* (параўн.: *чэсць*), *скарасны* (параўн.: *скорасць*), *колькасны* (параўн.: *колькасць*), *абласны* (параўн.: *вобласць*), *посны* (параўн.: *пост*); тое ж у запазычаннях: *кантрасны* (параўн.: *кантраст*), *кампосны* (параўн.: *кампост*), *фарпосны* (параўн.: *фарпост*);

**скн — сн**: *бліснуць* (параўн.: *бліскаць*, *бліскавіца*, *бляск*), *пырснуць* (параўн.: *пырскаць*), *пляснуць* (параўн.: *пляскаць*), *трэснуць* (параўн.: *трэскаць*); **але**: *віскнуць*, *націскны*;

**стл — сл**: *жаласлівы* (параўн.: жаласць), *шчаслівы* (параўн.: *шчасце*), *помслівы* (параўн.: *помста*), *пасланць* (параўн.: *пасцялю*, *пасцель*);

**рдн — рн**: *міласэрны*, *міласэрнасць* (параўн.: *сардэчны*).

2. Спалучэнні зычных **ск**, **ст**, **сц** [с'ц'] на канцы кораня слова могуць чаргавацца з **шч**, што і перадаецца на пісьме: *воск — вашчыць*, *густы — гушчар*, *хрысціць — хрышчоны*; **але**: *пясчаны*, *пясчынка*, *пясчанік*, *супясчаны*, *супясчанік*.

3. Спалучэнне зычных **дт** на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз **т**: *Гумбальт*, *Кранштат*, *Шміт*.

**51.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, зычныя **д** ці **т**.

Карыс..ны, праяз..ны, неміласэр..ны, свіс..нуць, разас..ланы, бязлітас..ны, фарпос..ны, Рэмбран..т, пачэс..ны, кампетэн..ны, няўрымс..-лівы, капус..ніца.

---

**Правільнасць маўлення**

### ПЯСЧАНЫ – ПЯСОЧНЫ

**Пясчаны** — пакрыты пяском; з аднаго пяску: *пясчаная выспа*; з вялікай прымессю пяску; у якім шмат пяску: *пясчаная глеба*.

**Пясочны** — які мае адносіны да пяску; з пяску: *пясочны гадзіннік*; шаравата-жоўты, колеру пяску: *паліто пясочнага колеру*; прыгатаваны з сухога, рассыпістага цеста: *пясочнае піражнае*.

---

**52.** Запішыце словы па-беларуску.

Кронштадт, поздний, капустный, вощение, милосердный, песчаный, безжалостный, треснутый, сердце, солнце, крещение, счастливец, брусчатый.

**53.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

1. Чужое неба сэр..цу не дагодзіць, душы не загадае: «Не балі...» (*Е. Лось*). 2. Вупраж некалі была не толькі звычайная, рабочая, але і выяз..ная, так бы мовіць, парадная (*М. Маляўка*). 3. Затрашчалі дубы, пахіс..нулася хата (*У. Карызна*). 4. І сон прыходзіць з вясёлымі, поўнымі со..нца і шчасця карцінамі (*Я. Брыль*). 5. У пос..ныя дні мясныя прадукты на сялянскім стале замяняла рыба (*В. Цітоў*). 6. Дно пя..чанае, не тванiстае; ідзеш па ім, быццам па мяккай халоднай коўдры (*Т. Хадкевіч*). 7. Вобраз маці як сімвал любові і міласэр..насці ў дэкоры тканых і вышываных вырабаў вельмі часты (*М. Кацар*). 8. Радас..нымі вачанятамі пазіралі на бацьку дзеці: ім не так часта прыходзілася бачыць яго вясёлым (*С. Александровіч*).

## Правапіс пpыстаўных і ўстаўных літар *в, г*

1. Пpыстаўная літара **в** пішацца:

• перад націскным **о** ў пачатку слоў: *возера*, *вольха*, *восень*, *вось*, *вокны*, *войкаць*, *ворыва*, *воблака*, *вобласць*, *востраў*, *Вогненная Зямля*, *Вольга*, у вытворных ад іх словах пасля прыставак: *адворваць*, *павойкаць*, *увосень*; **але**: *окаць* (і вытворныя ад яго), *одум*. Пры змене месца націску **о** пераходзіць у **а** і пpыстаўная **в** у гэтых словах не пішацца: *восень — асенні*, *востраў — астраўны*, *возера — азёрны*, *вокны — акно*;

• перад прыстаўкамі **о-**, **об-**, **од- (от-)**: *вокіс*, *вокісел*, *воклік*, *вокліч*, *вокрык*, *вопіс*, *вобземлю*, *вобыск*, *водгалас*, *водгук*, *воддаль*, *водзыў*, *водпуск*, *водсвет*, *водступ*, а таксама *навобмацак*, *наводдалек*, *паводле*, *наводшыбе*;

• у запазычаных словах: *вохра*, *воцат* і вытворных ад іх: *вохрыць*, *павохрыць*, *во́цатнакіслы*;

• перад каранёвым **у** ў пачатку слоў: *вугал*, *вуда*, *вугаль*, *вуж*, *вузел*, *вузы*, *вуліца*, *вунь*, *вус*, *вусны*, *вуха*, *вучань*, а таксама ў вытворных ад іх незалежна ад месца націску: *абвуглены*, *каменнавугальны*, *чатырохвугольнік*, *завулак*, *навудзіць*, *вудзільна*, *вузлы*, *вузлаваты*, *вусаты*, *чарнавусы*, *вусач*, *вучыца*, *навука*, *педвучылішча*, *вушамі*, *завушніцы*, *лапавухі*, *залатавуст*;

• перад націскнымі прыстаўкамі **у-**, **уз- (ус-)**: *вупраж*, *вузгалаўе*, *вусцілка*, *вусціш*, *вусцішна*.

2. У словах *во́ка*, *во́стры*, *вако́л* і вытворных ад іх незалежна ад націску: *вочы*, *вачэй*, *уваччу*, *вачаняты*, *завочны*; *вастрыць*, *вастрэйшы*, *вастрыня*; *наваколле*, *ваколіца*; *васпаваты*.

3. Прыстаўная літара **в** не пішацца:

• перад пачатковым націскным **о** ў запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах: *опера*, *оперны*, *ода*, *офіс*, *Оксфард*, *Ом*, *Орша*;

• перад націскным пачатковым **у** ў запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах: *ультрафіялетавы*, *унтэр*, *унікум*, *унія*, *урна*; **але**: *вустрыца*; *Ульяна*, *Уздзенскі раён*, *Урал*, *Узбекістан*, *Украіна*, *Ушачы*;

• перад прыставачным **у** і перад **у**, якое паходзіць з **в**: *удвух*, *угнаенне*, *унук*, *учора*, *улада*, *увага*.

4. Устаўная літара **в** пішацца:

• перад націскным **о** ў сярэдзіне некаторых слоў: *ніводны*, *Лявон*, *Лявончанка*, *Ларывон*, *Радзівон*, *Радзівонаў*;

• перад націскным **у**: *павук*, *цівун*, *каравул*, *есавул*, а таксама ў вытворных ад іх незалежна ад месца націску: *павуцінне*, *цівуном*, *каравульны*, *есавульскі*;

• перад **у** ва ўласных імёнах і геаграфічных назвах: *Матэвуш*, *Навум*, *Навумаўка*, *Навуменка*, *Тадэвуш*.

5. Прыстаўная літара **г** пішацца:

• у займенніках *гэты*, *гэтакі*, *гэтулькі*; у прыслоўях *гэтак*, *гэтаксама*, *адгэтуль*, *дагэтуль*; у выклічніках *гэй*, *го*, *га*, *гэ*.

**54.** Выпішыце словы, у якіх ёсць прыстаўныя зычныя **в** або **г**.

Вужака, горад, гэты, вуліца, воля, воспа, голас, вуглавы, гэтулькі, валасы, ніводнага, гора, возера, абвуглены, вастравухі, вулей, вячэра, весела.

**55.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, літару **в**.

..одблеск, ..огненны, на..учанне, ..устрыца, ..улан, ..упарты, ..узнагарода, ..убор, ..опера, ..уклад, ..окісны, ..ольха, ..угор, ..ордар, ..угаль, ..образ, ..утопія, ..узброіць, ..опратка, ..астраслоўе, ..обласць, ..улада, ..офіс, ..ураган, ..остраў, ..одпуск, ..опытны, ..оканне, ..узрост, ..удзільна, ..астрэйшы, ..аколіца, ..ушанка.

**Правільнасць маўлення**

## ВУЖ — ВУЖАКА

**Вуж** — адна з неядавітых змей сямейства паўзуноў: *шэры вуж.*
**Вужака** — 1) агульная назва паўзуноў з доўгім гнуткім целам без ног; змяя: *паўзе вужака*; 2) ліхі, каварны чалавек: *ну ты і вужака!*

**56.** Запішыце словы па-беларуску.

Заочный, остроносый, уж, паук, Ульяна, осенний, осень, история, внук, этот, озеро, урна, ойкать, угловой, участок, заострить, ультразвук, уникальный, облако, оптом, окрик, Родион, Ольга, Орша, Узда, Огненная Земля, Анна, эй.

**57.** Выберыце правільны варыянт, запішыце яго.

Узельчык — вузельчык, олава — волава, наогул — навогул, наушнікі — навушнікі, узкалобы — вузкалобы, оптыка — воптыка, унтэрафіцэр — вунтэр-афіцэр, обыск — вобыск, устрыца — вустрыца, астрадзюбы — вастрадзюбы.

**58.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прыстаўныя **в**, **г**, растлумачце іх правапіс.

1. Імя нашага земляка можна ўбачыць сёння і ў назве ..уліц, бібліятэкі, друкарні, на..учальнай ..установы (*А. Клышка*). 2. На ніцях белай па..уцінкі прывозяць ..осень па..учкі (*Я. Колас*). 3. Азалаціла ..осень поле ржышчам (*К. Чорны*). 4. ..асеннія сады, як ..огнішчы, палаюць (*П. Панчанка*). 5. Па старому, часоў ..уніі, звычаю беларускія паны аддавалі сыноў на выхаванне ў сялянскія сем'і (*У. Караткевіч*). 6. А над усёй ..этай прыгажосцю, у чыстым небе, трохі ..оддаль ад ..облачка, стаіць поўны месяц (*Я. Брыль*). 7. Я клаўся на лёд і разглядаў ..усікі, плаўнікі, хвасты ўюноў (*А. Федарэнка*).

**Мова і нацыянальная культура**

**59.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Устаўце ў тэкст патрэбныя народныя параўнанні.

### НАРОДНЫЯ ПАРАЎНАННІ

Тонкая наз..ральнасць б..ларусаў пра..ўляецца ў параўнаннях, у якіх сканц..нтраваны жыц..ёвы (?)опыт народ.., іскрыц..а дасціпны гумар. Відаць, з вус(?)наў пастуха нарадзілася параўнанне «...». Толькі дбайная гаспадыня, якая клапатліва гадуе сваё пта(?)ства, магла ўп..ршыню сказаць: «...».

У параўнаннях зна(?)шлі а(д/т)бітак і (?)образы язычні..кай дэманалогіі («...»), і культ про..каў («...»), і хр..сціянскае (?)учэнне аб збавенні душы («...»), і (?)історыя народ.. («...»).

У асобных параўнаннях, як у міні..цюрах, намаляваны карціны побыт.. старой вёскі. У выслоўі «...» названы харак(тэ/це)рны спосаб ра(з/с)кладання снапоў на таку для мала..ьбы цэпам. У параўнанні «...» згад(?)ваецца радас(?)нае св..ткаван..е заканчэн..я жніва. Пра беларускі валачобны абра.. гаворыць параўнанне «...». У выслоўі «...» для параўнання выкарыстаны абавя..ковы прадмет старога с..лянскага побыт.. — прылада для пален..я лучыны (*Паводле М. Грынблата*).

*Для даведкі*: добра як на дажынках; вылупіў вочы як баран на воўка; дзяцей як снапоў у пасадзе (*многа*); растрэпаны валасы як у лоўмы (*лоўма* — злая істота, чарціха); добра як у раі; бродзіць па хатах як старац на Вялікдзень; далікатны як куранятка; стаіць як лучнік пасярод хаты; страў як на Дзяды; ідуць як на паншчыну.

• Падкрэсліце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс прыстаўных зычных».

• Растлумачце адсутнасць коскі перад злучнікам **як** у параўнаннях.

• Прывядзіце ўласныя прыклады параўнанняў, у якіх знайшлі адбітак асаблівасці народнага побыту.

## Правапіс літар *у, ў*

1. Літара **у** (**у** складовае) абазначае галосны гук [у] і пішацца:

• у пачатку сказа, пасля знакаў прыпынку і пасля зычных: *У ціхім шолаху развяваліся сцягі, асветленыя сонцам, ярка блішчалі і звінелі медалі. Яны, мусіць, усё ж не звінелі, але яму гэтага хацелася, і ён, здаецца, чуў іхні звон* (Я. Сіпакоў);

• у пачатку ўласных назваў: *каля Узды*, *Галіна Уланава*, *ва Узбекістане*;

• у запазычаных словах, якія заканчваюцца на **-ум**, **-ус**: *прэзідыум*, *радыус*, *страус*, *соус* і вытворных ад іх;

• у словах з націскным **у**: *аул*, *баул*, *Брэсцкая унія*, *каля урны*, *прывезлі унты*, *пачулася уханне*;

• на канцы запазычаных слоў не пад націскам: *фрау*, *Шоу*, *Каратау*, *ток-шоу*, *ноу-хау*.

2. Літара **ў** (**у** нескладовае) абазначае зычны гук [ў] і пішацца:

• пасля галосных у пачатку слова: *на ўкраінскай мове*, *сонца ўзышло*, *на ўзлеску*, *ва ўніверсітэце*, *царква ўніяцкая*, *метады ўніверсальныя*;

• у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі: *аўдыторыя*, *паўза*, *маўзалей*, *лаўрэат*, *саўна*, *фаўна*, *маўзер*, *джоўль*, *маўр*, *аўра*, *раўнд*;

• пры чаргаванні [л] з [ў]: *чытаў*, *думаў*, *спяваў*, *воўк*, *шоўк*, *шаўковы*, *поўны*, *паўметра*, *шчоўкнуць*, *моўчкі*; **але**: *палка*, *памылка*, *сеялка*, *Алжыр*, *Валдай*, *Балгарыя*, *Албанія*;

• пры чаргаванні [в] з [ў]: *лаўка* (*лава*), *аўса* (*авёс*), *бацькаў* (*бацькавы*), *любоў* (*любові*), *кроў* (*крыві*), *аўторак*, *Аўстрыя*, *Аўстралія*, *Каўказ*; **але**: *ва В'етнаме*, *на рацэ Влтава*;

• пасля злучка ці двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *хлопцы-ўмельцы*, *паўночна-ўсходні*, *у «Выбранае» ўвайшлі*, *гучнае «ўра»*.

**60.** Спішыце, устаўляючы **у** ці **ў**.

Ка..нер, красёнцы-ча..начкі, сімпозі..м, аквары..м, бра..нінг, со..с, ва ..ніверсітэце, рака ..шача, на ..краіне, Вольга ..ладзіміра..на, Сарока ..ладзя, па-..чарашняму, па..за, га..птвахта, па..днёва-..сходні, ла..рэат, ваку..м, бра..нінг.

**Мова і нацыянальная культура**

**61.** Запішыце беларускія народныя параўнанні, злучыўшы пачатак і канец выслоўяў. Раскрыйце дужкі.

| | | |
|---|---|---|
| надзьму(у/ў)ся | | аса (у/ў) вочы |
| трапі(у/ў) | | (у/ў)юн на гарачай патэльні |
| спіць | | во(у/ў)к (у/ў) піліпа(у/ў)ку |
| кр(у/ў)ціцца | | мыш на кр(у/ў)пы |
| баіцца | | воцату выпі(у/ў)шы |
| бегае | **ЯК** | во(у/ў)к ягняці |
| вые | | лісіца (у/ў) салад(у/ў)ху |
| лезе | | лапцем па балоце пляснуў(у/ў) |
| ляпну(у/ў) | | з в(у/ў)глямі (у/ў) нагавіцах |
| ма(у/ў)чыць | | пшаніц(у/ў) прада(у/ў)шы |

**62.** Выпішыце спачатку словы, у якіх пішацца **у**, а затым — **ў**.

Ма..клівы, маці-..краінка, Брэсцкая ..нія, а..кцыён, га..птвахта, прэзіды..м, стра..с, Вера ..льянаўна, жыць ва ..ручча, гучнае «..ра», ва ..нісон, жанчына-..рач, да ..севалада, часопіс «Бярозка» ..знагародзіў удзельніка.. конкурсу, ла..рэат, прысло..е «..ніз», каля ..ладзівастока, сімпозі..м, а..тастрада, каля ..ніверсальнага магазіна, кантрольна-..ліковы, фа..на, гэта ..топія, мане..р, ба..л.

**63.** Спішыце сказы, устаўляючы замест кропак **у** і **ў**, растлумачце іх правапіс.

1. Андрэй гляну.. на босыя ..ладзевы ногі (*К. Чорны*). 2. Гэта была вялізная, чалавек на сто, а..дыторыя з чорнаю дошкай ля дзвярэй (*А. Кудравец*). 3. Мы на па..ночна-..сходняй ..скраіне горада, на Маско..-скай шашы (*В. Вольскі*). 4. Францыск Скарына паказа.. прыклад незвычайнай настойлівасці і працавітасці, творчай смеласці і духо..най сілы, калі закладва.. глыбокі падмурак кнігадрукавання ва ..сходняй Е..ропе, калі самаадданa працава.. над перакладам і выданнем шматлікіх кніг на роднай мове (*В. Чамярыцкі*). 5. Добрым словам ..спамінае вялікага сына ..краіна маладая (*Я. Купала*). 6. Не ведаю, з таго часу ці раней яшчэ, але .. нашай хаце «Раніцу .. нядзельку» ..се ведалі на памяць (*А. Васілевіч*).

# ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА

## Змякчальны мяккі знак як сродак абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага

1. Мяккі знак пішацца пасля зычных **з**, **л**, **н**, **с**, **ц** (з мяккага **т**), **дз** (з мяккага **д**):

• для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага на канцы слова: *мядзведзь*, *мазь*, *соль*, *рунь*, *вучань*, *гусь*, *вось*, *штосьь*, *памяць*, *думаць*, *дзевяць*, *вішань*;

• для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым, а таксама перад мяккім зычным, які пры змене слова можа чаргавацца з цвёрдым: *рэдзька*, *барацьба*, *пісьменнік — пісьмо*, *на касьбе — касьба*, *дзьме — дзьмуць*;

• пасля мяккага [**л’**] перад цвёрдым або мяккім зычным, за выключэннем падоўжанага [**л’**]: *бульба*, *вельмі*, *столькі*, *пальцы*, *больш*; **але**: *галлё*, *вяселле*.

2. Мяккі знак пішацца ў некаторых граматычных формах:

• у дзеясловах загаднага ладу перад канчаткам 1-й асобы множнага ліку **-ма**, перад канчаткам 2-й асобы множнага ліку **-це**, перад постфіксам **-ся**: *кіньма*, *станьма*, *гляньма*; *гляньце*, *станьце*; *кінься*, *агледзься*, *застанься*;

• у назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку **-мі**: *людзьмі*, *слязьмі*, *коньмі*;

• у складаных лічэбніках *пяцьдзясят*, *шэсцьдзясят*, *шэсцьсот*, *дзевяцьсот*;

• у прыслоўі *ледзьве* (як і ў слове *ледзь*);

• у постфіксе -**сьці**: *хтосьці*, *штосьці*, *камусьці*, *дзесьці*, *чамусьці*;

• перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на -**нь** і ад слова *восень*: *жнівень — жнівеньскі*, *восень — восеньскі*;

• перад суфіксам -**чык**, калі слова без гэтага суфікса заканчваецца на мяккі знак: *камень — каменьчык*, *рэмень — раменьчык*, *агонь — агеньчык*;

• у суфіксах прыметнікаў **-аньк-**, **-еньк-**, **-эньк-**: *малюсенькі*, *добранькі*, *прыгожанькі*, *старэнькі*, *маленькі*;

• перад суфіксам **-к-** пасля мяккага [н’]: *вішанька*, *банька*, *песенька*.

3. Мяккі знак не пішацца:

• пасля зацвярдзелых зычных, а таксама пасля губных **б**, **в**, **м**, **п**, **ф**: *нож*, *дождж*, *мыш*, *печ*, *купец*, *голуб*, *верф*, *насып*, *цар*, *сем*, *стэп*;

• пасля мяккіх зычных **з**, **с**, **ц**, **дз** перад мяккімі, калі пры змене слова абодва зычныя застаюцца мяккімі або становяцца цвёрдымі: *звер — звяры*, *песня — песню*, *дзве — два*, *збіраць — зборы*, *дзверы — дзвярэй*;

• паміж падоўжанымі зычнымі: *калоссе*, *стагоддзе*, *сумленне*, *голле*;

• перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на -**нь**, калі гэтыя назоўнікі не з’яўляюцца назвамі месяцаў: *конь — конскі*, *Разань — разанскі*, *Любань — любанскі* (**але**: *Чэрвеньскі раён*), *Цянь-Шань — цянь-шанскі*.

**64.** Вызначце, як абазначана мяккасць зычных у прыведзеных словах. Падкрэсліце зычныя, мяккасць якіх на пісьме не перадаецца.

Сенажаць, насенне, смех, некалькі, маленькі, бацькоўскі, гляньце, звер, разбіць, возьмеш, дзве, насцеж, чацвёрты, пяцьсот, чэрвеньскі, восем, звярыны, пакуль, пасля, забудзьце, дзядоўнік, калісьці, толькі, ляснік, смеласць, ледзь, літасць, каменне, касьба, разьбяр, дзень, даражэнькі, сцяблінкі, асцярожнасць.

**65.** Утварыце ад прыведзеных дзеясловаў формы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу, запішыце іх.

Забрудзіць, кінуць, сустрэць, глянуць, глядзець, звесіць, злазіць, сядзець, стаяць, застацца, прыгледзецца, агледзецца, намыліцца, замазаць.

**66.** Утварыце і запішыце ад назоўнікаў прыметнікі з дапамогай суфікса **-ск-**.

Верасень, снежань, чэрвень, конь, Казань, Любань, Лепель, Капыль, Хатынь, Смаргонь, Астрахань, Фаніпаль, Разань, Чэрвень, Цюмень, Мядзел.

**67.** Запішыце словы. Устаўце, дзе трэба, мяккі знак.

З..бірал..нік, дзевяц..сот, дз..ве, дз..ме, рэдз..ка, дз..весце, піс..мовы, пас..пешлівас..ц.., радас..цю, камен..чык, стан..це, вішан..ка, ледз..ве, камус..ці, растрэс..ці, любан..скі, восен..скі, барац..біт, чытал..ны, сляз..мі, дз..веры, карэн..не, карэн..чык, прыгожан..кі, свежас..ць, завез..ці, людз..мі, застан..ся, прыгледз..ся, ц..віс..ці, мен..шы, мядз..ведзь, сем.., чац..вер, уз..нес..ціся.

**68.** Прачытайце ўрывак з аповесці Я. Маўра «Палескія рабінзоны». Выпішыце з тэксту словы са змякчальным мяккім знакам, вусна растлумачце іх правапіс.

Дзес(?)ці міл(?)галі маланкі. Набліжалася навал(?)ніца...

Страшэнны ўдар грому прымусіў Мірона ўскочыц(?) на ногі.

— Агон(?)! — крыкнуў Віктар і кінуўся да вогнішча. Абодва разам пачалі дз(?)мухац(?), падкладац(?) гал(?)ё.

А дождж пайшоў ужо як мае быц(?). Гал(?)ё ледз(?)ве гарэла, дым пачаў змян(?)шацца.

— Кін(?)ма гэта мокрае ламачча! — крыкнуў Віктар і пачаў раскідвац(?) яго нагой.

Яны раз(?)весілі над агнём скураную куртку, а Віктар сабраў вугол(?)чыкі, якія не пагас(?)лі яшчэ, падклаў сухен(?)кіх трэсачак і раздз(?)мухаў аген(?)чык.

За гэты кволен(?)кі аген(?)чык і пачалася барац(?)ба. Ён быў зусім мален(?)кі, таму куртку можна было трымац(?) вел(?)мі нізка над ім, стоячы на каленях.

Можа, гадзіну ці дз(?)ве цягнулася навал(?)ніца і ішоў такі дождж, што, здавалася, мог заліц(?) які хочаш пажар.

Аген(?)чык бесклапотна гуляў пад вопраткай, нібы малое дзіця, і зусім не думаў пра небяс(?)пеку, ад якой яго бароняц(?) (*Паводле Я. Маўра*).

## Правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа

1. Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля зычных **з**, **л**, **н**, **с**, **ц** (з мяккага **т**), **дз** (з мяккага **д**) і непрыставачнага **н** перад галоснымі **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**:

• у словах іншамоўнага паходжання: *калье*, *медальён*, *канферансье*, *каньён*, *мільярд*, *рэльеф*, *парцьера*, *мільён*, *Лавуазье*; **але**: *булён*;

• ва ўласных імёнах, утвораных ад імёнаў на **-ій (-ый)**, перад суфіксальным **-еў- (-ев-)**: *Савельеў*, *Савельевіч*, *Васільеў*, *Васільевіч*, *Арсеньеў*, *Арсеньевіч*, *Лаўрэнцьеў*, *Лаўрэнцьевіч*, *Анатольевіч*; пасля **г**,

**к**, **х** і збегу зычных, акрамя **нц**, перад суфіксальным **-еў- (-ев-)** пішацца **і (ы)**: *Георгіеў*, *Іракліевіч*, *Ануфрыевіч*, *Дзмітрыеў* (**але**: *Вікенцьевіч*, *Лаўрэнцьеў*, *Лаўрэнцьевіч*, *Кліменцьевіч* і інш.);

• у словах *Ілья*, *Ульяна*, *Касьян*, *Емяльян*, *Юльян*, *Юльяна* і вытворных ад іх: *Ільін*, *Ільіч*, *Ульянаў*, *Ульянаўск*, *ульянаўскі*, *Касьянавіч*, *Емяльянавіч* і інш.;

• у словах, утвораных ад дзеяслова *ліць*: *налью*, *разалью*, *падалье*, *недалье*.

2. Апостраф пішацца перад галоснымі **е**, **ё**, **ю**, **я** і націскным **і**:

• пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную: *аб'езд*, *пад'ехаць*, *аб'яднанне*, *раз'юшаны*, *аб'ява*, *аб'інець*, *з'едлівы*;

• у сярэдзіне слова пасля зычных, акрамя **з**, **л**, **н**, **с**, **ц** (з мяккага **т**), **дз** (з мяккага **д**): *аб'ём*, *вераб'і*, *куп'істы*, *інтэрв'ю*, *п'еса*, *надвор'е*, *п'е*, *сям'я*, *бар'ер*, *Дзям'ян*, *Лук'янаў*, *Грыгор'еў*, *Пракоф'еў*, *В'етнам*, *Мар'іна Горка*;

• у складаных словах пасля частак **двух-**, **трох-**, **чатырох-**, **шмат-**: *двух'ярусны*, *трох'ярусны*, *чатырох'ярусны*, *шмат'ёмісты*.

Апостраф не пішацца:

• пасля **ў (у** нескладовага) перад літарамі **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**: *здароўе*, *салаўі*, *разнатраўе*, *праваслаўе*, *прыслоўе*, *любоўю*;

• у складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку калі іх часткі пішуцца праз злучок: *цэхячэйка*, *дзяржюрвыдавецтва*, *трэд-юніёны*.

**69.** Выпішыце спачатку словы, у якіх мяккі знак абазначае мяккасць зычных, а затым — словы з раздзяляльным мяккім знакам.

Кампаньён, добранька, медальён, малацьба, мільён, шэсцьдзясят, лью, Васільеў, Аркадзьевіч, Марэсьеў, грабеньчык, дзесьці, цьмяны, пісьмо, бацька, крэмень, канферансье, Ілья, цырульня, штосьці, дзядзька, ільгота, цесць.

**70.** Запішыце да слоў беларускія адпаведнікі, растлумачце правапіс.

Бильярд, объект, Нарочь, надпись, полынь, верфь, серьёзный, семья, пятьюдесятью семью, июльский, Григорьева, мадьяр, Вьетнам, Ульянович, Арсеньев, соловьи, ведешь, пьеса, семьсот, колье, объезд, курьер, почтальон, Васильев, рельеф, сольфеджио, Сибирью, песенка, Двина, воробьи, миллиард.

**71.** Спішыце, устаўляючы апостраф або мяккі знак.

Пад..ём, інтэрв..ю, з..езд, разаб..ю, разал..ю, ад..езд, раз..юшаны, аб..-ява, аб..ём, мадз..яр, ц..мяна, куп..істы, трох..ярусны, хадз..ба, прэм..ер,

в..етнамец, надз..муты, бракан..ер, італ..янец, шампін..ён, аб..ездзіць, кар..ера.

**72.** Спішыце сказы. Устаўце, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф.

1. Кожнай ночы прыязджае хто-небудз.. у лагер партызан..скіх сем..яў (*Я. Брыль*). 2. Міл..ярды аген..чыкаў адс..вечваліся ў с..няжынках белага покрыва зямлі (*Я. Колас*). 3. Часам мы забываемся, што прырода не тол..кі для нас адных, хоц.. чалавек і з..яўляецца самаю яе лепшаю аздобаю (*Я. Сіпакоў*). 4. Але калі я цяпер успамінаю той хлеб, які належала з..ес..ці брату і які з..еў я, і той вечар, калі брат лёг спац.. галодны, мне робіцца не па сабе. Здаецца, аддаў бы ўсё, каб тол..кі не было ў мяне такога ўспаміну, каб як-небудз.. пазбыцца, выкінуц.. яго з галавы (*Б. Сачанка*). 5. Вагоны дробнен..ка гайдаліся, ляцелі, нібы за нечым гналіся ці баяліся адстац.. (*І. Мележ*).

**Мова ў дыялогу культур**

**73.** Устанавіце адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі прыказкамі. Растлумачце іх сэнс.

| | |
|---|---|
| а) Голодному Федоту и пустые щи в охоту. | 1) Хвалілася рэдз..ка, што з мёдам смачная. |
| б) Хвастала овца, что у нее хвост, как у жеребца. | 2) Сядз..ма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе. |
| в) Обжегшись на молоке, будешь дуть и на воду. | 3) Апарыўся на капус..це ў гаршку, то і на гародзе дз..мухаў. |
| г) Глаза видали, что покупали. | 4) Быў кон.., ды з..езджаны, быў хлеб, ды з..едзены. |
| д) В ногах правды нет. | 5) У вераб..я багатая сям..я: у кожнага верабейкі па тры капейкі. |
| е) Богат Ермошка: завел кота да кошку. | 6) З гора, з бяды пад..еў лебяды. |
| ж) Был конь, да изъездился. | 7) Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плач..це, хоць павылаз..це. |

• Запішыце беларускія прыказкі, устаўляючы, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф.

## УЖЫВАННЕ ВЯЛІКАЙ І МАЛОЙ ЛІТАР

З вялікай літары пішуцца:

• першае слова ў сказе, першае слова пасля клічніка, якім выдзяляецца зваротак, а таксама выклічнік у пачатку сказа: *Настаў снежань. Снег ішоў амаль штодня, усё схаваў пад сабою...* (З. Бяспалы). *Зямля Бе-*

*ларусі! Табой мы сагрэты, ніколі не сходзіш ты з нашых вачэй* (П. Броўка). *Ну! Музыка саматужны, пакажыся, што за «грач»* (Я. Колас);

• першае слова ў пачатку простай мовы, а таксама ў пачатку цытаты, якая з'яўляецца самастойным сказам: *П. Глебка з поўнай падставай пісаў: «Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў»* («Літаратура і мастацтва»); калі ж цытата ўключаецца ў сказ у якасці яго часткі, то яна пішацца з малой літары: *Як адзначае народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, важна тое, сам чалавек «даходзіць да сутнасці, аналізуе прачытанае, ці яму навязваюцца гатовыя рэцэпты, вывады...»* (А. Каўрус);

• прозвішчы, імёны, імёны па бацьку, псеўданімы, мянушкі, клічкі жывёл, птушак і інш.: *Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч* (*Якуб Колас*), *Доўнар-Запольскі*, *Марыя Захараўна*, *Кірыла Тураўскі*, *Жак Іў Кусто*, *кот Рудзік*, *папугай Гоша*;

• прозвішчы, а таксама імёны ў множным ліку, калі яны выступаюць як назвы роду, групы асоб ці ўжываюцца ў значэнні агульнай назвы: *Луцэвічы*, *браты Міцкевічы*, *род Радзівілаў*, *бязродныя Іваны*; *Заслонавы* (але асабовыя імёны, прозвішчы ў форме множнага ліку, якія перадаюць пагардлівыя, зневажальныя адносіны, пішуцца з малой літары: *гарлахвацкія*, *кручковы*);

• геаграфічныя, дзяржаўныя, адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і астранамічныя назвы (акрамя слоў з родавым значэннем *рака*, *горад*, *востраў*, *вуліца*, *плошча*, *вобласць*, *раён*, *зорка*, *мыс* і г. д.): *Гомель*, *Нёман*, *Новае Сяло*, *Аўстралія*, *Рэспубліка Беларусь*, *Венера*, *Балканскі паўвостраў*, *пустыня Сахара*, *возера Нарач*, *Гомельская вобласць*, *Гродзеншчына*, *Кастрычніцкая плошча*, *Дняпроўска-Бугскі канал*, *мыс Добрай Надзеі*, *Сібір*;

• назвы дзяржаўных органаў і іншых арганізацый:

а) усе словы ў найменнях вышэйшых органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады: *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь*, *Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь*, *Дзяржаўная Дума Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі*, *Нацыянальны Кангрэс* (у ЗША);

б) першае слова ў найменнях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых арганізацый: *Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*, *Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы*, *Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі*, *Еўрапейскі саюз*, *Міжнародны алімпійскі камітэт*, *Мінскі абласны выканаўчы камітэт*, *Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі*;

в) простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый: *Адміністрацыя*

*Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*, *Парламенцкая асамблея Савета Еўропы*, *Міжнародны суд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый*, *Таварыства Чырвонага Крыжа*, *Арганізацыя Паўночнаатлантычнага дагавору* (НАТА);

г) слова *Савет* у значэнні органа ўлады: *Мінскі абласны Савет дэпутатаў*, *сельскі Савет дэпутатаў*; **але**: *сельсавет*;

д) словы *Дом*, *Палац* у пачатку наймення ўстановы: *Дом культуры*, *Дом народнай творчасці*, *Палац спорту*; **але**: *Лядовы палац*, *дом адпачынку*;

• аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах кніг, газет, часопісаў, устаноў, арганізацый, заводаў, караблёў, машын пішуцца з вялікай літары і бяруцца ў двукоссе: *часопіс «Беларусь»*, *аўтамабіль «Масквіч»*, *опера «Кастусь Каліноўскі»*, *танец «Лявоніха»*, *верш М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі»*, *медыцынская служба «Хуткая дапамога»*, *перыядычнае даведачнае выданне «Летапіс друку»*, *выдавецтва «Народная асвета»*, *кафэ «Вясна»*, *набор мэблі «Вязынка»*, *хлеб «Водар»*; назвы саміх вырабаў (акрамя назваў, што супадаюць з асабовымі і геаграфічнымі назвамі) пішуцца ў двукоссі з малой літары: *«масквіч»*, *«вольва»*, *«боінг»*, *«гарызонт»* (тэлевізар); **але**: *«Мінск»* (халадзільнік), *«Волга»* (аўтамабіль);

• аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, свят: *Адраджэнне*, *Варфаламееўская ноч*, *Лядовае пабоішча*, *Першая* (*Другая*) *сусветная вайна*; *Каляды*, *Радаўніца*, *Новы год*, *Тацянін дзень*, *Дзень ведаў*, *Вялікая субота*; **але**: *грамадзянская вайна*, *імперыялістычная вайна*, *лютаўская рэвалюцыя*, *кайназойская эра*, *эпоха феадалізму*, *неаліт*, *залаты век*, *высакосны год*, *санітарны дзень*, *месячнік пажарнай бяспекі*;

• словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*, *Старшыня Савета Міністраў*, *Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь*, *Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь*, *Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі*, *Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі*, *Папа Рымскі*; у неафіцыйным ужыванні словы *прэзідэнт*, *кароль*, *старшыня*, *імператар* пішуцца з малой літары: *візіт прэзідэнта*, *прыём у каралевы*;

• найменні найвышэйшых божастваў (бостваў) у рэлігійных культах, асабовыя імёны заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, біблейскіх асоб, імёны легендарных і міфічных асоб, уласныя назвы казачных істот і герояў літаратурных твораў, назвы культавых кніг: *Бог*, *Алах*, *Уладыка Нябесны*, *Святая Тройца*, *Прасвятая Дзева Марыя*; *Ісус Хрыс-*

*тос*, *Буда*, *Святы Павел*; *Геркулес*, *Зеўс*, *Пярун*; *Чырвоная Шапачка*, *Калабок*, *Каза-дзераза*; *Біблія*, *Каран*; з малой літары пішуцца словы *бог* (*гасподзь*) ва ўстойлівых выразах тыпу *бог* (*алах*) *яго ведае*, *дай божа*, *дзякаваць богу*, *алах з ім*, а таксама агульныя назвы ўяўных істот: *анёл*, *херувім*, *муза*, *лясун*, *гном*, *троль* і інш.;

• усе словы ў назвах дзяржаўных і нацыянальных, ваенных і культурных рэліквій: *Сцяг Перамогі*, *Крыж Еўфрасінні Полацкай*, *Помнік Перамогі*, *Востраў Слёз*, *Курган Славы*;

• усе словы ў поўных назвах ордэнаў, медалёў (акрамя слоў *ордэн*, *медаль*, *ступень*): *ордэн Францыска Скарыны*, *ордэн Славы I ступені*, *ордэн Пашаны*, *Георгіеўскі Крыж*; **але**: *ордэн Дружбы народаў*;

• першае слова ў назвах дзяржаўных сімвалаў, прэмій, грамат, прызоў і інш.: *Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь*, *Ганаровая грамата Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*, *Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь*, *Нобелеўская прэмія*, *Кубак свету*, *Каралеўскі кубак*;

• прыметнікі ва ўласных назвах, калі яны паказваюць прыналежнасць (утвораны пры дапамозе суфіксаў **-ев-** **(-ёв-**, **-ёў-)**, **-ов-** **(-ав-**, **-оў-)**, **-ін-** **(-ын-)** ад уласных імёнаў, мянушак, клічак жывёл) або ўваходзяць у склад назваў, сінанімічных словам *імя*, *памяці*: *Танін сшытак*, *Купалава паэма*, *Барсікава міска*; *Коласаўская прэмія* (*прэмія імя Коласа*), *Купалаўскі сквер*, *Танкаўскія чытанні*;

• складанаскарочаныя словы, утвораныя ад афіцыйных назваў дзяржаўных устаноў (калі першая частка ў поўным слове пішацца з вялікай літары): *Белтэлерадыё*, *Мінфін*, *Дзяржплан*.

З малой літары пішуцца:

• імёны і прозвішчы, якія ўжываюцца ў значэнні агульных назоўнікаў: *гарлахвацкія*, *плюшкін*, *донжуан*;

• назвы міфалагічных істот, якія ператварыліся ў агульныя: *лясун*, *русалка*, *німфа*, *дамавік*;

• артыклі і часціцы ў іншамоўных уласных імёнах*: Лопэ дэ Вега*, *Людвіг ван Бетховен*, *Леанарда да Вінчы*;

• прыметнікі, утвораныя ад асабовых назваў, якія ўжываюцца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў або ў складзе састаўных агульных назваў: *гордзіеў вузел*, *ахілесава пята*, *дамоклаў меч*, *пірава перамога*, *напалеонаўскія планы*, *рэнтгенаўскі здымак*, *гегелеўская дыялектыка*;

• прыметнікі, утвораныя ад уласных назваў з дапамогай суфіксаў **-аўск-**, **-еўск-**, **-анск-**, **-інск-** **(-ынск-)**, акрамя назваў, сінанімічных словам *імя*, *памяці*: *коласаўскія мясціны*, *купалаўскія персанажы*, *мележаўскія раманы*, *нёманскія краявіды*, *сочынскія курорты*; **але**: *Купалаўскія чытанні*, *Мележаўская прэмія*;

• назвы парод жывёл: *балонка*, *дог*, *пудзель*;

• словы *сонца*, *месяц*, *зямля*, калі яны не з'яўляюцца назвамі нябесных цел;

• назвы нацыянальнасцей, плямёнаў, а таксама словы, якія паказваюць на месца пражывання: *грузіны*, *армяне*, *дрыгавічы*, *крывічы*, *беларус*, *мінчанін*;

• назвы чалавека, утвораныя ад асабовых імёнаў, якія паказваюць на яго прыналежнасць або прыхільнасць да чаго-небудзь або каго-небудзь: *купалавец*, *магаметанін*, *дзянікінец*, *талстовец*.

**74.** Запішыце па пяць слоў, якія абазначаюць:

1) назвы беларускіх газет і часопісаў;
2) геаграфічныя назвы;
3) назвы гістарычных эпох і падзей;
4) назвы беларускіх міфічных істот;
5) назвы адукацыйных устаноў Беларусі.

**75.** Запішыце выразы з прыведзенымі словамі.

Беларускі — беларускі, Дзень — дзень, Зорка — зорка, Багдановічаўскія — багдановічаўскія, Усход — усход, Савет — савет, Мінскі — мінскі, Палац — палац.

**76.** Спішыце сказы, выбіраючы з дужак патрэбную літару.

1. Быў час, калі кожнага адзіночнага наведвальніка (Л/л)ітаратурнага (М/м)узея (Я/я)нкі (К/к)упалы мы, навукоўцы, суправаджалі (*К. Курбека*). 2. Упершыню (К/к)упалаўскае і (К/к)оласаўскае слова пачуў я, будучы невялікім хлапчуком, у салдацкай чытальні (*С. Шушкевіч*). 3. У час (Д/д)ругой (С/с)усветнай (В/в)айны крыж кудысьці знік. Але абавязкова наступіць дзень, калі (К/к)рыж (Е/е)ўфрасінні (П/п)олацкай вернецца на (Б/б)еларусь... (*У. Ягоўдзік*). 4. На плошчы перад (З/з)амкавай (Б/б)рамай — шумны рынак. Цяпер гэта плошча 8 (С/с)акавіка, а ў тыя часы яна называлася проста (Н/н)іжнім (Р/р)ынкам (*В. Вольскі*). 5. Якраз тою парою адкрылася ў (П/п)алацы (М/м)астацтваў выстаўка (*Х. Лялько*).

**77.** Прачытайце тэкст, сфармулюйце яго асноўную думку. Растлумачце выбар з дужак вялікай ці малой літары.

БРЭСТЧЫНА

Наша (Б/б)рэстчына, як мала які куток (Б/б)еларусі, мае багатую прыроду і слаўную гісторыю.

Многа слаўных падзей адбылося на (Б/б)рэстчыне ў далёкім мінулым. Тут, у (Б/б)елавежскай (П/п)ушчы, (Я/я)гайла і (В/в)ітаўт рабілі запасы мяса для войска перад паходам (К/к)рыжаносцаў, які ўвянчаўся пераможнай (Г/г)рунвальдскай (Б/б)ітвай. Праз (Б/б)рэстчыну праходзілі палкі (П/п)ятра (П/п)ершага, тут яны біліся са (Ш/ш)ведамі. Тут праводзіў свае войскі (С/с)увораў, і, як сведчыць паданне, славуты палкаводзец адпачываў пад вялізным дубам, што стаіць пры дарозе, якая вядзе з (К/к)обрына на (Д/д)зівін.

Але самыя велічныя падзеі адбыліся на (Б/б)рэстчыне не тысячы і не сотні гадоў таму. Гэта барацьба мясцовых жыхароў за вызваленне ад прыгнёту цара, а потым (П/п)ольскай буржуазіі. Гэта славутая абарона (Б/б)рэсцкай (К/к)рэпасці ў першыя дні (В/в)ялікай (А/а)йчыннай (В/в)айны...

Адкуль бы вы ні ехалі ў (Б/б)рэст, на любой дарозе сустрэнеце помнікі гэтай гістарычнай барацьбы (*Паводле У. Калесніка*).

**78.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі.

Ёсць у нашага народ.. добры звычай — збірацца «на б..седу», гэта значыць на сустрэчу родных, блізкіх, знаёмых людзей, каб разам адзначыць с..мейнае свята, пагутарыць, пав..с..ліцца і пасумаваць, пасп..ваць і патанчыць. Словам, імя ансамбль абраў с..бе вельмі трапнае — «(Б/б)..седа».

Н..зменны мастацкі кіраўнік ансамбля — в..домы кампазітар, (З/з)аслужаны (Д/д)зе..ч (М/м)астацтваў, (Л/л)аўр..ат (Д/д)з..ржаўнай (П/п)рэміі (Б/б)еларусі Леанід Захлеўны. У кал..к-тыве працуюць як (З/з)аслужаныя (А/а)ртысты (Б/б)еларусі, так і н..даўнія выпускнікі (Б/б)еларускай (Д/д)з..ржаўнай (А/а)кад..міі (М/м)узыкі. «Усе ўдзельнікі нашага кал..ктыв.. шчыра любяць беларускі фальклор, выдатна валодаюць народнай манерай выканання, — гаворыць Л. Захлеўны. — Асноўная мэта нашай працы — запіс(?) н..в..-домых ці мала(?) в..домых беларускіх народных песен(?). Галоўнае ў апрацоўках — ід..альна захаваць пры аранж..роўцы м..ладычную лінію песні».

Ансамбль «(Б/б)..седа» ведаюць не толькі (Б/б)еларускія слухачы, але і аматары і знаўцы фальклору ў (Ш/ш)вецыі, (Г/г)ерманіі, (П/п)ольшчы, (К/к)арэі, дзе ансамбль з поспехам удзельнічаў у (М/м)іжнародных (Ф/ф)альклорных (Ф/ф)..стывалях (*Паводле Т. Песнякевіч*).

- Растлумачце ўжыванне вялікай і малой літар у словах.
- Назавіце вядомыя вам песні з рэпертуару ансамбля «Бяседа».

• Растлумачце розніцу ў лексічных значэннях беларускага слова «бяседа» і рускага «беседа». Як называюцца падобныя пары слоў?

**79.** Устанавіце адпаведнасць паміж датамі і дзяржаўнымі святамі, святочнымі і памятнымі днямі. Запішыце, раскрываючы дужкі.

| | |
|---|---|
| а) 15 сакавіка<br>б) 2 красавіка<br>в) другая нядзеля мая<br>г) 9 мая<br>д) 3 ліпеня<br>е) 23 лютага<br>ж) 8 сакавіка<br>з) 1 мая<br>і) 22 чэрвеня<br>к) 9-ы дзень пасля праваслаўнага (В/в)ялікадня | 1) (Д/д)зень (П/п)ерамогі<br>2) (Д/д)зень (Ж/ж)анчын<br>3) (Д/д)зень (К/к)анстытуцыі<br>4) (Д/д)зень (Д/д)зяржаўнага (С/с)цяга (Р/р)эспублікі (Б/б)еларусь і (Д/д)зяржаўнага (Г/г)ерба (Р/р)эспублікі (Б/б)еларусь<br>5) (Р/р)адаўніца<br>6) (Д/д)зень (А/а)баронцаў (А/а)йчыны і (У/ў)зброеных (С/с)іл (Р/р)эспублікі (Б/б)еларусь<br>7) (Д/д)зень (У/у)сенароднай (П/п)амяці (А/а)хвяр (В/в)ялікай (А/а)йчыннай (В/в)айны<br>8) (Д/д)зень (Я/я)днання (Н/н)ародаў (Б/б)еларусі і (Р/р)асіі<br>9) (С/с)вята (П/п)рацы<br>10) (Д/д)зень (Н/н)езалежнасці |

# ПРАВАПІС НАЗОЎНІКАЎ

## Напісанне складаных назоўнікаў разам і праз злучок

Пішуцца **разам**:

1) складаныя назоўнікі, утвораныя спалучэннем дзвюх і больш асноў пры дапамозе злучальных галосных **о (а)**, **е (я)** або без іх: *ільновалакно*, *вадалаз*, *самалёт*, *птушкагадоўля*, *землетрасенне*, *краявід*; *сельсавет*, *газпрам*, *філфак*, *медсястра* і інш., а таксама часткі складаных субстантываваных прыметнікаў: *ваеннапалонны*, *лёгкапаранены*, *галоўнакамандуючы*, *вольнанаёмны*;

2) назоўнікі з першай часткай **авія-**, **аўта-**, **касма-**, **кіна-**, **тэле-**, **мота-**, **фота-**, **электра-**, **контр-**, **супер-**, **дыс-**, **дэз-** і інш.: *авіяпалёт*, *аўтакалона*, *касмадром*, *кінапраект*, *тэледэбаты*, *мотапрабег*, *фотакопія*, *электравоз*, *контрагент* (**але**: *контр-адмірал*), *супергерой*, *дэзактывацыя*, *дыскваліфікацыя*;

3) назоўнікі, у якіх першай часткай з'яўляецца дзеяслоўная форма на **-і (-ы)**: *вярнідуб*, *вярцішыйка*, *пакацігарошак*, *сарвігалава*, *прайдзісвет*; **але**: *перакаці-поле*, *узвей-вецер*;

4) складаныя ўласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай **нова-**, **стара-**, **верхне-**, **ніжне-**, **сярэдне-** і інш.: *Наваполацк*, *Новалукомль*, *Навагрудак*, *Старабарысаў*, *Верхнядзвінск*, *Краснаполле*, *Светлагорск*; а таксама ўласныя назвы паселішчаў з канцавой часткай **-град (-гарад)**: *Петраград*, *Слаўгарад*, *Белгарад*, *Ужгарад*, *Ноўгарад*;

5) назоўнікі, першай часткай якіх з'яўляецца лічэбнік, напісаны літарамі: *шасцікласнік*, *пяцігодка*, *шасцігgranнік*, *сямідзесяцігоддзе*.

Пішуцца **праз злучок**:

1) складаныя назоўнікі, утвораныя з дзвюх і больш слоў, якія спалучаюцца без злучальных галосных: *заяц-бяляк*, *лён-даўгунец*, *настаўнік-фізік*, *мастак-пейзажыст*, *жар-птушка*, *сон-трава*, *стоп-сігнал*, *генерал-маёр*, *прэм'ер-міністр*, *ліберал-дэмакрат*, *нацыянал-патрыёт*;

2) складаныя назоўнікі са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна*, *самалёта-вылет*, *чалавека-дзень* (**але**: *працадзень*);

3) складаныя назоўнікі з пачатковай часткай **віцэ-**, **лейб-**, **максі-**, **міні-**, **обер-**, **унтэр-**, **штаб- (штабс-)**, **экс-**: *віцэ-прэм'ер*, *лейб-гвардыя*, *максі-мода*, *міні-матч*, *обер-майстар*, *унтэр-афіцэр*, *штабс-капітан*, *экс-чэмпіён*;

4) састаўныя прозвішчы і імёны і іншыя ўласныя назвы: *Бялыніцкі-Біруля*, *Дунін-Марцінкевіч*, *Жан-Жак Русо*, *Жак-Іў Кусто*, *Аўстра-Венгрыя*, *Буда-Кашалёва*, *Давыд-Гарадок*; а таксама ўласныя геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца спалучэннем назоўніка з назоўнікам у месным склоне і прыназоўнікам *на* ці іншамоўнымі спалучэннямі слоў: *Растоў-на-Доне*, *Франкфурт-на-Майне*, *Па-дэ-Кале*;

**!** Калі ў назве, якая складаецца з двух і больш назоўнікаў, першы абазначае родавае паняцце, а другі з'яўляецца ўласным іменем, яны пішуцца асобна: *рака Нёман*, *горад Мінск*, *узвышша Мінскае*, *дзед Янка*;

5) іншамоўныя назвы прамежкавых напрамкаў свету: *норд-ост*, *норд-вест*, *зюйд-ост*, *зюйд-вест*;

6) уласныя геаграфічныя назвы з першай часткай **паў-**: *паў-Слуцка*, *паў-Беларусі*, *паў-Еўропы*; **але** з агульнымі назоўнікамі: *паўяблыка*, *паўметра*.

**!** Назоўнікі з прыназоўнікамі і два назоўнікі, адзін з якіх ужыты ў назоўным склоне, а другі ў творным, пішуцца асобна: *з вока на вока*, *дзень у дзень*, *раз за разам*; *век вяком*, *чалавек чалавекам* і інш.

**80.** Запішыце, раскрыўшы дужкі.

(Жур) фак, (насцен) газета, (праф) саюз, (гусі) лебедзі, (шляхі) дарогі, (контр) удар, (віцэ) губернатар, (паў) Мінска, (тэле) студыя, (школа) інтэрнат, (паў) месяца, (Міклуха) Маклай, (борт) інжынер, (васьмі) (дзесяцi) годдзе, (вада) сховішча, (авія) дэсант, (шасці) класнік, (супер) вокладка.

**81.** Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна.

1) чатырохвугольнік, нордост, інжынер-эканаміст, электра-чайнік, баяздольнасць;

2) даўгалецце, кінакрытык, міні-спадніца, тона-кіламетр, паўвостраў;

3) фотамантаж, прыма-балерына, лёгка-атлет, віцэадмірал, Сокалаў-Воюш;

4) перша-праходзец, Верхне-азёрск, авіяшоу, прэс-сакратар, трохсот-годдзе;

5) рыбапрадукты, танцпляцоўка, контрразведка, капітан-лейтэнант, гарыцвет.

• Запішыце словы, у якіх дапушчаны памылкі, згодна з арфаграфічнымі нормамі. Растлумачце іх правапіс.

---

**Правільнасць маўлення**

### ДЫС... – ДЭЗ...

**Дыс-** — прыстаўка, якая абазначае парушэнне, разлад, страту чаго-небудзь; адпавядае па значэнні прыстаўкам *раз*-, *не*-: *дыскамфорт*, *дысгармонія*.

**Дэз-** — прыстаўка, якая абазначае выдаленне, знішчэнне, спыненне або адсутнасць чаго-небудзь: *дэзарыентацыя*, *дэзарганізацыя*, *дэзынфармацыя*.

---

**82.** Запішыце назоўнікі, якія маюць наступныя лексічныя значэнні.

1. Від матацыкла з коламі невялікага дыяметра. 2. Пазбаўленне кваліфікацыі, права займаць якую-небудзь пасаду, выконваць абавязкі, удзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах і г. д. з-за неадпаведнасці прафесійным умовам або правілам. 3. Знішчэнне заразных мікробаў спецыяльнымі сродкамі, абеззаражванне. 4. Паўднёвы ўсход, паўднёва-ўсходні напрамак; паўднёва-ўсходні вецер. 5. Старшыня кабінета міністраў у некаторых краінах. 6. Сустрэчная атака, якую арганізоўваюць з мэтай адбіць наступленне праціўніка або самому перайсці

ў наступленне. 7. Ніжэйшае адміральскае званне, а таксама асоба, якая мае гэта званне. 8. Уладальнік многамільённага багацця, капіталу. 9. Сустрэча дзяржаўных, палітычных, грамадскіх ці навуковых дзеячаў з прадстаўнікамі друку для паведамлення якіх-небудзь звестак. 10. Званне малодшага каманднага саставу ў царскай арміі і некаторых іншых арміях, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Для даведкі**: *зюйд(?)ост*, *унтэр(?)афіцэр*, *дэз(?)ынфекцыя*, *мульты(?)мільянер*, *контр(?)адмірал*, *мота(?)ролер*, *прэс(?)канферэнцыя*, *дыс(?)кваліфікацыя*, *контр(?)атака*, *прэм'ер(?)міністр*.

**83.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне слоў разам, праз злучок ці асобна.

1. Напалеон Орда становіцца (мастаком) вандроўнікам, ён аб..-ездзіў амаль (паў) Еўропы, кожны раз прывозячы з падаро..аў сотні малюнкаў, аквар..ляў... (*Л. Пракопчык*). 2. Больш за (паў) века хвалюе людзей гэта зага..ка (*К. Тарасаў*). 3. Неба др..гацела час (ад) часу, асвятляючыся бл..скавіцамі ад далёкага магутнага грому (*Я. Колас*). 4. Два (хлапчукі) матросы паспешліва (з/с)цягнулі сходні на палубу, і мы пачалі адыходзіць ад берага (*І. Мележ*). 5. Паводле л..генды, Рагвалод паслаў свайго брата Тура на по..дзень, і той заснаваў на рацэ Прыпяць (горад) крэпасць Тураў і стаў першым тураўскім князем (*У. Бутрамеей*). 6. Часам Чаховіч уголас чытаў свайму (госцю) падлетку ўрыўкі з забароненых кніг (*З. Бандарына*). 7. Уладзімір Караткевіч быў з пароды тых (жыцц..) любаў, якія ўсё радзей сустракаюцца ў нашым жыцці... (*В. Быкаў*). 8. У дзяцінстве Беларусь, усё яе хара..тво, усё бага..е ўмяшчалася ў (края) відах, на якія нельга было наглядзецца і якім не было (канца) краю (*У. Калеснік*).

## Правапіс суфіксаў назоўнікаў

1. Суфікс **-ак** пішацца, калі пры змяненні назоўніка галосны ў суфіксе выпадае: *лісточак — лісточка*, *вяночак — вяночка*, *замочак — замочка*, *пясочак — пясочка*, *куточак — куточка*. Суфіксы **-ык (-ік)**, **-чык**, **-нік** пішуцца, калі галосны пры змяненні слова не выпадае: *зайчык — зайчыка*, *ножык — ножыка*, *домік — доміка*, *столік — століка*, *настаўнік — настаўніка*.

2. Суфікс **-ачк-** пішацца ў назоўніках пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных, суфікс **-ечк-** пішацца пасля мяккіх зычных: *мамачка (мама)*, *ночачка (ноч)*, *Сашачка (Саша)*; *матулечка (матуля)*, *Толечка (Толя)*.

❗ Пасля мяккага **н** перад суфіксамі **-чык-**, **-к-** пішацца мяккі знак: *прамень — праменьчык*, *вішня — вішанька*, *песня — песенька*, *Ваня — Ванька*.

3. Суфіксы **-ец**, **-інец**, **-янец** (пасля галосных і мяккіх зычных), **-ац**, **-ынец**, **-анец** (пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных) пішуцца ў назоўніках мужчынскага роду: *баязлівец*, *гасцінец*, *мічурынец*, *валожынец*, *кубінец*, *бакінец*, *італьянец*; *горац*, *швейцарац*, *сочынец*, *амерыканец*, *мараканец*.

У назоўніках жаночага роду пішуцца суфіксы -**іц**-, -**ніц**- (пасля мяккіх зычных), -**ыц**- (пасля цвёрдых і зацвярдзелых): *вадзіца*, *лісіца*, *рукавіца*, *салатніца*, *грыбніца*; *царыца*, *імператрыца*, *сястрыца*, *ваўчыца*.

4. У назоўніках, якія абазначаюць род заняткаў, пасля **д**, **т**, **з**, **с**, **ж** пішацца суфікс -**чык (-чыц-)**: *выкладчык*, *ракетчык*, *грузчык*, *перабежчык*, *заказчыца*, *перапісчыца*, *разведчыца*. Пасля іншых зычных пішацца суфікс **-шчык (-шчыц-)**: *выбаршчык*, *экскаватаршчык*, *наборшчыца*, *табельшчыца*.

❗ Пасля мяккага **л** перад суфіксам **-шчык-** пішацца мяккі знак: *вугальшчык*, *бурыльшчык*.

5. Спалучэнне **цтв** пішацца ў назоўніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-ств-** ад слоў, якія заканчваюцца на **к**, **т**, **ц**, **ч** (зычныя **к**, **т**, **ц**, **ч** зліваюцца з суфіксальным **с** і даюць **ц**): *мастак — мастацтва*, *чалавек — чалавецтва*, *студэнт — студэнцтва*, *выдавец — выдавецтва*, *ткач — ткацтва*.

Зычныя **г**, **ж**, **х**, **ш** перад суфіксам **-ств-**, згодна з вымаўленнем, на пісьме не перадаюцца: *многа — мноства*, *прыгожы — прыгоства*, *птах — птаства*, *таварыш — таварыства*, *хараша — хараство*.

Зычны **д** перад суфіксам **-ств-** перадаецца нязменна: *сусед — суседства*, *грамада — грамадства*, *ваявода — ваяводства*.

6. Назоўнікі, утвораныя ад прыметнікаў на **-цкі** або ад назоўнікаў на **-цк** з дапамогай суфікса **-ін- (-ын-)**, пішуцца з двума **чч**: *Клецк — Клеччына*; *Полацк — Полаччына*; *беластоцкі — Беласточчына*. У назоўніках, утвораных ад асноў на **д**, **т**, пішацца адна літара **ч**: *Брэстчына*, *салдатчына*, *старасветчына*. Ад назоўнікаў на **-ск** назоўнікі са значэннем рэгіёна ўтвараюцца з дапамогай суфікса **-шчын-**: *Глуск — Глушчына*, *Віцебск — Віцебшчына*.

**84.** Спішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

Бра..тва, мно..тва, пта..тва, тавары..тва, грама..тва, кружоч..к, замоч..к, вынахо..тва, ножыч..к, дождж..к, парахо..тва, выдаве..тва, каласоч..к, карміл..ц, нарыхтоў..ык, пераплё..ык.

**85.** Утварыце і запішыце ад прыведзеных слоў назоўнікі з суфіксам **-ін- (-ын-)**.

*Узор*: Полацк — Полаччына.

Слуцк, Брэст, нямецкі, валагодскі, Беласток, Добруш, Мінск, Смаленск, навагрудскі, Бабруйск, турэцкі.

**86.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі.

1. Мастак слова амаль непрыкметна пераходзіць ад аднаго спосабу выкладу да другога: скажам, ад апісання прыроды да... паэтызацыі лю..-скога хара..тва (*А. Каўрус*). 2. Пасля заканчэння школы ў Мікалаеў..ыне Кастусь два гады рыхтаваўся да паступлення ў (Н/н)ясві..скую (Н/н)астаўні..кую с..мінарыю (*С. Александровіч*). 3. Грама..ства (з/с)рушылася з месца, і ніхто яго не (з/с)пыніць... (*С. Шаўцоў*). 4. Лабановіч цэлымі гадзінамі праседжвае ў воласці каля а..чыненага (?)акна, любуецца прасторамі балот, поўнымі сво..асаблівага прыго..тва жыцця (*Я. Колас*). 5. Колькі перадумалася тут, на гэтай выгінастай, высыпанай дробнымі камен(?)чыкамі сце..цы... (*В. Адамчык*). 6. Я бачыў, як зага..чыца не то збянтэжана, не то ра(з/с)гублена зірнула на мяне... (*Я. Скрыган*). 7. Ад маёнтка да в..лікага грунтавога шляху, які ішоў ад Гомель..ыны цераз Бабруй..ыну на В..лікае скрыжаванне з (М/м)аскоўскаю (Ш/ш)ашою на Слу..ыне, было кіламетраў пад сем(?)дз..сят (*К. Чорны*).

**87.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

Хто з нас не быў па-сапраўднаму (с/ш)часлівы, калі прыходзіў у лес і вяртаўся а(д/т)туль з поўным кош..кам грыбоў.

Вы..дзеш на ўзлес..е, сядзеш на зарослую сунічнай травой купіну і з радас(?)цю агл..даеш сабранае л..снoе багац..е. Вось зоркавае б..розавае семя янтарнай кропел..кай упала на тугі карэн..чык маладзен..-кага барав..чка. Гарыць яно ў змрочнай прахалодзе хваёвага лесу жывой іскр..нкай. Шмат грыбоў у нашым краі! Толькі не л..нуйся, збірай! (*Паводле Л. Кацкевіча*).

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў першага скланення

У ***давальным*** і ***месным склонах*** канчаткі назоўнікаў першага скланення **(-е**, **-і**, **-ы**, **-э)** залежаць ад апошняга зычнага асновы і месца націску.

Канчатак **-е** маюць назоўнікі з асновай:

• на цвёрдыя зычныя, якія чаргуюцца з мяккімі: *сцян-а — сцян-е, на сцян-е*; *вад-а — вадз-е, у вадз-е*; *хат-а — хац-е, у хац-е*;

• на **г**, **х**, якія чаргуюцца з мяккімі **з**, **с**: *дарог-а — дароз-е, у дароз-е*; *страх-а — страс-е, на страс-е*;

Канчатак **-і** маюць назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і **й**: *вол-я — вол-і*; *хімі-я — хімі(й)-і*.

Канчатак **-ы** маюць назоўнікі з асновай:

• на зацвярдзелы: *веж-а — веж-ы*; *кватэр-а — кватэр-ы*; *прац-а — прац-ы*;

• на **к**, які чаргуецца з **ц**: *навук-а — навуц-ы*; *пчолк-а — пчолц-ы*.

Канчатак **-э** маюць назоўнікі з асновай на **к** (які чаргуецца з **ц**) і націскным канчаткам: *рук-а — руц-э*; *дачк-а — дачц-э*.

! Як і назоўнікі першага скланення змяняюцца асабовыя імёны, прозвішчы (якія належаць асобам жаночага полу) і геаграфічныя назвы, якія заканчваюцца на **-а**, **-я**: *Скарына Алена — Скарыны Алены*, *Скарыне Алене*, *Скарыну Алену*, *Скарынай Аленай*, *пры Скарыне Алене*; *Аўстралія — Аўстраліі*, *Аўстраліі*, *Аўстралію*, *Аўстраліяй*, *у Аўстраліі*.

**88.** Запішыце назоўнікі ў родным, давальным і месным склонах. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Баразна, чаромха, дывізія, глеба, мяжа, Саладуха Вольга, Каляда Марына, жменя, салата, батлейка, Чэхія, перамога, пакоша, цыбуля, саха, кватэра, крыга.

**89.** Запішыце словы па-беларуску. Абазначце склон і канчаткі назоўнікаў, падкрэсліце зычныя, якія чаргуюцца ў аснове.

Наука — в науке, республика — по республике, книга — в книге, лодка — в лодке, нога — на ноге, река — в реке, рука — в руке, посадка — при посадке, уборка — на уборке, звездочка — на звездочке, печка — в печке, Африка — в Африке.

**90.** Спішыце сказы з твораў Б. Сачанкі, ставячы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбную склонавую форму.

1. Выпіўшы шклянку халоднага кампоту, я падзякаваў (афіцыянтка), якая падавала мне абед, і пакінуў сталоўку. 2. Мы спакваля ішлі па гэтай (дарожка) і, помніцца, гаварылі пра жыццё, літаратуру. 3. Ва ўніверсітэце я не вылазіў з (бібліятэка), а як толькі займеў сякія-такія грошы, пачаў купляць кнігі сам. 4. Сядзіць-сядзіць [Адам] на (лавачка) ля хаты ці на прызбе ў двары — і галаву нізка ў (скруха) апусціць. 5. Нейкая невядомая сіла, нібы наканаванне, вабіла мяне, цягнула ехаць менавіта па гэтай (сцежка). 6. У куце, у зашклёнай (шафка), — пінжак, штаны, кашуля, туфлі... 7. Пра свае турботы я сказаў (Вольга) Ігнатаўне. 8. Жыла Валя ў (бабка), бацькавай маці, а як скончылася вайна — пераехала ў горад...

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў другога скланення

Назоўнікі другога скланення **мужчынскага роду** ў ***родным склоне*** маюць канчатак **-а (-я)** або **-у (-ю)**, што залежыць ад лексічнага значэння слова.

Канчатак **-я** (пасля мяккіх зычных) і канчатак **-а** (пасля ўсіх астатніх зычных) маюць назоўнікі, якія абазначаюць: 1) назвы канкрэтных прадметаў, якія паддаюцца лічэнню: *стала*, *трактара*, *інстытута*, *жолуда*, *грыба*, *мяшка*; 2) агульныя і ўласныя назвы асоб і жывых істот: *чалавека*, *трактарыста*, *брата*, *Васіля*, *вожыка*, *аленя*, *шчупака*; 3) органы і часткі цела чалавека, жывёлы: *носа*, *зуба*, *пальца*, *языка*, *хваста*; **але**: *твару*; 4) навуковыя і тэхнічныя тэрміны: *квадрата*, *алфавіта*, *верша*, *назоўніка*, *сказа*, *выказніка*, *атама*; **але**: *тэксту*, *ліку*, *склону*, *роду*, *націску*, *перакладу*; 5) назвы арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, вайсковых падраздзяленняў: *універсітэта*, *ліцэя*, *завода*, *аддзела*, *факультэта*, *гарнізона*, *штаба*; 6) адзінкі розных вымярэнняў (назвы мер даўжыні, вагі, плошчы, аб'ёму, часу і інш.): *сантыметра*, *кілаграма*, *панядзелка*, *месяца*, *рубля*, *вольта*; **але**: *веку*, *ранку*; 7) агульныя і ўласныя назвы населеных пунктаў, геаграфічныя і астранамічныя назвы: *горада*, *раёна*, *акіяна*, *праспекта*, *Мінска*, *Юпітэра*; 8) назвы танцаў, абрадаў, народных, спартыўных і картачных гульняў: *танца*, *вальса*, *Купалля*, *футбола*, *бокса*, *пасьянса*.

Канчатак **-ю** (пасля мяккіх зычных) і канчатак **-у** (пасля ўсіх астатніх зычных) маюць:

1) абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць паняцці, якасці, прыметы, дзеянні, працэсы: *ідэалу*, *крызісу*, *вопыту*, *патрыятызму*, *гумару*, *характару*, *прынцыпу*, *поспеху*, *перапісу*, *ад'езду*; стан, розныя адчуванні, пачуцці: *гневу*, *страху*, *настрою*, *болю*, *сораму*, *смутку*, *спакою*; навуковыя тэорыі, вучэнні, грамадскія фармацыі: *феадалізму*, *атэізму*, *гуманізму*, *рэалізму*, *дарвінізму*, *нацыяналізму*, *тэрарызму*; прасторавыя, часавыя паняцці: *верху* (**але**: *вяршок — вяршка*), *космасу*, *лугу* (**але**: *лужок — лужка*), *узлеску*, *саду* (**але**: *садок — садка*), *краю*, *усходу*, *захаду* (**але**: *з поўдня*), *памеру*, *часу*, *тэрміну*, *сусвету*; з'явы прыроды, стыхійныя бедствы: *граду*, *ветру*, *агню*, *холаду*, *урагану*, *смерчу*; розныя захворванні: *грыпу*, *бранхіту*, *радыкуліту*;

2) рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць уласна рэчывы, хімічныя элементы, матэрыял, прадукты харчавання, лекі і пад.: *кіслароду*, *магнію*, *пяску*, *торфу*, *металу*, *чаю*, *шакаладу*, *алею*, *супу*, *валідолу*, *аспірыну*; **але**: *хлеба*, *айса*;

3) зборныя назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў як адно цэлае: *натоўпу*, *калектыву*, *хору*, *флоту*, *алешніку*, *бярэзніку*, *гушчару*, *ячменю*, *мурашніку*, *парку*; **але**: *экіпажа*, *табуна*, *статка*.

**!** Канчаткі **-а (-я)** маюць назоўнікі, што абазначаюць картачныя і шахматныя фігуры: *даць караля*, *адкрыць валета*, *аддаць слана*. З канчаткам **-а** ў вінавальным склоне, як і ў родным, ужываюцца назоўнікі *нябожчык*, *мярцвяк*, *тапелец*: *знайшлі тапельца*, *успомнілі нябожчыка*.

**91.** Запішыце назоўнікі ў родным склоне, растлумачце правапіс канчаткаў.

Будынак, гіпс, гераізм, пратэст, хутар, хлеб, інтэграл, сухавей, гай, канчатак, валейбол, густ, куфар, аўторак, праклён, жаль, экспанат, натрый, Буг, цукар, грам, пасёлак, крыжачок, посуд, рыцар, скарб, капіталізм, інстытут, чай, чайнік.

**92.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.

1. Сухія в..тры дз..мулі да канца лістапад.. (*К. Чорны*). 2. Вайна! Каго толькі не апаліла яна, на чыім сэр..цы не пакінула шрамаў, кр..вавага бол.. (*Б. Сачанка*). 3. Госць утаропіў у яе вочы, быццам намага-

ючыся ўспомніць, ра..пазнаць рысы яе твар.. (*Э. Ажэшка*). 4. Пчаляры прыкм..чалі: калі дажд..лівы дзень на Пакровы — на наступны год пчолы зб..руць багата мёд.. (*У. Васілевіч*). 5. Віктар схамянуўся і таксама пакаціўся ад смех.. (*Я. Майр*). 6. Раман Драгун угледз..ў каля плот.. трухлявы пянчук, летам яшчэ прывезены ім з лес.. (*К. Чорны*). 7. Сярод (стэп) відаць каля вады высокія дрэвы адзінокага (хутар) (*Я. Баршчэўскі*).

---

**Правільнасць маўлення**

### ДУБА – ДУБУ, ЛІСТАПАДА – ЛІСТАПАДУ

У залежнасці ад значэння ў родным склоне могуць ужывацца канчаткі **-а (-я)** або **-у (-ю)**: *сядзець ля дуба*, *ясеня* (асобныя дрэвы), але *бочка з дубу*, *шафа з ясеню* (матэрыял, з якога выраблены прадмет); *сабралася шмат народу* (значэнне зборнасці) і *беларускага народа*; *на лузе шмат рамонку* (сукупнасць прадметаў) і *кветка рамонка* (адна расліна); *у пачатку лістапада* (назва месяца) і *пачатак лістападу ў парку* (ападанне лісця); *чакаць каля пад'езда* (ува ход у будынак) і *да ракі не было пад'езду* (дзеянне паводле дзеяслова *пад'язджаць*, *пад'ехаць*); *геаграфічнага атласа* і *сукенка з атласу* (матэрыял); *тэніснага корта* і *штаны з корту* (тканіна); *грашовага перавода* і *чакаць пераводу на новае месца працы.*

---

**93.** Прачытайце прыказкі, ставячы назоўнікі, што ў дужках, у неабходную форму. Растлумачце ўжыванне канчаткаў гэтых назоўнікаў.

1. Адны багацця (лік) не маюць, другія з (голад) паміраюць. 2. Зіма без (снег) — восень без (хлеб). 3. Ёсць хлеб — (сок) няма, ёсць сок — (хлеб) няма. 4. Лепш мець лішняга (сябар), чым лішняга (вораг). 5. З вялікага (гром) малы дождж. 6. Век пражыў, а (розум) не нажыў. 7. За працаю (свет) не бачыць.

Назоўнікі другога скланення ў ***месным склоне*** ўжываюцца з канчаткамі **-е**, **-у (-ю)**, **-ы**, **-і**. Выбар канчатка залежыць ад таго, на які зычны заканчваецца аснова, і ад значэння назоўніка.

Канчатак **-е** маюць неадушаўлёныя назоўнікі з асновай на цвёрдыя зычныя і на **г**, **х**, калі яны чаргуюцца з мяккімі **з**, **с**: *стол — на стале*, *дом — у доме*, *шум — у шуме*, *акно — на акне*, *стог — на стозе*, *паверх — на паверсе*.

Канчатак **-і** маюць назоўнікі з асновай на мяккія зычныя: *агонь — у агні*, *гай — у гаі*, *музей — у музеі*, *жыццё — у жыцці*, *мадзведзь — на мядзведзі*.

Канчатак **-ы** маюць назоўнікі з асновай на зацвярдзелы: *дождж — на дажджы*, *зубр — на зубры*, *палец — на пальцы*.

Канчатак **-у** маюць назоўнікі з асновай на **г**, **к**, **х**, якія не чаргуюцца з **з**, **с**: *парк — у парку*, *мітынг — на мітынгу*, *шлях — на шляху*, а таксама назоўнікі, што абазначаюць асобу чалавека: (*пры*) *чытачу*, *мужу*, *гаспадару*, *археолагу*, *настаўніку*, *пастуху*, *Алегу*, *Янку*, *Мележу*. Назоўнікі з цвёрдай асновай, што абазначаюць асоб, ужываюцца з канчаткам **-е**: *аб сыне*, *пры браце*, *аб Коласе*, з асновай на мяккія зычныя — з канчаткам **-ю**: (*пры*) *кавалю*, *герою*, *вучню*, *Васілю*, *Алесю*, *Андрэю*.

**94.** Выпішыце словазлучэнні з назоўнікамі, якія маюць канчатак **-у**:

Пачатак крыгаход.., у канц.. сказа, выпіць бярозавік.., перыметр ромб.., нарада пры дырэктар.., размясціцца ў шатр.., праявы рамантызм.., успомніць аб кантралёр.., навучэнцы каледж.., прышчэпка ад дыфтэрыт.., сустрэцца ў красавік.. .

**95.** Спішыце сказы, ставячы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбную склонавую форму.

1. Усюды калоссе гайдалася на (вецер), нібы хвалі на (возера) (*Я. Баршчэўскі*). 2. Людзі заўсёды стараліся заснаваць паселішча на (бераг) ракі (*Л. Рублеўская*). 3. Кучаравыя цёмна-каштанавыя валасы падаюць ёй на рукі і рассыпаюцца па (стол) (Я. Колас). 4. Вада ў адным (вядро) была халодная — мусіць, нядаўна з крыніцы, і зубы Ігнатавы адразу зайшліся (*І. Чыгрынаў*). 5. Мой сад у (снег) па калена (*А. Пісьмянкоў*). 6. Дрэва расло на самым (скрыжаванне) дарог (*К. Чорны*). 7. Пры (князь Расціслаў) у (Смаленск) былі пабудаваны ўмацаванні і некалькі мураваных храмаў (*У. Арлоў*).

**96.** Запішыце па-беларуску. Абазначце канчаткі і націскі.

В снегу, о монархе, в монастыре, на краю, в семестре, на тракторе, о сыне, на лугу, в лагере, об успехе, на этаже, в саду, на корабле, на ремне, в театре.

Імёны і прозвішчы, якія заканчваюцца на зычны і належаць асобам мужчынскага полу, скланяюцца як адпаведныя асабовыя назоўнікі: Н. *Іван Мележ*, Р. *Івана Мележа*, Д. *Івану Мележу*, В. *Івана Мележа*, Т. *Іванам Мележам*, М. *(пры) Іване Мележу*. Прозвішчы на зычны, якія

належаць асобам жаночага полу, не скланяюцца: *Алена Мележ*, *Алены Мележ*, *Алене Мележ*. Прозвішчы на **-оў (-аў)**, **-еў (-ёў)**, **-ін (-ын)** у творным склоне маюць канчатак **-ым**: *Куляшоў — Куляшовым*, *Шамякін — Шамякіным* (**але**: *Дарвінам*, *Чаплінам*).

Уласныя назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць геаграфічныя ці астранамічныя назвы, а таксама назвы гарадоў, рэк, вёсак ніякага роду скланяюцца як і агульныя назоўнікі другога скланення: Н. *Месяц*, *Дняпро*, *Заполле*; Р. *Месяца*, *Дняпра*, *Заполля*; Д. *Месяцу*, *Дняпру*, *Заполлю*; В. *Месяц*, *Дняпро*, *Заполле*; Т. *Месяцам*, *Дняпром*, *Заполлем*; *(на) Месяцы*, *Дняпры*, *(у) Заполлі*.

**!** Назоўнік *двор* у залежнасці ад лексічнага значэння ў месным склоне можа мець канчатак **-ы** або **-э**: *на дварэ вельмі холадна* (не ў хаце, на вуліцы), *у нашым двары расла таполя* (каля дома).

**97.** Запішыце назоўнікі ў месным склоне. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Луг, альпініст, сябар, дарадчык, мох, лось, ліпень, артыст, слухач, гарох, кнігалюб, бераг, певень, цень, чарадзей, гонар, вясляр, маналог, нож, універмаг, Кастусь, Рыгор Барадулін, Максім Танк, Гамбург, Кітай, Замасточча, Паддуб’е.

**98.** Запішыце ў форме меснага склону імёны *Платон Галавач*, *Пятрусь Макаль*, *Васіль Зуёнак*, *Андрэй Макаёнак*, *Аляксей Карпюк* (з прыназоўнікам *пры*).

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў трэцяга скланення

У творным склоне назоўнікі трэцяга скланення маюць канчатак **-у (-ю)**: *цішшу*, *меддзю*, *гуссю*, *столлю*, *творчасцю*, *свежасцю*, *Прыпяццю*, *Нараччу*, *Свіцяззю*, *Беларуссю*.

**!** Зычны асновы ў такіх назоўніках (акрамя **б**, **ф**, **р**) падаўжаецца, калі ён стаіць паміж галоснымі: *соллю*, *маззю*, *Пціччу*, *заваддзю*. Падаўжэнне не адбываецца, калі аснова назоўніка заканчваецца збегам зычных: *свежасцю*, *радасцю*, *магчымасцю*, *зайздрасцю*, *чвэрцю*.

Пасля **б**, **ф**, **р** у творным склоне пішацца апостраф: *глыб’ю*, *верф’ю*, *шыр’ю*, *Свір’ю*. Апостраф не пішацца пасля **ў**: *кроўю*, *любоўю*.

**99.** Запішыце назоўнікі ў творным склоне, растлумачце іх правапіс.

Маладосць, сувязь, сенажаць, Сібір, памяць, свякроў, роспач, дзейнасць, ноч, чырвань, моладзь, мыш, рысь, большасць, плынь, Об, далеч, сталь, высь.

**100.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і ўжываючы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

1. Для с..лянкі, прызвыча..най быць увесь час на нагах, прайсці тры мілі было (дробязь), пра якую і гаварыць не варта (*Э. Ажэшка*). 2. Настаўнік з (цікавасць) назіраў за пал..шуком (*Я. Колас*). 3. Цяжка паверыць, што некалі хата абагр..валася (печ) без коміна (*М. Маляўка*). 4. З балот пац..гнула цёплаю (вільгаць) (*Я. Колас*). 5. Р..ка дыхнула вільготнай (свежасць) і прах..лодай (*І. Шамякін*). 6. Шэрае неба вісіць над шэраю (гладзь) вады (*В. Вольскі*). 7. Відаць заліты (чырвань) дом — узышло сонца (*В. Адамчык*).

**101.** Вызначце, у якіх словазлучэннях склонавыя формы назоўнікаў утвораны памылкова. Запішыце выразы правільна.

Пакрыты шэранью, у святле маладзіку, ударыць па цаццы, гаварыць аб майстру, аднаго цэнтнера, у ціхім гаю, настойка жэньшэня, успамінаць з горыччу.

**Мова ў дыялогу культур**

**102.** Пазнаёмцеся з успамінамі першай жанчыны-касманаўта В. Церашковай.

Мая мама, Алена Фёдараўна, нарадзілася на Віцебшчын.. ў Дубровенскім раён.. . А бацька, Уладзімір Аксёнавіч, нарадзіўся пад Магілёв.. . Абедзве мае бабулі, Матрона Цітаўна і Соф'я Якаўлеўна, размаўлялі на беларускай мове. І хаця я нарадзілася ўжо ў Расі.., у мяне ў школе былі праблемы з моваю: многія словы я вымаўляла па-беларуску. Атрымліваліся блытаныя сказы накшталт «Адчыні дверь» — адно слова беларускае, другое рускае.

Шмат што помніцца з дзяцінства. Дагэтуль стаяць перад вач.. святочныя моманты, калі бралі бацькаў гармонік і адна з бабуль спявала: «А Лявоніху Лявон палюбіў. Лявоні..е чаравічкі купіў...» У нашай сям'.. вельмі любілі ўсё, што было звязана з Беларус.. .

• Выпішыце з тэксту назоўнікі з прапушчанымі літарамі, пісьмова растлумачце правапіс канчаткаў.

*Узор*: (на) Віцебшчыне — 1 скл., М. скл., цв. асн.

• Выпраўце памылку ў «блытаным сказе».

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў рознаскланяльных назоўнікаў

Да рознаскланяльных назоўнікаў, што маюць пры змяненні канчаткі розных скланенняў, адносяцца:

- назоўнікі ніякага роду на **-я (-ё)**, **-о**, якія абазначаюць назвы маладых істот: *цяля* (*-ё*), *кураня* (*-ё*);
- тры назоўнікі на **-мя**: *імя*, *племя*, *стрэмя*;
- назоўнікі мужчынскага роду з канчаткам **-а (-я)**: *бацька*, *дзядуля*, *старшыня*;
- назоўнікі агульнага роду тыпу *плакса*, *ціхоня*, *задавака*, *сірата*.

Назоўнікі, што абазначаюць **назвы маладых істот**, у родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць канчатак **-і**, пры гэтым перад канчаткам з'яўляецца ўстаўка **-яц- (-ац-)**: *дзіцяці*, *цяляці*, *кураняці*, *птушаняці*, *хлапчаняці*. У творным склоне такіх назоўнікаў ужываецца форма з націскным канчаткам **-ём (-ом)**, пры гэтым устаўка **-яц- (-ац-)** страчваецца: *куранём*, *цялём*, *хлапчанём*. У множным ліку назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот, акрамя назоўніка *дзіця*, маюць устаўку **-ят-** і скланяюцца як і назоўнікі другога скланення*:* *птушанят*, *цялят*, *куранят*; **але**: *дзяцей*.

Назоўнікі **імя**, **племя**, **стрэмя** ў адзіночным ліку могуць скланяцца з устаўкай **-ен-** і без яе. З устаўкай **-ен-** у родным, давальным і месным склонах яны маюць канчатак **-і**: *імені*, *племені*, *стрэмені*, у творным склоне — канчатак **-ем**: *іменем*, *племенем*, *стрэменем*. Пры адсутнасці ўстаўкі яны скланяюцца як назоўнікі ніякага роду (напрыклад, *поле*, *жыццё*) з асновай на мяккі зычны: Р. *імя*, *племя*, *стрэмя*; Д. *імю*, *племю*, *стрэмю*; В. *імя*, *племя*, *стрэмя*; Т. *імем*, *племем*, *стрэмем*; М. *(у)імі*, *племі*, *стрэмі*. У множным ліку назоўнікі *імя*, *стрэмя* ўжываюцца з суфіксам **-ён-** і без яго: *імён — імёнаў*, *імяў*; *страмён — страмёнаў*, *стрэмяў*; а назоўнік *племя* — толькі з суфіксам **-ён-**: *плямён — плямёнаў.*

Назоўнікі **мужчынскага роду на -а (-я)** у родным і вінавальным склонах адзіночнага ліку маюць канчаткі назоўнікаў першага скланення: Р. *мужчыны*, *старасты*, *дзядулі*, *Міколы*, *Сашы*, *Пеці* (як і *вады*, *зямлі*); В. *мужчыну*, *старасту*, *дзядулю*, *Міколу*, *Сашу*, *Пецю* (як і *ваду*, *зямлю*).

У давальным і месным склонах напісанне канчаткаў залежыць ад характару асновы і месца націску. Канчатак **-у (-ю)**, як і ў другім скланенні, уласцівы назоўнікам з цвёрдай і мяккай асновай, калі на яе падае націск: *бацьку*, *дзядулю*, *пры бацьку*, *пры дзядулю*. Калі націск падае на канчатак, такія назоўнікі, як і ў першым скланенні, ужываюц-

ца з канчаткам **-е**: *тамадзе*, *Кузьме*, *пры Фаме*. У назоўніках з мяккай асновай ужываецца канчатак **-і**: *суддзі*, *пры старшыні*.

У творным склоне назоўнікі мужчынскага роду на **-а (-я)** з асновай на цвёрды зычны маюць ненаціскны канчатак **-ам**: *бацькам*, *дзядзькам*, націскны — **-ой (-ою)**: *Кузьмой* (*-ою*), *Фамой* (*-ою*). Назоўнікі з мяккай асновай незалежна ад націску ўжываюцца з канчаткам **-ем**, **-ёй (-ёю)**: *Міцем*, *старшынёй* (*-ёю*).

Назоўнікі **агульнага роду**, што абазначаюць **асоб мужчынскага полу**, скланяюцца як назоўнікі мужчынскага роду на **-а (-я)**: *ціхоня* — *ціхоні*, *ціхоню*, *ціхонем*, *пры ціхоню* (выключэнне: *сірата*). Назоўнікі агульнага роду, якія абазначаюць **асоб жаночага полу**, маюць склонавыя канчаткі, уласцівыя назоўнікам першага скланення: *плаксы*, *плаксе*, *плаксу*, *плаксай* (*-аю*), *аб плаксе*.

Як рознаскланяльныя назоўнікі скланяюцца прозвішчы асоб мужчынскага полу, якія паходзяць ад назваў прадметаў жаночага роду з асновай на **г**, **к**, **х** і маюць ненаціскны канчатак **-а**: *Лойка Сцяпан*, *Лойкі Сцяпана*, *Лойку Сцяпане*, *Лойку Сцяпана*, *Лойкам Сцяпанам*, *пры Лойку Сцяпану*. Калі ж такое прозвішча належыць асобе жаночага полу, то яно скланяецца як назоўнік першага скланення з адпаведнай асновай: *Лойка Алена*, *Лойкі Алены*, *Лойцы Алене*, *Лойку Алену*, *Лойкай Аленай*, *пры Лойцы Алене*.

**103.** Утварыце і запішыце словазлучэнні. Абазначце канчаткі назоўнікаў і растлумачце іх ужыванне.

Ганарыцца (бацька), жыць пры (дзядуля), сустрэцца з (дзядзька), працаваць (старшыня), гутарыць са (сведка), павітацца з (суддзя), гуляць з (Віця), жыць пры (Мікола), быў (стараста), заставаўся (запявала), маленькаму (плакса), з гэтай (капрызуля), з такім (небарака), з (Алена Дубоўка), з (Максім Дубоўка).

**104.** Спішыце сказы, рашаючы арфаграфічныя задачы і ўжываючы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

1. Васіль Світка... Пад такім (імя) хадзіў па вёсках Беларусі наш славуты з..мляк Кастусь Каліноўскі (*В. Вольскі*). 2. Дзед з (Сымонка) ішлі дарогай між палёў у свой абход (*Я. Колас*). 3. Поз(?)на я с..дзеў у тую ноч у хаце з (дзядзька) Язэпам (*К. Чорны*). 4. Ад успамін.. пра цёплае сало..кае малако ў (ласяня) сабралася ў роце сліна (*Г. Далідовіч*). 5. Цацка — забаўка для (дзіця) (М. Маляўка). 6. Заснаваная (*Скарына*) (В/в)іленская друкарня была першай ва (У/ў)сходняй

(Е/е)ўропе (*У. Арлоў*). 7. Лабановіч, (на) колькі мог, тлумачыў (стараста), што і дз..ўчаткам так(?)сама вучыц..а трэба (*Я. Колас*). 8. Тым часам у школе адбылася яшчэ адна падзея, (сведка) якой быў таксама і Дулеба (*Я. Колас*).

**105.** Утварыце словазлучэнні, спалучаючы назоўнікі, што ў дужках, і дзеясловы. Растлумачце ўжыванне канчаткаў назоўнікаў.

Дзякаваць (Пеця, старшыня, сведка, Саша, суддзя); ганарыцца (бацька, дзядуля, прамоўца, Вася, Мікола); думаць аб (сірата, дзядзька, Кузьма, Валодзя).

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў назоўнікаў множнага ліку

У родным склоне множнага ліку назоўнікі ўжываюцца з канчаткамі **-аў (-яў)**, **-оў (-ёў)**, **-ей (-эй)** і з нулявым канчаткам.

Назоўнікі першага скланення маюць канчатак **-аў (-яў)** (аснова са збегам зычных) і нулявы канчатак: *лічбаў*, *бітваў*; *сцен*, *школ*. Асобныя назоўнікі могуць мець варыянтныя формы: *песень* і *песняў*, *сясцёр* і *сёстраў.*

Назоўнікі другога скланення ўжываюцца з канчаткамі **-аў (-яў)**, **-оў (-ёў)**: *сэрцаў*, *вяселляў*, *сталоў*, *палёў*; рэдка — з канчаткам **-ей (-эй)**: *гасцей*, *вачэй*.

Назоўнікі трэцяга скланення пад націскам маюць канчатак **-эй (-ей)**: *касцей*, *начэй*, *мышэй*, *абласцей*, *гусей*; не пад націскам — канчатак **-аў (-яў)**: *рэчаў*, *печаў*, *даляў*. Некаторыя назоўнікі могуць мець варыянтныя канчаткі: *асаблівасцей* і *асаблівасцяў*, *сувязей* і *сувязяў*, *сенажацей* і *сенажацяў*, *магчымасцей* і *магчымасцяў.*

**106.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і ўжываючы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

1. Між хатай і гаспадарчымі будынкамі расце некалькі (грушы, вішні, ябл..ні) (*І. Навуменка*). 2. Зна..шлася ў старым кал..ндар.. парада: «Бульба не будзе гніць у пограбе, калі па (вуглы) пасыпаць попел.., хоць бы па некалькі (жменькі)» (*М. Маляўка*). 3. У парку Горкага быў цудоўны круглы фантан, па (краі) якога сядзелі з..лёныя м..талічныя жабы (*Л. Рублеўская*). 4. Паміж Паўлюком і (дзверы), што вялі ў гасцёўню, абапёршыся (плечы) аб сц..ну, стаяла Хрысціна (*Э. Ажэшка*). 5. Першы выл..т пчол з (борці), або (вуллі), заўсёды ўспрымаўся як

знак в..сны (*В. Цітоў*). 6. Камень ад старасці ўвесь аброс мохам, які пасля апошніх (дажджы) молада заз..л..неў (*У. Караткевіч*).

**107.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Параўнайце канчаткі назоўнікаў у форме меснага склону множнага ліку ў рускай і беларускай мовах.

1. По дну долин и ущелий текут бурные горные речки, вода перекатывается волнами по огромным камням. 2. Серые клочья ползут по снеговым полям, задевают за гряды скал. 3. Путнику придется преодолеть длинный подъем по травянистым косогорам или по чащам кустов. 4. По широким насыпям многих плотин проложены железные и шоссейные дороги (*Из «Мира географии»*).

**108.** Спішыце тэкст, рашаючы арфаграфічныя і пунктуацыйныя задачы і ўжываючы назоўнікі, што прыводзяцца ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

Калі ласіха народзіць в..сной яна пакідае малога аднаго дзе(?)небудзь у (нізінка) у густым асіннік.. . Сама яна ад..ходзіць (у) бок каб не прыцяг(?)ваць да яго ўваг.. ворагаў. Час ад час.. ласіха пад..ходзіць да (дзіця) корміць яго сваім малаком а потым зноў пакідае аднаго. Яна трымаецца на н..каторай адлеглас(?)ці прыслухоўваючыся да кожнага шолах.. . Заўважыўшы ч..лавека яна паб..жыць у супрац..леглы ад (ласяня) бок пагл..даючы назад каб упэўніцца што ч..лавек ідзе за ёю следам. Час ад час.. ласіха будзе спыняцца каб па..пусціць ч..лавека бліжэй і заахвоціць яго да далейшай пагоні. Такімі хітрыкамі яна стараецца а..весці ч..лавека ад сва..го (дзіця) (*Паводле В. Вольскага*).

# ПРАВАПІС ПРЫМЕТНІКАЎ

## Напісанне складаных прыметнікаў разам і праз злучок

Пішуцца **разам** складаныя прыметнікі, якія суадносяцца:

1) са складанымі назоўнікамі, што пішуцца разам: *чатырохвугольны* (*чатырохвугольнік*), *лесапаркавы* (*лесапарк*), *мастацтвазнаўчы* (*мастацтвазнаўства*), *іншаземны* (*іншаземец*), *самаходны* (*самаход*);

2) са словазлучэннямі, у якіх вызначаецца галоўнае і залежнае словы: *агульнаадукацыйны* (*агульная адукацыя*), *жаўталісты* (*жоўты ліст*); *дрэваапрацоўчы* (*апрацоўваць дрэва*), *лесанарыхтоўчы* (*нарых-*

*тоўваць лес*); *цяжкаўспрымальны* (*цяжка ўспрымаць*), *добраўпарадкаваны* (*добра ўпарадкаваць*); *саракатонны* (*сорак тон*), *шматразовы* (*шмат разоў*), *мнагалюдны* (*многа людзей*).

**!** Захоўваюць сваю лексічную самастойнасць перад прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, як і перад дзеясловамі, і пішуцца асобна ад іх прыслоўі, якія ўтварыліся ад прыметнікаў: *выключна дасканалы*, *асабліва адказны*, *колькасна акрэслены*, *рэзка адмоўны*, *кепска ўзараны*, *усенародна абраны*, *выпадкова сустрэты*, *дыяметральна супрацьлеглы*, *своечасова прыняты*, *адносна спакойны*, *бясконца глыбокі*, *матэрыяльна зацікаўлены*, *грамадска небяспечны*;

3) якія складаюцца з трох і больш лексічных частак і служаць для абазначэння складаных навуковых паняццяў: *старажытнаўсходнеславянскі*, *старабеларускамоўны*, *правабярэжназаходнябугскі*, *паравозавагонарамонтны*;

4) утвораныя ад складаных уласных імёнаў са злучком, калі яны маюць прыстаўку: *заісыккульскі*, *перадцяньшанскі*.

Пішуцца **праз злучок** складаныя прыметнікі:

1) утвораныя ад складаных назоўнікаў, часткі якіх пішуцца праз злучок: *сацыял-дэмакратычны*, *генерал-губернатарскі*, *унтэр-афіцэрскі*, *нацыянал-патрыятычны*, *давыд-гарадоцкі*, *санкт-пецярбургскі* і інш.;

2) часткі якіх абазначаюць разнародныя назвы адпаведнай прыкметы: *навукова-тэхнічны*, *жыллёва-будаўнічы*, *таварна-грашовы*, *электронна-вылічальны*, *грамадска-палітычны*, *сусветна-гістарычны*, *народна-вызваленчы*, *лячэбна-працэдурны*;

3) прыметнікі, часткі якіх абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *кісла-салодкі*, *жоўта-зялёны*, *ярка-чырвоны*, *цёмна-сіні*;

4) часткі якіх абазначаюць раўнапраўныя паняцці: *беларуска-ўкраінскі*, *рабоча-сялянскі*, *руска-турэцкі*;

5) часткі якіх абазначаюць напрамкі свету ў іх спалучэнні: *паўночна-заходні*, *норд-остаўскі*, *паўднёва-ўсходні*;

6) часткі якіх уваходзяць у склад геаграфічных назваў з пачатковай часткай *Усходне-*, *Заходне-*, *Паўднёва-*, *Паўночна-*, *Цэнтральна-* і інш.: *Паўднёва-Кітайскае мора*, *Заходне-Сібірская раўніна*, *Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён*;

7) пачатковай часткай якіх з'яўляецца лічба або літара любога алфавіта: *700-гадовы*, *9-павярховы*, *Т-падобны*;

8) з пачатковай часткай *ваенна-*: *ваенна-гаспадарчы*, *ваенна-гістарычны*, *ваенна-палітычны*, *ваенна-ўліковы*, *ваенна-эканамічны*, *ваенна-марскі*, *ваенна-прамысловы*, *ваенна-патрыятычны*; **але**: *ваеннапалонны*, *ваеннаабавязаны*, *ваеннаслужачы*.

**109.** Утварыце ад прыведзеных колькасна-іменных спалучэнняў складаныя прыметнікі (спачатку лічэбнікі запішыце лічбамі, а затым словамі).

*Узор*: 3 кіламетры — 3-кіламетровы, трохкіламетровы.

4 гады, 7 тон, 6 месяцаў, 78 гадоў, 37 працэнтаў, 2 паверхі, 42 дні, 5 тыдняў.

**Мова і нацыянальная культура**

**110.** Прачытайце тэкст, устаўляючы замест шматкроп'яў прапушчаныя словы.

Быў канец чэрвеня. У медна(?)стволым бары паспелі сакавітыя суніцы. Лясныя паляны і сенажаці стракацелі духмянымі розна(?)каляровымі кветкамі. Жаўта(?)ротыя птушаняты, якія ўпершыню пакідалі цёплыя гнёзды, вучыліся лятаць. У гэты час нашы дзяды і прадзеды звычайна святкавалі ... .

На сенажацях і лясных палянах шэра(?)вокая Бянігда і яе сяброўкі збіралі рамонкі, званочкі, ярка(?)чырвоную смолку. На ўзмежках жытнёвага поля яны рвалі светла(?)сінія васількі і спявалі: «Ой, рана на Івана».

У халадку ля ціха(?)плыннай рэчкі дзяўчаты плялі з кветак вянкі, кідалі іх у ваду і варажылі — збудзецца жаданне ці не. Калі ж у небе загараліся залаціста(?)бурштынавыя зоркі, аднавяскоўцы ішлі па роснай траве да цёмна(?)шэрай гары. Падымаючыся на гару, яны ўваходзілі ў лес, распальвалі там кастры, вадзілі вакол карагоды, спявалі: «Купалінка, Купалінка, цёмная ночка...»

Потым хлопцы і дзяўчаты скакалі цераз агонь, а самыя адважныя ішлі ў лясны гушчар шукаць ... (*Паводле З. Бандарынай*).

Выпішыце з тэксту складаныя прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны дапасуюцца. Пісьмова растлумачце правапіс складаных прыметнікаў. *Узор*: (у) меднастволым бары (медны ствол — словазлучэнне).

**111.** Спішыце тэкст, рашаючы арфаграфічныя задачы. Падкрэсліце складаныя прыметнікі, растлумачце іх правапіс.

КРЫНІЦА

У стара(?)жытнасці нашы про(д/т)кі чыстую ваду бралі з крыніц. Гэта было св..тое месца. Сл..ды язычні..кіх капішчаў знаходзяць сён..я як(?)раз каля крыніц, жывых ці даўно(?)перасохлых.

Крынічная вада лічылася карыс(?)най, гаючай, жыва(?)творнай. У вусна(?)паэтычнай народнай творчасці такая вада ажыўляла, вы-

леч(?)вала асілкаў, змагароў за народнае шчасце, давала ім цуда(?)дзейную сілу. Крыніца — гэта і св..е(?)асаблівы сімвал духоўнасці, (е/я)днання з роднай з..млёй.

Шырока(?)распаўсюджаны матыў крыніцы і ў народным тка..тве. На..больш дасканалы яго вары..нт уяўляе сабой кампазіцыю з квадрацікаў і прама(?)вугольнічкаў. (Не) здарма такі ўзор як тыпова(?)беларускі часта выкарыстоўваюць для афармлення р..зна(?)стайнай друкаванай прадукцыі: кніг, плакатаў, паштовак і інш. (*Паводле М. Кацара*).

## Правапіс суфіксаў прыметнікаў

1. Суфіксы ацэнкі з памяншальна-ласкальным значэннем **-еньк-**, **-эньк-**, **-аньк-** пішуцца з мяккім знакам, пры гэтым: **-еньк-** пішацца пасля мяккіх зычных і **г**, **к**, **х** (*беленькі*, *роўненькі*, *дробненькі*, *чарнявенькі*, *лёгенькі*); **-эньк-** пішацца пад націскам пасля зацвярдзелых зычных (*старэнькі*, *даражэнькі*); **-аньк-** пішацца не пад націскам пасля шыпячых зычных, **р** і **ц** (*шэранькі*, *свежанькі*, *прыгожанькі*, *рыжанькі*, *добранькі*).

2. Мяккі знак пішацца перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на **-нь** і назоўніка *восень*, а таксама назоўніка *Чэрвень* (*горад*): *снежаньскі*, *ліпеньскі* (**але**: *верасень — вераснёўскі*), *восеньскі*, *Чэрвеньскі* (*раён*). У іншых прыметніках перад суфіксам **-ск-** мяккі знак не пішацца: *конь — конскі*, *Казань — казанскі*, *Любань — Любанскі*.

3. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад назоўнікаў з дапамогай суфікса **-ск-**:

• зычныя асновы **т**, **ц**, **ч**, **к** у спалучэнні з суфіксальным **с** у вымаўленні зліваюцца ў адзін гук [ц], які і на пісьме перадаецца літарай **ц**: *брат — бра*(*т+с*)*кі — брацкі*; *рыбак — рыба*(*к+с*)*кі — рыбацкі*; *ткач — тка*(*ч+с*)*кі — ткацкі*;

• каранёвы зычны **д** у спалучэнні з суфіксальным **с** вымаўляецца як [**ц**], але на пісьме літара **д** захоўваецца: *горад — гара[ц]кі — гарадскі*; *сусед — сусе[ц]кі — суседскі*;

• зычныя **с**, **ш** у спалучэнні з суфіксальным **с** у вымаўленні зліваюцца ў адзін гук [с], які і на пісьме перадаецца літарай **с**: *беларус — белару(с+с)кі — беларускі*; *таварыш — тавары(ш+с)кі — таварыскі*;

• зычныя ў прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, а таксама назваў нацыянальнасцей і народнасцей з асновай на **г**, **к**, **х**, **з**, **ж**, **ш**, у спалучэнні з суфіксам **-ск-** даюць спалучэнні **гс**, **кс**, **хс**, **зс**, **жс**, **шс**,

якія захоўваюцца і ў вымаўленні, і ў напісанні: *Гамбург — гамбургскі, узбек — узбекскі, казах — казахскі, Каўказ — каўказскі, Добруш — добрушскі*; **але**: *Волга — Волжскі, Рыга — рыжскі, чэх — чэшскі, турак — турэцкі, славак — славацкі, калмык — калмыцкі*.

4. З двума **н** пішуцца прыметнікі, утвораныя: а) з дапамогай суфікса **-н-** ад назоўнікаў з асновай на **н**: *туман — туманны, акно — аконны, камень — каменны, лімон — лімонны*; б) ад назоўнікаў на **-мя**: *імя — імянны* (у граматыцы — *іменны*), *племя — плямянны, цемя — цемянны, семя — семянны, стрэмя — страмянны*; **але**: *полымя — палымяны*; в) з дапамогай суфіксаў **-енн-**, **-энн-**: *агонь — вогненны, задума — задуменны, абед — абедзенны, страх — страшэнны*.

5. З адным **н** пішуцца прыметнікі, утвораныя з дапамогай суфіксаў **-н-**, **-ан- (-ян-)**, **-ін- (-ын-)**: *лета — летні, люстра — люстраны, гліна — гліняны, салома — саламяны, дрэва — драўляны, пчала — пчаліны, шпак — шпачыны*.

6. У прыналежных прыметніках, утвораных ад назваў асоб мужчынскага роду, пішуцца суфіксы **-ёў (-ёв-)**, **-оў (-ов-)**, **-еў (-ев-)**, **-аў (-ав-)**: *Васілёў (Васілёва)*; *рыбакоў (рыбакова), Сяргееў (Сяргеева), бацькаў (бацькава)*.

7. У прыналежных прыметніках, утвораных ад назваў асоб жаночага роду, пішуцца суфіксы **-ін**, **-ын**: *бабуля — бабуліна, Наташа — Наташына, мама — маміна*.

**!** Пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў ад назоўнікаў жаночага роду з асновай на **к**, **х** адбываецца чаргаванне **к — ч**, **х — ш**: *ластаўка — ластаўчына, русалка — русалчына, краўчыха — краўчышына, вавёрка — вавёрчына*.

**112.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце суфіксы прыметнікаў, растлумачце напісанне **-н-** і **-нн-** у прыметніках.

Раё..ы злёт турыстаў, драўл..ы ложак, лімо..ая кіслата, пчалі..ая сям'я, гасці..ая гаспадыня, пясча..ы бераг, птушы..ае гняздо, імя..ы гадзіннік, дзё..ы распарадак, люстра..ое возера, вае..ы гарнізон, гліня..ая міска.

**113.** Ад прыведзеных слоў утварыце і запішыце прыметнікі з дапамогай суфікса **-ск-**.

Беларус, таварыш, чэх, рыбак, узбек, горад, брат, выдавец, сусед, настаўнік, камендант, Нясвіж, ткач, Варонеж, Добруш, Гамбург, Каўказ, Рыга, Ноўгарад.

**114.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

1. Васіль падахвоціўся запісацца ў школу разам з сусе..кім хлопцам Адамам... (*І. Навуменка*). 2. Я думаю, што пецярбур..скі клімат будзе табе вельмі шкодны (*А. Асташонак*). 3. Я быў госцем у адной пале..кай школе (*І. Шамякін*). 4. Да гэтай безымен..ай рачулкі імкнуўся ў вольную гадзіну і доктар Ваўковіч (*А. Васілевіч*). 5. Наўгаро..кае войска не вытрымала ўдару, і войскі пола..кага князя захапілі Ноўгарад (*У. Бутрамееў*). 6. Цяпер вёска Ракаўцы ў Смаргон..скім раёне Гродзенскай вобласці (*Э. Ляўкоў*). 7. Шэран..кі, непрыкметны салавей хаваецца ад нашага вока, як той скарб (*З. Бандарына*).

**115.** Прачытайце тэкст. Растлумачце сэнс загалоўка.

ЖАНОЧАЯ МОВА

Ручнік, які ткалі беларускія жанчыны, можна ў пэўным сэнсе паставіць у адзін ра(д/т) з фрэскамі егіпе(ц/тс)кіх пірамі(д/т) або з кель(ц /тс)кімі рунамі. Ён у..нік яшчэ ў дахрысціянскую эпоху і ўвасабляе двухвер'е — суіснаванне язычні..тва і хрысціян..тва.

Беларускі ручнік мае свае нацыянальныя прыметы. Разам з тым у кожным рэгіёне, а часам і ў асобнай вёсцы ствараліся ручнікі, якія а..люстроўвалі асаблівасць менавіта гэтай мясцовасці. Полацкія ручнікі а..розніваюцца ад чэрвен..скіх, столін(ц/с)ка-пін(ц/с)кія — ад клецка-ляхаві(ц/чс)кіх, а ў калінкаві(ц/чс)кіх і слаўгара(ц/дс)ка-быхаўскіх ручніках ёсць агульныя рысы.

Ні ў Беларусі, ні за яе межамі нельга знайсці аналага знакамітым мотальскім ручнікам (Іванаўскі раён Брэс(ц/тс)кай вобласці). Яны вылучаюцца не толькі складаным тканым узорам, але і вузельчыкавымі карункамі на канцах.

Тое цяпло, якое захоўваюць беларускія ручнікі, — цяпло жаночых рук і а..чуванне ўзвышанасці і чысціні жаночых думак (*Паводле В. Мядзведзевай*).

- Выпішыце з тэксту словы, у якіх трэба раскрыць дужкі або ўставіць прапушчаныя літары. Вусна растлумачце іх правапіс, асаблівасці вымаўлення.

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў прыметнікаў

У сучаснай беларускай мове скланяюцца толькі поўныя прыметнікі. У адзіночным ліку склонавыя канчаткі прыметнікаў залежаць ад роду, месца націску (на аснове ці на канчатку) і ад характару асновы (цвёрдай, мяккай ці на *г*, *к*, *х*). У множным ліку прыметнікі не змяня-

юцца па родах і склонавыя канчаткі адрозніваюцца толькі ў залежнасці ад характару асновы.

**116.** Прачытайце табліцу. Раскажыце аб правапісе склонавых канчаткаў прыметнікаў у адзіночным і множным ліку.

| Адзіночны лік | | | |
|---|---|---|---|
| **Склон** | **Мужчынскі род** | **Ніякі род** | **Жаночы род** |
| **Аснова на цвёрды і зацвярдзелы зычны** | | | |
| Н. | мал-ы дубов-ы | мал-ое дубов-ае | мал-ая дубов-ая |
| Р. | мал-ога дубов-ага | мал-ога дубов-ага | мал-ой(-ое) дубов-ай(-ае) |
| Д. | мал-ому дубов-аму | мал-ому дубов-аму | мал-ой дубов-ай |
| В. | як Н. ці Р. | мал-ое дубов-ае | мал-ую дубов-ую |
| Т. | мал-ым дубов-ым | мал-ым дубов-ым | мал-ой дубов-ай |
| М. | мал-ым дубов-ым | мал-ым дубов-ым | мал-ой дубов-ай |
| **Аснова на мяккі зычны** | | | |
| Н. | сін-і зімн-і | сін-яе зімн-яе | сін-яя зімн-яя |
| Р. | сін-яга зімн-яга | сін-яга зімн-яга | сін-яй(-яе) зімн-яй(-яе) |
| Д. | сін-яму зімн-яму | сін-яму зімн-яму | сін-яй зімн-яй |
| В. | як Н. ці Р. | сін-яе зімн-яе | сін-юю зімн-юю |
| Т. | сін-ім зімн-ім | сін-ім зімн-ім | сін-яй(-яю) зімн-яй(-яю) |
| М. | сін-ім зімн-ім | сін-ім зімн-ім | сін-яй зімн-яй |
| **Аснова на г, к, х** | | | |
| Н. | доўг-і глух-і | доўг-ае глух-ое | доўг-ая глух-ая |
| Р. | доўг-ага глух-ога | доўг-ага глух-ога | доўг-ай(-ае) глух-ой(-ое) |
| Д. | доўг-аму глух-ому | доўг-аму глух-ому | доўг-ай глух-ой |
| В. | як Н. ці Р. | доўг-ае глух-ое | доўг-ую глух-ую |
| Т. | доўг-ім глух-ім | доўг-ім глух-ім | доўг-ай(-аю) глух-ой(-ою) |
| М. | доўг-ім глух-ім | доўг-ім глух-ім | доўг-ай глух-ой |
| **Множны лік** | | | |
| **Склон** | **Аснова на цвёрды і зацвярдзелы** | **Аснова на мяккі зычны** | **Аснова на г, к, х** |
| Н. | добр-ыя дубов-ыя | сін-ія зімн-ія | доўг-ія глух-ія |
| Р. | добр-ых дубов-ых | сін-іх зімн-іх | доўг-іх глух-іх |
| Д. | добр-ым дубов-ым | сін-ім зімн-ім | доўг-ім глух-ім |
| В. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. |
| Т. | добр-ымі дубов-ымі | сін-імі зімн-імі | доўг-імі глух-імі |
| М. | добр-ых дубов-ых | сін-іх зімн-іх | доўг-іх глух-іх |

### ▶▶ Марфалогія і лексікалогія

**117.** Устаўце ў фразеалагізмы прапушчаныя прыметнікі ў патрэбнай форме, запішыце. Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі.

*Словы для даведкі*: зялёны, чырвоны, белы, шэры, чорны, сіні, блакітны.

| | |
|---|---|
| а) шыта ... ніткамі | 1) зламысна падпальваць што-небудзь |
| б) у ... целе | 2) свабодны шлях, без перашкод і затрымак |
| в) пускаць ... пеўня | 3) няўмела, няўдала схавана што-небудзь |
| г) ... вуліца | 4) чалавек дваранскага паходжання |
| д) ... кроў | 5) сімвал шчасця |
| е) ... птушка | 6) вельмі строга, сурова, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў |
| ж) ... гадзіна | 7) час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы; прыцемак |

### Мова і нацыянальная культура

**118.** Прачытайце ўрывак з апавядання Я. Коласа «Ноч, калі папараць цвіце», ужываючы назоўнікі і прыметнікі, запісаныя ў дужках, у патрэбнай склонавай форме. Каму прысвечана апавяданне? Назвы якіх твораў гэтага пісьменніка «схаваны» ў тэксце?

У ноч, калі зацвітае папараць, пазбіраліся русалкі, лясун, ваўкалакі, вадзянік, дамавік на (бераг) возера, атуленага задуменнем кучаравых (сосны). На гэтым (возера) разаслаў месяц танюсенькі белы кужаль, а зоркі купаліся ў (бліскучы) пералівах вады, бы (дыяментавы) кветачкі.

Аб (Юнак) была гутарка тут. Усім спадабалася, што ён даў сабе імя ночы, калі цвіце папараць. І цяпер яны думалі, які падарунак зрабіць Юнаку.

Русалкі сказалі:

— Мы навучым яго спяваць (прыгожы) песні, бо з (песня) лягчэй на (свет) жыць. Гэта будзе адвечная песня.

— Я падару яму (просты) жалейку, — азваўся Дамавік, — і навучу іграць на гэтай (жалейка) так, каб людзей зачароўвала яго ігра.

— А я дам яму гуслі, — сказаў Вадзянік. — Няхай, як гусляр, апявае (былы) славу свайго (народ) і абуджае ў (сэрца) людзей імкненне заняць (пачэсны) месца між славянамі.

Месяц дадаў:

— А я пайду з ім шляхам жыцця і буду асвятляць дарогу. Калі ён стоміцца ў (дарога), я пакладу яго спаць на (высокі) кургане і навею чароўны сон на кургане.

Узяў слова Лясун:

— Я загадаю маім пушчам расказаць Юнаку пра свае (адвечны) таямніцы. Я авею яго песні шумам (бор). Іх украсаю будзе мудрасць (векавечны) дубоў. І ён пакіне народу (вялікі) спадчыну (*Паводле Я. Коласа*).

• У якую ноч, згодна з павер'ем, зацвітае папараць-кветка? Што яна сімвалізуе?

**119.** Устанавіце адпаведнасць паміж назвамі міфічных істот і іх характарыстыкамі.

а) русалка
б) лясун (лесавік, пушчавік)
в) ваўкалак
г) вадзянік
д) дамавік (хатнік)

1) гаспадар лес.. і звяр.., жыве ў лясн.. нетрах; уяўлялі ў выглядзе вялізн.. (у рост дрэва) стар.. чалавека з бел.., як бяроста, тварам, з вялік.. вач.., у звярын.. шкур..
2) жыве ў хац.. або ў сенцах, камор.., клец..; уяўлялі ў выглядзе стар.. чалавека ў бел.. вопрат.., з сів.. барадой і доўг.. валасамі
3) уладар вадаём..; уяўлялі ў выглядзе стар.. чалавека, укрыт.. водарасцямі і цінай, з зялён.. барадой, доўг.. валасамі на клінападобн.. галаве, расплывіст.. тварам
4) прыгожая дзяўчына з доўг.. распушчан.. валасамі, жыве ў рэках, азёрах, лес.., пол..; выварочвае рыбалоўн.. сеткі, вырывае вёсл.., топіць людзей
5) чалавек, які набыў на некаторы час аблічча воўка; у адрозненне ад звычайн.. воўка мае больш высокі рост, вялік.. галаву з чатырма вач..

• Складзіце на аснове прыведзенай інфармацыі сказы, запішыце іх, устаўляючы канчаткі (канцавыя часткі) назоўнікаў, прыметнікаў і дзеепрыметнікаў.

# ПРАВАПІС ЛІЧЭБНІКАЎ

## Нарматыўнае ўжыванне склонавых формаў колькасных, парадкавых, зборных, дробавых лічэбнікаў

1. Лічэбнік **адзін** мае форму мужчынскага, жаночага і ніякага роду (*адзін*, *адна*, *адно*), адзіночнага і множнага ліку (*адзін* — *адны*), скланяецца як прыметнік: *адзін*, *аднаго*, *аднаму* і г. д. Лічэбнік **адзін** у родным і творным склонах жаночага роду мае дзве варыянтныя формы: Р. *адной*, *аднае*; Т. *адной*, *адною*. У вінавальным склоне ўжываецца форма назоў-

нага склону, калі лічэбнік спалучаецца з неадушаўлёным назоўнікам, і форма роднага склону, калі спалучаецца з адушаўлёным назоўнікам.

2. Лічэбнікі **два (абодва)**, **дзве (абедзве)** пры скланенні захоўваюць родавыя адрозненні. Лічэбнікі **тры**, **чатыры** не маюць формы роду. Лічэбнікі гэтай групы ў творным склоне маюць канчатак **-ма**.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | дв-а<br>абодв-а | дзв-е<br>абедзв-е | тр-ы | чатыр-ы |
| Р. | дв-ух<br>абодв-ух | дзв-юх<br>абедзв-юх | тр-ох | чатыр-ох |
| Д. | дв-ум<br>абодв-ум | дзв-юм<br>абедзв-юм | тр-ом | чатыр-ом |
| В. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. |
| Т. | дв-ума<br>абодв-ума | дзв-юма<br>абедзв-юма | тр-ыма | чатыр-ма |
| М. | (пры) дв-ух<br>абодв-ух | (пры) дзв-юх<br>абедзв-юх | (пры) тр-ох | (пры)<br>чатыр-ох |

8. Лічэбнікі **паўтара** і **паўтары** ва ўсіх склонах маюць аднолькавую форму: *паўтара (вядра)*, *паўтары (тоны)*.

9. Пры скланенні **састаўных колькасных лічэбнікаў** змяняецца кожнае слова: *сто сорак сем*, *ста сарака сямі* і г. д.

10. **Зборныя лічэбнікі** *двое*, *трое* і іншыя скланяюцца як займеннікі *мае*, *твае*: *двое*, *дваіх*, *дваім*, *дваіх (двое)*, *дваімі*, *(на) дваіх*.

11. **Парадкавыя лічэбнікі** скланяюцца як прыметнікі: *пяты*, *пятага*, *пятаму* і г. д. Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў змяняецца толькі апошняе слова: *трыццаць другі*, *трыццаць другога* і г. д.

12. Пры скланенні **дробавых лічэбнікаў** асобна змяняецца кожнае слова: лічнік скланяецца як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы: *адна трэцяя*, *адной трэцяй* і г. д.

**120.** Запішыце лічбы словамі і праскланяйце вусна наступныя спалучэнні.

231 вучань, 645 кілаграмаў, 1842 кіламетры, 317-я старонка, 0,7 літра.

**121.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і замяняючы лічбы словамі.

1. У гістарычн..м слоўнік.. беларускай мовы Іван Іванавіч Насовіч даў тлумачэн..е 13 000 слоў. 2. У «Зборнік.. беларускіх прыказак», выдадзен..м у 1867 годзе, І. І. Насовіч зм..сціў каля 3500 прыказак, прымавак і блі..кіх да іх прыгаворак, праклёнаў, ск..рагаворак. 3. У зборнік..

«Беларускія песні», акрамя 350 тэкстаў песен.., дасле..чык зм..сціў шэраг артыкулаў, прысвечаных песен..ай культур.. беларусаў. 4. І. І. Насовіч пераклаў з ла..інскай мовы 3-томную працу А. Тэйнера «Старажытны.. помнікі, што асв..тляюць гісторыю Польшчы і Літвы». У ёй адлюстравана гісторыя беларускіх зямель у часы з 1217 па 1696 гады. 5. Асноўнае месца ў навуковай спа..чыне І. І. Насовіча за..мае выдадзены ў 1870 годзе «Слоўнік беларускай мовы», над якім дасле..чык самаа..дана працаваў 16 гадоў (*Паводле энцыклапедычнага даведніка «Асветнікі зямлі Беларускай»*).

**Арфаграфія і фразеалогія**

**122.** Устаўце ў фразеалагізмы прапушчаныя кампаненты-лічэбнікі ў патрэбнай склонавай форме, запішыце. Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі.

| | |
|---|---|
| а) іграць ... скрыпку<br>б) за ... пячаткамі<br>в) да ... поту<br>г) палка з ... канцамі<br>д) ... стрэлам забіць ... зайцаў<br>е) у ... сценах (сядзець, жыць) | 1) да поўнай знямогі, стомы (рабіць, працаваць)<br>2) быць недаступным, прыхаваным<br>3) тое, што можа скончыцца добра і дрэнна<br>4) выканаць адначасова дзве розныя справы, дасягнуць дзвюх розных мэт<br>5) займаць галоўнае становішча ў чым-небудзь<br>6) не маючы ні з кім зносін, у адзіноце |

## Нарматыўная пабудова колькасна-іменных спалучэнняў

Колькасныя лічэбнікі ў сказе звязаны з назоўнікамі і ўтвараюць з імі колькасна-іменныя спалучэнні, якія з’яўляюцца адным членам сказа: Высока ў блакітным небе луналі *чатыры буслы* (*Р. Ігнаценка*).

1. Лічэбнік **адзін** дапасуецца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне: Н. *адзін дуб*, *адна хата*, *адно воблака*, *адны дамы*; Р. *аднаго дуба*, *адной хаты*, *аднаго воблака*, *адных дамоў* і г. д.

2. Пры лічэбніках **два**, **тры**, **чатыры** назоўнікі і прыметнікі звычайна ўжываюцца ў форме назоўнага склону множнага ліку: *два новыя сталы*, *тры светлыя пакоі*, *чатыры маленькія хаткі*, *трыццаць чатыры маладыя дрэвы*, *сорак два шчаслівыя гады*. Пры астатніх лічэбніках — у форме роднага склону множнага ліку: *пяць новых сталоў*, *дваццаць залатых медалёў*, *семдзесят шэсць маладых хлопцаў*.

3. Зборны лічэбнік **абодва** спалучаецца з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду: *абодва браты*, *абодва вучні*; з назоўнікамі жаночага роду — лічэбнік **абедзве**: *абедзве сяброўкі*. Калі размова ідзе пра асоб і мужчынскага, і жаночага полу, ужываецца зборны лічэбнік **абое**: *Маці з бацькам працавалі разам, абое закончылі сельскагаспадарчую акадэмію*.

4. Зборныя лічэбнікі **двое — дзясяцера** спалучаюцца: а) з асабовымі займеннікамі: *нас двое*, *трое з іх*; б) з назоўнікамі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *трое хлопцаў*, *пяцёра вучняў*; в) з назоўнікамі, якія маюць форму толькі множнага ліку і падлягаюць лічэнню: *двое дзвярэй*, *трое саней*; г) з назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: *трое кацянят*, *сямёра ягнят*; д) з назоўнікамі *дзеці*, *коні*, *гусі*, *свінні*: *чацвёра дзяцей*, *трое коней*.

5. Дробавыя лічэбнікі складаюцца з колькаснага і парадкавага лічэбнікаў. Калі першай часткай дробавага лічэбніка з’яўляюцца словы **дзве, тры, чатыры**, то другая частка мае форму назоўнага склону множнага ліку: *дзве пятыя*, *тры шостыя*, *чатыры сёмыя*.

Калі ў першай частцы дробавага лічэбніка ўжываюцца словы **пяць**, **шэсць**, **сем**, **восем** і г. д., то другая частка лічэбніка мае форму роднага склону множнага ліку: *пяць сёмых*, *сем восьмых*, *шэсць дзявятых*.

**123.** Вызначце, якія з прапанаваных слоў спалучаюцца з лічэбнікамі *двое*, *трое*. Утварыце і запішыце адпаведныя словазлучэнні.

Кнігі, джынсы, сябры, коні, аднакурсніцы, футбалісты, нажніцы, суткі, спартсмены, перамовы, зайчаняты, аўтобусы, вучні, хлопцы, гады́, зубры, гусі.

**124.** Выпішыце колькасна-іменныя спалучэнні, у якіх склонавыя формы лічэбнікаў утвораны і ўжыты правільна.

Трохстам студэнтам, з трымя цюльпанамі, у двухтысячна дзясятым годзе, на сарака старонках, з сямюстамі рублямі, у двух вёсках, паўтары тонамі, дваццаць тры метры, тры пятых гектара, чацвёра гімнастак, абодва сябры, трое дзяцей.

**125.** Спішыце тэкст, замяняючы лічбы словамі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

Дзень работнікаў фізічнай культуры і спорт.. адзначаецца ў 3-ю суб..оту мая. Сён..я ў Беларусі ў галіне фізкультуры і спорт.. працуюць 26,5 тысяч спецы..лістаў. Статыстыка све..чыць, што ў 2008 годзе пака..чык фізкультурнай і спартыўнай актыўнасці (17,4 % насельні..тва Беларусі) быў лепшым сярод краін СНД. У рэспубліц.. працуюць 25,7 ты-

сяч спартыўных збудаван..яў. У 2008 годзе праведзена 16,8 тысяч рэспубліканскіх, аблас..ных, гара..кіх і ра..нных спартыўных мерапрыемстваў. У іх прынялі ўдзел 2,2 млн. прыхільнікаў здаровага лад.. жыц..я (*Паводле Т. Кухаронак*).

**Пераклад тэксту**

**126.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, запішыце, замяняючы лічбы словамі.

ХОККЕЙ С ШАЙБОЙ

В хоккей с шайбой на льду играют 2 команды, в каждой до 22 игроков, в том числе 2 вратаря. Непосредственно на площадке играют не более 6 и не менее 4 игроков в команде. Время игры — 3 периода по 20 минут. Площадка для игры длиной 61 м, шириной 30 м по периметру обнесена бортами высотой от 1 м до 1,22 м. Инвентарь: клюшка длиной до 134,5 см с крюком до 37,5 см и шайба — плоский диск из твердой резины толщиной 25,4 мм, диаметром 76,2 мм (*«Спортивная энциклопедия Беларуси»*).

# ПРАВАПІС ЗАЙМЕННІКАЎ

## Нарматыўная пабудова словазлучэнняў і сказаў са склонавымі формамі займеннікаў

1. Займеннік **ты** пры скланенні ў давальным і месным склонах мае форму **табе**, а ў родным і вінавальным — **цябе**.

У займенніках 3-й асобы пры іх спалучэнні з прыназоўнікамі літара *н*, як у рускай мове, не пішацца: *у яго*, *да іх*, *з ім*, *перад ёй*.

2. Для абазначэння прыналежнасці 1-й асобе ўжываюцца прыналежныя займеннікі *мой*, *наш*; 2-й асобе — *твой*, *ваш*; любой асобе — *свой* (*свая*, *сваё*), *свае*. У беларускай мове няма прыналежных займеннікаў, якія ўказвалі б на прыналежнасць 3-й асобе. Іх функцыю выконваюць формы роднага склону асабовых займеннікаў 3-й асобы *яго*, *яе*, *іх*.

У займенніках **мой, твой, свой, маё, тваё, сваё** ў родным і давальным склонах адзіночнага ліку пішацца **й:** *майго*, *твайго*, *свайго*; *майму*, *твайму*, *свайму* (параўн. у рускай мове: *моего*, *твоего*, *своего*; *моему*, *твоему*, *своему*).

Займеннікі **мае**, **твае**, **свае**, **нашы**, **вашы** ў множным ліку маюць канчаткі **-е** і **-ы**.

3. Зваротны займеннік **сябе** не мае формы назоўнага склону адзіночнага ліку, не мае формы множнага ліку. Скланяецца ён як асабовы займеннік **ты**, у давальным і месным склонах мае форму **сабе**.

**!** Форма займенніка **сябе** (як і **цябе**) ужываецца ў родным і вінавальным склонах, а форма **сабе** (як і **табе**) — у давальным і месным склонах.

4. У словах **ніхто, нішто** пры скланенні націск падае на першы галосны канчатка: *нікóга*, *нікóму*; *нічóга*, *нічóму*; у займенніках **ніякі (ніякая**, **ніякае**, **ніякія)** ва ўсіх склонах націск застаецца на аснове: *нія́кага*, *нія́каму*, *нія́кай*, *нія́кімі* і г. д. Калі пры адмоўных займенніках ужываецца прыназоўнік, то **ні** пішацца асобна: *ні на кога*, *ні да чога*, *ні з кім*, *ні з чым*.

5. Няпэўныя займеннікі з прыстаўкай **абы-** (**абы-хто**, **абы-што**, **абы-чый**, **абы-які**) пішуцца праз злучок. Націск у такіх займенніках заўсёды на канчатку: *абы-хтó*, *абы-кагó*, *абы-камý*, *абы-кíм*. Калі пры няпэўных займенніках з часткай **абы-** ўжываецца прыназоўнік, то **абы** пішацца асобна: *абы з кім*, *абы пра што*, *абы ў каго*.

Няпэўныя займеннікі з постфіксам **-сьці (-сь)** пішуцца разам: *хтосьці (хтось)*, *штосьці (штось)*, *якісьці*, *чыйсьці*.

Няпэўныя займеннікі з постфіксам **-небудзь** пішуцца праз злучок, націск у такіх займенніках падае на **не**: *хто-нéбудзь*, *што-нéбудзь*, *чый-нéбудзь*, *які-нéбудзь*.

**Пісьмо па памяці**

**127.** Прачытайце тэкст песні «Люблю цябе, Белая Русь» (словы У. Карызны, музыка Ю. Семянякі), устаўляючы прапушчаныя займеннікі.

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, —
Услухайся толькі — ... тут гаворыць:

Люблю ... , Белая, Белая Русь.
Ну як не любіць ... хаты ля гаю,
Ля сініх азёр і палёў залатых,
Дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць
І з песняй праводзяць, як родных ... .

Тут трэба ля ... азёр нарадзіцца
І слухаць гаворку, і бачыць зару,
Каб сэрцам і доляй навек прычасціцца
К ... , ... чыстая Белая Русь.

• Запішыце па памяці адзін з куплетаў песні. Выканайце самаправерку.

📖 **Правільнасць маўлення**

## САМАГА – САМОГА, САМАМУ – САМОМУ

Азначальны займеннік **са́мы** (**самая**, **самае**, **самыя**) ужываецца для ўтварэння найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў: *самы цікавы фільм*, *самая прыгожая карціна*, *самыя прыемныя людзі*. Займеннік **са́мы** ўказвае таксама на крайнюю мяжу распаўсюджання дзеяння, з'явы або праяўлення якасці: *З самай раніцы ішоў снег* (В. Быкаў). Пры скланенні займеннік **са́мы** мае націск на аснове ва ўсіх формах, а канцавы зычны асновы ва ўсіх склонах цвёрды: Р. *са́мага*, *са́май*, *са́мых*; Д. *са́маму*, *са́май*, *са́мым*; Т. *са́мым*, *са́май*, *са́мымі*; М. (*у*) *са́мым*, *са́май*, *са́мых*.

Займеннік **сам** (**сама́**, **само́**, **са́мі**) паказвае на асобу або прадмет, які самастойна ўтварае дзеянне: *Мы самі ствараем свой лёс* (А. Звонак). Займеннік **сам** служыць таксама для ўзмацнення значэння назоўніка: *Сам камандзір батальёна сядзеў за сталом, займаў цэнтральнае месца* (Я. Колас). Пры скланенні займеннік **сам** мае націск на канчатках ва ўсіх ускосных склонах: Р. *само́га*, *само́й*, *самі́х*; Д. *само́му*, *само́й*, *самі́м*; Т. *самі́м*, *само́й* (*-о́ю*), *самі́мі*; М. (*у*) *самі́м*, *само́й*, *самі́х*.

**128.** Спішыце сказы з твораў Я. Брыля, выбіраючы з дужак правільную форму займеннікаў.

1. Зялёны домік дарожнага майстра стаіць каля (самай / самой) шашы. 2. (Самаго / самога) дзядзьку Коля Шчэрба затрымаў для гутаркі ў сенцах. 3. І кожную раніцу абуджаўся з тым (самым / самім) сумам і болем. 4. І неўзабаве нездавальненне (самым / самім) сабою прайшло. 5. Апавяданні тыя патрэбны не столькі нашай літаратуры, як мне (самаму / самому). 6. Расказваючы, ён не шкадаваў і (самаго / самога) сябе. 7. Дык хто ж тады лепш за (самаго / самога) касца адчувае красу гэтай працы?..

**129.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і выбіраючы з дужак патрэбны займеннік.

1. Раптам стала зусім не па с..бе (*М. Лынькоў*). 2. Ніхто не зробіць горш (цябе / табе), чым сам с..бе (*Прыказка*). 3. Знайшлі мы с..бе добрую кватэру (*У. Дубоўка*). 4. Ты ляжы с..бе, а я (цябе / табе) зараз гарачым напаю і памчуся па таго (самога/самага) фельчара (*К. Чорны*). 5. Шкада было (самога / самаго) с..бе (*Б. Сачанка*). 6. Шануй каня дома, а ён (цябе / табе) ў дарозе (*Прыказка*). 7. Пісар, як відаць, стараўся пусціць трохі пылу ў вочы і ўсе важныя мерапрыемствы ў значнай меры прыпісваў с..бе (*Я. Колас*).

**130.** Спішыце прыказкі, устаўляючы ў іх прапушчаныя займеннікі. Вусна растлумачце сэнс алегарычных прыказак.

1. Хто каго любіць, той ... і чубіць. 2. Кожная сасна ... бору песню спявае. 3. Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня — з ... чатырох бакоў. 4. У ... хаце і качарга маці. 5. Не руш чужога і не бойся ... . 6. Аржаная каша сама ... хваліць. 7. На ... сметніку і певень гаспадар. 8. Крывое кола на ... гразь кідае. 9. Якое дрэва, ... клін, які бацька, ... сын.

# ПРАВАПІС ДЗЕЯСЛОВАЎ

## Правапіс суфіксаў дзеясловаў

1. Суфікс **-ава- (-ява-)** пішацца ў неазначальнай форме і прошлым часе дзеясловаў, калі ў цяперашнім часе дзеяслоў у форме 1-й асобы заканчваецца на **-ую (-юю)**: *даследаваць*, *даследаваў* (*даследую*); *святкаваць*, *святкаваў* (*святкую*); *дняваць*, *дняваў* (*днюю*); *дзякаваць*, *дзякаваў* (*дзякую*).

2. Суфікс **-ва-** пішацца (акрамя збегу зычных, апошнімі з якіх з'яўляюцца **л**, **н**, **р**) у неазначальнай форме і прошлым часе дзеясловаў, калі ў цяперашнім часе дзеяслоў у форме 1-й асобы заканчваецца на **-ваю**: *расказваць*, *расказваў* (*расказваю*); *упрыгожваць*, *упрыгожваў* (*упрыгожваю*); *спісваць*, *спісваў* (*спісваю*); *перачытваць*, *перачытваў* (*перачытваю*).

3. Калі перад суфіксам **-ва-** ёсць збег зычных, апошні з якіх **л**, **н**, **р**, то ў неазначальнай форме, прошлым і цяперашнім часе дзеясловаў пішацца суфікс **-іва- (-ыва-)**: *падтрымліваць*, *падтрымліваў*, *падтрымліваю*; *адыгрываць*, *адыгрываў*, *адыгрываю*; *выветрываць*, *выветрываў*, *выветрываю*.

4. Калі ў неазначальнай форме дзеяслоў закончанага трывання мае папярэдні галосны перад **-іць**, то ў незакончаным трыванні пішацца суфікс **-ва-** (замест **і** вымаўляецца і пішацца **й**): *супакоіць* — *супакойваць*, *супакойваў*, *супакойваю*; *абнадзеіць* — *абнадзейваць*, *абнадзейваў*, *абнадзейваю*.

**131.** У якіх радках усе дзеясловы запісаны правільна?

1) камандаваць, адказваць, заканчываць;
2) запэўніваў, зацярушваў, узначальваў;
3) даследваць, адрозніваць, загадваць;
4) пакутаваць, падсушваць, загоіваць;
5) выконваю, раздумваю, прыклейваю;
6) расчэсваць, вырошчваць, узвялічываць.

• Запішыце згодна з арфаграфічнымі нормамі дзеясловы, у якіх дапушчаны памылкі, растлумачце іх правапіс.

**!** Пераважная большасць запазычаных дзеясловаў ужываецца ў беларускай мове з суфіксам **-ава- (-ява-)**: *арыентаваць*, *аналізаваць*, *кантактаваць*, *планаваць*, *групаваць*, *ліквідаваць*, *інфармаваць*, *тыражаваць*, *кансультаваць*, *функцыянаваць*, *экспартаваць*, *дыскутаваць*, *кантраляваць*, *рэагаваць* і інш.

Дзеясловы з суфіксам **-ірава- (-ырава-)** ужываюцца: а) калі без гэтага суфікса ўзнікае аманімія з дзеясловамі з суфіксамі **-ава- (-ява-)**: *буксіраваць — буксаваць*, *камандзіраваць — камандаваць*, *парадзіраваць — парадаваць*; б) калі дзеяслоў без **-ір- (-ыр-)** губляе сваё семантычнае значэнне: *шакіраваць*, *лакіраваць*, *штудзіраваць*, *сервіраваць*; в) калі дзеяслоў мае вузкатэрміналагічнае значэнне: *манціраваць*, *аксідзіраваць*, *пасівіраваць*, *зандзіраваць*.

**132.** Запішыце дзеясловы, выбіраючы з дужак патрэбны суфікс.

Акліматыз(ава/ірава)ць,ігнар(ава/ырава)ць,фініш(ава/ырава)ць, газ(ава/ірава)ць, віз(ава/ірава)ць, лаб(ава/ірава)ць, рэканстру-(ява/ірава)ць.

**133.** Запішыце сказы, выбіраючы з дужак патрэбны дзеяслоў і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

1. Кузьма Чорны і вусна (кансультаваў / кансульціраваў), і выступаў з падрабязнымі, грунтоўнымі аглядамі, дапамагаў усім... (*І. Грамовіч*). 2. Начальнік з Івана, можа, і праўда быў ніякі, калі мераць па сапраўдны.. начальніцкі.. мерка.., бо не любіў чалавек (камандаваць / камандзіраваць), загадваць (*І. Шамякін*). 3. Балачанка (не парадавала / не парадзіравала) нас, мелі..рацыя наклала і на гэту раку сваю жорсткую пячатку (*А. Карлюкевіч*). 4. Мы стаялі і глядзелі, як у кутку, пад тонен..кім слоем плытной яшчэ вады, (пульсуе / пульсіруе) і торгае, мален..кая зав..зь ручайка, як павол..на пад..маецца па зрубе чысцюткая вада (*Я. Сіпакоў*). 5. Сасноўскі, былы парт..зан, праяўляў асаблівы клопат і цікавасць да (праектавання / праекціравання) помніка (*І. Шамякін*). 6. Ці не значыць гэта, што халодная разважлівасць робата з цягам часу назаўсёды (блакуе / блакіруе) сэрца ... (*Я. Сіпакоў*).

## Нарматыўнае ўжыванне асабовых дзеясловаў I і II спражэння, рознаспрагальных дзеясловаў. Ужыванне і правапіс дзеясловаў загаднага ладу

Паводле асабовых канчаткаў дзеясловы адносяцца да першага (I) або другога (II) спражэння.

Да II спражэння адносяцца:

• дзеясловы, якія ў неазначальнай форме заканчваюцца на **-ыць (-іць)**, акрамя аднаскладовых дзеясловаў на **-ыць (-іць)** тыпу *ліць*, *мыць*, *шыць*, *віць* і ўтвораных ад іх дзеясловаў: *наліць*, *вымыць*, *звіць*, *пашыць* і пад.;

• дзеясловы *ненавідзець*, *глядзець*, *цярпець*, *вярцець*, *гарэць*, *ляцець*, *гнаць*, *залежаць*, *спаць*, *стаяць*, *баяцца*, *дрыжаць*.

Усе астатнія дзеясловы належаць да I спражэння.

**134.** Прачытайце табліцу спражэння дзеясловаў. Падрыхтуйце вуснае выказванне на аснове табліцы. Звярніце ўвагу на тое, што правапіс асабовых канчаткаў дзеясловаў I спражэння залежыць ад характару асновы і ад націску, правапіс асабовых канчаткаў дзеясловаў II спражэння залежыць ад характару асновы.

| Асоба | I спражэнне | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | адзіночны лік | | | | | |
| 1-я<br>2-я<br>3-я | дума-ю<br>дума-еш<br>дума-е | няс-у<br>няс-еш<br>няс-е | бяр-у<br>бяр-эш<br>бяр-э | пяк-у<br>пяч-эш<br>пяч-э | маг-у<br>мож-аш<br>мож-а | піш-у<br>піш-аш<br>піш-а |
| множны лік | | | | | | |
| 1-я<br>2-я<br>3-я | дума-ем<br>дума-еце<br>дума-юць | няс-ём<br>нес-яце<br>няс-уць | бяр-ом<br>бер-аце<br>бяр-уць | пяч-ом<br>печ-аце<br>пяк-уць | мож-ам<br>мож-аце<br>мог-уць | піш-ам<br>піш-аце<br>піш-уць |
| II спражэнне | | | | | | |
| адзіночны лік | | | | | | |
| 1-я<br>2-я<br>3-я | вуч-у<br>вуч-ыш<br>вуч-ыць | гар-у<br>гар-ыш<br>гар-ыць | бач-у<br>бач-ыш<br>бач-ыць | каш-у<br>кос-іш<br>кос-іць | гляджу-у<br>глядз-іш<br>глядз-іць | ста-ю<br>ста-іш<br>ста-іць |

| множны лік | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-я | вуч-ым | гар-ым | бач-ым | кос-ім | глядз-ім | ста-ім |
| 2-я | вуч-ыце | гар-ыце | бач-ыце | кос-іце | глядз-іце | ста-іце |
| 3-я | вуч-аць | гар-аць | бач-аць | кос-яць | глядз-яць | ста-яць |

**Марфалогія і фразеалогія**

**135.** Спішыце прыказкі, ужываючы дзеясловы, запісаныя ў дужках, у форме 2-й асобы адзіночнага ліку будучага часу. Растлумачце, у якіх сітуацыях могуць быць ужыты прыведзеныя прыказкі.

1) Гуляючы, розуму не (прыдбаць). 2) Лёгкае пяро, а на страху не (закінуць). 3) На дзень (адстаць) — за тыдзень не (здагнаць). 4) Шукаючы пірага, і хлеб (згубіць). 5) Адным гарбузікам не (пад'есці), а расінкаю не (напіцца). 6) Без дна мяшка не (напоўніць). 7) Крыўдаю свет (прайсці), ды назад не (вярнуцца). 8) Чужы рот — не хлеў, не (зачыніць). 9) Брахлівага сабаку здалёку (пачуць). 10) Не спяшайся, дачушка, замуж: калі добра будзе, (накрасавацца) і (напрацавацца); калі горка будзе — (накукавацца) і (нагаравацца).

• Да якой з прыказак адпаведнікам у рускай мове з'яўляецца выслоўе «От добра добра не ищут»?

**Мова і нацыянальная культура**

**136.** Адгадайце загадкі на тэму «Гаспадарка і матэрыяльны побыт». Пры спісванні дапішыце канчаткі дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку.

1) Ры.., капа.., люстрамі ззя.. . 2) Трашч.., верашч.., а ў лес не лез.. . 3) Адна матка дванаццаць сыноў ма.. і на ўсіх націска.. . 4) Маленькі, гарбаценькі ўсё поле абскач.. . 5) Зубы вострыя ма.., дробна жу.., а не глыта.. . 6) Лес сяку, лес вян.., на тым месцы горад стан.. . 7) Ста.. на гары, крыламі маха.., супраць ветру грудзі падстаўля.. . 8) Ста.. вулей на балоце, не жн.., не малоц.., а за хлеб грошы калоц.. .

Дзеясловы **есці**, **бегчы**, **даць** і вытворныя ад іх лічацца рознаспрагальнымі, бо пры змяненні маюць канчаткі розных тыпаў спражэння.

| Асоба | Адзіночны лік | | | Множны лік | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-я | ем | бягу | дам | ядзім | бяжым | дадзім |
| 2-я | ясі | бяжыш | дасі | ясце | бежыцé | дасце |
| 3-я | есць | бяжыць | дасць | ядуць | бягуць | дадуць |

**!** Усе прыставачныя дзеясловы адносяцца да таго ж тыпу спражэння, што і беспрыставачныя, ад якіх яны ўтвораны.

**137.** Праспрагайце дзеясловы **аддаць**, **з'есці**, **прыбегчы**. Дакажыце, што яны адносяцца да рознаспрагальных.

Дзеясловы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку маюць суфіксы **-і, -ы** (*гавары*, *лічы*, *нясі*, *глядзі*) або не маюць суфіксаў (*сядзь*, *глянь*, *чытай*). Пры ўтварэнні дзеясловаў загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку да формы 2-й асобы адзіночнага ліку далучаецца **-це**: *гавары — гаварыце*, *нясі — нясіце*, *глядзі — глядзіце*, *чытай — чытайце*, *сядзь — сядзьце*.

**138.** Прачытайце тэкст з кнігі А. Я. Міхневіча, Л. П. Кунцэвіч, Ю. В. Назаранкі «Слоўка за слоўкам» (2006). Вусна адкажыце на пытанне, сфармуляванае ў пачатку тэксту.

Якія ў нашай мове сродкі выражэння загаднага ладу множнага ліку першай асобы? Яны такія: марфема **-ма**, калі ў другой асобе адзіночнага ліку загаднага ладу на канцы **-й** або зычны гук: *сядай — сядайма*, *стань — станьма*, *будзь — будзьма*, *спяшайся — спяшаймася*; марфемы **-ем**, **-эм**, калі ў першай асобе множнага ліку абвеснага ладу **-ём**, **-ом**: *пяём — пяем*, *павядзём — павядзем*, *адпачнём — (давай) адпачнем*, *бяромся — бярэмся*, *паклянёмся — паклянемся*. Пры гэтым трэба ведаць, што ў функцыі загаднага ладу могуць ужывацца незагадныя формы цяперашняга і прошлага часу: *рэжам*, *спяваем*, *прысядзем*, *пацалуемся* (уласна загадныя формы: *рэжма*, *спявайма*, *прысядзьма*, *пацалуймася*); *усталі і пайшлі*, *узяліся за рукі*, *пабеглі разам*, а многія формы абвеснага і загаднага ладу супадаюць: *успомнім*, *пойдзем*, *зазірнем*, *ляцім*, *бяжым*.

Трэба вучыцца выкарыстоўваць формы загаднага ладу ў добрых пісьменнікаў — майстроў слова: *Паклянемся дбаць пра карані!* (Р. Барадулін); *Пачнем цытатай...* (Я. Брыль); *Спашлемся хаця б на тое...* (І. Чыгрынаў); *Спяшаймася! Пойдзем лесам да ракі* (М. Лынькоў); *Дык ударма, як гром...* (Н. Арсеннева).

- Выкарыстоўваючы дзеясловы з тэксту, складзіце 5 сказаў, у якіх у функцыі загаднага ладу ўжываліся б формы цяперашняга і прошлага часу абвеснага ладу.

### Мова і нацыянальная культура

**139.** Прачытайце ўрывак з аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». На якую рысу характару беларусаў звяртае ўвагу чытача аўтар? Назавіце беларускія прыказкі, у якіх знайшла адбітак гэта рыса нацыянальнага характару.

• Спішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Ад дзеясловаў, запісаных у дужках, утварыце формы загаднага ладу.

На маім блюдзе з..явіліся вялізн.. гусь з бруснічным варэн..ем, інд..ковая но..ка з ябл..камі, салёныя грыбы, дз..сятак калдуноў, а з усіх бакоў было чуваць:

— (Паспрабаваць) пампушкі з часнаком... А вось, пане, кавалачак шыначкі дзікага япрука, наперчан..ы, агнём гарыць. Памяц..ю маці заклінаю — (узяць)...

— Вось як у нас па-беларуск.. частуюць, — зарагатаў гаспадар, пабачыўшы, што я зусім разгубіўся.

Перада мною вырасла гара. Я спрабаваў прат..ставаць, але выклікаў такі выбух абурэн..я, што здаўся...

— А гэта што? — спытаў я, торкаючы відэльцам у нешта цёмнае на талерц.. .

— Каханен..кі ты мой, гэта ласіныя губы ў па..салоджаным воцаце. (Есці), браце, (сілкавацца). Гэта страва для волатаў.

А праз хвіліну, забыўшыся, што р..камендаваў «губы», крычаў:

— Не, браце, ты ў мяне а..сюль, не пакаштаваўшы халодных пірагоў з гусінай п..чонкай, не пойдзеш. Антось, (ісці) сюды!

询ды..шоў Антось з пірагамі. Я быў адмовіўся. Тады гаспадар загадаў Антосю:

— (Падаць) да госця ў ногі. (Біць) галавою ў падлогу, (прасіць), бо госць нас крыўдзіць (*Паводле У. Караткевіча*).

**140.** Прачытайце тэкст. Растлумачце паходжанне назвы вёскі Ліпавая Калода.

ЛІПАВАЯ КАЛОДА

Назва вёскі Ліпавая Калода звязана са старажытным промыслам — бортніцтвам (развядзеннем дзікіх лясных пчол). Каб завесці пчол, трэба было змайстраваць для іх прымітыўны домік — борць. З гэтай мэтай выбіраліся старыя тоўстыя сосны, дубы або ліпы, зразаліся іх верхавіны і рабіліся паглыбленні, якія нагадвалі нешта падобнае да чашы. У чашы збіралася вада, ад чаго дрэва хутка трухлела і атрымлівалася дупло. Яго вычышчалі, зверху заштукоўвалі здаровай драўнінай і пакрывалі берастай, збоку рабілі лётку — і домік гатовы для наваселля. З часам пчаліныя домікі перакачавалі на зямлю ў ліпавыя ці дубовыя калоды. Несумненна, на месцы сучаснай вёскі Ліпавая Калода ці побач з ёю некалі стаялі борці, выраблены з ліпавага дрэва (*Паводле В. Лемцюговай*).

• Якія вы ведаеце назвы населеных пунктаў Беларусі, звязаныя з бортніцтвам?

На аснове прыведзенай у тэксце інфармацыі апішыце працэс вырабу борці, ужываючы дзеясловы загаднага ладу. *Узор*: Для таго каб змайстраваць борць, выберыце старую тоўстую сасну, дуб або ліпу...

## Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў

Суфікс **-ен-** пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на *-іць*, *-ці*: *адчынены*, *выбелены*, *згублены*, *супакоены*, *накормлены*, *куплены*, *скрыўлены*, *запылены*, *дазволены*, *зроблены*, *пазнаёмлены*, *асілены*, *заклеены*, *спалены*, *схілены*, *разяўлены*, *прастрэлены*, а таксама *звезены*, *прынесены*, *растрэсены*, *заведзены*, *спрадзены*, *аплецены*, *вымецены*.

Пры чаргаванні ў аснове дзеяслова [с'] — [ш], [з'] — [ж], [ц'] — [ч], [дз'] — [дж] у дзеепрыметніках пішацца суфікс **-ан-**: *насіць — ношаны*, *уразіць — уражаны*, *круціць — кручаны*, *апярэдзіць — апярэджаны*.

Спалучэнне галоснай **я** дзеяслоўнай асновы з суфіксам дзеепрыметнікаў **-н-** пішацца ў тых дзеепрыметніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на **-яць**: *пасеяны* (ад *пасеяць*), *развеяны* (ад *развеяць*), *абстраляны* (ад *абстраляць*), *павыдумляны* (ад *павыдумляць*), *абмяняны* (ад *абмяняць*).

Суфікс **-т-** далучаецца да асновы неазначальнай формы дзеясловаў з аднаскладовым коранем: *з-жа-ць — зжаты*, *раз-мы-ць — размыты* або да асновы дзеясловаў на **о**, **у**, **ну**: *раскало-ць — расколаты*, *апрану-ць — апрануты*.

! У суфіксах дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу пішацца адна літара **н**: *напісаны*, *прачытаны*, *зроблены*, *прынесены*, *спісаны*.

**141.** Выпішыце дзеепрыметнікі, якія маюць суфікс **-н-**.

Прынесены, выпісаны, адчынены, намаляваны, падрыхтаваны, прывезены, заплецены, замецены, вывучаны, засвоены, пафарбаваны.

**142.** Выпішыце дзеепрыметнікі, утвораныя правільна.

Адшліфаваны (камень) — адшліфованы (камень); пазычаны (хлеб) — пазычоны (хлеб); адпрасаваная (спадніца) — адпрасованая (спадніца); куплёны (падарунак) — куплены (падарунак); абгорнуты (сшытак) — абгарнуты (сшытак); растоўчаныя (арэхі) — растаўчоныя (арэхі), расфарміраваны (атрад) — расфарміраваны (атрад); зацугляны (конь) — зацуглены (конь).

### Мова і нацыянальная культура

**143.** Прачытайце ўрывак з рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Пра якое свята ідзе гаворка ў тэксце?

• Дайце тэксту загаловак. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Ад дзеясловаў, запісаных у дужках, утварыце дзеепрыметнікі.

Наведалі палац с..ляне з казою. З тварамі, (намазаць) сажай, у (вывернуць) кажухах, яны прынеслі з сабой мароз, гукі дуды, ц..мбал і бубна.

Каза была ў шэр..м ваўчын..м футры, у (сушыць) авечай масцы, з пукам каласоў замест барады. Каза мэкала і сп..вала дураслівым голасам.

Гэта была ўжо (не) забава, а важная справа. Бо ад казы залеж..ў наступны ўраджай. Тым, каму пашанцавала ўбачыць «душу» нівы, в..дома, што яна падобная да спрытнай казы, якая бегае на задніх но..-ках. (С) пачатку ёй добра жыць, але потым жнуць (паспець) жыта — і ўсё мен(?)ш застаецца (зарасці) месца, дзе магла б (з, с)хавацца (спалохаць) «душа» нівы. У а(д, т)чаі яна хаваецца ў апошнюю жменю (не зжаць) каласоў — гэта і ёсць барада казла. Апошнюю жменю зр..заюць асц..рожна. Яна л..жыць пад абразамі і выходзіць з хаты толькі на свята, (прывязаць) да галавы казы.

Людзі трымаюць «душу» да вясны, а вясной выносяць і асцярожна «адпускаюць», кладуць у высакаватыя зялёныя ўсходы. І зноў «душа» насяляе сваё царства, вольна ходзіць па ўсіх абшарах прыдняпроўскіх ніў (*Паводле У. Караткевіча*).

Для дзеепрыметнікаў беларускай мовы характэрны формы незалежнага стану прошлага часу з суфіксам **-л-** (*прыціхлы*, *завялы*, *пачырванелы*, *ссівелы*, *пажаўцелы*, *даспелы*) і залежнага стану прошлага часу з суфіксамі **-н-**, **-ен-**, **-ан-**, **-т-** (*вывучаны*, *рассыпаны*, *засеяны*, *абгорнуты*, *расплаўлены*, *напісаны*, *звязаны*, *вымыты*, *зжаты*). Дзеепрыметнікі цяперашняга часу выкарыстоўваюцца ў беларускай мове звычайна як кампаненты ўстойлівых словазлучэнняў тэрміналагічнага характару: *рухаючая сіла*, *кіруючая роля*, *вісячы замок*.

**!** Парушэннем літаратурнай нормы лічыцца ў беларускай мове ўжыванне зваротных дзеепрыметнікаў.

**144.** Прачытайце сказы. Вызначце, у якіх з іх ужыты не ўласцівыя сучаснай беларускай мове формы дзеепрыметнікаў.

1. Вецер сціх, і ўгрэтае за дзень паветра, напоенае густымі пахамі хвоі, навісла шызаватай смугой (*М. Лынькоў*). 2. Дрэмле абсаджанае лесам адвечным, цінай засланае возера ў лесе (*Я. Купала*). 3. Пуста і самотна каля анямеўшай хаты (*Я. Колас*). 4. Каля масткоў на чыгунцы стаяў вясёлы гоман звонкіх кропель, сцякаючых у ажыўшыя рачулкі і ручайкі (*Я. Колас*). 5. Чырвонаармеец узяў сабаку на павадок

і паказаў след прайшоўшага з гадзіну таму назад чалавека (*Я. Колас*). 6. Асветлены бяссоннымі ліхтарамі горада, блішчыць гранітнай чырванню абеліск на брацкай магіле воінаў і партызан (*Я. Брыль*).

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння з дапамогай суфіксаў **-учы (-ючы)**, ад дзеясловаў II спражэння — з дапамогай суфіксаў **-ачы (-ячы)**: *пішучы*, *чытаючы*, *думаючы*; *гаворачы*, *косячы*, *носячы*.

**Мова і нацыянальная культура**

**145.** Прачытайце ўрывак з рамана І. Мележа «Людзі на балоце», замяняючы дзеясловы, запісаныя ў дужках, дзеепрыслоўямі. Які народны звычай апісваецца ў тэксце?

Непадалёк пачулася песня-шчадроўка. Неўзабаве танклявыя дзіцячыя галасы пішчалі ўжо каля вокан:

На новае лета
Няхай родзіцца жыта!..
Святы вечар!

(Пажадаць) (М/м)іканораваму бацьку — гаспадару, каб радзіла не толькі жыта, але і пш..ніца, галасы пад вокнамі, (на) момант (прыпыніць) спеў, аб нечым (паспрачацца), (н..) дружна запі(с/ш)чалі:

Піва варыць,
Міканора жаніць!..
Святы вечар!

Бацька ахвотна засм..яўся, весела (зірнуць) на Міканора. Маці, у(з/с)цешаная, прытулілася да (не) замерзлага ражочка акна, (углядацца) у твары сп..вакоў. Дзеці з-за акна ўжо раілі:

Залезь на баляску,
Дастань каўбаску!
Святы вечар!
Стань на драбінку,
Дастань саланінку!
Святы вечар!

Ра..чуленая маці, не (апранацца), вын..сла сп..вакам добры кавалак каўбасы, акра..ц свежага хлеб.. (*Паводле І. Мележа*).

• Выпішыце з тэксту сказы з утворанымі дзеепрыслоўямі, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Абазначце суфіксы дзеепрыслоўяў.

• Знайдзіце ў тэксце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс прыстаўной літары **в**».

• Чаму, на вашу думку, песні, прыведзеныя ў тэксце, атрымалі назву «шчадроўкі»?

## Нарматыўнае ўжыванне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў

Часцей за ўсё сустракаюцца наступныя памылкі ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў:

• выкарыстоўваюцца не ўласцівыя беларускай мове формы дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага і залежнага стану: *квітнеючыя сады*, *зацвітаючыя кветкі*, *разглядаемыя малюнкі*, *кіруемыя павадыром*;

• паяснёны зваротам назоўнік аказваецца ўнутры дзеепрыметнікавага звароту: *Асветленае лісце апошнімі промнямі залацілася на сонцы* (Правільна: *Асветленае апошнімі промнямі лісце залацілася на сонцы* або *Лісце, асветленае апошнімі промнямі, залацілася на сонцы*).

**Запомніце!**

У сістэме беларускіх дзеепрыметнікаў адсутнічаюць зваротныя формы.

**146.** Прачытайце сказы. Знайдзіце недакладнасці ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў. Выпраўце памылкі і запішыце правільныя сказы.

1. Над зарослай лесасекай густым арэшнікам плыло павуцінне бабінага лета. 2. Круглая, зарослая паляна кустамі ўся была ўсыпана густым верасам. 3. Разгуляўшаяся дзіця не звяртала ніякай увагі на просьбы бацькоў супакоіцца. 4. Прымаемы на трэці квартал план мерапрыемстваў не выклікаў пярэчанняў у прысутных.

**Запомніце!**

Дзеепрыслоўе абазначае дзеянне той самай асобы ці прадмета, што і выказнік. Дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, сэнсава і граматычна звязваецца з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам.

**147.** Прачытайце. Вызначце выпадкі, у якіх з двух простых сказаў можна скласці адзін, утварыўшы ад аднаго з дзеясловаў дзеепрыслоўе. Запішыце гэтыя сказы.

1. Іван кінуўся ўбок, да маладой ялінкі. Прыгнуўся, выглянуў між галін.
2. Лабановіч звярнуў з дарогі ўправа. Яго сэрца поўнілася радасцю.
3. Рака рабіла за кустамі круты паварот. Яна агінала бераг і бегла далей.

**148.** Знайдзіце сказы, у якіх дапушчаны памылкі ва ўжыванні дзеепрыслоўяў.

1. Атрымаўшы добрую вестку з дому, мой настрой адразу палепшыўся.
2. Пралятаючы над лесам, мы заўважылі ўнізе сігнальныя агні.
3. Праходзячы каля Палаца спорту, унутры было яшчэ цёмна.
4. Прайшоўшы каля стадыёна, мы зайшлі паглядзець, як трэніруецца наша школьная каманда.
5. Праязджаючы міма станцыі, у мяне зляцеў з галавы капялюш.

# ПРАВАПІС ПРЫСЛОЎЯЎ

## Напісанне прыслоўяў разам і праз злучок. Правапіс блізкіх да прыслоўяў спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў з прыназоўнікамі

Пішуцца **разам** прыслоўі:

1) утвораныя ад прыслоўяў прыставачным шляхам або з дапамогай постфікса **-сьці**: *назаўтра*, *назусім*, *насупраць*, *заўчора*, *залетась*, *паслязаўтра*, *пазаўчора*, *замнога*, *задоўга*, *утрох*, *дзесьці*, *хтосьці*;

2) утвораныя ад прыметнікаў прыставачна-суфіксальным спосабам: *дабяла*, *дасуха*, *здалёку*, *зрэдку*, *справа*, *змалку*, *злёгку*, *паблізу*, *паціху*, *улева*, *управа*, *надоўга*, *насуха*, *зацемна*;

3) утвораныя ад спалучэння прыназоўніка з рознымі склонавымі формамі зборных і колькасных лічэбнікаў: *удвая*, *утрая*, *удваіх*, *утраіх*, *учатырох*, *усемярых*, *удвух*, *удзвюх*, *утрох*, *надвое*, *натрое*;

4) утвораныя шляхам спалучэння прыназоўніка і склонавай формы поўных прыметнікаў і займеннікаў: *ушчыльную*, *урассыпную*, *упустую*, *збольшага*, *нашто*, *навошта*, *нізашто*, *потым*, *зусім*, *затым*, *прытым*.

**!** Трэба адрозніваць: прыслоўі *нашто*, *нізашто*, *зусім*, *затым* ад спалучэнняў займеннікаў з прыназоўнікамі: *на што*, *ні за што*, *з усім*, *за тым*: *нашто ты зрабіў?* (з якой мэтай) — *ён не разумеў, на што згадзіўся (на якое дзеянне)*; *нізашто не скажа* (ні пры якой умове) — *працаваў ні за што* (без аплаты);

5) утвораныя ад спалучэння прыназоўнікаў і склонавай формы назоўнікаў, якія зараз не ўжываюцца ў літаратурнай мове: *бесперас-*

*танку*, *дашчэнту*, *досыць*, *знячэўку*, *знянацку*, *наогул*, *неўзабаве*, *неўпапад*, *паасобку*, *спакон*, *уваччу*, *уплаў*, *упокат*, *употай*;

6) утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў *верх*, *ніз*, *перад*, *зад*, *бок*, *гара*, *высь*, *даль*, *век*, *пачатак*, *раз*, *ноч*, *вечар*, *раніца* і некаторых іншых (з прасторавым ці часавым значэннем) пры адсутнасці пры іх азначэння або дапаўнення: *зверху*, *наверх*, *уверх*, *уверсе*, *знізу*, *наніз*, *унізе*; *наперад*, *паперад*, *уперад*, *упéрадзе*; *ззаду*, *назад*, *збоку*, *набок*, *убок*, *убаку*; *дагары*, *угары*, *угару*, *звечара* (**але**: *з вечара да ранку*), *увечары*; *зранку*, *уранку*; але пры наяўнасці азначэння ці дапаўнення: *на самы верх*, *з любога боку*, *на верх гары*, *у даль палёў*, *на векі вечныя*, *у пачатку года*;

7) утвораныя ад прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў і іншых часцін мовы, калі да падобнай формы назоўніка не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам: *апоўдні*, *апоўначы*, *даволі*, *дадому*, *замужам*, *наадварот*, *напаказ*, *напракат*, *напралом*, *напрыклад*, *наўдачу*, *навек*, *паволі*, *упершыню*, *усур'ёз*;

8) прыслоўі *таксама*, *гэтаксама*, *штодзень*, *штоноч* (*штоночы*), *штовечар* (*штовечара*), *штотыдзень* (*штотыдня*), *штомесяц*, *штогод* і пад.

**Праз злучок** пішуцца:

1) прыслоўі з прыстаўкай **па-** і суфіксамі **-аму (-яму)**, **-ому**, **-ску**, **-і (-ы)**, **-йму**: *па-добраму*, *па-веснавому*, *па-асенняму*, *па-беларуску*, *па-геройску*, *па-латыні*, *па-чалавечы*, *па-мойму*;

2) прыслоўі з прыстаўкай **па-**, утвораныя ад парадкавых лічэбнікаў: *па-першае*, *па-другое*, *па-трэцяе*, *па-дваццатае*;

3) складаныя прыслоўі, у якіх паўтараюцца аднолькавыя, блізкія або супрацьлеглыя словы: *мала-мала*, *туды-сюды*, *раз-пораз*, *больш-менш*;

4) прыслоўі з прыстаўкай **абы-** і постфіксам **-небудзь**: *абы-дзе*, *абы-куды*, *як-небудзь*, *калі-небудзь*.

**Асобна** пішуцца спалучэнні, блізкія па значэнні і функцыі да прыслоўяў:

1) спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі **без**, **да**, **на**, **з**: *без аглядкі*, *без промаху*, *без канца*; *да ўпаду*, *да зарэзу*, *да адвалу*; *на хаду*, *на ляту*, *на віду*; *з разгону*, *з размаху*, *з ходу*, а таксама спалучэнні прыназоўніка *ў* з назоўнікамі, якія пачынаюцца з галоснай: *у адзіночку*, *у адкрытую*, *у ахвоту*, *у абхват*, *у абдымку*, *у абмен*, *у абрэз*;

2) блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам, калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць

азначэнне: *у момант (у адзін момант)*, *у тупік (папаў у такі тупік, што не выбрацца)*, *да астатку (да самага астатку)* або калі назоўнік у пэўным (адным) значэнні захаваў хаця б некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі: *па часе*, *да часу*, *з часам*, *у час*; *праз меру*, *у меру*, *па меры*; *на памяць*, *на памяці*, *па памяці*; *у пару*, *да пары*, *не ў пару*;

3) спалучэнні адмоўяў **не** і **ні** з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў меру*, *не ў пару*, *не пад сілу*, *не да смеху*, *не на жарт*, *ні на ёту*, *ні за грош*;

4) выразы *ўсё роўна*, *усё адно*, *як бачыш*, *як след*, *як мага*; **але**: *якраз*.

**149.** Запішыце выразы, раскрыўшы дужкі.

Зрабіць (у) адзіночку, прачытаць верш (на) памяць, (усё) роўна памыліцца, (па) асенняму грэла сонца, словы вырваліся (міма) волі, (з) нізу дрэва здавалася высокім, жыць (за) мяжой, рабіць (абы) як, прабіць сцяну (на) вылет, перадаваць (з) веку (у) век, паехаць (з) дому (на) зусім, лавіць мошак (на) ляту, справы мала (па) малу наладзіліся, (раз) пораз з дрэва зрываліся жалуды, у клас заходзілі (па) трое, апрануцца (па) святочнаму, часу заставалася (ў) абрэз, (калі) небудзь зойдзе, дзяліліся (па) брацку, (з) верху бярозы сыпалася лісце, (з) верху бяроза пажаўцела, (сям) там віднелася леташняя трава, уцякаў (без) аглядкі.

**150.** Прачытайце ўрывак з нарыса У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Якую рысу характару, уласцівую беларусам, ілюструе выпадак, апісаны ў тэксце?

Падчас паўстання 1863 — 1864 гг. за невялічкім атрадам, коннікаў на сорак, зраненым у баях, (з) вечара (да) ранку гналася карная ўрадавая часць у дзвесце шабляў. Дзяліла іх гадзіна адлегласці. Камандзір зразумеў: усё(?) роўна не ўцячы. (Не) (ў) забаве будзе няроўны бой, смерць у ім, а параненым — шыбеніца. І тады ён (на) ўмысна спыніў атрад у лесе (не) (па) далёк ад карчмы, прывязаў коней, загадаўшы аднаму паўстанцу рабіць так, каб тыя (з) рэдку гігаталі. Астатнія пайшлі ў карчму, узялі ў карчмара ўсе вёдры «паіць коней» і пачалі (ў) адкрытую цягаць ваду са студні ў лес. За палову гадзіны перанеслі каля трохсот вёдраў і вылілі ваду пад дрэвы. Пасля, стомленыя (да) ўпаду, падаліся (ў) перад. Знясіленыя паўстанцы (па) ціху бурчалі на камандзіра, але той ведаў, што робіць...

(А) поўдні карная часць спынілася ля карчмы. Афіцэр (па) камандзірску спытаў, ці не было (па) блізу «мяцежнікаў».

— Былі, паночку, коней паілі.

Ужо гэта было (без) разважна: паіць коней, калі часу (ў) абрэз, калі табе наступаюць на пяты. Значыць, (з) усім не баяцца.

— Доўга паілі?

— Доўга. Трыста вёдраў аднеслі ў лес.

Арыфметыка была простая: вядро на каня, бо рабілася ўсё ж (на) спех. Значыць, трыста шабляў, стрэльбаў або проста кос. Афіцэр (на) адрэз адмовіўся ад пагоні.

Іх аддзяляла ад паўстанцаў дзве вярсты, бо коні тых ішлі (па) волі... (У) вечары атрад уліўся ў большы і доўга яшчэ ваяваў (*Паводле У. Караткевіча*).

Ці згодны вы з У. Караткевічам у тым, што «ўласціва нашым людзям знаходлівасць, нават некаторая хітрасць»?

• Выпішыце з тэксту прыслоўі і блізкія да іх па значэнні спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, раскрываючы дужкі, растлумачце іх правапіс.

• Знайдзіце ў тэксце фразеалагізм, растлумачце яго значэнне.

• Высветліце велічыню меры даўжыні *вярсты* і выразіце ў кіламетрах адлегласць, якая аддзяляла паўстанцаў ад карнага атрада.

**151.** Спішыце афарызмы, раскрываючы дужкі. Растлумачце іх сэнс.

1) Жыві, шукай, усё рабі як(?)след, каб на Радзіме твой свяціўся след (*С. Грахоўскі*). 2) Усе шляхі вядуць да(?)хаты, выток шануючы с(?)прад(?)век (*У. Мазго*). 3) Жыццё заўжды — іспыт на мужнасць. Яе ж не возьмеш на(?)пракат (*Н. Мацяш*). 4) Будуць да(?)веку крыніцы на гэтай зямлі, будзе да(?)веку наш мужны і мудры, вялікі народ (*У. Караткевіч*). 5) Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо на(?)што каласы, калі няма васількоў? (*М. Багдановіч*). 6) На хісткай кладцы ты не пахісніся, калі прайсці патрэбна на(?)прасткі (*С. Грахоўскі*).

# ПРАВАПІС СЛУЖБОВЫХ ЧАСЦІН МОВЫ

## Правапіс асобна, разам, праз злучок прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц

1. Пішуцца асобна:

• прыназоўнікі з тымі словамі, з якімі яны ўжываюцца: *ад лесу*, *са школы*, *у хаце*, *каля ракі*, *на печы*, *перад вёскай*, *для ўсіх*, *вакол дарогі*;

• словы ў састаўных злучніках: *таму што*, *так што*, *хіба што*, *як толькі*, *як быццам*, *перш чым*, *гэта значыць*, *то так*; а таксама ў слова-злучэннях, якія ўжываюцца ў функцыі пабочных слоў: *можа быць*, *так кажучы*, *такім чынам* і пад.;

• часціцы **бы (б)**, **жа (ж)**: *прыйшоў бы*, *прыйшла б*, *казаў жа*, *чаму ж*, *хто ж бы*, *як жа ж* (выключэнне складаюць выпадкі, калі гэтыя часціцы ўваходзяць у склад цэлых слоў: *нібы*, *каб)*; усе астатнія часціцы, уключаючы такія, як *вось*, *моў*, *маўляў* і іншыя, а таксама *што* ў такіх спалучэннях, як *пакуль што*, *амаль што*, *толькі што*, *сама што*, *хіба што* і пад.

2. Пішуцца разам:

• прыназоўнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з назоўнікам: *замест*, *наконт*, *накшталт*, *звыш*;

• прыслоўі, якія ўжываюцца ў якасці прыназоўнікаў і з'яўляюцца вынікам зліцця склонавых формаў назоўнікаў з прыназоўнікамі: *зверху*, *наперадзе*, *наперакор*, *насустрач*, *уперад*, *уперадзе*, *услед (услед за цягніком)*;

• злучнікі, якія з'яўляюцца вынікам зліцця прыназоўніка з займеннікам ці словамі *колькі*, *столькі*: *затое*, *прычым*, *прытым*, *пакольку*, *пастольку* ў адрозненне ад спалучэнняў прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікамі ці неазначальна-колькаснымі словамі: *паволі рабіў*, затое *грунтоўна — за што ўзяў*, за тое *і аддаў*; пакольку *абяцаў*, *трэба зрабіць — бяром па столькі*, па колькі *дамовіліся*; злучнікі *ажно*, *альбо* (*або*), *нібы*, *нібыта*, *каб*, а таксама складаны злучнік *дый* (*зраблю дый годзе*), які трэба адрозніваць ад састаўнога злучніка *ды* з часціцай *і* са значэннем далучэння (*ніхто больш не працаваў*, *ды і нічога не хацелася*).

3. Праз злучок пішуцца:

• складаныя прыназоўнікі *з-за*, *з-пад*, *з-над*, *з-паміж*, *з-па-над*, *па-за*, *па-над*;

• часціца **такі** ў словах *усё-такі*, *зусім-такі*, *так-такі*, *зноў-такі*, а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *прыйшоў-такі сам.* (Ва ўсіх астатніх выпадках часціца *такі* пішацца асобна: *Ён такі надумаўся прыйсці. Ён усё ж такі думае прыехаць*); часціца **то** з дзеясловамі і займеннікамі: *сказаць-то ён сказаў*; *ён-то прыехаў*, *яны-то пабачылі.*

**152.** Запішыце спалучэнні разам, праз злучок ці асобна.

Паказалася (з) за хмар сонца, прыйшлі (у) след за намі, усё (ж) такі прыехаў, спытаў (на) конт тавара, толькі (што) аб'явілі, з'еў (бы) чаго (небудзь), зноў (такі) пасварыліся, як (жа) нам быць, (па) над ле-

сам, (на) вошта хваляваецца, зайсці (то) ён зайшоў, (як) быццам чакаў, чаму (ж) не весяліцца.

**153.** Спішыце сказы, рашаючы арфаграфічныя задачы.

1. Дзядз(?)ка выпусціў з(?)пад светлых вусоў струмен(?)чык дым.. (*В. Вольскі*). 2. Не на людзях (жа) слёзы пускаць Міколк.., яму (ж) трына..цаць год, ён (жа) мужчына (*М. Лынькоў*). 3. Надзя гаварыла так, ні (бы) ён, Васіль, быў яе братам ці якім(?)небудзь блі..кім ч..лавекам (*І. Навуменка*). 4. Калі (сь) была тут смалярня (*Я. Колас*). 5. Я так і не паспеў нічога сказаць яму (на) конт сына (*І. Шамякін*). 6. Міколка бачыў ужо з(?)за плот.. старую грушу на сваім двары (*М. Лынькоў*). 7. Ён не здолеў (бы) ра..тлумачыць ні с..бе сам..му, ні каму іншаму, што з ім здарылася такое — ні(?)быта яго маланкай апаліла (*А. Васілевіч*). 8. Перад намі — в..лікая пя..чаная паляна, агароджаная (з) боку канала частаколам (*В. Вольскі*).

**154.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

Стары бабёр выправіўся ў дарогу цёмначы. Толькі (не) дзе далёка (на) ўсходзе крыху абазначылася светлас(?)ць (на) небе, але была яшчэ ноч, кароткая, летняя. (Над) вадою с..лаўся туманок, рэ..кі, празрысты. Бабёр ціха вы..шаў (з) пад вады (не) далёка (ад) свае хаткі, доўга прыслухоўваўся, (па) волі падгрэбваючы (да) (не) вялікага астраўка.

Стары бабёр яшчэ раз азірнуўся (на) хатку, с..шоў (з) астраўка і н..чутна паплыў (да) сам..га бераг.. . Тут віўся мален..кі руч..ёк. Выц..каў ён (з) крыніц кіламетр.. (за) два а..сюль, (з) пад дв..х в..лікіх, (як) горы, у..горкаў. (З) аднаго бок.. (ад) рэчкі стаяў (на) ўзгорк.. бор, (пад) ім — хат (з) пяць мален..кае вёсачкі. Тут мала хто хадзіў, і бабры жылі спакойна, (без) клопат.. . Хапала (на) іх і лазы, і карэн..чыкаў, і травы. Тут была іх мален..кая радзіма (*А. Жук*).

## Значэнне часціц *не* і *ні*

Часціца **не** надае адмоўнае значэнне ўсяму сказу, калі стаіць перад дзеясловам-выказнікам (*Толькі дабегчы да лесу Іван не паспеў*) або асобным членам сказа (*Зусім не весела паглядала гаспадыня на няванага госця*).

Аднак:

Сказ мае сцвярджальны сэнс, калі ў ім дзве часціцы **не**, адна з якіх стаіць перад дзеясловам *магчы*, а другая — перад інфінітывам: *Я не магу не паехаць у гэты горад*. Часціца **не** мае сцвярджальны сэнс і ў сказах пытальна-клічнага тыпу: *Дзе яны толькі не хадзілі!*

Часціца **ні**:

• надае адмоўнае значэнне сказу без дзейніка (ужываецца звычайна пры дапаўненні ў родным склоне): *Вакол ні дрэўца. На небе ні воблачка*;

• узмацняе адмаўленне, якое выражана часціцай **не** або словамі **няма**, **нельга**: *Няма ні травінкі. Не было ў хаце ні смяцінкі*;

• узмацняе сцвярджэнне і надае абагульняльнае значэнне адносным займеннікам і прыслоўям, якія падпарадкоўваюць адну частку складанага сказа другой (*хто ні*, *хто б ні*; *дзе ні*, *дзе б ні*; *куды ні*, *куды б ні*; *як ні*, *як бы ні* і інш.): *Куды б ні завяла цябе дарога, не мінай бацькоўскага парога*;

• ужываецца ва ўстойлівых выразах тыпу *ні свет ні зара*, *ні жывы ні мёртвы*.

**155.** Узмацніце сцвярджэнне ў першай частцы сказа з дапамогай часціцы **ні**. Дакажыце, што ўжыванне часціцы **не** ў гэтых выказваннях будзе не да месца.

1. За што браўся, усё атрымлівалася з першага разу. 2. Хто быў на сустрэчы, усе віншавалі госця. 3. Куды пойдзе, усюды лес заканчваецца балотам. 4. Што рабіў, усё ішло нарасхват.

**156.** Закончыце сказы ў адпаведнасці са значэннямі часціц **не** і **ні**.

Хто не быў на экскурсіі, ... . Хто ні быў на экскурсіі, ... .
Калі не зойдзеш да яе, ... . Калі ні зойдзеш да яе, ... .

**157.** Складзіце і запішыце сказы з прыведзенымі выразамі: **не раз** (= многа разоў), **ні разу** (= ніколі).

**158.** Прачытайце тэкст, устаўляючы замест кропак (у дужках) часціцы **не** і **ні**, растлумачце іх напісанне і значэнне. Назавіце іншыя часціцы ў тэксце, ахарактарызуйце іх сэнсава-стылістычную ролю. Запішыце сказы з часціцамі **не** і **ні**.

Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу. Можа, гэта была нават (...) першая, але нейкая адна з першых, што засталася ў памяці аж да гэтага часу. Асабіста я памятаю, як, затаіўшы дыханне, забраўшыся недзе ў куток, прачытаў «Хан і яго сын» Максіма Горкага. Як і кожны чалавек, пасля гэтага я чытаў многа добрых і цікавых кніг, але (...) адна (...) можа ісці ў параўнанне з першай па сіле свайго ўражання.

Часта я думаю над гэтым: чаму ж так бывае? Вядома, першую ролю тут іграе, мабыць, дзіцячая ўспрымальнасць, фантазія. (...) апошнюю ролю іграе і тое, што змест кніжкі адпавядае пэўнаму настрою. Але ў мяне няма (...) кропелькі сумнявання, што нават дзіцячы свет можа горача ўспрымаць толькі тое, што закранае пачуцці і выклікае хваляванні (*Я. Скрыган*).

• Дакажыце, што тэкст адносіцца да публіцыстычнага стылю, ахарактарызуйце яго тып. Сфармулюйце коратка тэзіс, выказаны аўтарам у першых двух сказах.

• Якія прыёмы выкарыстоўвае аўтар для доказу тэзіса? У чым асаблівасць аўтарскай манеры доказу? Да якога вываду прыходзіць аўтар?

**Мова ў дыялогу культур**

**159.** Устанавіце адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі ўстойлівымі выразамі.

| | |
|---|---|
| а) сытый голодного не разумеет | 1) н.. свата н.. брата |
| б) как с козла молока | 2) н.. адзін Гаўрыла ў Полацку |
| в) без роду и племени | 3) н.. адтуль н.. адсюль |
| г) ни слуху ни духу | 4) н.. знаем цану вадзіцы, пакуль н.. высахла крыніца |
| д) не только свету, что в окошке | 5) н.. вокам н.. відаць, н.. слыхам н.. чуваць |
| е) взялся за гуж, не говори, что не дюж | 6) багаты н.. ведае, чым бедны абедае |
| ж) откуда ни возьмись | 7) н.. лою н.. ўдою |
| з) что имеем — не храним, потерявши — плачем | 8) калі ўлез у дугу — н.. кажы «н.. магу» |

Запішыце беларускія ўстойлівыя выразы, устаўляючы прапушчаныя літары.

## Правапіс *не* (*ня*), *ні* з рознымі часцінамі мовы

**Не (ня)** пішацца разам:

• калі слова не ўжываецца без **не**: *няўмека*, *нянавісць*; *непахісны*, *няспынны*; *няўхільна*, *нездаровіцца*, *ненавідзець*, *непакоячыся*;

• у словах з прыстаўкай **неда-**, якія маюць значэнне непаўнаты дзеяння: *недабачыць*, *недавыканаць*, *недаробка*, *недаацэнка*;

• калі **не** ўтварае новыя словы з супрацьлеглым значэннем, якія звычайна можна замяніць сінонімамі без прыстаўкі **не- (ня-)**: *праў-*

*да — няпраўда (хлусня)*; *вялікі — невялікі (малы)*; *высока — невысока (нізка)*;

• з поўнымі дзеепрыметнікамі, пры якіх няма залежных слоў: *няжатае жыта*, *незапісаныя словы*, *ненамаляваная карціна*;

• у неазначальных займенніках і прыслоўях: *нехта*, *нешта*, *нейкі*, *недзе*, *некалі*, *неяк*.

Часціца **не** пішацца асобна:

• з рознымі часцінамі мовы, калі ёсць ці падразумяваецца супрацьпастаўленне: *не праўда*, *а хлусня*; *не шырокая*, *а хутчэй вузкая рэчка*;

• з дзеясловамі, дзеепрыслоўямі, кароткімі дзеепрыметнікамі: *не пісаў*, *не думаў*; *не думаючы*, *не напісаўшы*; *сачыненне не напісана*;

• з поўнымі дзеепрыметнікамі пры наяўнасці залежных слоў або супрацьпастаўлення: *не закончаны аўтарам твор*, *яшчэ не акрэсленая думка*; *не закончаная*, *а толькі пачатая праца*.

**160.** З прыведзеных сказаў утварыце і запішыце новыя, ужыўшы супрацьпастаўленне або залежнае слова.

1. На стале ляжалі неправераныя сшыткі. 2. Сярод рукапісаў пісьменніка трапілася незаконченая аповесць. 3. Назаўтра шахматысты працягнулі недагуляную партыю. 4. Баксёр ужыў недазволены прыём.

**161.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і выбіраючы з дужак **не (ня)**. Растлумачце правапіс **не (ня)** з рознымі часцінамі мовы.

Брат прывёз мяне на будоўлю. Яму як быц..ам нават (не/ня) ёмка. Гэта ж (не/ня) першая школа, якую ён будуе тут, у родных м..сцінах. Каб (не/ня) выхадны дзень, калі тут пуста, дык і (не/ня) павёў бы мяне сюды.

Ходзім па будуч.. клас.., паднімаемся на другі паверх, пасля на дах. А..туль гляджу на майскую з..л..ніну і маладую, яшчэ (не/ня) прыкрытую шэрасць палёў, на луг, (не/ня) схаваны за бера.. пobліск ракі, на лес і хаты сонечнага Наднямоння... (*Я. Брыль*).

Часціца **ні** пішацца са словамі асобна.

Прыстаўка **ні-** з'яўляецца часткай слова і пішацца разам:

• у адмоўных займенніках (калі пасля **ні** няма прыназоўніка) і ў адмоўных прыслоўях: *ніхто*, *нішто*, *ніякі*, *нічый* (**але**: *ні ў кога*, *ні ў якой*), *нідзе*, *ніколі*, *нікуды*, *нізколькі*;

• у словах, якія без **ні** не ўжываюцца: *нішчымніца*, *нікчэмны*, *нішчымны*, *ніякавата*.

**162.** Утварыце і запішыце ад прапанаваных слоў новыя з прыстаўкамі **не-** і **ні-**. Запішыце пары слоў з **не-** і **ні-**, пастаўце націскі. Растлумачце, калі пішацца **не-**, а калі — **ні-**.

Хто, што, які, дзе, куды, калі, як, колькі.

**Мова і нацыянальная культура**

**163.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс **не (ня)**, **ні**.

(Н..) водная з тутэйшых жанчын у дні, што а(д, т)дзялялі Божае нараджэ(н, нн)е ад свята Трох каралёў, (н..) за(?) што на свеце (н..) разу (н..) пакруціла (б, бы) верацяном, бо тады вясной усялякая хатняя птушка паздыхала (б, бы) ад завароту галавы. (Н..) водная ў дзень Паднясення Святога Крыжа (н..) хадзіла ў грыбы і ягады, бо тады навяла (б, бы) усіх лясных гадаў на сваю хату. (Н..) водная, жнучы, (н..) ўпускала з пільнай увагі, каб выпа(д, т)кова (н..) зрэзаць сярпом (з, с)вязаных ці заламаных каласоў, бо (з, с)вязвае іх так альбо заломвае (н..) зычлівая рука на (н..) шчасце той, якая іх сажне. І шмат падобных прыкмет і звестак ад дзядоў і прадзедаў мелі насельнікі Сухой Даліны (*Паводле Э. Ажэшкі*).

• Падкрэсліце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс галосных **е**, **ё**, **я**».

• У якія дні, згодна з хрысціянскімі запаведзямі, забараняецца працаваць?

• Растлумачце алегарычны сэнс прыказкі «І дурань ведае, што ў нядзелю свята».

**164.** Прачытайце афарыстычныя выслоўі з кнігі Ніны Мацяш «Душою з небам гаварыць» (1999), растлумачце іх сэнс. Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

1. Чужое неба (с/ш)часця (н..) дае. 2. А (н..) падсудны хіба толькі робат: яму (н..) што лю(ц/дс)кое (н..) баліць. 3. Дай нам, лёс, таго, чаго мы вартыя, каб (н..) здрадзіць нам самім с..бе. 4. Калі крыштальным быў выток — (н..) замутнёным будзь і вусце! 5. Люблю (н..) паўторны свой род і яго (ан..) дзе (н..) зракуся. 6. Узросту (н..) мае Гармонія, (н..) ведае межаў Краса.

• Падрыхтуйце сачыненне-мініяцюру (тып маўлення — разважанне) на тэму аднаго з выслоўяў.

# ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ СЛОЎ

1. З аднаго радка на другі слова пераносіцца па складах, калі ў сярэдзіне яго няма спалучэння зычных: *во-ля*, *тра-ва*, *за-яц*, *га-ла-ва*, *ка-ва-лак*, *стра-ка-ты*, *пра-ве-рыць*, *пе-ра-кі-нуць*.

Калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі маецца спалучэнне зычных, то пераносіцца на наступны радок або ўсё гэта спалучэнне, або любая яго частка. Можна пераносіць: *ся-стра*, *сяс-тра*, *сяст-ра*; *во-стры*, *вос-тры*, *вост-ры*; *пту-шка*, *птуш-ка*; *кро-пля*, *кроп-ля*; *ма-ста-цтва*, *мас-тац-тва*, *мас-тацт-ва*, *двац-цаць*, *два-ццаць*, *калос-се*, *кало-ссе*, *сол-лю*, *со-ллю*, *памяц-цю*, *памя-ццю*, *мыц-ца*, *мы-цца*.

2. Пры пераносе нельга:

• пакідаць або пераносіць на наступны радок адну літару, нават калі яна адпавядае складу: *аса-ка*, *лі-нія*, *ра-дыё*, *еха-лі*, *па-коі*. Немагчыма ажыццявіць перанос некаторых слоў, хоць яны і неаднаскладовыя: *аса*, *яна*, *юнак*, *мая*, *арыя*, *алея*, *Азія*, *якая* і пад.;

• разбіваць пераносам спалучэнні літар *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць на пісьме гукі [*дж*], [*дз*], [*дз'*]: *ура-джай*, *са-джаць*, *ра-дзі-ма*, *ха-дзіць*. Спалучэнні *дж* і *дз* можна разбіваць пераносам, калі *д* належыць прыстаўцы, а *з*, *ж* — кораню слова: *пад-жары*, *ад-жаць*, *пад-земны*, *ад-значыць*;

• аддзяляць ад папярэдняй галоснай літары *й* і *ў*: *сой-ка*, *бой-кі*, *май-стар*, *дай-сці*, *зай-мацца*, *праў-да*, *слоў-нік*, *маў-чаць*, *заў-тра*, *праў-нук*;

• аддзяляць мяккі знак (*ь*) і апостраф ад папярэдняй зычнай: *буль-ба*, *про́сь-ба*, *вазь-му*, *бур'-ян*, *сем'-яў*, *мыш'-як*.

3. У складаных словах кожная частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *се-на-ўбо-рка*, *збож-жа-зда-ча*.

4. Не дзеляцца пры пераносе абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі або з'яўляюцца спалучэннем літар і лічбаў, а таксама графічныя скарачэнні слоў і выразаў: *ААН*, *АБСЕ*, *ДАІ*, *А-78*, *г. д.*, *г. зн.*, *стст.*; не адрываюцца пры пераносе ад лічбаў далучаныя да іх злучком канчаткі або часткі канчаткаў: *а 19-й (гадзіне)*, *1-га (студзеня)*; не адрываюцца ад прозвішчаў ініцыялы: *Я. Брыль*, *К. М. Міцкевіч*, *Я. Ф. Карскі*, *М. І. Гурскі*; не пераносіцца на наступны радок працяжнік; не адрываюцца ад лічбы скарочаныя назвы адзінак вымярэння: *1990 г.*, *XXI ст.*, *100 кг*, *50 га*, *2 км*.

**165.** Падзяліце словы для пераносу. Укажыце ўсе магчымыя варыянты пераносу.

Займеннік, назбіраць, прымітыўны, сенсацыя, правасуддзе, па-мойму, пунктуацыя, каньён, майстраваць, дзяржаўны, машынабудаўнічы, лекцыя, падзьмуць, самаўпэўнены, кар'ера, маленства, заўтрашні, народжаны, ягадны.

**Мова і нацыянальная культура**

**166.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак.

*Пакладзены* на музыку верш Алеся Бачылы «*Радзіма* мая дарагая» стаў гукавым сімвалам нашай краіны. Кожны дзень мы чуем гэтую мелодыю як *пазыўныя Беларускага радыё*. Невыпадкова ў свой час менавіта яна была *абрана* ў *якасці* музычнай візітоўкі Беларусі. Гэтая песня — *прызнанне* ў любові да роднага краю — і сёння кранае і *саграве* нашы *сэрцы*. Яна, як глыток *крынічнай* вады, *нагадвае* нам пра тое, што Радзіму, як і *бацькоў*, не выбіраюць. Ім проста *аддаюць* свае сэрцы, а калі трэба — і *жыццё* (*Паводле Л. Мурашкі*).

Выпішыце з тэксту выдзеленыя словы, падзяляючы іх для пераносу (укажыце ўсе магчымыя варыянты пераносу слоў).

Якія словы з тэксту нельга падзяліць для пераносу?

Запішыце па памяці тэкст першага куплета песні «Радзіма мая дарагая».

- Хто напісаў музыку гэтай песні?

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ ВЫВУЧАНАГА

**Самадыктант**

**167.** Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

РЫЦАРСКІ ГОНАР

Вы (не) задум(?)валіся чаму вайскоўцы віта..чыся прыклад(?)ваюць руку да казырка шапкі? І чаму гэты жэст уласцівы як знак вітан..я войскам усяго свет..? А..даючы чэсць адзін аднаму вайскоўцы паўтараюць рухі с..рэдн..в..ковых рыцараў якія ўзнімалі забралы сваіх шлемаў і абавя..-кова фіксавалі момант калі іх твары былі поўнасцю а..крыты адзін аднаму.

Сучасны агульна(?)вайсковы статут (не) пасрэдная спа..чына рыцарскага права. Згодна з рыцарскім код..ксам гонар галоўнае багац..е рыцара. І запляміць яго в..лікая ган..ба. З(?)за наймен(?)шай абразы

словам ці ўчынкам рыцар абавязаны быў выклікаць крыўд..іцеля на бой каб даказаць сваю слушнасць або загінуць.

Закон забараняў дуэлі пад(?)час гэтых па..дынкаў гінула і калечылася відаць (н..) меней вояў чым у баях.

На сучасных рыцарскіх турнірах «дуэлі» (не) забаронены. Але ўсё(?)роўна (на) пярэдадні «бо(ю/я)» трэба зв..рнуцца ў «суд» агаварыць правілы і пасля гэтага біцца па закона(м/х) рыцарскага код..кса. (Н..) варта рыцарскага гонар.. біць саперніка ў спіну дабіваць бя..-збройнага ці таго хто ўпаў. Калі адзін з тых хто б..ецца выпусціў з рук шаблю а ягоны сапернік (н..) даў яму ўзняць зброю то лічыцца што пра..граў той хто парушыў код..кс гонар.. (*Паводле І. Міхны*).

- У якіх беларускіх гарадах адбываюцца сучасныя рыцарскія турніры?

## Падагульняльны тэст

**А1.** Напісанне якіх слоў заснавана на фанетычным прынцыпе арфаграфіі:

1) спеў; 3) бацька; 5) адступіць?
2) спаўзаць; 4) бясспрэчна;

**А2.** Укажыце словы, пры вымаўленні якіх адбываецца асіміляцыя па мяккасці:

1) знік; 3) здзекі; 5) рэдзька.
2) скінуць; 4) айсберг;

**А3.** Адзначце словы, пры перакладзе якіх на беларускую мову адбываецца дзеканне:

1) дедерон; 3) индеец; 5) две.
2) бандероль; 4) дивизия;

**А4.** Адзначце словы з прыстаўным зычным гукам:

1) вобла; 3) водсвет; 5) войска.
2) вобласць; 4) вохра;

**А5.** У якіх выпадках пры ўтварэнні патрэбнай формы назоўніка адбываецца чаргаванне заднеязычных зычных гукаў са свісцячымі:

1) дзякаваць (сяброўка); 4) загадчык (бібліятэка);
2) на нашай (страха); 5) зварыў на (малако)?
3) ад правага (бераг);

**А6.** Адзначце словазлучэнні з назоўнікамі, якія маюць канчатак **-у**:

1) не разабраў рукапіс..; 4) кіраўнік камбінат..;
2) абмяркоўваць пры дырэктар..; 5) шкатулка з малахіт.. .
3) не з'еў бутэрброд..;

**А7.** Укажыце словазлучэнні з граматычнымі памылкамі:

1) цяжкія каменні; 4) прыгожы какаду;
2) дарожны насып; 5) белая гваздзіка.
3) глыбокае Нарач;

**А8.** У якіх сказах дапушчаны граматычныя памылкі?

1) З кожным крокам пясок пад нагамі здаваўся ўсё больш гарачым.
2) Неба сёння ясней, чым учора.
3) Мікола Гусоўскі — буйнейшы славянскі паэт-лаціністэпохі Адраджэння.
4) Задачу можна было рашыць прасцейшым спосабам.
5) Наталля Пятроўна маладзейшая свайго мужа.

**А9.** Адзначце словазлучэнні з правільна ўжытымі займеннікамі:

1) паважаць сябе; 4) з'еў нішто салёнае;
2) з самой раніцы; 5) дзякую цябе.
3) нічому не здзіўляўся;

**А10**. Укажыце правільна запісаныя формы лічэбнікаў:

1) пяцярымі; 4) абедзвюмя;
2) сям'юдзесяццю; 5) шасцідзесяццю пяццю.
3) двумастамі;

**А11**. Якія дзеясловы ў форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак **-ем**:

1) адштурхнуць; 3) плысці; 5) наступаць?
2) сесці; 4) вымавіць;

**А12**. Адзначце дзеясловы з суфіксамі **-ыва-**:

1) даказ..ваць; 3) праветр..ваць; 5) запіс..ваць.
2) падыгр..ваць; 4) каманд..ваць;

**А13**. Укажыце словазлучэнні з формамі дзеепрыметнікаў, якія не адпавядаюць нормам беларускай мовы:

1) расколаты лёд; 4) расхваляваўшаяся вучаніца;
2) стомленная гаспадыня; 5) чырванеючыя шчокі.
3) збялелы твар;

**А14**. Адзначце сказы з няправільным ужываннем дзеепрыслоўяў і дзеепрыслоўных словазлучэнняў:

1) Разглядаўшы фатаграфіі, Алена марыла пра новыя падарожжы.
2) Рыхтуючыся да экзаменаў, нельга забываць пра паўнацэнны сон.
3) Выступая перад вялікай аўдыторыяй, дакладчык вельмі хваляваўся.
4) Слухаючы мелодыю вальса, успамінаецца выпускны баль.
5) Трэнер аб'явіў перапынак, дазволіўшы спартсменам адпачыць.

**А15**. Адзначце словы, якія пішуцца разам:

1) гаварыць (на) распеў;
2) вывучыць (на) памяць;
3) памераць (у) абхват;
4) выказаць (у) голас;
5) ударыць (з) размаху.

**А16**. Адзначце сказы са словамі, якія з **не** пішуцца асобна:

1) (Н..) трэба шкадаваць пра мінулае.
2) Гаспадыня (н..) дагледзела куранят.
3) Стол быў прыкрыты (н..) выбеленым абрусам.
4) Рухавік працаваў (н..) спыняючыся.
5) Гэта кніга (не) надрукавана.

**В1.** Выпішыце слова з марфалагічным падваеннем зычных:

1) ураганны;
2) ладдзя;
3) снеданне;
4) палоззе;
5) пустазелле.

**В2.** Запішыце па-беларуску слова, пры перакладзе якога адбываецца цеканне:

1) в битве;
2) партитура;
3) Ватикан;
4) вахтёр;
5) мантия.

**В3.** Ад дзеяслова, запісанага ў дужках, утварыце дзеепрыметнік, запішыце яго ў пачатковай форме.

Міхась трымаўся за парэнчы (*пасінець*) ад холаду пальцамі.

**В4.** Ад прыслоўя *добра* ўтварыце простую форму вышэйшай ступені параўнання.

# ПРАКТЫКУМ ПА ПУНКТУАЦЫІ. 11 КЛАС

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА

### Тлумачальная запіска

Асноўная мэта факультатыўных заняткаў у XI класе заключаецца ў павышэнні пунктуацыйнай пісьменнасці вучняў, у развіцці культуры пісьма. Зыходзячы з гэтага, праграма прапануе разглядаць звыклыя праблемы перш за ўсё з пазіцый агульных задач валодання беларускай мовай у розных сферах яе дзейнасці. Таму ў праграме асаблівая ўвага надаецца маўленню ў цэлым, асаблівасцям пісьмовага маўлення, а таксама спецыфічным элементам маўленчага этыкету, якія выкарыстоўваюцца ў пісьмовым маўленні. Акрамя таго, свабоднае валоданне беларускай мовай, у прыватнасці пунктуацыяй беларускай мовы, прадугледжвае ўменне прымяняць пунктуацыйныя правілы з улікам пэўнай маўленчай сітуацыі, уменне найбольш дакладна і выразна перадаць сэнс выказвання, выкарыстоўваючы пры гэтым сінтаксічныя і пунктуацыйныя моўныя сродкі.

Найважнейшым напрамкам у навучанні з'яўляецца сістэматызацыя, падагульненне ведаў, уменняў і навыкаў па сінтаксісе і пунктуацыі, узаемасувязь арфаграфіі і пунктуацыі. Пры гэтым нельга не ўлічваць і тое, што, хоць арфаграфія і пунктуацыя разглядаюцца адносна самастойна (арфаграфія — у X класе, пунктуацыя — у XI класе), прадугледжваецца адначасовае паўтарэнне асноўных пунктуацыйных правілаў пры вывучэнні арфаграфічнай сістэмы, а ў працэсе засваення пунктуацыі — удасканаленне арфаграфічных уменняў і навыкаў.

Разам з тым праца па пунктуацыі ўлічвае сувязь з сінтаксічнымі канструкцыямі, якія ўключаюць у сябе тыя ці іншыя сэнсавыя часткі, што патрабуюць выдзялення іх знакамі прыпынку.

Праграма дае ўяўленне пра тое, як патрэбна размяркоўваць матэрыял па тэмах, якую паслядоўнасць вывучэння правілаў выбраць, каб у выніку навучыць вучняў правільна карыстацца пунктуацыйнымі

правіламі, дапамагчы асэнсаваць іх матываванасць і лагічнасць, садзейнічаць удасканаленню навыкаў вуснага і пісьмовага маўлення.

На гэтай аснове фарміруецца ўменне арыентавацца ва ўмовах вуснага і пісьмовага маўлення, правільна выбіраць з набору правілаў тое, якое адпавядае канкрэтнай сітуацыі маўлення. Такое ўменне значна аблягчае задачу засваення саміх правілаў, бо прымушае ў розных пунктуацыйных з'явах бачыць агульнае і адрознае, дапамагае глыбей асэнсоўваць атрыманыя раней веды па сінтаксісе і пунктуацыі (VIII—IX класы) і карыстацца гэтай інфармацыяй пры выбары правільнага напісання.

Задачы факультатыўных заняткаў:

- замацаваць, паглыбіць і сістэматызаваць веды вучняў па пунктуацыі беларускай мовы з апорай на веды іншых раздзелаў;
- удасканальваць пунктуацыйную пісьменнасць вучняў;
- сфарміраваць разуменне таго, што пунктуацыйная пісьменнасць з'яўляецца адным з паказчыкаў маўленчай і агульнай культуры асобы, сведчыць пра адукаванасць чалавека.

Сістэматызацыя ведаў па сінтаксісе і пунктуацыі і ўдасканаленне на гэтай аснове адпаведных уменняў і навыкаў прадугледжвае выкарыстанне на факультатыўных занятках разнастайных метадаў і прыёмаў, якія дапамагаюць рэалізаваць названыя задачы. Гэта перш за ўсё праца з падагульняльнымі схемамі і табліцамі па сінтаксісе і пунктуацыі, структурна-семантычны і камунікатыўны аналіз сінтаксічных адзінак і пошукі найбольш адэкватных пунктуацыйных сродкаў для больш выразнай і дакладнай перадачы зместу выказвання.

## Змест курса
### (35 гадзін на год)

### Уводзіны
### (2 гадзіны)

Пунктуацыя як сістэма агульнапрынятых правілаў пастаноўкі знакаў прыпынку. Задачы пунктуацыі. Практычнае значэнне пунктуацыі. Сувязь пунктуацыі з сінтаксісам, марфалогіяй. Значэнне інтанацыі пры пастаноўцы знакаў прыпынку.

Аснова сучаснай пунктуацыі. Нарматыўнасць пунктуацыі і пунктуацыйныя варыянты. Класіфікацыя знакаў прыпынку.

Асноўныя пунктуацыйныя паняцці (пунктаграма, пунктуацыйная памылка, пунктуацыйнае правіла, пунктуацыйны разбор).

Замацаванне пунктуацыйных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў пунктуацыйных даведніках.

## Знакі прыпынку ў канцы сказа (1 гадзіна)

Ужыванне кропкі ў канцы сказаў. Ужыванне пытальніка ў канцы сказаў. Ужыванне клічніка ў канцы сказаў. Ужыванне шматкроп'я ў канцы сказаў. Ужыванне спалучэння знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

## Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам (2 гадзіны)

Ужыванне працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам у залежнасці ад спосабаў іх марфалагічнага выражэння пры нулявой звязцы: калі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі або лічэбнікамі ў форме назоўнага склону; неазначальнай формай дзеяслова; неазначальнай формай дзеяслова і назоўнікам у форме назоўнага склону. Адсутнасць працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам.

## Працяжнік у няпоўным сказе (1 гадзіна)

Ужыванне працяжніка ў простым сказе на месцы пропуску выказніка. Ужыванне працяжніка ў складаным сказе ў няпоўных прэдыкатыўных частках. Пунктуацыйныя варыянты.

## Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа (4 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі бяззлучнікавым спосабам. Ужыванне коскі паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі з дапамогай супраціўных злучнікаў. Ужыванне коскі паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі з дапамогай парных і паўторных злучнікаў. Ужыванне коскі паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі спалучальным злучнікам *і*. Адсутнасць коскі паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі з дапамогай адзіночных спалучальных ці размеркавальных злучнікаў, а таксама з дапамогай неаднолькавых злучнікаў. Ужыванне знакаў прыпынку пры аднародных членах з абагульняльным словам.

### Знакі прыпынку пры зваротку (1 гадзіна)

Ужыванне коскі, клічніка, пытальніка ў залежнасці ад месца зваротка ў сказе (у пачатку, у сярэдзіне ці ў канцы сказа) і ад тыпу сказа паводле мэты выказвання. Ужыванне знакаў прыпынку пры выклічніках, часціцах і асабовых займенніках *ты*, *вы*, размешчаных пры зваротку.

### Знакі прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах (1 гадзіна)

Ужыванне знакаў прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах у залежнасці ад іх месца ў сказе (у пачатку, у сярэдзіне ці ў канцы сказа). Злучнікі *а*, *і* пры пабочных словах і словазлучэннях.

### Знакі прыпынку пры словах–сказах (1 гадзіна)

Ужыванне коскі і клічніка пры словах-сказах у залежнасці ад іх месца ў сказе і інтанацыйнага афармлення.

### Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа (5 гадзін)

Ужыванне коскі пры адасобленых дапасаваных і недапасаваных азначэннях у залежнасці ад спосабу іх марфалагічнага выражэння і месца ў сказе паводле азначальнага слова.

Ужыванне коскі і працяжніка пры адасобленых неразвітых і развітых прыдатках. Адасабленне неразвітых і развітых прыдаткаў, якія адносяцца да асабовага займенніка. Адасабленне неразвітых і развітых прыдаткаў, якія адносяцца да ўласнага імя і стаяць пасля яго. Адасабленне развітых прыдаткаў, якія адносяцца да агульнага назоўніка і размешчаны пасля яго. Адасабленне прыдаткаў, якія размешчаны перад уласным імем і агульным назоўнікам і набываюць акалічнаснае значэнне. Адасабленне прыдаткаў, якія звязваюцца з азначаемым назоўнікам словамі *па прозвішчы* (*па мянушцы*, *па клічцы* і інш.), а таксама злучнікамі *ці*, *або*.

Ужыванне коскі пры адасобленых дапаўненнях, выражаных назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *акрамя*, *апрача*, *замест*, *за выключэннем*. Адасабленне ўдакладняльных

спалучэнняў, якія пачынаюцца словамі *асабліва*, *нават*, *пераважна*, *у тым ліку*, *у прыватнасці*, *напрыклад* і інш.

Ужыванне коскі пры адасобленых акалічнасцях, выражаных адзіночнымі дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. Адасабленне акалічнасцей са значэннем уступкі, выражаных назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на*. Адсутнасць адасаблення акалічнасцей, выражаных фразеалагічнымі зваротамі, у склад якіх уваходзяць дзеепрыслоўі. Знакі прыпынку пры аднародных акалічнасцях, выражаных дзеепрыслоўнымі зваротамі.

Ужыванне коскі пры адасобленых удакладняльных акалічнасцях.

## Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах (3 гадзіны)

Ужыванне коскі пры параўнальных зваротах, якія размешчаны ў пачатку, у сярэдзіне ці ў канцы сказа.

Адсутнасць знакаў прыпынку пры параўнальных зваротах, якія выконваюць сінтаксічную функцыю выказніка; якія ўваходзяць у склад устойлівых зваротаў; якія маюць значэнне ‘ў якасці, у адпаведнасці’ або ‘тоеснасці’; перад якімі размешчана адмоўная часціца *не* або прыслоўі *зусім*, *амаль*. Адсутнасць знакаў прыпынку пры параўнальных зваротах, якія ўводзяцца ў сказ з дапамогай спалучэнняў (*не*) *больш чым*, (*не*) *менш чым*, (*не*) *раней чым*, (*не*) *пазней чым*, (*не*) *часцей як*, (*не*) *радзей як*, *усё роўна як* і пад. са значэннем прасторавага, часавага ці колькаснага абмежавання.

## Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў (2 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж часткамі складаназлучанага сказа. Ужыванне працяжніка паміж часткамі складаназлучанага сказа, калі другая частка выражае хуткую змену падзей або супрацьпастаўленне ці вынік. Варыянтнае ўжыванне коскі або працяжніка паміж часткамі складаназлучанага сказа. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі складаназлучанага сказа. Адсутнасць коскі паміж часткамі складаназлучанага сказа.

### Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў (3 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж часткамі складаназалежнага сказа. Ужыванне знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах з паслядоўным падпарадкаваннем некалькіх даданых частак (пры збегу адзіночных і парных падпарадкавальных злучнікаў). Ужыванне знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах з сузалежным аднародным і неаднародным падпарадкаваннем некалькіх даданых частак.

### Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў (3 гадзіны)

Ужыванне коскі паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, калі паміж імі выражаюцца адносіны адначасовасці або паслядоўнасці. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, калі гэтыя часткі маюць ускладненую будову і свае знакі прыпынку. Ужыванне двукроп'я паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, калі паміж імі выражаюцца паясняльныя, прычынна-выніковыя, аб'ектныя адносіны; калі другая частка выражае прамое пытанне; калі першая частка з'яўляецца абагульняльнай у дачыненні да наступных частак. Ужыванне працяжніка паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, калі паміж імі выражаюцца ўмоўна-выніковыя, умоўна-часавыя, супраціўныя, параўнальныя адносіны; калі часткі ўказваюць на хуткую змену падзей; калі ў другой частцы паведамляецца пра нечаканы вынік. Залежнасць выбару пэўнага знака прыпынку ад сэнсава-граматычных адносін паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа (пунктуацыйныя варыянты).

### Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі (3 гадзіны)

Ужыванне двукроп'я паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Ужыванне працяжніка паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Ужыванне кропкі з коскай паміж часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

### Знакі прыпынку ў сказах з чужой мовай
### (2 гадзіны)

Ужыванне знакаў прыпынку ў сказах з простай мовай, калі словы аўтара знаходзяцца перад простай мовай, пасля простай мовы, у сярэдзіне простай мовы.

Ужыванне знакаў прыпынку пры афармленні цытат і эпіграфаў.

### Падагульненне вывучанага
### (1 гадзіна)

Падагульняльнае паўтарэнне пунктуацыйных нормаў.

Падагульняльны тэст па пунктуацыі і яго аналіз.

### Прагназуемыя вынікі

Вучні павінны **ведаць**:

- сістэму правілаў беларускай пунктуацыі;
- функцыі знакаў прыпынку.

Вучні павінны **ўмець**:

- ставіць знакі прыпынку ў канцы сказа (кропка, пытальнік, клічнік, шматкроп'е), пры аднародных членах з абагульняльным словам і без яго, пры зваротках, параўнальных зваротах, пры адасабленні і ў сказах з пабочнымі словамі, словазлучэннямі і сказамі, устаўнымі канструкцыямі;
- ставіць працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам;
- ставіць знакі прыпынку ў складаных сказах са злучнікавай і бяззлучнікавай сувяззю, сказах з рознымі відамі сувязі;
- правільна афармляць дыялог і канструкцыі з простай мовай;
- устанаўліваць сэнсава-граматычныя адносіны ў сказах для абгрунтавання выбару пастаноўкі знакаў прыпынку.

Вучні павінны быць гатовы прымяняць атрыманыя веды і ўменні: пунктуацыйна правільна афармляць уласныя пісьмовыя выказванні.

## Прыкладное тэматычнае планаванне вучэбнага матэрыялу

(35 гадзін на год)

| Нумар заняткаў | Тэма заняткаў | Колькасць гадзін |
|---|---|---|
| 1, 2 | Уводзіны | 2 |
| 3 | Знакі прыпынку ў канцы сказа | 1 |
| 4, 5 | Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам | 2 |
| 6 | Працяжнік у няпоўным сказе | 1 |
| 7—10 | Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа | 4 |
| 11 | Знакі прыпынку пры зваротку | 1 |
| 12 | Знакі прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах | 1 |
| 13 | Знакі прыпынку пры словах-сказах | 1 |
| 14—18 | Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа | 5 |
| 19—21 | Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах | 3 |
| 22, 23 | Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў | 2 |
| 24—26 | Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў | 3 |
| 27—29 | Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў | 3 |
| 30—32 | Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі | 3 |
| 33, 34 | Знакі прыпынку ў сказах з чужой мовай | 2 |
| 35 | Падагульненне вывучанага | 1 |

# МЕТАДЫЧНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

## Уводзіны

**Мэта заняткаў** — пазнаёміць вучняў з тэарэтычнымі асновамі пунктуацыі; развіваць уменні тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце, адрозніваць раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку.

На ўводных занятках разглядаюцца паходжанне і значэнні тэрміна «пунктуацыя»; паказваецца роля знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце; аналізуецца сувязь пунктуацыі як раздзела мовазнаўства з сінтаксісам, марфалогіяй, інтаналогіяй; даюцца звесткі з гісторыі развіцця пунктуацыйнай сістэмы; называюцца асноўныя прынцыпы сучаснай пунктуацыі; разглядаюцца суадносіны пунктуацыйных варыянтаў; даецца класіфікацыя знакаў прыпынку; называюцца асноўныя пунктуацыйныя паняцці.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу школьнікі складаюць план вучэбнага тэксту. Напрыклад:

1. *Паходжанне і значэнні тэрміна «пунктуацыя».*
2. *Роля знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце.*
3. *Сувязь пунктуацыі з сінтаксісам, марфалогіяй, інтаналогіяй.*
4. *З гісторыі развіцця пунктуацыі.*
5. *Прынцыпы сучаснай пунктуацыі.*
6. *Пунктуацыйныя варыянты.*
7. *Раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку.*
8. *Асноўныя пунктуацыйныя паняцці.*

Настаўнік дае вучням заданне падрыхтаваць на аснове складзенага плана вуснае лінгвістычнае паведамленне на тэму «Пунктуацыя».

Мэта практычных заданняў — актуалізаваць веды вучняў пра асноўныя правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў простым і складаным сказах; развіваць уменні тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце, адрозніваць раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку.

Для таго каб сфарміраваць у вучняў уменне адрозніваць раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку, важна акцэнтаваць увагу на тым, што выдзяляльныя знакі прыпынку з'яўляюцца парнымі. Пры выкананні практыкавання 2 над знакамі прыпынку вучням трэба зверху напісаць літару *р* (калі знак прыпынку раздзяляльны) або літару *в* (калі знак прыпынку выдзяляльны).

У сказе з практыкавання 3 *Мы часам забываем пра тое, што было ўчора, пазаўчора, тыдзень назад, але вельмі асцярожна зберагаем у памяці даўняе, якое на працягу ўсяго сталага жыцця наталяе нашу*

*душу светлымі ўспамінамі, нібы жывой вадой, не даючы ёй зачахнуць, зняверыцца, змарнець* (А. Вакадеміч) коска пасля слова *назад* выконвае адначасова і выдзяляльную, і раздзяляльную функцыі, паколькі выдзяляе дадзеную частку (*што было ўчора, пазаўчора, тыдзень назад*) і раздзяляе аднародныя члены сказа, звязаныя злучнікам *але* (*забываем, але зберагаем у памяці*).

Дадатковыя заданні да прапанаваных практыкаванняў могуць заключацца ў тлумачэнні арфаграм у словах *матчыну*, *Купалавы*, *Коласавы* (вершы), *прыгоства*, *людской* (практыкаванне 1); *палескія*, *жыццелюбівага*, *дабрабыту* (практыкаванне 2); *зняверыцца* (практыкаванне 3).

Пасля выканання практыкавання 3 можна прапанаваць вучням напісаць невялікае сачыненне-разважанне на тэму «Светлы ўспамін», выкарыстаўшы ў якасці тэзіса прыведзены ў практыкаванні сказ.

Тэставыя заданні вучні выконваюць па варыянтах, пасля чаго адбываецца калектыўная праверка правільнасці іх выканання.

## Знакі прыпынку ў канцы сказа

**Мэта заняткаў** — паўтарыць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў канцы сказа; замацаваць уменне правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў канцы сказа.

У выніку знаёмства з тэарэтычным матэрыялам вучні павінны ўсвядоміць, што выбар знака прыпынку ў канцы сказа залежыць ад мэты выказвання і інтанацыйнай афарбоўкі сказа. Асаблівая ўвага ўдзяляецца пастаноўцы такіх знакаў прыпынку, як пытальнік і клічнік у канцы складаных сказаў, а таксама выпадкам абавязковай пастаноўкі клічніка ў канцы простага сказа.

Старшакласнікам прапануецца прывесці ўласныя прыклады простых і складаных сказаў, у канцы якіх ставяцца: а) кропка, б) пытальнік, в) клічнік, г) шматкроп’е, д) пытальнік з клічнікам, е) пытальнік са шматкроп’ем, ё) клічнік са шматкроп’ем, ж) пытальнік, клічнік і шматкроп’е.

Практыкаванне 4 прадугледжвае вуснае тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку ў канцы сказаў. Настаўнік можа прапанаваць вучням правесці ***лінгвістычны эксперымент***: паназіраць, ці будуць мець сэнс сказы, калі шматкроп’е, клічнік, пытальнік у канцы іх замяніць на кропку. Тэкст паводле Т. Бондар утрымлівае шмат пунктаграм у сярэдзіне сказаў (двукроп’е на мяжы частак бяззлучнікавага складанага сказа, коска паміж часткамі складаназалежнага сказа, коскі

паміж аднароднымі членамі сказа і інш.), таму вуснае іх тлумачэнне будзе садзейнічаць замацаванню адпаведных пунктуацыйных уменняў вучняў.

Тэкст паводле Б. Сачанкі (практыкаванне 5) падзелены на сказы, у канцы якіх трэба паставіць неабходныя знакі прыпынку. Вучні павінны знайсці ў тэксце сказы, пастаноўка кропкі ў канцы якіх будзе з'яўляцца памылкай, паколькі пазбавіць гэтыя сказы сэнсу (*Колькі сонечнага цяпла падаравала яму лета!*; *Які цудоўны дыван разаслала тут прырода!*). Дадатковыя заданні да тэксту могуць заключацца ў тым, каб знайсці і падкрэсліць словы, у якіх адбываецца асіміляцыя зычных па мяккасці (*апусціўся*, *часцінка*, *лісце*, *песняй*); зрабіць фанетычны разбор, разбор па саставе і марфалагічны разбор слова *ўгледзьцеся*.

Стварэнне тэксту на тэму «Парожнім словам не грашы» (С. Грахоўскі) з выкарыстаннем сказаў, розных паводле мэты выказвання і інтанацыйнай афарбоўкі (практыкаванне 6), спрыяе развіццю камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў. Выкананню задання можа папярэднічаць падбор сіноніма да слова *парожні* (*пусты*); тлумачэнне значэння слова *пустазвон* ('чалавек, які гаворыць пустое') і падбор сінонімаў да гэтага слова (*балбатун*, *пустамеля*); раскрыццё сэнсу прыказак (*Лепш недагаварыць, чым перагаварыць*; *Будзь спярша выслухачым, а потым апавядачым*; *Слухай многа, а гавары мала* і да т. п.).

Пры выкананні практыкавання 7 (пераклад тэксту з рускай мовы на беларускую) трэба звярнуць увагу вучняў на тое, што беларускай мове не ўласцівы дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу (рус. *погибающий*, *тонущий*). Пры перакладзе яны могуць быць заменены дзеепрыслоўямі: *Колькі разоў, гінучы і тонучы, я хапаўся за цябе...* . З мэтай праверкі правільнасці падзелу тэксту на сказы можна параўнаць тэкст, запісаны вучнямі, з арыгіналам — урыўкам з паэмы М. В. Гогаля «Мёртвыя душы»:

*Боже! Как ты хороша подчас, далекая, далекая дорога! Сколько раз, погибающий и тонущий, я хватался за тебя, и ты всякий раз меня великодушно выносила и спасала! А сколько родилось в тебе чудных замыслов, поэтических грез, сколько перечувствовалось дивных впечатлений!..*

У канцы заняткаў можна правесці ***графічны дыктант***: настаўнік выразна чытае тэкст, робячы паўзы ў канцы сказаў. Вучні фіксуюць у сшытках толькі знакі прыпынку ў канцы сказаў.

*Беларусь — краіна бульбы. Сёння нават не ўяўляеш, як можна было б жыць без яе. Што есці?*

*А бульба ж для нас — чужачка. Радзіма гэтай травы са смачнымі клубнямі — Паўднёвая Амерыка. Завезлі яе ў Беларусь толькі ў пер-*

*шай палове XVIII стагоддзя. Як мы супраць яе змагаліся напачатку! Спрабавалі есці верхнія зялёныя клубянькі і злаваліся: атрута!*

*Потым гэтую чужую расліну мы прысвоілі. Яна зрабілася штодзённай сялянскай ежаю...*

*Больш за 200 страў гатуецца ў нас з бульбы: дранікі, бабка, камы, калдуны, клёцкі, запяканка і іншая смаката. Мы нават маем сваю грунтоўную энцыклапедыю «Бульба»!*

*Беларусь без бульбы? Беларус без дранікаў? Не, гэта нешта не тое!*

*Дзякуй вам, Чылі ды Перу, што вы падаравалі нам бульбу!* (Паводле Я. Сіпакова).

Запіс у сшытках вучняў павінен мець наступны выгляд:

*. . ? . . . ! ! . ... . ! ? ? ! !*

## Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам; удасканальваць уменне правільна ставіць працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам і тлумачыць яго пастаноўку або адсутнасць.

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць графічныя схемы, якія адлюстроўваюць правілы пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам. Напрыклад:

*назоўнік Н. скл.* — *назоўнік Н. скл.*

(пры нулявой звязцы паміж дзейнікам і выказнікам, выражанымі назоўнікамі назоўнага склону, ставіцца працяжнік);

*назоўнік Н. скл.* ***НЕ*** *назоўнік Н. скл.*

(працяжнік не ставіцца, калі пры выказніку, выражаным назоўнікам назоўнага склону, ёсць часціца *не*) і да т. п.

У тэксце паводле С. Паўлава (практыкаванне 8) вучні павінны знайсці пунктаграмы, якія адпавядаюць правілу «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам». Пры тлумачэнні пастаноўкі знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў варта нагадаць старшакласнікам, што пунктаграмай з'яўляецца не толькі наяўнасць знака прыпынку, але ў некаторых выпадках і яго адсутнасць (напрыклад, адсутнасць коскі перад словам *як* у сказе *Мабыць, таму лес увайшоў у маю свядомасць як таямнічы волат і чараўнік, лекар і карміцель*). Развіццю арфаграфічнай пільнасці вучняў будзе спрыяць заданне выпісаць з тэксту словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс галосных *е*, *ё*, *я*» (*свядомасць*, *таямнічы*, *гектар*, *вуглякіслага* і інш.).

Пасля самастойнага выканання вучнямі практыкавання 9 (спісванне тэксту паводле У. Караткевіча пра М. Агінскага) і калектыўнай праверкі настаўнік можа прапанаваць творчае заданне — на аснове прыведзенай ніжэй інфармацыі скласці і запісаць сказы з працяжнікам паміж дзейнікам і выказнікам або яго адсутнасцю.

*Для большасці беларусаў Міхал Агінскі вядомы як выдатны кампазітар, аўтар паланэза «Развітанне з радзімай». Галоўным заняткам Агінскага ў Залессі была музыка. Ён пісаў п'есы для фартэпіяна, маршы, мазуркі, паланэзы. Сам Агінскі сваім творам пэўных назваў не даваў. «Развітаннем з радзімай» назваў у 1830-я гады знакаміты паланэз нехта з выдаўцоў. Гэты паланэз Агінскі напісаў, калі вырашыў назаўжды выехаць у Італію* (Паводле К. Тарасава).

Вучні могуць скласці наступныя сказы:

*Міхал Агінскі — выдатны кампазітар, аўтар паланэза «Развітанне з радзімай». Музыка — галоўны занятак Агінскага ў Залессі. Ён аўтар п'ес для фартэпіяна, маршаў, мазурак, паланэзаў. «Развітанне з радзімай» — назва, дадзеная знакамітаму паланэзу кімсьці з выдаўцоў.*

Практыкаванне 10 развівае ўменне старшакласнікаў тлумачыць умовы пунктуацыйнай варыянтнасці. Паколькі працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам можа ставіцца ў тых выпадках, калі на дзейнік ці на выказнік прыпадае лагічны націск, у асобных сказах з практыкавання дапускаецца пастаноўка працяжніка: *Свякруха — не маці* (І. Шамякін); *Я — пясняр лясоў, балота і загонаў каласістых* (М. Чарот) і інш.

З мэтай узбагачэння слоўніка вучняў назвамі рэалій нацыянальнай культуры настаўнік можа прапанаваць уставіць у сказы прапушчаныя дзейнікі — назоўнікі назоўнага склону:

1. ... — *самае шаноўнае і сімвалічна значнае месца ў традыцыйнай хаце*. 2. ... — *народны звычай узаемадапамогі, калектыўная добраахвотная праца «за пачастунак»*. 3. ... — *прадметы, выявы або дзеянні, якім прыпісвалі магічную здольнасць засцерагаць ад няшчасцяў і ад злых духаў*. 4. ... — *традыцыйная прылада для памолу зерня, ручны млын*. 5. ... — *керамічныя пліткі для абліцоўкі печаў, камінаў, сцен у памяшканнях* (Энцыклапедычны даведнік «Народная культура Беларусі»).

Прапушчаныя словы: 1) *покуць*, 2) *талака*, 3) *абярэгі*, 4) *жорны*, 5) *кафля*.

Разважанне аб тым, што такое шчасце (практыкаванне 11), спрыяе развіццю камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў. Пры ўзнікненні

ў старшакласнікаў цяжкасцей настаўнік можа даць заданне пракаменціраваць наступныя афарыстычныя выказванні Г. Марчука:

- *Шчасце складваецца не з таго, чаго ў нас няма, а з таго, што мы ёсць*;
- *Калі ёсць у сэрцы любоў да ўсяго жывога — вось пачатак шчасця*;
- *Калі шчасця трэба дабівацца — гэта ўжо не шчасце. Шчасце прыходзіць натуральна і непрыкметна, часцяком нечакана, але заўсёды заслужана за турботы шчырыя і справы духоўныя*.

## Працяжнік у няпоўным сказе

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі працяжніка ў няпоўным сказе; удасканальваць уменне правільна ставіць працяжнік у няпоўным сказе і тлумачыць яго пастаноўку або адсутнасць.

Азнаямленне вучняў з тэарэтычным матэрыялам можа суправаджацца складаннем табліцы «Працяжнік у няпоўным сказе»:

| Працяжнік ставіцца | Працяжнік не ставіцца |
|---|---|
| 1) у простых няпоўных сказах на месцы прапушчанага члена сказа | |
| калі ў маўленні на месцы пропуску робіцца паўза | калі на месцы пропуску няма працяглай паўзы |
| 2) у няпоўнай прэдыкатыўнай частцы складанага сказа на месцы прапушчанага члена сказа | |
| калі гэты член сказа прысутнічае ў папярэдняй прэдыкатыўнай частцы, а ў маўленні на месцы пропуску робіцца працяглая паўза | калі ў маўленні на месцы пропуску паўза не робіцца |
| — | 3) на месцы прапушчанага выказніка ў даданых параўнальных частках складаназалежнага сказа |

Мэта практыкавання 12 — развіццё ўмення вучняў абгрунтоўваць пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку пры пропуску слоў у сказах.

Выкананне практыкавання 13 можа суправаджацца вусным каменціраваннем. Варта звярнуць увагу вучняў на спалучэнне коскі

з працяжнікам у другім сказе, а таксама на адсутнасць коскі паміж аднароднымі даданымі часткамі, звязанымі з дапамогай злучніка *і*: *Прайдзі на захад якую-небудзь вярсту па чыгунцы або па пыльным шляху, які ляжыць побач, — і тут табе сасновы бор, дзе чарніц, і брусніц, і грыбоў не абярэшся; трохі злева — змешаны лісцвяны лес, у якім пераважае альха і бяроза і дол якога проста чырванее ад суніц.*

Пры выкананні практыкавання 14 вучні павінны ўказаць магчымыя пунктуацыйныя варыянты. Напрыклад, у сказе «*Зала — як суцэльны грот з кветак*», згодна з пунктуацыйнымі нормамі, працяжнік ставіць не трэба, паколькі пры выказніку ўжываецца параўнальны злучнік *як*. Пастаноўку аўтарам працяжніка ў гэтым сказе можна растлумачыць тым, што на дзейнік падае лагічны націск.

## Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа; замацаваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры аднародных членах сказа і тлумачыць іх пастаноўку.

На аснове тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць схемы, якія адлюстроўваюць пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа. Напрыклад:

**○, ○, ○…** (коска ставіцца паміж аднароднымі членамі, якія звязаны паміж сабой без злучнікаў);

**○ і ○ ды ○…** (коска не ставіцца паміж аднароднымі членамі, звязанымі неаднолькавымі злучнікамі);

**●: ○, ○, ○ — …** (калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, але сказ імі не заканчваецца, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх — працяжнік) і да т. п.

Тлумачэнне вучнямі пастаноўкі ці адсутнасці знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа (практыкаванне 15) можа адбывацца графічна, з дапамогай схем. Вызначэнне сінтаксічнай функцыі аднародных членаў сказа адбываецца з мэтай паўтарэння ведаў па сінтаксісе.

Выкананне практыкавання 16 суправаджаецца вусным каменціраваннем. Пры неабходнасці вучні складаюць схемы сказаў, каб растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку. Дадатковае заданне можа заключацца ў запісе слоў *Кіславодск*, *адчуваў*, *з часоў* у фанетычнай транскрыпцыі ([к'іславоцк], [аччуваў], [ш часоў]).

Практыкаванне 17 выконваецца калектыўна. Каб растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказа, трэба прааналізаваць яго граматычную будову (просты сказ ці складаны; ускладнены ці няўскладнены), пасля чаго зрабіць схему сказа. Напрыклад, пісьмова растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сказе «*Бадай, самая дзіўная мясціна пад Браславам — доўгі мыс, што пачынаецца ад Слабодкі і завяршаецца крутым узлобкам*» можна наступным чынам:

[*пабочнае слова*, *назоўнік Н. скл.* — *назоўнік Н. скл.*], (○ *і* ○).

Пры выкананні практыкавання 18 вучні замацоўваюць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры аднародных членах сказа, звязаных з дапамогай парных (*хоць ... але*, *калі не ... то*, *як ... так і*, *не столькі ... колькі* і інш.) і паўторных (*то ... то*) злучнікаў.

Удасканаленне навыку правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі, а таксама ўзбагачэнне слоўніка вучняў безэквівалентнымі (у адносінах да рускай мовы) словамі можа адбывацца на аснове сказаў, якія запісваюцца пад дыктоўку:

1. *Прыезджы з Міканорам* ***укленчылі*** *каля воза, перакусілі і зноў узяліся за косы* (І. Мележ). 2. ***Верашчака****, бліны,* ***крупнік****, капуста, мучныя вушкі, тоўчаны мак і іншыя прысмакі — вось што такое калядная куцця ў сваім поўным акружэнні* (А. Якімовіч). 3. *Набрыняла яна* [*зямля*] *сокамі пахучымі, захмяліла дрэвы* ***кляновікам*** *ды* ***бярозавікам****, упрыгожылася* ***краскамі*** *веснавымі, нясмелымі, сарамлівымі* (М. Лынькоў). 4. *У хаце яшчэ тупалі* ***дружкі*** *і сваты, на вуліцы гаманілі і спявалі* (Б. Мікуліч). 5. *У лесе кожная мясціна — лужок, палянка,* ***баравіна*** *— асобны твар і выраз мае* (Я. Колас).

Пасля запісу сказаў і тлумачэння пастаноўкі знакаў прынынку вучням даецца заданне знайсці ў сказах словы, пры перакладзе якіх на рускую мову неабходна ўжыць словазлучэнні (бел. *укленчылі* — рус. *опустились на колени*; *верашчака — жидкое мучное блюдо*; *крупнік — крупяной суп*; *кляновік — сок кленового дерева*; *бярозавік — березовый сок*; *краска — полевой цветок*; *дружка — подруга невесты в свадебном обряде*; *баравіна — возвышенный участок леса в бору*).

Перад выкананнем практыкавання 19 трэба актуалізаваць веды вучняў пра аднародныя і неаднародныя азначэнні. Гэта можна зрабіць з апорай на табліцу (прыклады сказаў з аднароднымі і неаднароднымі азначэннямі старшакласнікі павінны прывесці самі або выкарыстаць сказы з практыкавання 19):

| Аднародныя азначэнні | Неаднародныя азначэнні |
|---|---|
| 1) характарызуюць прадмет паводле агульнай прыметы;<br>2) выражаюцца прыметнікамі аднаго разраду;<br>3) першае азначэнне выражана прыметнікам, другое — дзеепрыметнікам;<br>4) адно азначэнне дапасаванае, другое — недапасаванае;<br>5) адасобленыя азначэнні | 1) характарызуюць прадмет у розных адносінах;<br>2) адно азначэнне выражана якасным прыметнікам, другое — адносным;<br>3) першае азначэнне выражана дзеепрыметнікам (дзеепрыметнікавым зваротам), другое — прыметнікам |

Практыкаванне 20 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах. Усведамленню школьнікамі таго, што абагульняльныя словы выконваюць тую ж сінтаксічную функцыю, што і аднародныя члены, спрыяе заданне вызначыць сінтаксічную функцыю аднародных членаў і абагульняльных слоў.

Практыкаванні 21, 22 прапануюцца для самастойнага выканання з наступнай узаемаправеркай у парах.

З мэтай замацавання навыку правільна ставіць знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі, а таксама ўзбагачэння слоўнікавага запасу вучняў назвамі рэалій нацыянальнай культуры можна прапанаваць заданне дапоўніць сказы аднароднымі членамі:

1. *Хлеб быў неабходным атрыбутам разнастайных абрадаў, урачыстасцей і свят: сватання, ...* (вяселля, радзін, заворвання) (В. Цітоў). 2. *У Беларусі здаўна найбольш пашыранымі відамі народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва былі разьба па дрэве, ...* (ганчарства, ткацтва, вышыўка, пляценне) (Я. Сахута). 3. *Галаўныя ўборы жанчын адрозніваліся асаблівай разнастайнасцю, сярод іх — наміткі, ...* (чапцы, хусты, вянкі, скіндачкі) (В. Цітоў). 4. *Большасць народных свят працягвалася адзін дзень, аднак існавалі і шматдзённыя святы: Каляды, ...* (Гуканне вясны, Масленіца, Зялёныя святкі, або Сёмуха) (Э. Дубянецкі). 5. *Асобую ролю ў інтэр'еры традыцыйнага жылля адыгрывалі тыя рэаліі, што выконвалі жыццёва важныя практычныя і ідэйна-абрадавыя функцыі: печ, ...* (парог, покуць, стол, лавы, абразы, ручнікі, посцілкі, куфар, дзяжа) (В. Цітоў).

# Знакі прыпынку пры звароtку

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры звароtку; замацаваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры звароtку і тлумачыць іх пастаноўку.

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць схемы, якія адлюстроўваюць пастаноўку знакаў прыпынку пры звароtку. Напрыклад:

**... , з , ...** (зваротак, які знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, выдзяляецца на пісьме коскамі);

**... , з , ... , з , ...** (калі зваротак раздзяляецца на часткі іншымі словамі, то кожная з іх выдзяляецца коскамі);

**выклічнік, з , ...** (выклічнік, што стаіць пры звароtку, аддзяляецца ад яго коскай) і інш.

Практыкаванне 23 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах са зваротkам. Перад выкананнем дадатковага задання (назваць арфаграмы ў словах *нязменнай*, *матчына*) варта нагадаць школьнікам, што арфаграма — гэта правільнае напісанне, якое выбіраецца з шэрагу магчымых і адпавядае правілам арфаграфіі або традыцыі.

Выкананне практыкавання 24 суправаджаецца вусным каменціраваннем. Два-тры сказы варта разабраць па членах сказа, каб актуалізаваць веды вучняў аб тым, што зваротак членам сказа не з'яўляецца.

Мэта практыкавання 25 — замацаванне ведаў вучняў аб пунктуацыйным афармленні сказаў з часціцамі *о*, *ну* пры звароtках (указаныя часціцы ад звароtка коскай не аддзяляюцца). Словы *цяпло*, *твой*, *збірайцеся* могуць быць прапанаваны для марфалагічнага разбору.

Практыкаванне 26 прадугледжвае самастойную працу вучняў з творамі мастацкай літаратуры. Магчымы іншы варыянт выканання задання — запіс сказаў са зваротkамі пад дыктоўку з наступным тлумачэннем знакаў прыпынку:

1. *Што з табою, Андрэйка?* 2. *Прабачце, Галіна Іванаўна, затрымалі абставіны.* 3. *Продкі мае, любыя мае, мір вам.* 4. *Дзякуй, Толенька, дзякуй, родны.* 5. *Ну што, мой родны, што, мой хлопчык?* (У. Караткевіч).

Папаўненню слоўніка вучняў адметнымі беларускімі ветлівымі зваротамі спрыяе заданне ахарактарызаваць маўленчыя сітуацыі, у якіх могуць ужывацца наступныя звароткі, і скласці з імі сказы:

- *Сябры! Калегі! Каляжанкі!* (афіцыйны зварот да калег);
- *Шаноўная грамада! Паважаныя! Шаноўныя!* (урачысты афіцыйны зварот да групы людзей);

• *Дарагая сябрына!* (урачысты зварот да кола сяброў);

• *Сябра! Дружа!* (неафіцыйны зварот да блізкага чалавека, звычайна ўжываецца пры перапісцы);

• *Дзядзька! Цётка!* (зварот да людзей сталага ўзросту).

## Знакі прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры пабочных канструкцыях і тлумачыць іх пастаноўку.

Пры азнаямленні з тэарэтычным матэрыялам увага вучняў звяртаецца на адрозненне злучнікаў *і*, *а*, якія стаяць перад пабочнымі канструкцыямі, ад узмацняльных часціц *і*, *а*. Гэта можна зрабіць з апорай на наступную схему:




Практыкаванне 27 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах.

Выконваючы практыкаванне 28, вучні ставяць знакі прыпынку ў сказах з пабочнымі канструкцыямі і вызначаюць структуру пабочных канструкцый (слова, словазлучэнне ці сказ). Пры гэтым варта вусна ўказаць значэнні пабочных канструкцый (абазначаюць няўпэўненасць — *мусіць*; эмоцыі — *на маё здзіўленне*; крыніцу паведамлення — *на маю думку* і інш.).

Пасля спісвання тэксту пра пачуццё Радзімы (практыкаванне 29) варта прапанаваць старшакласнікам скласці вуснае выказванне на тэму «Што такое Радзіма» з выкарыстаннем пабочных канструкцый. Настаўнік можа даць вучням заданне ўключыць у створаныя імі тэксты:

• прыказкі: *Родная зямелька як зморанаму пасцелька*; *У сваім краі як у раі*; *Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы* і інш.;

• афарызмы: *Радзімы вялікай няма без малое* (У. Мазго); *Для бездухоўнага чалавека не існуе паняццяў «радзіма», «народ»* (Г. Марчук); *Беларусь — мая маці і мова, паветра і хлеб* (А. Вялюгін) і інш.

Практыкаванне 30 спрыяе замацаванню ўмення вучняў пунктуацыйна правільна афармляць сказы з пабочнымі канструкцыямі, якія ўваходзяць у склад адасобленых членаў сказа (калі пабочныя словы і словазлучэнні ўваходзяць у склад адасобленых членаў сказа і размешчаны ў пачатку або ў канцы іх, то паміж гэтымі словамі, словазлучэннямі і адасобленымі членамі сказа коска не ставіцца).

## Знакі прыпынку пры словах-сказах

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры словах-сказах; развіваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры словах-сказах і тлумачыць іх пастаноўку.

Пасля азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам вучням даецца заданне дапоўніць яго ўласнымі прыкладамі, што ілюструюць розныя выпадкі пастаноўкі знакаў прыпынку пры словах-сказах.

Мэта практыкавання 31 — развіццё ўмення вучняў вусна тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку пры словах-сказах.

Практыкаванне 32 прапануецца для самастойнага выканання. Дадатковае заданне да тэксту можа заключацца ў тым, каб знайсці ў ім прыказку (*Голад не цётка*), фразеалагізм (*не за гарамі*) і растлумачыць іх сэнс.

Выкананне практыкавання 33 спрыяе развіццю навыкаў правільнага пунктуацыйнага афармлення сказаў, а таксама ўдасканаленню ўмення тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў простых сказах ускладненай будовы і ў складаных сказах. З мэтай замацавання ўмення вучняў выконваць фанетычны разбор слоў можна прапанаваць выпісаць са сказаў па пяць слоў, у якіх:

а) колькасць гукаў і літар не супадае (*жыццё*, *толькі*, *сваім*, *як*, *яшчэ* і інш.);

б) вымаўленне не адпавядае напісанню (*змесце*, *знайсці*, *святога*, *не ведаю*, *народ*).

# Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры адасобленых азначэннях, прыдатках, дапаўненнях, акалічнасцях; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа і тлумачыць іх пастаноўку.

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу пра ***адасабленне азначэнняў*** вучні складаюць графічныя схемы, якія адлюстроўваюць правілы пастаноўкі знакаў прыпынку пры адасобленых азначэннях. Напрыклад:

[ назоўнік ]**,** /дзеепрыметнікавы зварот/**, ...**

(выдзяляюцца коскамі азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі зваротамі, калі яны стаяць пасля назоўніка);

**... ,** /азначэнне/**,** [ асабовы займеннік ]

(выдзяляюцца коскамі азначэнні, якія адносяцца да асабовага займенніка) і да т. п.

Практыкаванне 34 накіравана на развіццё ўмення вучняў пісьмова (з дапамогай графічных схем) тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых азначэннях.

Выкананне практыкавання 35 суправаджаецца вусным каменціраваннем. Падкрэсліваючы адасобленыя азначэнні, вучні не толькі тлумачаць умовы іх адасаблення, але і ўказваюць віды азначэнняў — дапасаваныя (выражаюцца дзеепрыметнікамі, прыметнікамі, дзеепрыметнікавымі і прыметнікавымі зваротамі) ці недапасаваныя (выражаюцца назоўнікамі ва ўскосных склонах; спалучэннямі назоўніка з прыметнікам, дзеепрыметнікам, лічэбнікам, займеннікам; інфінітывам і інш.).

Практыкаванне 36 прапануецца для самастойнага выканання з наступнай калектыўнай праверкай. Тэкст практыкавання можа быць выкарыстаны ў якасці дыктанта. З улікам узроўню падрыхтаванасці класа настаўнік можа прапанаваць творчае заданне: на аснове прыведзенай ніжэй інфармацыі (яе вучні будуць успрымаць на слых) скласці і запісаць сказы з адасобленымі азначэннямі.

*Язэп Драздовіч увасобіў у выяўленчым мастацтве Беларусь, яе культуру і гісторыю. Цыкл работ ён прысвяціў замкаваму дойлідству Беларусі і Літвы («Мір», «Крэва», «Ліда», «Гальшаны» і інш.). Драздовіч стварыў партрэты полацкіх і смаленскіх князёў, славутых гістарычных асоб, пісьменнікаў. Шэраг работ мастак прысвяціў беларускаму першадрукару Ф. Скарыну. Найбольш ярка мастацкі талент Язэпа Драздовіча быў рэалізаваны ў жывапісных і графічных творах на фантастычную і касмічную тэмы: «Жыццё на Марсе», «Жыццё на Сатурне», «Жыццё на Месяцы», «Космас» і інш.*

*У Мінску на вуліцы Багдановіча Язэпу Драздовічу ўстаноўлены помнік (скульптар І. Голубеў).*

Вучні могуць скласці наступныя сказы з адасобленымі азначэннямі:

*Язэп Драздовіч стварыў цыкл работ, прысвечаны замкаваму дойлідству Беларусі і Літвы. Вядомы партрэты полацкіх і смаленскіх князёў, славутых гістарычных асоб, пісьменнікаў, напісаныя Драздовічам. Сярод твораў мастака ёсць работы, прысвечаныя беларускаму першадрукару Ф. Скарыну. У шэрагу жывапісных і графічных работ, створаных Драздовічам, раскрываюцца фантастычная і касмічная тэмы. Аўтарам помніка Язэпу Драздовічу, устаноўленага на вуліцы Багдановіча ў Мінску, з'яўляецца скульптар І. Голубеў.*

Практыкаванне 37 спрыяе ўдасканаленню ўменняў вучняў правільна ставіць знакі прыпынку ў простых сказах ускладненай будовы і ў складаных сказах, тлумачыць умовы адасаблення азначэнняў. Дадатковае заданне можа заключацца ў сінтаксічным разборы простага ўскладненага сказа (на выбар).

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу пра ***адасабленне прыдаткаў*** можна прапанаваць вучням назваць умовы адасаблення, агульныя для азначэнняў і прыдаткаў (адасабляюцца азначэнні і прыдаткі, якія: а) адносяцца да асабовага займенніка; б) адносяцца да назоўніка і стаяць пасля яго; в) стаяць перад назоўнікам і маюць акалічнаснае значэнне ўступкі або прычыны).

Выкананне практыкавання 38 суправаджаецца вусным каменціраваннем. З мэтай замацавання ведаў вучняў пра род назоўнікаў настаўнік можа даць дадатковае заданне — знайсці ў сказах агульныя назоўнікі, якія маюць форму толькі мужчынскага роду, хоць могуць абазначаць і асоб жаночага полу (да такіх назоўнікаў адносяцца назвы асоб паводле роду іх дзейнасці, прафесіі, пасады: *інжынер*, *мовазнавец*, *доктар*, *прафесар* і інш.).

Практыкаванне 39 накіравана на фарміраванне ўмення вучняў складаць сказы з адасобленымі прыдаткамі на аснове культуразнаўчых звестак. Настаўніку варта звярнуць увагу старшакласнікаў на правапіс вялікай і малой літар у асабовых назвах (*Дзежыц Валянцін Канстанцінавіч* і інш.), геаграфічных назвах (*Віцебск*), назвах арганізацый (*Віцебскае мастацкае вучылішча*), назвах з двукоссем (*«Я з вогненнай вёскі...»*), назвах архітэктурных помнікаў (*Жыровіцкі Успенскі сабор*), мастацкіх стыляў (*барока*).

Пры перакладзе тэксту з рускай мовы на беларускую (практыкаванне 40) вучні могуць карыстацца руска-беларускімі слоўнікамі. Настаўнік акцэнтуе ўвагу старшакласнікаў на моўных сродках, якія ўжываюцца для замены не ўласцівых беларускай мове дзеепрыметнікаў: рус. *На острове Крите рассказывали о Зевсе — могучем боге, **похитившем**, превратившись в быка, финикийскую царевну Европу* — бел. *На востраве Крыце расказвалі пра Зеўса — магутнага бога, **які выкраў**, ператварыўшыся ў быка, фінікійскую царэўну Еўропу.*

Удасканаленне ўмення вучняў правільна ставіць знакі прыпынку пры адасобленых азначэннях і прыдатках можа адбывацца на аснове сказаў, якія запісваюцца пад дыктоўку:

1. *Хамут складаецца з клешчаў — драўлянага каркаса, абкладзенага знутры лямцам — мяккім валікам з воўны або шэрсці.* 2. *Хамут мае па баках гужы — дзве скураныя ці вераўчаныя пятлі, каб трымаць дугу і аглоблі.* 3. *Ніжнія канцы клешчаў сцягваюцца на шыі каня супоняю — тонкім скураным паскам.* 4. *Да спіны каня шчыльна прылягае падсядзёлак — скураная падушка на лямцавай падкладцы.* 5. *Паверх падсядзёлка працягваецца ад адной да другой аглоблі папруга — церассядзёлак: ён трымае вышэй хамут і аглоблі.* 6. *Лейцы мацуюцца да аброці, надзетай на галаву каня* (Паводле М. Маляўкі).

Для таго каб дапамагчы вучням уявіць конскую вупраж, настаўнік можа выкарыстаць ілюстрацыі рыштунку для запрэжкі коней.

Дадатковае заданне патрабуе адказаць, як называюць майстра, што шые раменную вупраж (*рымар*), а таксама растлумачыць сэнс фразеалагізмаў:

- *надзяваць хамут на шыю* (‘занявольваць, браць у поўнае падпарадкаванне каго-небудзь’);
- *запрагаць у аглоблі* (‘беручы пад сваю ўладу, прымушаць каго-небудзь працаваць, эксплуатаваць каго-небудзь’);
- *брацца за гуж* (‘пачынаць якую-небудзь справу’);
- *браць лейцы ў рукі* (‘прымаць на сябе кіраванне чым-небудзь’).

Пасля азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам пра ***адасабленне дапаўненняў*** вучням даецца заданне дапоўніць яго ўласнымі прыкла-

дамі, што ілюструюць розныя выпадкі пастаноўкі знакаў прыпынку пры адасобленых дапаўненнях і дапаўненнях, якія не адасабляюцца.

Практыкаванне 41 спрыяе замацаванню ўмення вучняў правільна ставіць знакі прыпынку пры адасобленых дапаўненнях і тлумачыць іх пастаноўку. Дадатковае заданне — зрабіць разбор па саставе і словаўтваральны разбор слоў *зрэдку*, *па-гарадскому*, *узгорак*.

Пры выкананні творчай работы (практыкаванне 42) вучні пры неабходнасці могуць выкарыстаць літаратурна-мастацкія выданні з серыі «Твае гарады, Беларусь».

Пасля азнаямлення з тэарэтычным матэрыялам пра ***адасабленне акалічнасцей*** вучням прапануецца закончыць наступныя выказванні (віктарына «Калі — то»):

1. Калі акалічнасць выражана фразеалагізмам, у складзе якога ёсць дзеепрыслоўе, то... (*яна не адасабляецца*).

2. Калі акалічнасць уступкі выражана назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на*, то... (*яна адасабляецца*).

3. Калі злучнік *і* звязвае дзве акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі ці адзіночнымі дзеепрыслоўямі, то... (*коска перад злучнікам не ставіцца*).

4. Калі акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем, сваім значэннем набліжаецца да прыслоўя спосабу дзеяння і размешчана ў канцы сказа, то... (*яна не адасабляецца*).

5. Калі акалічнасць выражана адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, то... (*яна адасабляецца*).

6. Калі паміж выказнікам і акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, ёсць часціцы *і*, *толькі*, *нават*, то... (*акалічнасць не адасабляецца*).

Практыкаванне 43 накіравана на развіццё ўмення вучняў вызначаць умовы, пры якіх акалічнасці ў сказах адасабляюцца або не адасабляюцца.

Выкананне практыкавання 44 можа суправаджацца вусным каменціраваннем. Адзін з запісаных сказаў варта разабраць па членах сказа.

Практыкаванне 45 (спісванне тэксту паводле Т. Бондар пра званы Сафіі) вучні выконваюць самастойна з наступнай узаемаправеркай у парах. Настаўнік можа спытаць у старшакласнікаў, якая культурная падзея ў жыцці нашай краіны атрымала назву «Званы Сафіі» (*так называецца Міжнародны фестываль арганнай музыкі, які праходзіць у канцэртнай зале Сафійскага сабора*).

Пасля выканання практыкавання 46 (спісвання тэксту паводле Я. Брыля пра кнігі А. П. Чэхава) можна прапанаваць вучням скласці

пісьмовае выказванне на тэму «Гісторыя маёй дружбы з кнігай» з выкарыстаннем сказаў з адасобленымі членамі.

З улікам узроўню падрыхтаванасці класа настаўнік можа правесці ***дыктант-пераклад***: тэкст чытаецца па-руску, вучні запісваюць яго па-беларуску.

*Драматургия Чехова пользовалась большим успехом у белорусского зрителя. Его пьесы ставились и на профессиональной, и на любительской сцене, особенно в первое десятилетие XX века. Некоторые из них шли в переводе на белорусский язык. Несколько позже были поставлены «Чайка» и «Дядя Ваня».*

*Литературоведы отмечают влияние Чехова на пьесу Я. Купалы «Разоренное гнездо» — реалистически-психологическую драму с элементами символизма. Раскрывая драматизм повседневного существования человека, Я. Купала творчески осваивал традиции чеховской драматургии.*

*Письма белорусских почитателей творчества А. П. Чехова собраны в книге С. Букчина «Дорогой Антон Павлович...»* (По Т. Ф. Мушинской).

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу пра ***адасабленне ўдакладняльных акалічнасцей*** вучні могуць складаць схему:



Мэта практыкавання 47 — развіццё ўмення вучняў знаходзіць у тэксце сказы з адасобленымі ўдакладняльнымі акалічнасцямі і тлумачыць умовы іх адасаблення.

Выкананне практыкавання 48 суправаджаецца вусным каменціраваннем.

Практыкаванне 49 вучні выконваюць самастойна з наступнай калектыўнай праверкай. Настаўнік можа прапанаваць растлумачыць сэнс ужытага ў тэксце слова *коцік* (‘суквецце з дробных кветачак у некаторых дрэвавых раслін, якое ападае пасля цвіцення’) і раскрыць лексічныя значэнні амонімаў да гэтага слова (*коцік* — памяншальна-ласкальная форма слова *кот* ‘самец кошкі’; *коцік* — марская прамысловая млекакормячая жывёліна з каштоўным футрам, якая водзіцца ў паўночнай частцы Ціхага акіяна).

Замацаванне навыку правільна ставіць знакі прыпынку ў простых сказах ускладненай будовы можа адбывацца ў працэсе ***выбарачнага дыктанта***. Настаўнік чытае тэкст паводле Я. Пархуты «У Гудзевіцкім музеі этнаграфіі», вучні запісваюць толькі сказы з аднароднымі і адасобленымі членамі.

*У Гудзевіцкім музеі этнаграфіі*

*Мы ў памяшканні музея этнаграфіі. Хаце гэтай каля двухсот гадоў.*

*Вокны ў хаце маленькія. Але тады гэта было практычна. Высадзіць які-небудзь жэўжык шыбіну, дык яе лёгка было замяніць. Усяго шкла ішло — пядзя на пядзю. Ды і холаду такое акно прапускала меней.*

*Каля парога стаіць цэбар: сяляне клапаціліся, каб у халодны час ежа свінням была цёплай. Вось паліца з драўлянымі лыжкамі, глінянымі міскамі, глячкамі, макацёрам, ці мяліцай. А гэта спарыш — два гаршчэчкі, злучаныя агульнай ручкай. У іх насілі ў поле аратаму ці касцу яду. У адзін гаршчэчак налівалася прэсная ежа: крупнік, зацірка, фасоля, локшына. У другі — кіслая: капуста, буракі, шчаўе... Часта карысталіся і траячкамі. У трэці гаршчэчак можна было пакласці кашу і нават кавалак мяса. Усе тры гаршчэчкі былі аб’яднаны, «грэлі» адзін аднаго. Таму яда ў іх доўга была цёплай.*

*Каля сцяны куфар — гонар гаспадыні. Тут сувоі кужалю, тканыя дываны, посцілкі, вышываныя ручнікі, паяскі, зробленыя жаночымі рукамі.*

*У кутку — печ, вялікая, з ляжанкай. На прыпеку — трыножак. Калі ўзнікала патрэба, на трыножак ставілася патэльня, пад ёй запальваліся трэскі, і на хуткую руку рабіўся сняданак ці вячэра* (Паводле Я. Пархуты).

З мэтай узбагачэння слоўніка вучняў назвамі прадметаў традыцыйнай матэрыяльнай культуры беларусаў можна прапанаваць наступныя пытанні і заданні:

1. Абапіраючыся на этымалагічную даведку, адкажыце, што вывучае этнаграфія: ад гр. *этнас* = племя, народ + *графо* = пішу. (*Этнаграфія вывучае матэрыяльную і духоўную культуру народаў.*)

2. Даведайцеся, якой была велічыня меры даўжыні пядзі, і вылічыце плошчу акна старой хаты ў квадратных сантыметрах. (*Пядзя роўная адлегласці паміж расшыранымі вялікім і ўказальным пальцамі (каля 15 см). На акно старой хаты «ўсяго шкла ішло — пядзя на пядзю», адсюль плошча такога акна — каля 225 см$^2$.*)

3. Чаму два злучаныя гаршчэчкі з ручкай назвалі спарышом? (*Таму што яны ўтварылі пару — спарыліся.*)

4. Апішыце, як выглядаюць гляк, макацёр, цэбар, куфар. (*Гляк — нізкая гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі і вузкім горлам. Макацёр — гліняная пасудзіна, вузкая ўнізе і шырокая зверху, у якой звычайна труць мак, ільняное семя і інш. Цэбар — шырокая драўляная пасудзіна з клёпак з двума вушкамі. Куфар — вялікая скрынка з векам для захоўвання тканіны, адзежы, каштоўнасцей.*)

5. Апішыце экспазіцыю музея, які вы наведалі нядаўна, выкарыстоўваючы простыя сказы з аднароднымі і адасобленымі членамі.

## Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку пры параўнальных зваротах; развіваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку пры параўнальных зваротах і тлумачыць іх пастаноўку або адсутнасць.

Пасля чытання тэарэтычнага матэрыялу вучням прапануецца працягнуць выказванні:

1. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальных слоў... (*аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі*).

2. Калі параўнальныя звароты з’яўляюцца ўстойлівымі або непадзельнымі па сэнсе выразамі, то... (*коска не ставіцца*).

3. Калі параўнальны зварот мае значэнне ‘ў якасці’, то... (*коска не ставіцца*).

4. Коска ставіцца перад словам *як* у выразах... (*не хто іншы, як*; *не што іншае, як*).

5. Калі для прымацавання параўнальных зваротаў ужываецца злучнік *як* у спалучэнні з узмацняльнай часціцай *і*, то... (*ставіцца коска*).

6. Калі параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ спалучэннямі *больш як* (*не больш як*), *менш як* (*не менш як*), *не бліжэй як* і інш., то... (*коска не ставіцца*).

7. Калі перад параўнальным зваротам стаяць часціцы *не*, *амаль* і прыслоўе *зусім*, то... (*коска не ставіцца*).

Мэта практыкавання 50 — развіццё ўменняў адрозніваць параўнальныя звароты ад іншых канструкцый, тлумачыць пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку перад словамі *як*, *нібы*, *чым*. Для таго каб вучні змаглі вызначыць, да якой часціны мовы адносяцца словы *як*, *нібы*, *чым*, настаўніку варта растлумачыць, што:

• падпарадкавальныя злучнікі могуць далучаць у простым сказе параўнальныя звароты: *З гулкай пушчы, як з радыёстудыі, салавей вясну абвясціў на ўвесь свет* (В. Вітка);

• злучнік *як* можа ўводзіць у просты сказ прыдаткі ці акалічнасці спосабу дзеяння, выступаючы са значэннем ‘у якасці’, ‘у ролі’: *Ён славіўся ў брыгадзе як выдатны падрыўнік* (І. Мележ);

• параўнальныя злучнікі могуць ужывацца для сувязі састаўнога іменнага выказніка з дзейнікам: *Вочы нібы васількі* (З. Бядуля). У такіх сказах параўнальныя злучнікі выступаюць як часціцы. Яны страчваюць сваё асноўнае значэнне сродку сувязі прэдыкатыўных адзінак.

Выкананне практыкавання 51 суправаджаецца вусным каменціраваннем: вучні вусна тлумачаць пастаноўку знакаў прыпынку пры параўнальных зваротах.

Мэта практыкавання 52 — сфарміраваць у вучняў уменне адрозніваць сказы з параўнальнымі зваротамі, у якіх ёсць супастаўленне, ад сказаў, дзе супастаўлення няма. Напрыклад, у сказе «*Абоз расцягнуўся больш як на вярсту*» (Я. Колас) коска перад *як* не ставіцца, таму што спалучэнне *больш як* выражае абмежаванне ў прасторы. У сказе *Людзей у лесе было больш, як грыбоў* (Я. Колас) перад *як* ставіцца коска, бо ёсць супастаўленне.

Практыкаванні 53, 54 вучні выконваюць самастойна, падчас праверкі тлумачаць пастаноўку або адсутнасць коскі перад параўнальнымі злучнікамі (часціцамі). Сказы з фразеалагізмамі з практыкавання 53 (*Мястэчка відаць адсюль як на далоні*; *Міколка калаціўся як асінавы ліст*; *Махнач як агню баяўся Барodкі, і таму Лемяшэвіч вырашыў пайсці на хітрыкі*) варта разабраць па членах сказа, каб нагадаць вучням, што ў сінтаксічных адносінах фразеалагізм выступае непадзельнай адзінкай — адным членам сказа.

Пры напісанні сачынення на тэму «Вясна ў горадзе (вёсцы)» (практыкаванне 55) настаўнік можна парэкамендаваць вучням выкарыстаць эпітэты, якія характарызуюць вясну, са «Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы» Н. В. Гаўрош (1998):

- пра характар надвор'я: *бурная*, *бясхмарная*, *вятрыстая*, *дружная*, *празрыстая* і інш.;
- пра колер лісця, яго прыгажосць: *блакітная*, *зялёная*, *іскрыстая*, *квяцістая*, *кучаравая* і інш.;
- пра вясновыя гукі: *галасістая*, *гаманкая*, *гулкая*, *звонкая*, *пявучая* і інш.;
- пра ўражанне, псіхалагічнае ўспрыманне вясны: *вольная*, *нясмелая*, *пяшчотная*, *чароўная*, *юная* і інш.

З мэтай узбагачэння слоўніка вучняў беларускімі народнымі параўнаннямі настаўнік можа даць заданне ўзнавіць параўнанні, злучыўшы пачатак і канец выслоўяў, і скласці з імі сказы:

| | | |
|---|---|---|
| *надзьмуўся* | | *аса ў вочы* |
| *трапіў* | | *уюн на гарачай патэльні* |
| *спіць* | | *воўк у пііпаўку* |
| *круціцца* | | *мыш на крупы* |
| *баіцца* | **як** | *воцату выпіўшы* |
| *бегае* | | *воўк ягняці* |
| *вые* | | *лісіца ў саладуху* |
| *лезе* | | *лапцем па балоце пляснуў* |
| *ляпнуў* | | *з вуглямі ў нагавіцах* |
| *маўчыць* | | *пшаніцу прадаўшы* |

Запісваючы сказы, вучні павінны ўлічваць, што ўстойлівыя параўнанні з *як* (*надзьмуўся як мыш на крупы*, *спіць як пшаніцу прадаўшы*, *круціцца як уюн на гарачай патэльні* і інш.) не выдзяляюцца коскамі.

## Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў і тлумачыць іх пастаноўку або адсутнасць.

Пасля азнаямлення з правіламі пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў вучням даецца заданне, карыстаючыся тэарэтычнымі звесткамі, растлумачыць пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку ў наступных сказах (іх можна запісаць пад дыктоўку):

• *Узяўся чытаць — і не чыталася* (М. Гарэцкі) (прэдыкатыўныя часткі маюць форму аднасастаўных сказаў, у сказе перадаецца супрацьпастаўленне, таму паміж прэдыкатыўнымі часткамі ставіцца працяжнік);

• *І хвалюецца пшаніца, і дрыжыць пяшчотна гай* (П. Броўка) (прэдыкатыўныя часткі ў складаназлучаным сказе аддзяляюцца адна ад другой коскай);

• *Дзе-нідзе ў гародчыках, ля ганкаў чырванелі вясновыя кветкі і зацвітаў бэз* (В. Быкаў) (у складаназлучаным сказе з адным спалучальным злучнікам ёсць агульны дадаены член сказа, таму коска паміж прэдыкатыўнымі часткамі не ставіцца).

Практыкаванне 56 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучаных сказаў.

Пры выкананні практыкавання 57 пасля кожнага сказа даецца графічнае тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку. Напрыклад, у сказе «*Багата адгуло паводак і адцвіло на лузе траў*» (А. Вялюгін) адсутнасць коскі тлумачыцца наступным чынам: [Багата ] *і* [ ].

Практыкаванні 58, 59 прапануюцца для самастойнага выканання з наступнай калектыўнай праверкай. Пры вызначэнні граматычнай асновы прэдыкатыўных частак складаназлучаных сказаў (практыкаванне 58) асаблівую ўвагу вучняў настаўнік павінен звярнуць на сказы, у якіх прэдыкатыўныя часткі ўключаюць састаўны іменны выказнік (*неба тугое і цёмнае*; *паветра марознае* і інш.) або часткі якіх з'яўляюцца аднасастаўнымі паводле будовы (яго [*паветра*] *хочацца ўдыхаць на поўныя грудзі* і інш.).

Пракыкаванне 60 прадугледжвае працу з творамі мастацкай літаратуры. Настаўнік можа прапанаваць вучням запісаць складаназлучаныя сказы пад дыктоўку і графічна растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў іх:

1. *Ужо ў пачатку лістапада станавіўся сухі холад, а пад сярэдзіну таго ж месяца нападаў змёрзлы і сцёрты ветрам на муку снег.* 2. *Выйшаў ён* [*Нявада*] *з карчмы роўнай і шпаркай хадою, але ўжо можа праз кіламетр хада яго спавольнілася, і ён пакінуў разглядаць далягляды.* 3. *Сымон Ракуцька ўжо даўно мінуў дубняк, а сцежка ўсё*

*ішла і вяла яго далей, праз поле, праз некалькі хвойных лясоў і купістых паплавоў.* 4. *Сонца пякло моцна, і ў траве блішчэла раса*. 5. *Спачатку ён* [*Нявада*] *хацеў увайсці ў брамку з вуліцы, але яна была ўзята на засаўку з сярэдзіны* (З рамана К. Чорнага «Пошукі будучыні»).

## Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і замацаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў і тлумачыць іх пастаноўку або адсутнасць.

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць схемы, якія адлюстроўваюць правілы пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў:

**[ ], ( ) *і* ( )** (калі даданыя часткі звязаны адзіночнымі злучнікамі *і*, *ці*, *або*, то паміж гэтымі часткамі коска не ставіцца);

**[ ], ( , , ); ( , , )** (калі аднародныя даданыя часткі развітыя і маюць свае знакі прыпынку, яны могуць аддзяляцца кропкай з коскай);

**[ ], (*што*, (*калі* ), )** (калі ўключаная даданая частка далучаецца да наступнай даданай часткі з дапамогай адзіночнага падпарадкавальнага злучніка, то яна выдзяляецца з двух бакоў коскамі);

**[ ], (*што* (*калі* ), *то* )** (калі ўключаная даданая частка далучаецца да наступнай даданай часткі з дапамогай парнага падпарадкавальнага злучніка, коска паміж злучнікамі перад пачаткам уключанай даданай часткі не ставіцца).

Практыкаванні 61, 62 спрыяюць замацаванню ўмення вучняў правільна ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў і тлумачыць іх пастаноўку. Пры выкананні практыкавання 62 вырашаюцца не толькі пунктуацыйныя, але і арфаграфічныя задачы.

На аснове тэксту паводле У. Арлова (практыкаванне 63) вучні практыкуюцца ў знаходжанні складаназалежных сказаў, пабудове іх схем, вызначэнні тыпаў даданых частак. З улікам узроўню падрыхтаванасці класа магчымы іншы варыянт задання — падбор з тэксту сказаў, якія адпавядаюць прыведзеным схемам:

**[ ], ( )** (*Вельмі верагодна, што асветніца і сама пісала арыгінальныя творы*; *Па яе заказе дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якую лічаць дасканалым узорам полацкай архітэктурнай школы*; *Яна ўздымала свой голас супраць княскіх усобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Радзіму да гібелі*);

**[ , ( ), ]** (*Ігуменння, ды найперш выдатная асветніца, усё жыццё якой было прыкладам самаадданага служэння роднай зямлі, Еўфрасіння пакінула пра сябе глыбокую памяць у душы народа*; *Паміж намі і часам, калі жыла знакамітая палачанка, ляжыць больш за восем стагоддзяў*).

Практыкаванні 64, 65 вучні выконваюць самастойна з наступнай калектыўнай праверкай (магчыма выкананне практыкаванняў па варыянтах).

Пасля выканання практыкаванняў 63—65, аснову якіх складаюць тэксты пра Еўфрасінню Полацкую, Францішка Багушэвіча, Янку Сіпакова, можна прапанаваць вучням падрыхтаваць пісьмовае паведамленне на тэму «Знакамітыя людзі нашай краіны» з выкарыстаннем складаназалежных сказаў. Настаўніку варта парэкамендаваць старшакласнікам выкарыстаць дадатковую літаратуру (энцыклапедычны даведнік «Асветнікі зямлі Беларускай» (2001), кнігу Я. Сіпакова «Зялёны лісток на планеце Зямля» (2006) і інш.).

На аснове тэксту паводле Г. Нужковай «Гасцяванне ў шведаў» можна правесці ***выбарачны дыктант***: настаўнік чытае тэкст, вучні запісваюць толькі складаназалежныя сказы.

*Гасцяванне ў шведаў*

*Шведы вызначаюцца гасціннасцю. З ёю ў іх звязаны прыгожыя традыцыі і правілы добрага тону. Вось адно з іх: «Прышліце гаспадыні дома, куды вы збіраецеся ў госці, кветкі. А пасля на працягу тыдня выказвайце ўдзячнасць гаспадарам пісьмова альбо па тэлефоне за пачастунак, за гасціннасць».*

*Ірына Вячаславаўна расказвала, як ёй гасцявалася ў шведскіх сем'ях, калі яна стажыравалася ва Упсальскім універсітэце. На пачатку яе прыезду здарыўся дзіўны выпадак, які сапсаваў нямала нерваў і працяглы час заставаўся таямніцаю.*

*Адзін шведскі прафесар запрасіў Ірыну Вячаславаўну ў госці. Жонка прафесара сустрэла жанчыну вельмі прыязна і ветліва, адразу пацікавілася, ці будзе яна есці біфштэкс. Ірына Вячаславаўна адказала згодай. Гаспадыня пачала смажыць мяса...*

*Былі запалены свечкі: у шведскім доме, згодна з традыцыяй, гасцей прымаюць пры свечках. Перад Ірынай Вячаславаўнай дыміўся біфштэкс.*

*Яна ўзяла нож, відэлец і пачала рэзаць мяса. Адзін кавалачак, другі, і... раптам з-пад нажа пырснула кроў. Ірына Вячаславаўна адчула, што больш есці не можа. На тое, каб есці мяса з кроўю, недасмажанае, патрэбна прывычка. Пры ўсёй павазе да гаспадароў Ірына Вячаславаўна не магла сябе перасіліць. І адразу заўважыла, што гутарка разладзілася. Гаспадары чамусьці прыціхлі, усхваляваліся, гаспадыня неяк хутка пачала прыбіраць са стала.*

*Калі госця з прафесарам перайшлі ў гасцінны пакой, гаспадыня адправілася мыць посуд і, мяркуючы па ўсім, не спяшалася далучыцца да іх. Ірына Вячаславаўна адчула сябе няёмка. Яна яшчэ трохі для прыліку пабавілася, а потым, падзякаваўшы гаспадарам, спаслалася на тое, што ўжо позна і ёй трэба дадому. Развіталіся холадна.*

*Неўзабаве было свята Новага года. Ад усіх добрых знаёмых Ірына Вячаславаўна атрымала віншаванні. А ад сям'і прафесара, у якой яна была ў гасцях, віншавання не было. Ірына Вячаславаўна шукала і не знаходзіла адказу на пытанне: якую нетактоўнасць яна зрабіла, каб расчараваць, а магчыма, і пакрыўдзіць гаспадароў?*

*Аднойчы падчас сяброўскай гутаркі са шведкамі Ірына Вячаславаўна расказала пра гэты выпадак і спытала, ці не магла яна пакрыўдзіць гаспадароў тым, што не з'ела біфштэксу. Тыя ўзрушыліся:*

*— Ну як жа! Вядома! У Вас гаспадыня спытала, ці будзеце есці біфштэкс. Спецыяльна для Вас яна гатавала. А Вы не захацелі яго есці. Гаспадыня мела ўсе падставы лічыць, што яна дрэнна прыгатавала* (Паводле Г. Нужковай).

Раскрыццю культурнага патэнцыялу тэксту будуць спрыяць пытанні і заданні:

1. Пра якія правілы добрага тону, звязаныя з гасцяваннем, паведамляецца ў тэксце?

2. Чаму, на вашу думку, апісаны ў тэксце выпадак «працяглы час заставаўся таямніцаю» для Ірыны Вячаславаўны?

3. Як бы вы паступілі, калі б вам прапанавалі ў гасцях страву, якую вы не ўжываеце?

4. Перакладзіце назоўнік *гасцяванне* на рускую мову (*пребывание в гостях*).

5. Карыстаючыся «Слоўнікам іншамоўных слоў» А. М. Булыкі, высвятліце паходжанне слова *біфштэкс* і растлумачце яго значэнне (*біфштэкс* (англ. *кавалачкі ялавічыны*) — *кавалак абсмажанай ялавічыны*).

6. Вусна перакажыце тэкст ад імя Ірыны Вячаславаўны.

7. Апішыце рэцэпт гатавання біфштэксу, выкарыстоўваючы складаназалежныя сказы.

# Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў і тлумачыць іх пастаноўку.

Азнаямленне з тэарэтычным матэрыялам суправаджаецца складаннем схем, якія адлюстроўваюць правілы пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў. Напрыклад:




пералічэнне

(паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў ставіцца коска, калі ў частках паведамляецца пра пералічэнне падзей і з’яў, якія адбываюцца адначасова ці паслядоўна);




адносна самастойныя ўскладненыя сказы

(калі прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавага складанага сказа нагадваюць адносна самастойныя ўскладненыя простыя сказы і маюць свае знакі прыпынку, яны могуць раздзяляцца кропкай з коскай);

**[ ]: [*прычына*]** (двукроп’е на мяжы частак ставіцца, калі другая частка ўказвае на прычыну таго, пра што гаворыцца ў першай);

**[*умова*] — [*вынік*]** (працяжнік на мяжы частак ставіцца, калі ў сказе выражаюцца ўмоўна-выніковыя адносіны) і да т. п.

Практыкаванне 66 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў.

Практыкаванне 67 (тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах з тэксту паводле Я. Коласа) вы-

конваецца калектыўна. Словы *хмызняком*, *навейшая*, *трыццаць*, *красуецца*, *наводшыбе* можна прапанаваць для марфалагічнага разбору.

Практыкаванні 68, 69 прапануюцца для самастойнага выканання з наступнай калектыўнай праверкай або ўзаемаправеркай у парах. Пры вызначэнні граматычнай асновы прэдыкатыўных частак бяззлучнікавых складаных сказаў (практыкаванне 69) асаблівую ўвагу вучняў настаўнік звяртае на прэдыкатыўныя часткі, якія маюць будову аднасастаўных сказаў (варта вызначыць іх від).

Тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах з тэксту пра Я. Ф. Карскага (практыкаванне 70) можа адбывацца шляхам складання графічных схем сказаў. Дадатковае заданне да тэксту прадугледжвае стварэнне пісьмовага паведамлення на тэму «“Беларусы” Я. Ф. Карскага — энцыклапедыя беларусазнаўства» з выкарыстаннем бяззлучнікавых складаных сказаў. У выпадку ўзнікнення ў вучняў цяжкасцей настаўнік можа прапанаваць з простых сказаў утварыць бяззлучнікавыя складаныя сказы:

1. *Праца «Беларусы» Я. Ф. Карскага складаецца з трох тамоў. Другі і трэці тамы змяшчаюць па тры часткі.* 2. *У першым томе «Беларусаў» Карскі даў шырокую гістарычную карціну паходжання беларускага народа. Аўтар акрэсліў геаграфічныя межы рассялення беларусаў, паказаў прыродныя, эканамічныя і сацыяльныя ўмовы іх жыцця ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзя.* 3. *У першым выпуску другога тома вучоны разгледзеў гукавы лад беларускай мовы. Ён даў агульную характарыстыку галосных і зычных гукаў, правёў глыбокі аналіз гукавых з’яў.* 4. *Другі выпуск другога тома «Беларусаў» апублікаваны ў 1911 годзе. Яго змест — марфалагічны лад беларускай мовы.* 5. *Карскі паклаў пачатак вывучэнню мовы сучаснай беларускай літаратуры. Даследчык правёў цікавыя назіранні над мовай Я. Купалы, Я. Коласа, К. Буйло і іншых беларускіх пісьменнікаў.*

## Знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі і тлумачыць іх пастаноўку.

Перад чытаннем тэарэтычнага матэрыялу вучням даецца заданне вызначыць, якія правілы пастаноўкі знакаў прыпынку паміж

прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі блізкія да правілаў пастаноўкі знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў. Старшакласнікам прапануецца паказаць гэтыя правілы з дапамогай графічных схем:

| | |
|---|---|
| **[ ]: [***раскрывае сэнс***]** | (двукроп'е ставіцца, калі наступная частка раскрывае сэнс папярэдняй); |
| **[ ]: [***прычына***]** | (двукроп'е ставіцца, калі наступныя часткі раскрываюць прычыну таго, пра што паведамляецца ў папярэдняй частцы); |
| **[ ] – [***вынік***]** | (працяжнік ставіцца, калі наступная частка паказвае вынік таго, пра што гаворыцца ў папярэдніх частках) і да т. п. |

Практыкаванне 71 накіравана на развіццё ўменне вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

Выкананне практыкаванняў 72, 73 можа суправаджацца вусным каменціраваннем. Пасля чытання тэксту паводле М. Стральцова пра творчасць П. Панчанкі (практыкаванне 73) варта прапанаваць вучням прыгадаць вядомыя ім вершы паэта. Можна запісаць пад дыктоўку радкі з вершаў П. Панчанкі (складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак) і растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў іх. Гэта могуць быць урыўкі з вершаў на тэму прыроды (настаўнік адзначыць, што П. Панчанка адзін з першых у беларускай літаратуры загаварыў пра экалагічныя праблемы):

*Акіян і космас вывучайце*
*З добрым сэрцам,*
*А яшчэ прашу:*
*Пакідайце і буслу, і чайцы*
*Больш вады і неба на душу.*
(«Не люблю я слова "пакарыцель"...»).

*Паглядзіш — і камяк у горле:*
*Парадзеў і збяднеў наш бор,*
*І блакітную скуру здзёрлі*
*Дзе-нідзе з нашых рэк і азёр:*
*Леглі плямы мазуту і нафты,*
*Бруд сцякае з усіх бакоў.*
*Як там птушкам пяецца?*
*Не надта.*
*Як там рыбы?*
*Спытай рыбакоў.*
(«Лясы і рэкі»).

Пры запісе ўрыўкаў з вершаў увага вучняў звяртаецца на тое, што кожны новы радок у вершаваных тэкстах традыцыйна пачынаецца з вялікай літары.

Практыкаванні 74, 75 прапануюцца для самастойнага выканання з наступнай калектыўнай праверкай. Пры вызначэнні граматычнай асновы прэдыкатыўных частак складаных сказаў з рознымі відамі сувязі (практыкаванне 74) варта звярнуць увагу вучняў на прэдыкатыўныя часткі, якія маюць будову аднасастаўных сказаў. Выкананне практыкавання 75 павінна ўключаць тлумачэнне паходжання назваў *Грамніцы*, *Стрэчанне*:

*Мяркуюць, што назва «Грамніцы» паходзіць ад імя язычніцкага бога Грамаўніка (Перуна) — бога веснавых навальніц і дажджоў. Паводле іншых меркаванняў, Грамніцы названы так таму, што Юрый нібыта выпрабоўвае на нячыстай сіле свае стрэлы і менавіта з гэтага дня (каталікі адзначаюць Грамніцы 2 лютага, праваслаўныя — 15 лютага) можна пачуць грымоты.*

*Другая назва свята — Стрэчанне (ад царкоўна-славянскага «Сретенье») — у хрысціянстве знаменавала сустрэчу Сімяона з Ісусам Хрыстом, сустрэчу Старога і Новага Запаветаў, а ў народзе тлумачылася як сустрэча зімы з летам.*

З мэтай удасканалення ўмення ставіць знакі прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі, а таксама пашырэння ведаў вучняў пра культурныя сімвалы настаўнік можа даць заданне аб'яднаць два сказы ў адзін складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак:

1. *Пчаліны мёд у беларусаў быў сімвалам дружбы. Паводле народнага павер'я, вораг, якога пачаставалі мёдам, станавіўся рахманым і забываў пра варожасць* (В. Цітоў). 2. *Многія назвы дрэў — гэта своеасаблівыя сімвалы, якія сведчаць пра пэўныя чалавечыя якасці. Дуб сімвалізуе дужага чалавека, бяроза — прыгожую дзяўчыну або маладую жанчыну* (У. Коваль). 3. *Лічылася, што калі адважны і сумленны чалавек сарве цудадзейную папараць-кветку, то стане празорцам. Ён зразумее гаворку дрэў, травы, птушак і звяроў, а нетры адкрыюць яму заклятыя скарбы* (А. Ліс). 4. *Асіна ў славянскай міфалогіі лічылася дрэвам нядобрым і была надзелена магічнымі функцыямі. У магілу чарадзея-нябожчыка забівалі асінавы кол, каб яго дух па начах не палохаў прахожых* (В. Цітоў).

Замацоўваючы ўменні вучняў размяжоўваць складаныя сказы розных відаў і правільна ставіць знакі прыпынку паміж іх прэдыкатыўнымі часткамі, настаўнік можа даць заданне сярод прыведзеных

прыказак вызначыць тыя, якія па структуры нагадваюць: а) складаназлучаныя сказы; б) складаназалежныя сказы; в) бяззлучнікавыя складаныя сказы; г) складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Прыказкі запісваюцца пад дыктоўку:

1. *Прыйшла талака — лі па кубку малака.* 2. *Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш.* 3. *Раскажаш пра вераб'я, а перакажуць пра журайля.* 4. *Калі бацька рыбак, то і дзеткі ў ваду глядзяць.* 5. *Фурман добры, але коні не вязуць.* 6. *Надышоў пост — падагне і сабака хвост, бо ўжо косткі не абгрызе.* 7. *Гультай за работу — мазоль за руку.* 8. *Скажы кумцы па сакрэту, а кумка ўсяму свету.* 9. *Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — прынёс гнілля.* 10. *Адна бяда — не бяда, дзве бяды — паўбяды, але калі трэцюю напаткаеш — вось тады бяду пазнаеш.* 11. *Куды вецер вее, туды голле гнецца.* 12. *Не вялікая бяда, што без рыбы серада.*

Пры выкананні задання вучні вусна тлумачаць сэнс алегарычных прыказак.

## Знакі прыпынку ў сказах з чужой мовай

**Мэта заняткаў** — узнавіць і сістэматызаваць веды вучняў аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з чужой мовай; удасканальваць уменне правільна ставіць знакі прыпынку ў сказах з чужой мовай і тлумачыць іх пастаноўку.

У працэсе чытання тэарэтычнага матэрыялу вучні складаюць схемы, якія адлюстроўваюць правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з чужой мовай. Напрыклад:

**А: «П».** (калі простая мова стаіць пасля слоў аўтара, перад ёй ставіцца двукроп'е, а ў канцы — знак прыпынку, якога патрабуе мэта выказвання і інтанацыя);

**«П», — а.** (калі простая мова стаіць перад словамі аўтара і мае апавядальную інтанацыю, то пасля яе ставіцца коска і працяжнік);

**«П, — а, — п».** (калі словы аўтара разрываюць простую мову, дзе не павінна быць знака прыпынку ці маглі стаяць коска, кропка з коскай, працяжнік або двукроп'е, словы аўтара выдзяляюцца з двух бакоў коскамі і працяжнікамі; другую частку простай мовы пачынаюць пісаць з малой літары) і да т. п.

Тэкст паводле В. Грыцкевіча, А. Мальдзіса «Танцы на беларускім кірмашы» можа быць выкарыстаны для ўдасканалення ўмення вучняў распазнаваць канструкцыі з простай мовай, вызначаць асаблівасці іх будовы, тлумачыць знакі прыпынку.

*Танцы на беларускім кірмашы*

*Сялянскімі святамі на Полаччыне захапляўся рускі мастак Захараў. «Здарылася мне, — згадвае Захараў, — быць на кірмашы ў Беларусі. У кірмашовы дзень беларускіх дзяўчат нішто не стрымае: ні работа, ні стома. І хаця б свята адбывалася вёрст за дваццаць, жанчыны зранку скіроўваюцца туды пешкі ва ўсім убранні, цэлы дзень танцуюць і позна вечарам разыходзяцца па хатах. Я заўсёды здзіўляюся, як яны могуць працаваць на другі дзень пасля такіх пераходаў».*

*«Да ліку абавязковых удзельнікаў кірмашу, — працягвае Захараў, — належаць музыканты, якія ў беларускіх вёсках называюцца дударамі, паводле свайго інструмента, дуды, або рускай валынкі».*

*А вось як праходзіла сама вечарынка: «Беларускія танцы падобны да італьянскага народнага танца тарантэлы: такія ж звароты, такая ж жывасць і амаль тыя ж матывы музыкі. У Беларусі танцы пачынаюцца наступным чынам: дзве дзяўчыны бяруцца за рукі і падыходзяць да дудара. Кожная павінна яму заплаціць або падараваць яйка, абаранак, блін. Потым яны пачынаюць танцаваць: спярша адна перад другой, потым укругавую, зноў прама і завяршаюць вальсам».*

*«Тутэйшыя жыхары, — прыйшоў да вываду Захараў, паглядзеўшы вясковы кірмаш, — кемлівыя і дасціпныя, вызначаюцца вясёлым характарам і горача любяць спраўляць святы, для якіх нічога не шкадуюць»* (Паводле В. Грыцкевіча, А. Мальдзіса).

Дадатковыя пытанні і заданні да тэксту акцэнтуюць увагу старшакласнікаў на культурна афарбаваных моўных адзінках:

1. Як беларусы іранічна гавораць пра тых, хто любіць пастаянна наведваць вечарынкі, святы і пад.? (*Дзе фэст, там і я ест.*)

2. Як выглядае згаданы ў тэксце музычны інструмент дуда, або валынка? (*Гэта некалькі трубак, устаўленых у скураны мяшок, які надзімаецца праз трубку.*)

3. Назавіце фразеалагізм з кампанентам *валынка.* (*Цягнуць валынку ‘займацца чым-небудзь нудным, аднастайным; занадта марудзіць з ажыццяўленнем якой-небудзь справы’.*)

4. З дапамогай «Слоўніка іншамоўных слоў» А. М. Булыкі высвятліце, адкуль паходзіць назва італьянскага народнага танца тарантэлы, падобнага, на думку Захарава, да беларускіх танцаў. (*Паходзіць ад назвы італьянскага горада Таранто.*)

5. Ці згодны вы з характарыстыкай, якую даў беларусам Захараў: «Тутэйшыя жыхары кемлівыя і дасціпныя, вызначаюцца вясёлым характарам і горача любяць спраўляць святы, для якіх нічога не шкадуюць»? На падставе ўласных назіранняў пацвердзіце або абвергніце думку рускага мастака.

Практыкаванне 76 накіравана на развіццё ўмення вучняў тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з простай мовай.

Выкананне практыкавання 77 суправаджаецца вусным каменціраваннем. Варта прапанаваць вучням растлумачыць сэнс ужытага ў тэксце слова *нядзелькаваць* (‘адпачываць у нядзелю ад працы’: «*У нядзельку трэба нядзелькаваць — рукам спачыну знайсці*»). Настаўнік можа звярнуць увагу вучняў на паходжанне беларускага слова *нядзеля* (‘не робяць спраў (*рус*. не делают)’).

Практыкаванні 78—80 вучні выконваюць самастойна з наступнай калектыўнай праверкай. Праца над тэкстам паводле С. Кухарава пра святкаванне Сёмухі (практыкаванне 78) можа ўключаць культуразнаўчы каментарый настаўніка:

*— Сёмуха, або Тройца, — свята, устаноўленае ў памяць сыходу Святога Духа на апосталаў. Паводле Бібліі, на пяцідзясяты дзень пасля Уваскрэсення Хрыстовага дом, дзе сабраліся вучні Хрыста, напоўніў гул з неба, з’явіліся агнявыя языкі, якія кранулі апосталаў, пасля чаго ў іх з’явіўся дар прапаведаваць на розных мовах. Сёмуха адзначаецца праз сем тыдняў пасля Вялікадня (адсюль і народная назва свята).*

*Свята наклалася на старадаўнюю народную традыцыю адзначаць надыход лета. Таму ў гэты дзень царкву, касцёл упрыгожваюць галінкамі бяроз, а хаты высцілаюць «маем» — аерам ці іншымі духмянымі травамі.*

Выконваючы практыкаванне 79, вучні ўказваюць прыметы гутарковага стылю ў простай мове (няпоўныя сказы, словы гутарковага стылю *магаты няма*, *трывушчая*). Настаўніку варта прапанаваць вучням падабраць сінонімы да слова *трывушчая* (*вынослівая*, *цягавітая*, *цярплівая*).

Пры напісанні сачынення на тэму «Якой бы музыкай гучала наша слова, калі б умелі слова шанаваць» (Я. Непачаловіч) (практыкаванне 81) вучні павінны выкарыстаць цытаты з твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. У выпадку ўзнікнення цяжкасцей можна нагадаць старшакласнікам крылатыя выказванні пра родную мову:

• *І ўсё мілагучна для слыху майго*:
*І звонкае «дзе» і густое «чаго»*... (П. Панчанка);

• *Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай!* (Ф. Багушэвіч);

- *З легендаў і казак былых пакаленняў,*
  *З калосся цяжкога жытоў і пшаніц*
  *...Ты выткана, дзіўная родная мова* (М. Танк);
- *Магутнае слова, ты, роднае слова!*
  *Са мной ты наяве і ў сне...* (Я. Купала);
- *Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*
  *Роднай мовы сваёй не цурайся...* (А. Гарун) і інш.

На аснове афарыстычных выказванняў беларускіх пісьменнікаў пра слова, думкі, зносіны вучням можна прапанаваць скласці канструкцыі з простай мовай:

1. *Абломкі крыўдных слоў сядзяць у душы, як стрэмкі* (П. Панчанка). 2. *Лепшыя думкі і словы з маўчання* (В. Аколава). 3. *Бойся спазніцца са словам харошым* (Н. Мацяш). 4. *Размова — мова думак, маўчанне — мова ісціны* (А. Разанаў). 5. *Што ў душы, тое будзе і ў слове* (С. Законнікаў).

## Падагульненне вывучанага

Мэта практыкавання 82 — развіццё навыку тлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў. Выкананне практыкавання можа завяршыцца пісьмом па памяці верша М. Багдановіча (на выбар вучняў).

Практыкаванні 83—85 прызначаны для самастойнага выканання з наступнай калектыўнай праверкай або ўзаемаправеркай у парах.

Практыкаванне 83 спрыяе ўдасканаленню ўменняў вучняў знаходзіць у сказах сінтаксічныя канструкцыі, якія ўскладняюць сказ (аднародныя, адасобленыя члены, пабочныя словы), афармляць тэкст у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Дадатковае заданне можа заключацца ў знаходжанні ў тэксце складаназалежных сказаў з паслядоўным падпарадкаваннем і іх сінтаксічным разборы (*Магчыма, хату трэба было б пакінуць такой, якой яна была ў той час, калі нарадзіла ў ёй простая беларуская маці свайго сына. Ён жа вырас у беднай хаце, каб вывесці з тысяч такіх хат на святло людзей, якія не бачылі сонца*).

Практыкаванне 84 накіравана на замацаванне ўменняў вучняў вызначаць граматычную аснову прэдыкатыўных частак складаных сказаў, будаваць іх схемы і вызначаць тыпы, афармляць тэкст у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Настаўнік можа дадаткова прапанаваць вучням разабраць па саставе словы *аднакамплектная, падступаў, беспамылкова, агледзеўся, пасляваенны.*

Мэта практыкавання 85 — удасканаленне ўменняў вучняў афармляць тэкст у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі, выконваць сінтаксічны разбор простага сказа (першы сказ у тэксце).

# Літаратура


1. Беларуская мова : Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / пад рэд. А. І. Падлужнага. — Мінск, 1987.

2. *Бурак, Л. І.* Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. — Мінск, 1982.

3. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова : Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. — Мінск, 1987.

4. *Кавалёва, М. Ц.* Беларуская мова : дапам. для вучняў старшых класаў / М. Ц. Кавалёва, Л. П. Падгайскі. — 6-е выд., дапрац. — Мінск, 1995.

5. *Клімавец, В. П.* Практыкум па беларускай мове : вучэб.-метад. дапам. / В. П. Клімавец. — Ч. 1 : Арфаграфія. Марфалогія. — Мінск, 2001.

6. *Кулікові̌ч, У. І.* Беларускі правапіс : правілы, заданні, кантрольныя работы / У. І. Куліковіч. — Мінск, 1998.

7. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. — Мінск, 2008.

8. *Сямешка, Л. І.* Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. — Мінск, 1996.

9. *Цыбульская, С. І.* Даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі беларускай мовы / С. І. Цыбульская, І. У. Ялынцава. — 3-е выд., выпр. — Мінск, 2008.

# ДЫДАКТЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## УВОДЗІНЫ

Тэрмін *пунктуацыя* паходзіць ад лацінскага слова *punctum* (кропка, укол; у старажытных рымлян знак кропка рабіўся ўколам вострай палачкі, якой пісалі на навошчаных дошчачках). Гэты тэрмін мнагазначны. Ён абазначае: 1) сукупнасць знакаў прыпынку ў пісьмовай мове; 2) правілы іх выкарыстання ў пісьмовай мове; 3) раздзел мовазнаўства, які вывучае нормы ўжывання знакаў прыпынку і іх функцыі.

Знакі прыпынку, як і літары алфавіта, з'яўляюцца часткай графічнай сістэмы беларускай мовы. Яны ўжываюцца толькі ў звязным тэксце, падзяляючы яго на асобныя часткі, якія заключаюць у сабе пэўны сэнс. Знакі прыпынку выкарыстоўваюцца ў кожным сказе незалежна ад таго, складаецца ён з аднаго слова ці з многіх слоў. Яны характарызуюць граматычную будову сказа, вызначаюць яго сэнсавыя і інтанацыйныя асаблівасці. Так, клічнік у канцы сказа сведчыць аб тым, што гэты сказ мае яркую эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, граматычна, сэнсава і інтанацыйна завершаны: *Не рабіце ніколі нікому зла, не кідайце развалін і папялішчаў!* (К. Кірэенка).

Коска пры звароце служыць для аддзялення ці выдзялення яго ў структуры сказа, таму што зваротак граматычна не звязаны з членамі сказа і сам членам сказа не з'яўляецца: *Ты ляці, маё слова, праз палі і лясы, прывітайся з краінай маёй дарагою* (П. Панчанка).

Працяжнік паміж прэдыкатыўнымі часткамі складанага бяззлучнікавага сказа паказвае на тое, што сказ складаецца з састаўных частак, паміж якімі выражаюцца ўмоўна-выніковыя або ўмоўна-часавыя адносіны: *Павее ветрык — шурхнуць травы* (Я. Колас).

Такім чынам, знакі прыпынку дазваляюць дакладна перадаць на пісьме самыя разнастайныя думкі і пачуцці і правільна ўспрымаць іх сэнс пры чытанні пісьмовага тэксту.

Пунктуацыя — гэта раздзел мовазнаўства, які цесна звязаны з сінтаксісам, марфалогіяй, інтаналогіяй (навукай, якая даследуе інтанацыю). Сувязь з сінтаксісам праяўляецца ў тым, што з дапамогай знакаў прыпынку перадаюцца асаблівасці граматычнай будовы сказа (ускладненне сказа аднароднымі членамі, адасобленымі членамі, параўнальнымі зваротамі, пабочнымі і ўстаўнымі словамі, словазлучэн-

нямі і сказамі, звароткамі; колькасць прэдыкатыўных частак у складаным сказе). Сувязь з марфалогіяй праяўляецца ў тым, што пастаноўка знакаў прыпынку іншы раз залежыць ад таго, якой часцінай мовы выражаны пэўныя члены сказа. Напрыклад, азначэнні, выражаныя прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі або прыметнікавымі або дзеепрыметнікавымі зваротамі, заўсёды адасабляюцца, калі адносяцца да азначаемага слова, якое выражана асабовым займеннікам: *Вясёлыя і бадзёрыя, мы вяртаемся дамоў* (Я. Колас); *Ахоплены радасцю, ён весела смяецца* (К. Чорны). Сувязь з інтаналогіяй праяўляецца ў тым, што з дапамогай знакаў прыпынку перадаецца на пісьме эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка паведамлення: *Клічуць дарогі свету, клічуць наперад мяне!* (Е. Лось).

Знакі прыпынку ўжываліся ўжо ў глыбокай старажытнасці для афармлення пісьмовых тэкстаў. У старажытных пісьмовых тэкстах усходніх славян аж да XIV ст. выкарыстоўвалася толькі кропка [.] і спалучэнні кропак [·:·], [:.:], [.:.]. У XIV ст. стала ўжывацца коска [,]. У канцы XV ст. паявілася двукроп'е [:], якое ставілася не толькі паміж часткамі складанага сказа, але і ў канцы сказа замест кропкі. У канцы XVI ст. быў уведзены ў пісьмовую практыку сучасны знак пытання — пытальнік [?]. Да гэтага часу для абазначэння пытальнага зместу сказа ўжывалася «падстолія», якая мела выгляд сучаснай кропкі з коскай [;]. У канцы XVI ст. паявіліся таксама дужкі ( ). У канцы XVII ст. эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка зместу сказа пачала абазначацца пры дапамозе клічніка [!]. У гэты ж час паявілася двукоссе [« »]. З сярэдзіны XVIII ст. пачаў ужывацца працяжнік [—].

Такім чынам, да пачатку XIX ст. у пісьмовай практыцы ўжываліся ўсе знакі прыпынку, што і ў наш час. Аднак пастаноўка знакаў прыпынку доўгі час праводзілася адвольна і непаслядоўна. Толькі ў XX ст. былі канчаткова вызначаны прынцыпы, якія ляжаць у аснове сучаснай пунктуацыі, і ўстаноўлены правілы ўжывання кожнага знака прыпынку.

Аснову сучаснай пунктуацыі складаюць тры прынцыпы: сэнсавы (пры пастаноўцы знакаў прыпынку ўлічваецца сэнс паведамлення), граматычны (улічваецца граматычная пабудова сказа), інтанацыйны (улічваецца інтанацыйнае афармленне паведамлення).

Сучасная пунктуацыя — дасканалая сістэма правіл, якія вызначаюць пастаноўку розных знакаў прыпынку на пісьме. Асноўныя правілы пунктуацыі маюць нарматыўны характар, яны аднолькавыя і аба-

вязковыя для ўсіх, хто піша або чытае пісьмовы тэкст. Між тым вядома, што адзін і той жа тэкст можа афармляцца рознымі знакамі прыпынку, у выніку чаго ўзнікаюць пунктуацыйныя варыянты. Такія варыянты часта сустракаюцца ў канцы сказа. Напрыклад: *Свеціць сонца. Свеціць сонца? Свеціць сонца! Свеціць сонца...* У гэтых сказах выбар знака прыпынку залежыць ад мэты паведамлення. Пунктуацыйныя варыянты сустракаюцца і ў сярэдзіне сказа: *Пачаліся канікулы, мы паехалі адпачываць у Крым* і *Пачаліся канікулы — мы паехалі адпачываць у Крым*, дзе выбар знака прыпынку залежыць ад сэнсава-граматычных адносін паміж часткамі складанага сказа (у першым сказе адносіны паслядоўнасці, у другім — умоўна-часавыя).

Пунктуацыйныя варыянты не парушаюць нарматыўнасці сучаснай пунктуацыі, яны сведчаць аб сінтаксічнай мнагазначнасці тэксту і не могуць разглядацца як нейкія памылкі ці адхіленні ад устаноўленых правіл.

Знакі прыпынку бываюць раздзяляльныя і выдзяляльныя.

Раздзяляльныя знакі прыпынку служаць для аддзялення самастойных сказаў у тэксце або асобных членаў простага сказа ці прэдыкатыўных частак складанага сказа: *Полацкае княства мела вялікую патрэбу ў адукаваных людзях. Школы існавалі тут і да Еўфрасінні, але заснаванне асветніцаю манастыроў, яе чынная педагагічная дзейнасць далі школьнай справе новы магутны штуршок* (У. Арлоў).

У гэтым тэксце ўсе знакі прыпынку раздзяляльныя (аддзяляюць асобныя сказы, прэдыкатыўныя часткі складанага сказа, аднародныя дзейнікі ў другой прэдыкатыўнай частцы складанага сказа).

Выдзяляльныя знакі прыпынку служаць для выдзялення ў сярэдзіне сказа асобных яго частак (адасобленых членаў сказа, паралельных зваротаў, звароткаў, пабочных і ўстаўных слоў, словазлучэнняў, сказаў, простай мовы). Напрыклад: *Камбайны, цяжка пакалыхваючыся, адзін за адным выходзілі з машыннага двара* (А. Жук); *Пырскі крохкія, як шкло, узлятаюць пад вяслом* (П. Глебка); *Дзе ты, цёплае лета, сонцам яркім сагрэта?* (А. Русак); *Кожны чалавек павінен пакінуць аб сабе, вядома, добрую памяць* (А. Пальчэўскі); *Я ўсміхнуўся і сказаў: «Зноў паеду ў Вільню»* (Я. Місько). У першых чатырох прыкладах у сярэдзіне сказа ўсе знакі прыпынку выдзяляльныя, у апошнім сказе выдзяляльны знак — двукоссе.

Да асноўных пунктуацыйных паняццяў адносяцца пунктаграма, пунктуацыйная памылка, пунктуацыйнае правіла, пунктуацыйны разбор.

Пунктаграма — гэта такое месца ў сказе, якое патрабуе пэўнага пунктуацыйнага афармлення. Пунктаграмай з'яўляецца не толькі наяўнасць знака прыпынку, але ў некаторых выпадках і яго адсутнасць. Напрыклад: *З двара пазірала цёмная, чорная ноч* (Я. Колас); *Я люблю блукаць па вузкіх мінскіх вуліцах вясной* (П. Панчанка). У першым прыкладзе пунктаграмай з'яўляецца коска паміж аднароднымі азначэннямі і кропка ў канцы сказа. У другім прыкладзе пунктаграмай з'яўляецца адсутнасць коскі паміж неаднароднымі азначэннямі і кропка ў канцы сказа.

Пунктуацыйная памылка — гэта няправільнае афармленне пунктаграмы.

Пунктуацыйнае правіла змяшчае афіцыйна прынятыя нормы пунктуацыйнага афармлення сказа.

Пунктуацыйны разбор — гэта тлумачэнне пунктаграм у сказе.

Пунктуацыйныя нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы змешчаны ў «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мінск, 2008). Аднак гэта агульны звод, у якім не ставілася задача ахапіць усю шматлікасць і разнастайнасць прыватных, а таксама варыянтных выпадкаў пастаноўкі знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце. Гэтыя правілы канкрэтызуюцца ў спецыяльных даведніках па пунктуацыі беларускай мовы.

## Практыкаванні

**1.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Назавіце раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку.

З тых часоў, як пазнаў жыццё, я люблю сваю маці — простую беларускую жанчыну. Яна ўмела ўбачыць і ацаніць галоўнае ў чалавеку — сумленнасць, адкрытую душу. Гэтая непісьменная жанчына жыла вялікім духоўным жыццём. Душа яе прагнула ўвабраць у сябе душу свайго народа, яе весялосць і сум, яе радасць і гора, яе веру і сумленне.

Колькі яна ведала прыгожых, задушэўных песень! Змалку я палюбіў матчыну песню. А потым, калі я пазнаў Купалавы і Коласавы вершы, вершы Максіма Багдановіча, я ўбачыў, што і ў песнях маёй маці, і ў іх песнях — адна душа, вялікая, як свет, душа нашага народа.

У кожнага з нас усе запаветныя ўспаміны звязаны з маці — простай, шчырай, вялікай. Гэта яна яшчэ ў маленстве адкрыла нам прыгоства народнай паэзіі, вялікасць бяссмертнай калыханкі — самага вя-

лікага шэдэўра, створанага ў вяках усімі нашымі мамамі. Толькі для таго, хто спазнаў глыбіню матчынай песні, адкрылася потым невычэрпная скарбніца людской душы (*Паводле В. Віткі*).

**2.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Укажыце раздзяляльныя і выдзяляльныя знакі прыпынку.

Тонкі знаўца прыроды ўлюбёны ў яе вечную красу Якуб Колас і ў прозе і ў паэзіі ўвасобіў незабыўныя карціны роднай прыроды палескія краявіды гулкія гоманы бароў фарбы і водар вясновых лугоў шолахі аўсянай нівы блакітны разліў ільняных палёў. І ўсё гэта сагрэта аблашчана святлом і цеплынёй жыццелюбівага сэрца паэта.

Коласаўская любоў да зямлі мела глыбокія сялянскія карані. Ён глядзеў на прыродныя з'явы не толькі як мастак які тонка адчуваў прыроду і мог перадаць усю яе прыгажосць паэзію ўсе адценні яе хараства. Ён глядзеў на ўсё і вокам селяніна які бачыць у зямлі сродак існавання які цэніць у першую чаргу тое што спрыяе добраму ўраджаю дабрабыту людзей іх шчасцю і радасці (*Паводле М. Лынькова*).

**3.** Прачытайце сказ. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Назавіце знак прыпынку, які з'яўляецца адначасова і выдзяляльным, і раздзяляльным.

Мы часам забываем пра тое, што было ўчора, пазаўчора, тыдзень назад, але вельмі асцярожна зберагаем у памяці даўняе, якое на працягу ўсяго сталага жыцця наталяе нашу душу светлымі ўспамінамі, нібы жывой вадой, не даючы ёй зачахнуць, зняверыцца, змарнець (*А. Варановіч*).

## Кантрольныя пытанні

1. З якімі значэннямі ўжываецца тэрмін «пунктуацыя»?
2. Што агульнае і што рознае паміж літарамі і знакамі прыпынку?
3. Якую ролю адыгрываюць знакі прыпынку ў афармленні пісьмовага тэксту?
4. З якімі раздзеламі моваазнаўства звязана пунктуацыя?
5. Які знак прыпынку самы старажытны паводле паходжання?
6. Як падзяляюцца знакі прыпынку паводле сваёй функцыі?
7. На якіх прынцыпах грунтуецца сучасная пунктуацыя?
8. Што такое пунктаграма?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх ужыты раздзяляльныя знакі прыпынку.

1. На душы было лёгка, радасна.
2. Заходзьце, госці, у хату.
3. Возера, абсаджанае вербамі, прыцягвала да сябе ў гарачы дзень.
4. Мы глядзелі на мора, зачараваныя яго прыгажосцю.

**II.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх ужыты выдзяляльныя знакі прыпынку.

1. У двор, апрача маці, уваходзіць суседка Насця.
2. Спакойна, разважна, няспешна ідзе размова.
3. Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за хмары.
4. Падзьмуў вецер, і па вадзе пабеглі хвалі.

**III.** Адзначце значэнне, з якім ужыты тэрмін «пунктуацыя» ў сказе.

Пунктуацыя твораў Васіля Быкава вызначаецца пэўнай спецыфікай.

1) Сукупнасць знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце;
2) пунктуацыйныя правілы;
3) раздзел мовазнаўства.

**IV.** Адзначце знакі прыпынку.

1) Дэфіс;
2) працяжнік;
3) націск;
4) дужкі.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх ужыты раздзяляльныя знакі прыпынку.

1. Кніга — крыніца ведаў.
2. Лабановіч — так называўся малады настаўнік — слухаў апавяданне бабкі з цікавасцю.
3. Бліснула маланка — стала відна як удзень.
4. Над полем — песня жаваранка.

**II.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх ужыты выдзяляльныя знакі прыпынку.

1. Напэўна, маці не спіць.
2. Бег свой, здавалася, час замарудзіў.
3. Не змаўкаючы, гула завіруха.
4. Шуміць, прыгнуўшыся над возерам, аер.

**III.** Адзначце значэнне, з якім ужыты тэрмін «пунктуацыя» ў сказе.

Пунктуацыя цесна звязана з сінтаксісам і марфалогіяй.
1) Сукупнасць знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце;
2) пунктуацыйныя правілы;
3) раздзел мовазнаўства.

**IV.** Адзначце знакі прыпынку.

1) Двукоссе;
2) знак пераносу;
3) двукроп'е;
4) знак параграфа.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў КАНЦЫ СКАЗА

У канцы сказа могуць ужывацца кропка, пытальнік, клічнік, шматкроп'е, а таксама пытальнік і клічнік, пытальнік і шматкроп'е, пытальнік разам з клічнікам і шматкроп'ем, клічнік і шматкроп'е.

Пастаноўка пэўнага знака прыпынку ў канцы сказа залежыць ад таго, які гэта сказ паводле мэты паведамлення і якую інтанацыйную афарбоўку ён мае.

Кропка ставіцца ў канцы апавядальных сказаў, а таксама ў канцы пабуджальных сказаў, калі яны не маюць яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі: *Палі збажыною шумяць.* (Я. Купала); *Давайце дружна песню звонкую спяём.* (З. Бядуля).

Пытальнік ставіцца ў канцы пытальных сказаў: *Што нясе нам вясна маладая?* (Я. Колас).

Пытальнік ставіцца ў канцы складаназлучаных і складаных бяззлучнікавых сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка змяшчае прамое пытанне: *Стаміўся ў дарозе, ды дзе спачываць?* (П. Броўка); *Паслухай добра: чуеш песні?* (Я. Колас).

Пытальнік ставіцца ў канцы складаназалежных сказаў, у якіх кожная або адна з частак (галоўная ці дададаная) змяшчае прамое пытанне: *Мячык і цацку трэба аддаць сябрам, бо хто ж ідзе з горада без гасцінца?* (Я. Колас); *Хто згадае, чаго сэрца плача?* (П. Трус).

Пытальнік з клічнікам ставіцца ў канцы сказа, у якім прамое пытанне суправаджаецца рознымі эмацыянальнымі адценнямі: *Хіба ж не любавацца сваім прыгожым краем?!* (Я. Купала).

Пытальнік са шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказа, у якім прамое пытанне падаецца як незавершанае. Шматкроп'е ў такім выпадку абазначаецца дзвюма кропкамі, якія размешчаны за пытальнікам: *Як жа па расе халоднай босы пабяжыш?..* (В. Таўлай).

Калі ж такое пытанне не суправаджаецца дадатковымі эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі, тады ў канцы сказа звычайна ставіцца пытальнік, клічнік і шматкроп'е (шматкроп'е ў такім разе абазначаецца адной кропкай): *Што на свеце роўнага па сіле знойдзецца да шчырай дружбы?!.* (У. Дубоўка).

Клічнік ставіцца ў канцы простых сказаў, якія маюць клічную інтанацыю: *Сягоння на новых шляхах Беларусь!* (А. Звонак); *Будзьце храбрымі і мужнымі!* (М. Лынькоў).

Заўсёды ставіцца клічнік у канцы тых сказаў, у якіх клічная інтанацыя падкрэслена эмацыянальна-экспрэсіўнымі часціцамі і выклічнікамі, размешчанымі ў пачатку сказа: *Колькі наперадзе спраў маладым!* (А. Астрэйка); *Ах, добра летам каля рэчкі!* (Я. Колас).

Заўсёды ставіцца клічнік у канцы тых сказаў, у якіх пабуджэнне выражана інфінітывам, назоўнікам або прыслоўем: *Не быць вайне! Па машынах! Бягом!*

Клічнік ставіцца ў канцы складаных сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка мае клічную інтанацыю: *Ужо снедаць час, і поўдзень скора, ды з гэтым бацькам адно гора!* (Я. Колас).

Клічнік са шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказа, у якім эмацыянальна-экспрэсіўнае паведамленне падаецца як незавершанае: *Ну што ж, здараюцца і ў будзённым жыцці гераічныя моманты!..* (І. Грамовіч).

Шматкроп'е ставіцца ў канцы сказа, які не закончаны граматычна або па сэнсе: *Вецер ярасна дзьмуў, і рака бушавала...* (П. Панчанка); *Людзі ездзяць, а ты...* (Я. Брыль).

## Практыкаванні

**4.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

Пра вясну ж і казаць няма чаго: кожнае імгненне здараецца хоць невялічкі, але цуд. Цуд першага ручайка, які адтайвае ў снезе сваю сцяжынку. Цуд першай праталінкі на самым адкрытым небу ўзлобку. Цуд першага кволага парастка ўсемагутнага пырніку, першага альховага лісціка, першай пралескі. Цуд абуджэння магутнай ракі, калі цямнее, набухае, лопаецца ўздоўж па хрыбце і пачынае рвацца, рваць зімовыя ковы лёд...

А вясёлыя капяжы ўсюды, куды зазірне сонца! А прылёт птушак! Радасць надараецца штодня, штохвіліну — і не заўважаць яе? Не прымаць з захапленнем і ўдзячнасцю?! Дык жа на тое і дадзена жыццё, каб любіць усё вакол, любіць усім сэрцам, адчуваючы кожнае імгненне і радасць, і ўдзячнасць за яе (*Паводле Т. Бондар*).

**5.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў. У дужках укажыце магчымыя варыянты.

Цішыня ў асеннім лесе Спакой і царства фарбаў, колераў Верасень кінуў ужо на бярозы крыху розных фарбаў Вось праляцеў бярозавы лісток, апусціўся ціха на зямлю Угледзьцеся ў гэты лісток Колькі сонечнага цяпла падаравала яму лета І мне здаецца: часцінка гэтага цяпла так і засталася ў ім

Крочу па зялёным мяккім моху далей Які цудоўны дыван разаслала тут прырода Бярозы расступаюцца, быццам хочуць даць камусьці месца На невялікай палянцы стаіць магутны дуб

Раптам у лесе штосьці загуло Я зірнуў угору: вершаліна дуба злёгку варухнулася, потым яшчэ і яшчэ Там, уверсе, налятаў вецер І ў тую ж хвіліну дробна зашамацела лісце на бярозках І ўраз прапала ціша ў лесе Прыглушаны гул пракаціўся праз увесь бярозавы гай А мне гэты гул здаўся трывожнай песняй (*Паводле Б. Сачанкі*).

**6.** Складзіце і запішыце тэкст на тэму «Парожнім словам не грашы» (С. Грахоўскі), выкарыстоўваючы сказы, розныя паводле мэты выказвання і інтанацыйнай афарбоўкі.

**7.** Падзяліце тэкст на сказы. Перакладзіце яго на беларускую мову. Пераклад запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

Боже как ты хороша подчас далекая далекая дорога сколько раз погибающий и тонущий я хватался за тебя и ты всякий раз меня великодушно выносила и спасала а сколько родилось в тебе чудных замыслов поэтических грез сколько перечувствовалось дивных впечатлений (*Н. В. Гоголь*).

## Кантрольныя пытанні

1. Якія знакі прыпынку ўжываюцца ў канцы сказа? Ад чаго залежыць выбар таго ці іншага знака прыпынку?
2. Калі ўжываецца кропка?
3. Калі ўжываецца пытальнік у канцы складаных сказаў?
4. З якімі знакамі прыпынку можа спалучацца пытальнік? Калі такія спалучэнні ўжываюцца?
5. Пры якіх умовах клічнік у канцы простага сказа ўжываецца заўсёды?
6. Калі ўжываецца клічнік у канцы складаных сказаў?
7. Калі ўжываецца шматкроп'е?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце, якія знакі прыпынку ўжываюцца ў канцы пабуджальных сказаў.

1) Кропка;
2) пытальнік;
3) шматкроп'е;
4) клічнік.

**II.** Адзначце, з якімі знакамі прыпынку ў канцы сказа можа спалучацца шматкроп'е.

1) Клічнік;
2) дужкі;
3) працяжнік;
4) пытальнік.

**III.** Адзначце сказы, у канцы якіх трэба паставіць пытальнік.

1. Адкуль вы ідзяце
2. Ці скажаце мне, якая зараз гадзіна
3. Напішы мне, калі ласка, пісьмо
4. Зара хутка пагасла, і стала цёмна

**IV.** Адзначце сказы, у канцы якіх трэба паставіць клічнік.

1. Эх, дзянёк харошы
2. Дзень добры, беларускі мой край
3. Пад'ём
4. Нашто псаваць настрой сабе і другім

*II варыянт*

**I.** Адзначце, якія знакі прыпынку ўжываюцца ў канцы эмацыянальна афарбаваных сказаў.

1) Кропка;
2) шматкроп'е;
3) пытальнік з клічнікам;
4) клічнік са шматкроп'ем.

**II.** Адзначце, з якімі знакамі прыпынку ў канцы сказа можа спалучацца пытальнік.

1) Клічнік;
2) кропка;
3) двукоссе;
4) шматкроп'е.

**III.** Адзначце сказы, у канцы якіх трэба паставіць пытальнік.

1. Сымон быў у горадзе, і што ён там бачыў
2. Калі вы вернеце кнігу
3. Хвіліну-другую пераклікаюцца па ўсяму сялу пеўні, нарэшце і яны змаўкаюць
4. Ты што, перапалохаўся

**IV.** Адзначце сказы, у канцы якіх трэба паставіць клічнік.

1. Усім народам — мір і шчасце
2. Ого, як прыемна і хораша імчацца вярхом на кані
3. Смірна
4. Розныя мясціны часта сняцца Рыгору

## ПРАЦЯЖНІК ПАМІЖ ДЗЕЙНІКАМ І ВЫКАЗНІКАМ

Пры нулявой звязцы паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік:

1) калі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі або колькаснымі лічэбнікамі ў форме назоўнага склону: *Алеська — дзяўчына бойкая і вясёлая* (Р. Мурашка); *Пяць і тры — восем*;

2) калі дзейнік і выказнік выражаны неазначальнай формай дзеяслова: *На полі працаваць — ураджай здабываць* (Прыказка);

3) калі адзін галоўны член сказа выражаны неазначальнай формай дзеяслова, а другі — назоўнікам у форме назоўнага склону: *Падрыхтаваць цікавы даклад — справа нялёгкая* (А. Кулакоўскі); *Гурбы — не ўзабрацца* (С. Шушкевіч).

Калі перад выказнікам стаяць словы *гэта*, *вось*, *значыць*, *гэта значыць*, то працяжнік ставіцца перад гэтымі словамі: *Жыццё — гэта мудрасць* (А. Асіпенка); *Уборка збожжа без страт — вось наш галоўны клопат сёння* («Звязда»); *Змагацца за праўду — гэта значыць праходзіць самую высокую навуку ў свеце* (К. Чорны).

Працяжнік звычайна не ставіцца:

1) калі перад выказнікам ёсць параўнальныя злучнікі: *Марскія хвалі быццам горы* (М. Лупсякоў);

2) калі дзейнік выражаны асабовым займеннікам: *Я шафёр* (М. Лынькоў);

3) калі пры выказніку, які выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, ёсць адмоўная часціца *не*: *Кожная маці не вораг свайму дзіцяці* (Прыказка);

4) калі выказнік выражаны прыметнікам, парадкавым лічэбнікам, займеннікам або прыслоўем: *Вада чыстая, празрыстая*; *Наша хата дзясятая ад канца сяла* (А. Якімовіч); *Гэты дом наш*; *Зося ўжо замужам* (К. Чорны).

**Заўвага**. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам можа ставіцца ў тых выпадках, калі на дзейнік ці на выказнік прыпадае лагічны націск: *Мы — студэнты*; *Ласкавае сонца — што дзень ясны* (А. Куляшоў); *Неба — глыбокае, сіняе*; *Старасць — не радасць* (Прыказка).

## Практыкаванні

**8.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў. Назавіце пунктаграмы на правіла «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам».

Мне пашчасціла ў жыцці: я нарадзіўся і вырас побач з лесам. Мабыць, таму лес увайшоў у маю свядомасць як таямнічы волат і чараўнік, лекар і карміцель.

...Наша драўлянае дойлідства — унікальная з'ява ў свеце. Палацы, храмы з дрэва, якія сям-там яшчэ захаваліся, вабяць вока выключнай прыгажосцю і прыдатнасцю.

Лес — сапраўдны зялёны бастыён зямлі. Не будзь побач лесу, поле ўшчэнт разарвалі б яры ды равы, апяклі б сухавеі, спапяліла б сонечная радыяцыя.

...Лес — галоўныя лёгкія зямлі. Падлічана: гектар гаю паглынае за год да шасці з палавінай тон вуглякіслага газу і выдзяляе да пяці тон кіслароду.

Мабыць, галоўнае дасягненне беларускіх лесаводаў — гэта тое, што ўпершыню пасля вайны штогадовыя пасадкі лесу пачалі перавышаць яго высечкі. Нам трэба нарэшце навучыцца глядзець на лес вачыма мастака і вачыма гаспадара (*Паводле С. Паўлава*).

**9.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце пунктаграмы на правіла «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам».

Мы былі ў Залессі былым маёнтку Міхала Клеафаса Агінскага. Залессе адна з самых паэтычных мясцін нашай радзімы а восень надавала ўсяму што мы бачылі вакол лёгкае адценне чысціні празрыстасці і журбы.

...Агінскія стары апалячаны беларускі род традыцыйныя гетманы літоўскія. Бацька паэта быў ваявода а пасля літоўскі мечнік. Аднак Міхал Агінскі арыстакрат магнат адмовіўся ад свайго княскага герба назваў сябе «грамадзянінам» і хацеў вызваліць дванаццаць тысяч сваіх сялян каб узняць іх на паўстанне. За гэта чалавекалюбства дэмакратызм гуманнасць ён яшчэ бліжэйшы нам (*Паводле У. Караткевіча*).

**10.** Выпішыце сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты пастаноўкі знакаў прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам. Вусна растлумачце ўмовы такой варыянтнасці.

1. Смелы пачатак — палавіна перамогі (*Прыказка*). 2. Трэць тэрыторыі Беларусі — лясы (*У. Караткевіч*). 3. Імя тваё як снег іскрысты на Татрах прамяністых (*М. Танк*). 4. Свякруха не маці (*І. Шамякін*). 5. Перайсці ўброд раку летам — адна асалода (*Я. Колас*). 6. Я пясняр лясоў, балота і загонаў каласістых (*М. Чарот*). 7. Хлеб сёлета рослы (*М. Калачынскі*). 8. У дружбе жыць — шчаслівым быць (*Прыказка*). 9. Дзень сонечны, ясны (*Я. Брыль*). 10. Гэтыя кнігі мае (*А. Васілевіч*). 11. Вясна яшчэ далёка (*К. Чорны*).

**11.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў. Прадоўжыце свае разважанні на прапанаваную тэму, ужываючы сказы з пунктаграмамі на правіла «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам».

Шчасце — гэта заўсёды нешта недасягальнае. Яно — толькі наперадзе. І калі ты дасягнуў, дамогся таго, чаго так ужо да няўсцерпу чакаў, — табе робіцца вельмі ж ужо радасна, і ты, задаволены і зняможаны, лічыш, што гэта і ёсць шчасце. А пройдзе час, і зноў заўважаеш, што гэта шчасце блякне, робіцца будзённым жыццём, а ты, нудзячыся ад яго, пачынаеш сумаваць і тужліва чакаць нечага такога, што яшчэ наперадзе, што непазнана, як музыка, турбуе цябе і прымушае шчымець сэрца. Шчасце — гэта не тое, чаго ты дасягнуў. Відаць, шчасце — гэта заўсёды лінія гарызонта, а на яе не наступіш нагою (*Я. Сіпакоў*).

## Кантрольныя пытанні

1. Калі паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік?
2. Калі паміж дзейнікам і выказнікам не ставіцца працяжнік?
3. Пры якіх умовах паміж дзейнікам і выказнікам магчымы пунктуацыйныя варыянты?

## Тэст

*І варыянт*

**І.** Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам трэба паставіць працяжнік.

1. Песня душа народа.
2. Шчокі як ружы.
3. Свет не беспрытульнасць.
4. Знайсці падкову шчасце.

**ІІ.** Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам не трэба ставіць працяжнік.

1. Чалавекам быць самая высокая з усіх пасад на зямлі.
2. Лес прыгожы ў любую пару.
3. Кіеў агульнаславянская святыня.
4. Час як плынь рачная.

**III.** **Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам магчымы пунктуацыйныя варыянты.**

1. Белавежская пушча наша гордасць.
2. Голас нібы срэбны званочак.
3. Два плюс тры не дзесяць.
4. Вецер моцны, парывісты.

*II варыянт*

**I.** **Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам трэба паставіць працяжнік.**

1. Азёры вочы зямлі.
2. Жыта як сцяна.
3. Умець за плячыма не насіць.
4. Зямля на Случчыне багатая, урадлівая.

**II.** **Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам не трэба ставіць працяжнік.**

1. Ігнараваць мову гэта значыць ігнараваць народ, нацыю.
2. Рака імклівая, хуткая.
3. Сава сімвал мудрасці.
4. Воблакі нібы залочаныя чаўны.

**III.** **Адзначце сказы, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам магчымы пунктуацыйныя варыянты.**

1. Вочы быццам васількі.
2. Ластаўка птушка разумная.
3. Дзяўчына прыгожая, стройная.
4. Свякруха не маці.

## ПРАЦЯЖНІК У НЯПОЎНЫМ СКАЗЕ

Працяжнік можа ставіцца ў простых няпоўных сказах на месцы прапушчанага члена сказа, калі ў маўленні на месцы пропуску робіцца паўза: *Каля школы — прасторная хата з бурштыновых бярвенняў* (П. Панчанка). Калі на месцы пропуску няма працяглай паўзы, то працяжнік не ставіцца: *Над полем полаг сінявата-шэрага змроку* (І. Навуменка).

Працяжнік можа ставіцца ў няпоўнай прэдыкатыўнай частцы складанага сказа на месцы пропуску таго ці іншага члена сказа, калі гэты член сказа прысутнічае ў папярэдняй прэдыкатыўнай частцы,

а ў маўленні на месцы пропуску робіцца працяглая паўза: *У белым адзенні прыходзіць зіма, вясна — у зялёным адзенні* (П. Глебка). Калі ж у маўленні на месцы пропуску паўза не робіцца, то працяжнік не ставіцца: *Над ракой стаіць каліна, а над возерам вярба* (П. Трус).

**Заўвага**. Працяжнік не ставіцца на месцы прапушчанага выказніка ў даданых параўнальных частках складаназалежнага сказа: *Рухалася пяро па паперы, як цяжкі воз па старой грэблі* (З. Бядуля).

## Практыкаванні

**12.** Прачытайце сказы. Прааналізуйце іх структуру. Растлумачце пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку пры пропуску слоў.

1. Пясчаны шлях, насыпаны ўзбоч чыгункі, вядзе ў лес і ў мястэчка, прасёлкавая дарога — у мястэчка і ў поле (*І. Навуменка*). 2. Над галавой — высокае неба (*І. Навуменка*). 3. У суседнім пакоі — раяль (*Б. Мікуліч*). 4. Сцюдзёны вецер з усіх бакоў (*М. Гарэцкі*). 5. На ўскраі хвойніку — яр (*Б. Мікуліч*). 6. На краі неба — зарніца далёкай кананады (*І. Чыгрынаў*). 7. Шлюпкі — на вадзе (*А. Звонак*). 8. Чалавек, як трава да сонца, горнецца да лепшага (*К. Чорны*).

**13.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў няпоўных канструкцыях. Укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.

Лес пад бокам. Прайдзі на захад якую-небудзь вярсту па чыгунцы або па пыльным шляху які ляжыць побач і тут табе сасновы бор дзе чарніц і брусніц і грыбоў не абярэшся трохі злева змешаны лісцвяны лес у якім пераважае альха і бяроза і дол якога проста чырванее ад суніц. А падайся ў балоцісты гушчар дык маліны і ажыны процьма (*І. Навуменка*).

**14.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Назавіце няпоўныя канструкцыі. Укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.

Зала — як суцэльны грот з кветак. На спінках крэслаў гірлянды незабудак, у насценных вазах букеты нарцысаў і цюльпанаў. Столь — як кветкавы шацёр. І каля сцен — маладыя бярозкі.

А на сцэне — дзявочы хор. Ніжэй — вясковы аркестр.

Кумы з дзецьмі садзяцца парамі, каля праходу. І хор пачынае спяваць. Песні яго — тыя песні, што спявае народ пра дзяцінства, пра маці, пра будучы лёс немаўлятка. Музыка, водар кветак. Усе сядзяць расчуленыя (*У. Караткевіч*).

## Кантрольныя пытанні

1. Пры якой умове ставіцца працяжнік у няпоўных простых сказах на месцы пропуску таго ці іншага члена сказа?

2. Пры якой умове ставіцца працяжнік у няпоўных прэдыкатыўных частках складаных сказаў?

3. У якіх складаных сказах на месцы прапушчанага выказніка не ставіцца працяжнік?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце няпоўныя сказы.

1. Час світання.
2. Над тайгою сцюжа.
3. Гады бесклапотнага маленства.
4. Па-над рэчкай гоман.

**II.** Адзначце складаныя сказы, у няпоўных прэдыкатыўных частках якіх не трэба ставіць працяжнік.

1. Дзеці снедалі і маці з імі.
2. Усё красуе, нібы жыта летам.
3. Сонца будзе свяціць і трава зеляніцца.
4. Ігнат быў спакойны, як зямля пасля дажджу, і нават жартаваў.

*II варыянт*

**I.** Адзначце няпоўныя сказы.

1. Пад вокнамі густы вішняк.
2. Аблок высокія снягі.
3. На лузе скошаным высокая атава.
4. Празрыстая сінь майскага неба.

**II.** Адзначце складаныя сказы, у няпоўных прэдыкатыўных частках якіх не трэба ставіць працяжнік.

1. Нібы касец з біклагі, п'е з хмары луг.
2. Акрэсляцца спакоем паплавы і свежасцю паветранай дарогі.
3. Стаяла яблынька ля вёскі, як падарожнік між дарог.
4. Блішчала роснае ржышча і на ім снапы.

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ АДНАРОДНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА

Коска ставіцца:

1) паміж аднароднымі членамі, якія звязаны паміж сабой інтанацыяй пералічэння, г. зн. без злучнікаў: *Белы пух атрэслі з шапак хвойнікі, ляскі* (Я. Колас);

2) паміж аднароднымі членамі перад супраціўнымі злучнікамі: *Невялікая, але бурная рэчка пеніцца між скал* (Э. Самуйлёнак);

3) паміж аднароднымі членамі перад другой часткай парных злучнікаў: *Лемяшэвіч хоць не вельмі разумеў, але любіў музыку* (І. Шамякін);

4) паміж аднароднымі членамі, звязанымі пры дапамозе паўторных спалучальных або размеркавальных злучнікаў: *Школы Еўфрасінні Полацкай былі перадавымі для свайго часу і праграмай навучання, і складам вучняў* (У. Арлоў); *То жывіцай, то чабаровым настоем дыхае з кручы высозны бор* (К. Кірэенка);

5) паміж аднароднымі членамі, калі злучнікі *і, ды, або* паўтараюцца і звязваюць не ўсе, а толькі частку аднародных членаў сказа: *Люблю беларускае Палессе, і казачна мяккую Наваградчыну, і адзіную ў свеце Белавежу, і суровую прыгажосць паўночнага азёрнага краю* (У. Караткевіч);

6) паміж парамі аднародных членаў, звязаных спалучальным злучнікам *і*: *Ляжыць мой край на Дзвіне і Дняпры, на Бугу і Нёмане, на Прыпяці і Бярэзіне* (Я. Колас).

Коска не ставіцца:

1) паміж аднароднымі членамі, звязанымі пры дапамозе адзіночных спалучальных ці размеркавальных злучнікаў: *Збожжа было ў гумнах ды ў сціртах* (І. Шамякін); *Шмат якія птушкі гнездзяцца ў полі або ў лесе* (В. Вольскі);

2) паміж аднароднымі членамі, звязанымі неаднолькавымі злучнікамі: *Ведала ўсё сэрца добрае матчына ды прасторы-палі і бары на Вушаччыне* (П. Броўка).

**Заўвага.** Не з'яўляюцца аднароднымі членамі і не раздзяляюцца коскамі словы ў складзе ўстойлівых спалучэнняў, звязаныя паўторнымі злучнікамі *і — і, ні — ні, ці — ці* (*і тут і там, ні так ні сяк, ці блізка ці далёка*): *Ганна цяпер ні дома ні замужам* (І. Мележ).

Пры аднародных членах сказа могуць ужывацца абагульняльныя словы, якія размяшчаюцца перад аднароднымі членамі ці пасля іх.

Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, то пасля яго ставіцца двукроп'е: *Вясна, кажуць, прыгожая ўсюды: і ў полі, і ў лесе, і ў горадзе* (Я. Брыль).

Калі абагульняльнае слова стаіць пасля аднародных членаў, то перад ім ставіцца працяжнік: *Звон жалеза, стук молатаў, шоргат і скрогат, гул і трэск горнаў — усё злівалася ў адзіны гук заводскай працы* (К. Чорны).

Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, але сказ імі не заканчваецца, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх — працяжнік: *Усё разам: і хаты, і поле, і дарога — чарнела ад асенняй імглы і туману* (К. Чорны).

## Практыкаванні

**15.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку ці адсутнасць знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа. Вызначце сінтаксічную функцыю аднародных членаў у сказе.

1. І лугам, і касагорам, нівам, пушчам і азёрам сонца шле прамень (*А. Бачыла*). 2. То знікне, то выблісне сонца ўгары (*Н. Гілевіч*). 3. Неба на гарызонце зрабілася не то сінім, не то зусім белым (*К. Чорны*). 4. Гаворку бацькі і сына перапыняе гоман на вуліцы (*П. Кавалёў*). 5. Бярозы ды алешыны з усіх бакоў акружалі возера (*Я. Маўр*). 6. Праз поле я пайшоў да школы і яшчэ здалёк пачуў голас настаўніцы і хор дзяцей (*І. Шамякін*). 7. Як дзень, так і ноч ідуць цягнікі ды ідуць (*А. Якімовіч*). 8. Мы падалі і ўставалі, але не гнуліся ў бядзе (*С. Грахоўскі*). 9. Па шашы і ўзбоч дарогі або проста па полі ішло і ехала шмат людзей (*М. Лынькоў*).

**16.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце пунктаграмы на правіла «Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа».

Янка Купала Кіславодск любіў. Ён спрыяў ягонаму здароўю і падабаўся сваёй асаблівай велічнай прыродай. Чырвоныя камяні цудоўны парк выключна дагледжаныя прагулачныя дарожкі і ўдалечыні велічны белагаловы Эльбрус цешылі яго сэрца і я заўсёды адчуваў з якім задавальненнем Купала хадзіў на «Храм воздуха» і радзей на «Красное солнышко» куды было значна далей і не заўсёды выпадала схадзіць туды па часе ды і па дазволе ўрачоў.

У Янкі Купалы было ўсюды шмат шчырых прыхільнікаў добрых сяброў. Ён адразу ўвёў і мяне ў іх кола. Я часта хадзіў з ім да сям'і Калітоўскіх з якой Купала быў дружны яшчэ з часоў калі яны жылі ў Мін-

ску. Сяброваў ён і з медыцынскімі сёстрамі і афіцыянткамі якія абслугоўвалі яго. Помню як аднойчы накупіўшы падарункаў ён павёў мяне ў госці да сваіх афіцыянтак. І з усімі ён добра адчуваў сябе знаходзіў прыязную патрэбную гутарку. Гэта было пэўнай навукай і для мяне бо апрача ўсяго я адчуваў што ў такіх сустрэчах Янка Купала чэрпаў для сябе пазнанне чым жыве народ якія ягоныя настроі інтарэсы.

Гэта ж жаданне прыводзіла яго і ў месцы дзе найбольш шырока раскрывалася ў той час народная душа. На рынак. У Кіславодску рынак быў вельмі шумны разнастайны. Каго-каго толькі на тым рынку не было і чаго-чаго толькі не было на яго шматлікіх сталах арбах і вазах (*Паводле П. Броўкі*).

**17.** Прачытайце тэкст. Пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў.

Бадай, самая дзіўная мясціна пад Браславам — доўгі мыс, што пачынаецца ад Слабодкі і завяршаецца крутым узлобкам. З вяршыні яго адкрываецца велічная панарама на азёры Недарава, Неспіш, Батойса, Войса, Струста, якая ўвенчана крыштальнымі прызмамі белага храма. І белыя хусцінкі чаек мільгаюць над грабянямі зялёных хваляў. Тугі балтыйскі вецер з натхненнем надзімае аблокі, пад вечар яны збіраюцца ў адну нізкую чорную хмару, і тады на ўсю прастору абвальваецца шторм. Кіпіць вада ў азёрах, сівыя пасмы дажджу са свістам і сіпеннем сутыкаюцца з хвалямі і камянямі, вецер гайдае сосны і ядловец, пырскамі і пенай акатвае берагі. Шторм бушуе ўсю ноч, раніцы за ім не відно. Палову наступнага дня хмары так-сяк разгойдвае, разбівае вецер, іх адносіць на ўсход. Над супакоенымі хвалямі зноў крычаць чайкі, адплываюць ад берага рыбацкія чаўны. Вячэрняе сонейка лашчыць мокрыя сосны і вільготныя травы, весела стракочуць конікі на сенажаці, і скрозь ачышчаны блакіт прасторы ляціць бусел, ужо не белы, а ружовы ў промнях нізкага сонца (*В. Ждановіч*).

**18.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй у сказе.

1. Возера было хоць н(е/я)шырокае але глыбокае (*Я. Маўр*). 2. Будзеш ісці глухой пушчай — абавя(з/с)кова сустрэнеш калі н(е/і) зубра то лася (*Т. Хадкевіч*). 3. Лепшымі вучнямі хацелі быць як Янка так і Максім (*«Рэспубліка»*). 4. У лістападзе на з(е/я)млю сыпаўся н(е/і) столькі д(о/а)ўгачаканы с(?)нег колькі надакучлівы халодны дождж

(*Б. Мікуліч*). 5. Брыгада н(е/і) толькі выканала але і перавыканала на дваццаць працэнтаў дзё(н/нн)ую норму (*І. Гурскі*). 6. На лісцях дрэў і кустоў на збажыне пал(е/я)вых кветках і траве то тут то там віднеліся густыя кроплі расы (*В. Каваль*). 7. Чалавек хоць вельмі сп(е/я)шаўся але спыніўся і ветліва а(д/т)казаў на пытанне в(е/я)сковай жанчыны (*І. Мележ*).

**19.** Выпішыце асобна сказы з аднароднымі азначэннямі і сказы з неаднароднымі азначэннямі. Расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Хуткім паспешлівым крокам праз поле ў бок вёскі ішоў незнаёмы чалавек (*У. Шыцік*). 2. Дабрыня і спагадлівасць да людзей адвеку ўласцівыя працавітай беларускай сялянцы (*А. Марціновіч*). 3. Ветлівая прыязная ўсмешка асвятліла твар дзяўчыны (*У. Краўчанка*). 4. Непаўторныя самабытныя пейзажы роднага краю не могуць не захапляць сваёй прыгажосцю (*А. Савіцкі*). 5. Аўтобусы праклалі першы след у залатое чэрвеньскае ранне (*С. Грахоўскі*). 6. Бясхмарнае шчаслівае дзяцінства, калі былі жывыя бацькі, успаміналася ўсё часцей і часцей (*У. Шыцік*). 7. У школе ёсць свой цікавы батанічны сад з мноствам экзатычных раслін (*У. Караткевіч*). 8. Прыемна прайсціся ўлетку басанож па шаўкавістай мурожнай траве (*Я. Брыль*).

**20.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах з абагульняльнымі словамі. Вызначце сінтаксічную функцыю аднародных членаў з абагульняльнымі словамі.

1. У вагоне было дастаўлена першае прыладдзе: маторная лодка, лесапільны інструмент, рыдлёўкі (*К. Чорны*). 2. У хаце прыбрана папрастачковаму: сціпла, проста, скупавата (*П. Пестрак*). 3. Недарагі пінжак, штаны, забраныя ў крыху парыжэлыя боты, выцвілая, хоць і чыстая кашуля, акуратная старэнькая кепка — усё гэта адзенне надавала чалавеку выгляд звычайнага рабочага (*М. Лынькоў*). 4. Людзі заўсёды былі чым-небудзь заняты: уранку і ўвечары, летам і зімой, у хаце, на двары, у полі, на балоце, у лесе (*І. Мележ*). 5. Вы нічога ад нас не схавалі: ні ўсмешак, ні бед, ні надзей (*П. Панчанка*). 6. Будынак, парк і агароджа — было ўсё слаўна і прыгожа (*Я. Колас*).

**21.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены з абагульняльнымі словамі ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй у сказе.

1. Дзіця ўбачыла новыя мясціны зялёны хвойнік шэрае поле (*К. Чорны*). 2. Усюды ў горадзе і ў вёсцы праца рупная ідзе (*М. Чарот*).

3. За кустамі пярэсцяцца розныя колеры зямлі зялёныя ўзгоркі ціхія лагчыны рэдкія чорныя палосы першай раллі і леташняя шэрань веснавой цаліны (*К. Чорны*). 4. Таполі роўнымі радамі высаджаныя ўздоўж чыгункі зялёныя прасторы лугоў і палёў хмурыя хвойнікі светлыя бярэзнікі вёскі і вёсачкі ўсе гэтыя малюнкі даўно сталі роднымі машыністу (*Б. Мікуліч*). 5. З чым волат ростам ні мераўся ўсяму ўпоравень даводзіўся і дрэву высознаму і каменю-гары і гары да аблокаў (*Т. Бондар*). 6. У Пушчы найстражэйшы дагляд за пасадкамі і спелымі лясамі за гнёздамі норамі вадаёмамі за ўсім што складае стракаты калейдаскоп яе жыцця (*У. Караткевіч*). 7. На падаконніках стаялі вазоны кактус альяс і дрэўца лімона (*І. Гурскі*).

**22.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах з абагульняльным словам.

Усё гэта а..бывалася ў вёсцы. Тут былі такія будынкі хаты з чырвонымі комінамі клуні хлевушкі свіронкі і прыгрэбнікі з нізен..кімі да самай з..млі стрэхамі. Двары былі прасторныя і в..сёлыя. Каля хат раслі розныя дрэвы кучаравыя вішан..кі разгалістыя грушы і ябл..ні. З аднаго боку стаяў цёмны лес. У лесе жылі зв..ры і драпежныя птушкі каршуны совы пугачы ястр..бы. Выходзіў часамі з лес.. воўк і выгл..даў ці не ходзяць парасяты або другая жыўнасць. Нал..талі таксама і каршуны каб забраць бедную курыцу ці якую-небудзь птушку. А пта..ства тут было многа вераб..і ластавачкі плісачкі г..лубы качкі і іншыя (*Паводле Я. Коласа*).

## Кантрольныя пытанні

1. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах, аб'яднаных без дапамогі злучнікаў?
2. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах, аб'яднаных з дапамогай спалучальных злучнікаў?
3. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах, аб'яднаных з дапамогай супраціўных злучнікаў?
4. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах, аб'яднаных з дапамогай размеркавальных злучнікаў?
5. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах, аб'яднаных з дапамогай неаднолькавых злучнікаў?
6. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных членах з абагульняльным словам?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх перад злучнікам ***і*** не трэба ставіць коску.

1. Па ўзгорках і лагчынах бягуць дарогі і сцежкі.
2. І чаруе і варожыць шаўкавістая трава.
3. І там і сям па хатах свяціліся вокны, чуліся галасы.
4. Я малым хлапчуком палюбіў нашы пушчы і нівы і блакітныя рэкі і мора зялёных лугоў.

**II.** Адзначце сказы, у якіх перад размеркавальнымі злучнікамі трэба ставіць коску.

1. Навокал раслі бярозы асіны ці вольхі.
2. То разбяжыцца то пухам засцелецца хітрая мяцеліца.
3. Ні канца ні краю нашаму ўраджаю.
4. Рыгор ці жартаваў ці не адказваў нічога.

**III.** Адзначце сказы, у якіх пры аднародных членах з абагульняльным словам трэба ставіць двукроп'е.

1. Усё тут дыхае ўспамінамі аб паэце хата сяло навакольныя пушчы.
2. Поле і будынкі ўсё пакрыта снегам.
3. Сланечнікі акацыя і сухая трава ўсё вакол хаты было пакрыта пылам.
4. Па краях насыпу смяюцца кветкі званочкі васількі смолкі.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх перад злучнікам ***і*** не трэба ставіць коску.

1. Марылька і Васіліна часта хадзілі ў лес па ягады і грыбы.
2. Успомняцца стэпы пушчы і бор і горы і зорны прастор.
3. Лясы ў нас бываюць вялікія і малыя густыя і рэдкія хвойныя і змешаныя.
4. Настаўніца сабрала са стала кнігі і сшыткі і паклала іх у шафу.

**II.** Адзначце сказы, у якіх перад размеркавальнымі злучнікамі трэба ставіць коску.

1. Водбліскі агню то ўспыхвалі то раптам знікалі.
2. Праз дзень або праз два трэба будзе вярнуцца дадому.
3. На сотні вёрст ні жывое душы ні сяла ні заімкі — тайга і тайга.
4. Вера старалася нічым не пакрыўдзіць ці не раззлаваць старую.

**III.** Адзначце сказы, у якіх пры аднародных членах з абагульняльным словам трэба ставіць двукроп'е.

1. У кустах у траве паўсюль заспявалі зашчабяталі птушкі.

2. Грыбы не раслі нідзе ні ў бярэзніку ні ў сасонніку ні ў ельніку.

3. Матчын агародчык цягне да сябе смачнымі вясковымі ласункамі морквай агуркамі бобам.

4. Дажджу прасіла ўсё пад небам густое голле вішняку бары патрэсканая глеба і абмялелая рака.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ ЗВАРОТКУ

Звароткі могуць знаходзіцца ў пачатку, у сярэдзіне або ў канцы сказа. Калі зваротак размешчаны ў пачатку сказа, то пры звычайнай інтанацыі на пісьме аддзяляецца коскай: *Родны край, у шчасці расцвітай* (А. Русак). Клічнік ставіцца тады, калі зваротак вымаўляецца павышаным тонам з працяглай паўзай: *Мінск! Скажы, як знайсці запаветныя словы для цябе, адзінага на ўвесь свет?* (Г. Бураўкін).

Зваротак, які знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, вымаўляецца больш хутка і паніжаным тонам, выдзяляецца невялікімі паўзамі, а на пісьме — коскамі: *Вы выйшлі ў далеч, маладыя, вам доўга крочыць праз гады* (П. Броўка).

Калі зваротак размешчаны ў канцы сказа і выдзяляецца павышанай інтанацыяй або калі ўвесь сказ клічны, то ў канцы яго ставіцца клічнік, а перад зваротакам — коска: *Спыніся, падарожны!* (А. Куляшоў). Пасля зваротка ў канцы апавядальнага сказа ставіцца кропка, а ў пытальным сказе — пытальнік: *Кланяюся табе, мой горад.* (Г. Бураўкін); *Чаму птушак не чуваць, людцы дарагія?* (Я. Купала).

Калі аднародныя ці развітыя звароткі разрываюцца на часткі членамі сказа, то кожная з частак выдзяляецца коскамі: *Мужайся ж, мая непакорная, мацуйся, ідзі, працавітая, да новых здабыткаў, краіна!* (П. Глебка).

**<u>Заўвагі</u>:**

1. Выклічнікі, што стаяць пры зваротках, аддзяляюцца ад іх коскамі: *Ой, дарога ж ты наша, ты найлепшая ў свеце* (А. Русак).

2. Калі перад зваротакам стаіць выклічнік і займеннік *ты* або *вы*, якія з'яўляецца дзейнікам, то выдзяляецца коскамі толькі зваротак: *Ой ты, месяц, любы дружа, паплыві на мора* (А. Русак). Гэтыя займеннікі ў гутарковым стылі могуць выступаць і ў ролі звароткаў. У такіх выпадках яны выдзяляюцца коскамі: *Гэй, вы, чаго крычыце?* (М. Чарот).

3. Часціцы *о*, *ну* ад звароткa коскай не аддзяляюцца: *О Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю* (П. Панчанка); *Ну брат, цудоўнае жыццё ў нас настала* (М. Клімковіч).

## Практыкаванні

**23.** Прачытайце ўрыўкі з вершаў М. Танка. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротках. Назавіце арфаграмы ў выдзеленых словах.

1. Наш край нарачанскі,
   Край сініх азёраў,
   Ты сёння красой
   Веснавою цвіцеш,
   Як наша радзіма.

2. Сосны!
   Вас дакараў я,
   Што ўзняліся вы рана
   На акопах —
   Зямных незагоеных ранах...

3. Я хацеў бы ў цябе
   Запытацца, мой Нёман,
   Умудронага бачаным
   І пеpажытым,
   Што за далечынёю гадоў
   Нас чакае
   З той сасной, над якой
   Бусел крылы раскінуў,
   З песняй роднай —
   Маёй спадарожніцай вечнай —
   І *нязменнай*,
   Як *матчына* вернасць,
   Зямлёю?

**24.** Запішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротках.

1. Плыві наша песня далёка па ўсіх акі..нах плыві (*П. Броўка*). 2. Ой л..сы-б..ры ды лугі-разлогі Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі (*М. Багда-*

*новіч*). 3. Д..ень добры скул..птар як жывеш ты дружа? (*А. Зарыцкі*). 4. Беларусь-рад..іма вольная старонка вольным тваім далям краю н.. відаць (*А. Русак*). 5. Эх скажы ты нам цёплае слова прытулі нас рад..іма-з..мля! (*П. Пестрак*). 6. Лета ты лета прыгожа-кв..цістае колькі ты ўносіш аздобы з сабой (*Я. Купала*). 7. Н.. кувай ты ш..рая з..зюля сумным гукам у б..ры (*М. Багдановіч*). 8. О май мой родны май в..сёлы Ты зноў пры..шоў мой светлы май (*М. Машара*). 9. Ой з..мля аратых ды з..мля г..рояў маладою ў со..нцы ўставай (*А. Бачыла*). 10. З..мля ты наша ўпрыгожым у сад абернем мы цябе (*Я. Колас*). 11. Кіпі ж ты маладосць бунтуй у парываннях бад..ёрым поступам ід..і ў новы век (*М. Хведаровіч*). 12. Ой рад..імае наша Палес..е хто н.. бачыў твайго хара..ства (*М. Чарот*). 13. Будзь жа ты жыта ядраным і ўмалотным удайся (*Ц. Гартны*).

**25.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротках.

1. О светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло і красу (*Я. Купала*). 2. О маці, як я ганаруся тым, што я — твой родны сын (*М. Аўрамчык*). 3. Ну дзеці, збірайцеся: паедзем да бабулі ў вёску (*Я. Маўр*).

**26.** Выпішыце з твораў мастацкай літаратуры пяць сказаў са зваротkамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротках.

## Кантрольныя пытанні

1. Якія знакі прыпынку ставяцца пры зваротку ў залежнасці ад яго месца ў сказе?
2. Якія знакі прыпынку ставяцца пасля звароткa ў залежнасці ад інтанацыі?
3. Якія знакі прыпынку ставяцца пры звароткy, калі перад ім размешчаны выклічнік ці часціца?
4. Якія знакі прыпынку ставяцца пры аднародных зваротках?
5. Якія знакі прыпынку ставяцца пры развітых зваротках, калі яны разрываюцца ў сказе іншымі членамі сказа?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх развіты зваротак разрываецца іншымі членамі сказа.

1. Слаўся, радасць хлебнага дня, спорся ў дзежцы рашчынай.
2. А калі ж, калі ты, Занямонне, радасцю ўквеціш берагі?

3. Спі, сыночак, спі, саколік, ды расці!
4. Расступіся, далеч, расступіся, цёмная...

**II.** Адзначце сказы, у якіх асабовыя займеннікі не аддзяляюцца ад звароткa коскай.

1. Век красуйся і жыві ты наш край!
2. Зямля ты наша ўпрыгожым у сад абернем мы цябе.
3. Арцём мы цябе чакаем.
4. Мае вы госці дарагія! Давайце песню мы спяём.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх развіты зваротак разрываецца іншымі членамі сказа.

1. Эх, лета-лецейка любае, ты адцвітаеш, залатое!..
2. Пачакай жа, вецярок нязнаны, не дзьмухні, нязваны вецярок...
3. Дзень добры, Масква, як вясна, маладая!
4. Даруй за слова грубае, прабач за крыўды круг, адзіная і любая, мой свет, мой мудры друг.

**II.** Адзначце сказы, у якіх асабовыя займеннікі не аддзяляюцца ад звароткa коскай.

1. Табе Каўказ паэты спеў дарылі.
2. Ці добра людзі вам жывецца?
3. Восень ты нудная восень дажджлівая! Ты немінуча заўсёды.
4. Магутнае слова ты роднае слова! Са мной ты наяве і ў сне.

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ ПАБОЧНЫХ СЛОВАХ, СЛОВАЗЛУЧЭННЯХ І СКАЗАХ

Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, як правіла, выдзяляюцца невялікімі інтанацыйнымі паўзамі, паніжаным тонам (без лагічнага націску) і больш хуткім тэмпам вымаўлення, а на пісьме — коскамі: *Хлопцы, вядома, працуюць старанна* (З. Бядуля); *Саша, на думку Лялькевіча, паводзіла сябе дзіўна* (І. Шамякін); *Наколькі мне вядома, лясы Беларусі славяцца багаццем грыбоў і ягад* (В. Вольскі).

**<u>Заўвагі:</u>**

1. Калі пабочныя словы, словазлучэнні і сказы размешчаны непасрэдна за злучальнымі або падпарадкавальнымі злучнікамі, то яны вы-

дзяляюцца коскамі без гэтых злучнікаў: *Вёска стаяла на скрыжаванні дарог і, само сабой зразумела, шмат чаго бачыла* (І. Гурскі); *Прыйшла самая гарачая пара, калі, як кажуць хлебаробы, дзень год корміць* (І. Гурскі).

Узмацняльныя часціцы ад пабочных слоў і словазлучэнняў не аддзяляюцца, а выдзяляюцца коскамі разам з імі: *Брыгада, і сапраўды, даўно стала яму і домам, і сям'ёй* (І. Мележ); *А прызнацца, страшна было ў лесе* (Р. Мурашка).

Каб адрозніць злучнікі *і*, *а* ад узмацняльных часціц *і*, *а*, трэба паставіць пабочнае слова ці словазлучэнне на іншае месца ў сказе. Калі перастаноўка магчымая, то *і*, *а* — злучнікі, калі не — то ўзмацняльныя часціцы.

2. Калі пабочныя словы і словазлучэнні ўваходзяць у склад адасобленых зваротаў і размешчаны ў пачатку або ў канцы іх, то паміж гэтымі словамі, словазлучэннямі і адасобленымі зваротамі коска не ставіцца: *Старшыня імкліва абыходзіць вакол машыны, няйначай прыглядаючыся да яе паклажы* (І. Шамякін); *Бацька, вярнуўшыся з горада бывала, кожнаму прывозіў падарунак.*

## Практыкаванні

**27.** Прачытайце сказы. Вызначце пабочныя словы, словазлучэнні і сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.

1. Садок быў, праўда, невялічкі: дзве верабіны ды тры дзічкі (*Я. Колас*). 2. Пытанне, па сутнасці, было ўжо вырашана (*І. Шамякін*). 3. Зіма, трэба думаць, неўзабаве саступіць месца вясне (*Б. Мікуліч*). 4. Як гавораць старыя людзі, летні дзень год корміць (*З. Бядуля*). 5. Жыццё, як вядома, рэч вельмі складаная (*М. Паслядовіч*). 6. Рэчка, як нам здавалася, пачынала мялець (*І. Навуменка*). 7. На дварэ, і сапраўды, было па-вясенняму цёпла і светла (*В. Каваль*). 8. Прыгажэйшая за ўсіх зямля, і роўных ёй, паверце мне, няма (*А. Звонак*). 9. У паветры пахла вадой, травой, туманам, адным словам, пахла цудоўнай раніцай (*Я. Маўр*).

**28.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Вызначце структуру пабочных канструкцый (словы, словазлучэнні, сказы).

1. Быў адзін з тых летніх дзён якія бываюць мусіць толькі ў нас на Беларусі (*Я. Маўр*). 2. На маё здзіўленне сустрэліся мы зусім не

так як я чакаў (*У. Ляўдансі*). 3. На маю думку вучыцца ніколі не позна (*І. Шамякін*). 4. Больш-менш вялікіх каменняў на Палессі не знойдзеш яны засталіся далей на поўнач напрыклад у Полаччыне (*Я. Маўр*). 5. Я ж калі ты памятаеш быў некалі механікам (*У. Шахавец*). 6. Па праўдзе сказаць настаўніку хацелася пабачыць Ядвісю (*Я. Колас*). 7. Гара як нам паведамілі называецца Маладзецкім курганам (*Я. Брыль*). 8. Усё жывое на зямлі бясспрэчна цешылася цёплым сонечным святлом (*Я. Маўр*). 9. Вялікае кажуць добра бачыцца на адлегласці (*М. Калачынскі*).

**29.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце пабочныя канструкцыі.

Пачуц..ё Радзімы б..зумоўна ва ўсіх у нас развіта вельмі моцна. Цудоўнае пачуц..ё! І яно жывіцца в..дома не толькі сузіран..ем хара..-ства нашай з..млі. Трэба як гаворыцца ўрасці ў яе к..ранямі і калі чалавек да пот.. папрацуе на ёй хлеб вырасціць заложыць горад пабудуе новую дарогу або акопы будзе капаць на гэтай з..млі абар..няючы яе, — вось тады ён бяс..прэчна зразумее да канца што такое Радзіма (*«Звязда»*).

**30.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце асаблівасці пастаноўкі знакаў прыпынку пры пабочных словах у складзе адасобленых зваротаў.

1. Жанчына ішла па кладцы асцярожна відаць баючыся паслізнуцца (*К. Чорны*). 2. Школьныя сябры сустрэўшыся праз трыццаць гадоў гаварылі доўга ўспамінаючы напэўна сваю маладосць (*«Рэспубліка»*). 3. Мабыць адчуўшы змену настрою да бацькі падышлі дзеці (*К. Чорны*). 4. Міхалаў бацька неяк загадкава пасміхнуўся ўхваляючы відаць мой намер паехаць у Холмеч (*І. Шамякін*). 5. Не чакаючы як відаць далейшай размовы жанчына хутка выйшла з хаты (*П. Галавач*).

## Кантрольныя пытанні

1. Якімі знакамі прыпынку аддзяляюцца ці выдзяляюцца пабочныя словы, словазлучэнні і сказы на пісьме?

2. Якія знакі прыпынку ставяцца пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах, размешчаных пасля злучальных ці падпарадкавальных злучнікаў?

3. Якія знакі прыпынку ставяцца пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах, размешчаных пасля ўзмацняльных часціц?

4. Якія знакі прыпынку ставяцца пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах, размешчаных у адасобленых зваротах?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце канструкцыі з пабочнымі сказамі.

1. Людзі кажуць што працаваць весялей з песняй.
2. Да пары кажуць людзі збан ваду носіць.
3. Вы думаеце што лепш сказаць праўду?
4. Вы думаеце я ўвесь час быў дзедам?

**II.** Адзначце сказы, у якіх пабочныя канструкцыі размешчаны пасля ўзмацняльных часціц.

1. Кастусь бачыў а праўдзівей уяўляў як хвалюецца мора.
2. Размова і сапраўды не ладзілася.
3. Дзяўчына стаяла каля дзвярэй і відаць не рашалася ўвайсці.
4. Праца ў школе складаная і безумоўна цікавая.

*II варыянт*

**I.** Адзначце канструкцыі з пабочнымі сказамі.

1. Калі заўсёды гаварыць праўду людзі будуць цябе паважаць.
2. Навін у нас калі гаварыць праўду вялікіх няма.
3. Трэба думаць што ўсё скончыцца добра.
4. Трэба думаць неўзабаве ляжа зіма.

**II.** Адзначце сказы, у якіх пабочныя канструкцыі размешчаны пасля ўзмацняльных часціц.

1. На беразе возера і праўда нікога не было.

2. Жыццё за межамі лясоў і балот Палесся было для Ядвісі яшчэ не зусім ясным і стала быць яшчэ больш парывальным і прыгожым.

3. Чалавек ён быў спакойны і можна сказаць культурны.

4. Нечаканай а галоўнае радаснай стала гэтая сустрэча.

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ СЛОВАХ-СКАЗАХ

Калі словы-сказы размешчаны ў пачатку сказа і вымаўляюцца з адпаведнай інтанацыяй, то яны аддзяляюцца ад сказа коскай: *Што ж, сонца для ўсіх жаданы госць* (М. Лынькоў).

Калі словы-сказы ўжываюцца ў ролі асобных нячленных сказаў, то пасля іх ставяцца знакі прыпынку, якія патрабуюцца зместам і інтанацыяй гэтых сказаў: *Так! Сад у нас сапраўды цудоўны* (У. Краўчанка); *Не... Загінуць яму зусім не хацелася* (І. Шамякін).

**Заўвага.** Калі словы-сказы знаходзяцца ў канцы сказа, то перад імі ставіцца коска, а пасля іх – той знак прыпынку, які патрабуецца зместам і інтанацыяй усяго сказа: *Я цяжкасцей не баюся, не!* (І. Грамовіч); *Давайце лепш дружыць будзем, га?* (Я. Брыль).

## Практыкаванні

**31.** Прачытайце тэкст. Назавіце словы-сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.

Вы ідзяце з бібліятэкі?
Так. Мы там рыхтавалі даклады па гісторыі.
Лена была з вамі?
Не, яе затрымала настаўніца. А вунь яна ідзе.
Добры дзень, Лена. Ну вось, мы і сустрэліся.

**32.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце словы-сказы.

Ах якое раздол..е ў з..лёным б..ры летам! Колькі простор.. тут для забавы колькі дзіваў усякіх пабачыш!

Вунь па высокіх кучаравых хвоях і елках смела разгул..ваюць шустрыя жартаўлівыя вавёрачкі. Яны спрытна ..рываюць сухія шышкі ды сп..шаючыся н..суць у свае гнёзды. Так працавітыя руплівыя зв..ркі гэтыя мален..кія рыжыя вавёрачкі з доўгімі пушыстымі хвосцікамі. Праз усё лета заняты яны работай. Што ж голад не цётка ды і малых гадаваць трэба. Таксама і зіма не за гарамі пра запасы думаць варта (*Паводле А. Якімовіча*).

**33.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Так жыццё кіруецца толькі да лепшага ва ўсім сваім глыбокім і шырокім змесце (*П. Кавалёў*). 2. Як Лявонка яшчэ не вярнуўся да-

дому? (*З. Бядуля*). 3. Не не знайсці святцей святога чым ты бацькоўская зямля (*М. Калачынскі*). 4. О так жыць трэба з розумам (*В. Каваль*). 5. Не-не ваўкоў баяцца ў лес не хадзіць (*М. Лынькоў*). 6. Кнігу я ўжо прачытаў як жа... (*У. Краўчанка*). 7. Дык вось што заўтра пачынаецца ўборка збожжа (*І. Шамякін*). 8. Як жа У маёй хаце нешта робіцца, а я нічога не ведаю! (*К. Чорны*). 9. Напорысты народ у нас а? (*І. Мележ*). 10. Што ж Да лесу рукой падаць (*М. Лынькоў*).

### Кантрольныя пытанні і заданне

1. Якія знакі прыпынку ставяцца пры словах-сказах у залежнасці ад іх месца ў сказе і інтанацыі, з якой яны вымаўляюцца?

2. Якія словы могуць ужывацца ў якасці слоў-сказаў? Прывядзіце прыклады.

**34.** Выпішыце сказы са словамі-сказамі, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Так і не паспелі дзяўчаты схадзіць у кіно. 2. Так хутка мы едзем адпачываць. 3. Дзякуй Света! 4. Дзякуем вам за дапамогу. 5. Відаць з узгорка прыгожы пасёлак. 6. «Вы сёння паедзеце ў горад?» — «Відаць».

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ АДАСОБЛЕНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА

## Адасобленыя азначэнні

На пісьме заўсёды выдзяляюцца коскамі:

1) азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі або прыметнікавымі зваротамі, і аднародныя азначэнні, калі яны стаяць непасрэдна пасля азначаемага слова, выражанага назоўнікам: *Праз расчыненыя вокны ў хату залятаў свежы вецер, насычаны мядовым пахам расцвіўшага бэзу* (Т. Хадкевіч); *Стаяла лета, блізкае да восені* (В. Адамчык); *У гэтай самай вёсцы, вялікай і шумнай, было якраз вяселле* (П. Пестрак);

2) дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні, якія адносяцца да азначаемага слова, выражанага асабовым займеннікам: *Вясёлыя і бадзёрыя, мы вяртаемся дамоў* (Я. Колас); *Мы, узбуджаныя ад хвалявання, не маглі спакойна гаварыць* (Я. Брыль);

3) азначэнні, якія стаяць перад азначаемым словам, што выражана назоўнікам, і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне прычыны ці ўступкі: *Пакрытыя тоўстым пластом снегу, галіны дрэў гнуліся да самай зямлі* (Я. Колас); *Звычайна маўклівы, Васіль гаварыў амаль бесперапынна* (І. Шамякін);

4) дапасаванае азначэнне, калі паміж ім і словам, якое яно азначае, размешчаны іншыя словы: *Жывой паэзіі крыніца напоіць смагу маладых і будзе, светлая, бруіцца праз незлічоныя гады* (П. Глебка); *Над горадам, прыбраная ў зоры, апускаецца ноч* (Э. Самуйлёнак).

## Практыкаванні

**34.** Прачытайце сказы. Пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых азначэннях.

1. Пад роўнымі ўзмахамі рук з шумам клалася ў пракосы канюшына, яшчэ сыраватая з-пад нізу (*І. Мележ*). 2. Галіны, засохлыя і пачарнелыя, скрыпелі ад ветру (*З. Бядуля*). 3. Лес, стромкі, густы, застылай грамадою кучаравіцца на краі неба (*З. Бядуля*). 4. Шчаслівы, у акно роднай хаты стукае рыбак пасля багатага ўлову (*М. Лупсякоў*). 5. Змрок, густы, халодны, непрывычны, нерухома аблягаў зямлю (*Я. Колас*). 6. З неразлучнай люлькай у зубах, дзядзька Тамаш сядзіць каля вогнішча і нешта майструе (*З. Бядуля*). 7. Мы ехалі сенажацямі, усыпанымі кветкамі (*Я. Скрыган*). 8. Стомленыя пасля пераходу, байцы раскінулі лагер у гушчы лесу (*І. Новікаў*). 9. Светлага воласу, з абветраным тварам і з рэдкімі вяснушкамі на пераноссі, ён здаваўся ціхманым і не вельмі рухавым (*К. Чорны*).

**35.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні.

1. Акаймаваны вясёлкавым кругам з-за высокіх кудзелістых хмурынак паглядаў месяц (*У. Карпаў*). 2. Ахутаныя полагам туману навакольныя прадметы здаюцца незнаёмымі няпэўнымі хісткімі (*І. Навуменка*). 3. Засеяныя шчырай рукою палі вакол вёскі роўна зелянелі маладымі ўсходамі (*К. Чорны*). 4. Малады пасаджаны яшчэ да вайны сасоннік рос дружна і ўзгоднена (*М. Паслядовіч*). 5. Занятыя на рабоце яны мала куды хадзілі (*У. Краўчанка*). 6. Адзінае акно ў шэсць шыбінак глядзела на вуліцу (*П. Пестрак*). 7. Дома малады музыка звычайна іграў на сваім старым з заклеенымі мяхамі і са-

маробнымі радамі гармоніку (*І. Шамякін*). 8. Моладзь і завадская і вясковая праяўляла да нас павышаную ўвагу, асабліва дзяўчаты (*І. Шамякін*). 9. У той памятны першамай мы вырашылі свой лёс на ўсе пяцьдзясят сем гадоў жыцця трывожнага шчаслівага трагічнага... (*І. Шамякін*).

**36.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні. Адзначце азначаемыя словы, да якіх гэтыя азначэнні адносяцца.

Язэп Драздовіч постаць (не) звычайная ў гісторыі беларускага маста..тва беларускай духоўнай культуры ўвогуле постаць магутная выс..кародная прывабная. Творчыя людзі такой свядомас(?)ці і характ..ру звычайна (не) абм..жоўваюцца нейкім адн..м родам занятку. Іх хапае на большае іх грама..ка(?)палітычная чыннасць шмат(?)гранная шырокая. Драздовіч быў (не) толькі выдатным жывапісцам але і тал..навітым графікам самабытным скульптарам. А яшчэ ён збіраў народныя песні запіс(?)ваў словы для слоўніка беларускай мовы.

...Бі..графы мастака сцв..рджаюць што і сэр(?)ца яго перастала біцца ў час вандроўкі па роднай з..млі ў дарозе. Ён вельмі любіў хадзіць па Беларусі асабліва па роднай яму паўночна(?)заходняй (В/в)іцебшчыне... Сёння такіх вандроўнікаў сустрэн..ш не часта вандроўнікаў бя..конца ўлюбёных у вобразы роднай прыроды ў яе в..чыстыя б..ры і пушчы ў сонечныя пагоркі ў з..лёныя палеткі ў чароўны блакіт азёр у звілістую каёмку кустоў і кусцікаў у шырокай ла..чыне пад якімі напэўна ж бруіцца р..чулка яшчэ (н..) выпрамленая яшчэ жывая. Ён любіў усё гэта так што (н..) мог без гэтага (*Паводле Н. Гілевіча*).

**37.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні. Пісьмова растлумачце ўмовы іх адасаблення.

У поўдзень мы стомленыя ад частых крутых паваротаў пад'ехалі нарэшце да пачарнелых ад часу муроў Рыльскага манастыра. Навокал бязладна ціснуліся падымаліся адна над адной горы парослыя на схілах кустамі соснамі елкамі а на вяршынях заснежаныя белай аздобай зімы. Там высока ў гарах лютавала завея. А тут у лагчыне дзе раскінуўся чырванеў чарапічнымі дахамі сценамі розных збудаванняў манастыр было зусім ціха цёпла і на дзіва сонечна празрыста. Ёрдан спыніў

«Волгу» мы вылезлі з машыны выпрасталі здранцвелыя за дарогу ногі і зачараваныя прыгажосцю залюбаваліся і манастыром і гарамі.

Любавацца было чым. Акружаны з усіх бакоў гарамі манастыр падымаўся сваімі чарапічнымі дахамі з лагчыны і быў да самай нязначнай пабудовы як на далоні. Заснаваны ў сівую мінуўшчыну манастыр быў як вядома адным з цэнтраў асветы і нацыянальнай культуры ён нават у змрочныя жудасныя гады турэцкай няволі карыстаўся некаторымі прывілеямі (*Паводле Б. Сачанкі*).

## Кантрольныя пытанні

1. Пры якіх умовах адасабляюцца азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі і прыметнікавымі зваротамі?

2. Калі адасабляюцца аднародныя азначэнні?

3. Пры якіх умовах адасабляюцца азначэнні, якія стаяць перад азначаемым словам, што выражана назоўнікам?

4. Ці ўплывае месца дапасаванага азначэння ў сказе на яго адасабленне?

## Тэст

### *I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні неабходна адасобіць.

1. Акропленая расой трава іскрылася на сонцы.
2. У кусціку расой абмытым спявае песню салавей.
3. Ахоплены радасцю ён весела смяецца.
4. За расстаўленымі ў тры рады партамі сядзелі хлопчыкі і дзяўчынкі.

**II.** Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні не адасабляюцца.

1. Ляжыць перад намі ўмыты агнямі чароўны прастор.
2. Засеяныя дбалымі рукамі палі дружна зелянелі маладымі ўсходамі.
3. Цёмная, грозная хмара паволі ўставала на гарызонце.
4. Чаромха цвіла і ўкрытая белай квеценню быццам мігцела.

### *II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні неабходна адасобіць.

1. Працяты марозам снег скрыпеў пад нагамі.
2. Ашаломлены пачутымі словамі я доўга стаяў у сенцах.

3. Над зялёным лугам усыпаным featureрознымі кветкамі гулі пчолы.

4. У любой кнізе заўсёды знойдзеш што-небудзь новае для сябе.

**II.** Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні не адасабляюцца.

1. Нагрэтая сонцам зямля злёгку дымілася параю.

2. Заліты святлом горад шумеў, гаманіў па-святочнаму.

3. Ахінутыя інеем прыгіналіся да самай зямлі кусты малінніку і парэчак.

4. Дарога паступова перайшла ў абсаджаную высокімі ліпамі алею.

## Адасобленыя прыдаткі

Заўсёды адасабляюцца:

1) незалежна ад месца ў сказе развітыя і адзіночныя прыдаткі, якія адносяцца да азначаемага слова, выражанага асабовым займеннікам: *У нас, у салдат, шынялі ледзь-ледзь ад дажджу пасівелі* (А. Астрэйка); *Старому ветэрану, яму быў зразумелы боль сыноў* (Б. Мікуліч);

2) развіты прыдатак, калі ён адносіцца да азначаемага слова, выражанага агульным назоўнікам, і стаіць пасля яго: *Салавей, пясняр крылаты, прыляцеў вясной дахаты* (Я. Пушча);

3) развітыя і адзіночныя прыдаткі, якія адносяцца да азначаемага слова, выражанага ўласным назоўнікам, і стаяць пасля яго: *Скарына — доктар лекарскіх навук — у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры* (М. Багдановіч).

**Заўвагі:**

1. Перад азначаемым словам, выражаным уласным імем або агульным назоўнікам, прыдатак адасабляецца, калі ён мае акалічнаснае значэнне ўступкі або прычыны: *Сын батрака, Кузьма Чорны з малых год наглядаў гаротнае жыццё вясковай беднаты і сам зазнаў усе нягоды гэтага жабрацкага жыцця* (К. Крапіва); *Бывалы паляўнічы, наш дзед ведаў шмат розных гісторый* (З. Бядуля).

2. Прыдатак адасабляецца, калі ён звязваецца з азначаемым словам, выражаным назоўнікам, з дапамогай слоў *па прозвішчы*, *па мянушцы*, *па клічцы* і інш.: *Баец быў немалады ўжо чалавек, па імені Іван Корзун* (У. Краўчанка).

3. Адасабляюцца прыдаткі са злучнікамі *ці*, *або*, калі яны маюць удакладняльнае значэнне: *У беларускіх лясах гнездзіцца жаўна, або чорны дзяцел* (В. Вольскі).

На пісьме адасобленыя прыдаткі могуць выдзяляцца працяжнікамі, калі ім надаецца асаблівае значэнне і пры вымаўленні яны аддзяляюцца ад азначаемага слова больш доўгай паўзай. Гэта, як правіла, бывае ў наступных выпадках:

1) калі развіты прыдатак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа пасля азначаемага слова: *З даліны вечар — хмуры дзед — нясе бярэма дробных хатак* (У. Хадыка);

2) калі неразвіты або развіты прыдатак знаходзіцца ў канцы сказа пасля азначаемага слова: *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці — шпакі* (М. Хведаровіч); *Белай пенай-хвалямі ўзнялася Бяроза — магутная рака* (Т. Хадкевіч).

## Практыкаванні

**38.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце прыдаткі хвалістай лініяй. Абазначце азначаемыя словы.

1. У прыёмнай нас чакаў Станіслаў Стасевіч малады хлопец трохі старэйшы за мяне (*І. Шамякін*). 2. Мы пасябравалі са Сняжко Віктарам хлопцам задзірыстым (*І. Шамякін*). 3. Нас будучых інж..нераў паслалі на практыку ў м..стэчка Рось (*І. Шамякін*). 4. Ліецца хваляй песня ціхі ясны гімн в..сне (*М. Багдановіч*). 5. Мужчыну фурмана запрасілі ў хату пагрэцца (*П. Галавач*). 6. Не хацеў алень палону вольнай тундры выхаванец (*А. Звонак*). 7. Н..падалёку ад л..сных рэчак выводзіць свае чароўныя трэлі сціплы н..чны сп..вак салавей (*В. Вольскі*). 8. Беларускі м..вазнавец доктар філалагічных навук прафесар Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі даследуе гісторыю беларускай мовы (*ЭЛіМБел*). 9. Заслаўскі замак помнік абарончай архіт..ктуры канца XVI–XVII ст. пабудаваны ў пойме р..кі Свіслач разам са Спаса-Праабражэнскай царквой (*ЭЛіМБел*).

**39.** Складзіце і запішыце сказы з адасобленымі прыдаткамі, выкарыстоўваючы звесткі з «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі».

1. Дзежыц Валянцін Канстанцінавіч, беларускі жывапісец і педагог. Выкладаў у Віцебску ў мастацкім вучылішчы. Удзельнічаў у мастацкіх

выстаўках. Яго творы вылучаюцца лірычнасцю, выразнасцю колеру. 2. Дзенісюк Іван Аўксенцьевіч, украінскі літаратуразнавец, крытык. Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, М. Багдановіча. Пераклаў на ўкраінскую мову кнігу А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...». 3. Жыровіцкі Успенскі сабор, помнік архітэктуры XVII — першай паловы XIX ст. Пабудаваны ў 1950 г. у стылі барока.

**40.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Пераклад запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя прыдаткі.

Постепенно в различных областях Греции сложились целые циклы сказаний о том или ином боге или герое. На острове Крите рассказывали о Зевсе могучем боге похитившем превратившись в быка финикийскую царевну Европу. В Аргомиде рассказывали о Персе сыне Зевса. Здесь же возникли сказания об Атрее правителе города Микен. В Беотии сложился цикл легенд о Кадме основателе города Фивы. В Аттике были распространены сказания о царе Тесее которого считали сыном морского бога Посейдона. Наконец с Севера из Эпира повсеместно распространились легенды о Геракле могучем сыне Зевса о его подвигах и трагической судьбе (*По Н. Куну*).

## Кантрольныя пытанні

1. Калі адасабляюцца прыдаткі, якія ўводзяцца ў сказ бяззлучнікавым спосабам і размешчаны пасля азначаемага слова?

2. Пры якой умове адасабляюцца прыдаткі, якія ўводзяцца ў сказ бяззлучнікавым спосабам і размешчаны перад азначаемым словам?

3. Пры якой умове адасабляюцца прыдаткі, якія ўводзяцца ў сказ пры дапамозе злучнікаў *ці*, *або*?

4. Калі адасобленыя прыдаткі выдзяляюцца працяжнікамі на пісьме?

## Тэст

*І варыянт*

**І.** Адзначце сказы, у якіх трэба адасобіць прыдаткі.

1. Вясковы каваль Даніла з самага ранку стукае ў кузні.
2. Каля воза стаяў Раман Чачотка па мянушцы Свісток.
3. Вядомы паляўнічы дзядзька Тамаш сядзеў у цяньку старога дуба.
4. Ён надыходзіць светлы час агорнуты красой чароўнай.

**II.** Адзначце сказы, у якіх прыдатак адасабляецца з дапамогай працяжніка.

1. Сам шавец па прафесіі Арон любіў дасканалую і сумленную работу.
2. Мінула лета гарачая пара работ.
3. Хлопцы пастухі расклалі вогнішча і пякуць бульбу.
4. Краса тайгі шыпшыннік дзікі пялёсткамі ўсцілае шлях.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх трэба адасобіць прыдаткі.

1. Яна́ гэтая дарослая дзяўчына агледзела Андрэя калючым позіркам.
2. Грыб каштанавік або дубовік у Беларусі расце пераважна ў лісцевых лясах на пясчанай глебе.
3. Пісьменніка і публіцыста Кузьму Чорнага добра ведаюць не толькі ў нашай рэспубліцы але і далёка за яе межамі.
4. Бывалы паляўнічы наш дзед ведаў шмат розных гісторый.

**II.** Адзначце сказы, у якіх прыдатак адасабляецца з дапамогай працяжніка.

1. Настаўніца і маці Галіна Пятроўна добра ведала сваіх выхаванцаў.
2. Салдат пяра ён быў напагатове са словам як з адвостраным штыком.
3. Пеніцца Нарач рыбацкае мора.
4. Хмара думка ветрака на крылле галаву схіліла.

## Адасобленыя дапаўненні

Дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *акрамя*, *апрача*, *замест*, *за выключэннем*, маюць удакладняльнае значэнне і заўсёды адасабляюцца пры дапамозе коскі: *Акрамя кучаравых бярозак, на ўзгорку расла высокая сухаверхая хвоя* (З. Бядуля); *Апрача аднастайнага шуму сосен, у лесе нічога не чуваць* (Я. Маўр); *На зямлі, замест карычневай, сухой і слізкай іглíцы, слаліся дываны з сухіх імхоў* (І. Гурскі); *Усе, за выключэннем Кавалевіча, выйшлі з пакоя* (І. Мележ).

**<u>Заўвагі</u>:**

1. Дапаўненне з прыназоўнікам *замест* не адасабляецца, калі прыназоўнік мае значэнне ‘за’: *Алена замест маці навяла парадак у хаце*.

2. Калі перад дапаўненнямі, выражанымі назоўнікамі з прыназоўнікамі *акрамя*, *апрача*, *замест*, *за выключэннем*, знаходзіцца ўзмацняльная часціца *і*, то такія дапаўненні не адасабляюцца і коскамі не выдзяляюцца: *Нешта было ў вачах дзяўчыны і акрамя прыгажосці* (А. Чарнышэвіч).

## Практыкаванні

**41.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя дапаўненні.

1. У лесе акрамя хвой (з) рэдку сустракаліся б..розы і асіны (*Я. Васілёнак*). 2. Каля калодзежа апрача в..сковых жанчын стаялі дз(?)ве дз..ўчыны апранутыя па(?)гара..кому (*Я. Васілёнак*). 3. У пакоі хлопец (н..) кога (н..) убачыў акрамя с..стры (*Б. Мікуліч*). 4. Замест радас(?)ці ў вачах чалавека з..явілася (н..) задавальненне (*К. Чорны*). 5. Усе дрэвы за выключэннем старой ліпы (у) пачатку мая выпусцілі першыя лісточкі (*Т. Хадкевіч*). 6. Дабротны дом замест з..млянкі ўзвышаўся на ўзгорку (*У. Краўчанка*).

**42.** Складзіце і запішыце невялікае паведамленне на тэму «Мой любімы горад (вёска)», выкарыстоўваючы сказы з адасобленымі дапаўненнямі.

## Кантрольныя пытанні

1. Пры якіх умовах адасабляюцца дапаўненні?
2. Калі адасабляюцца дапаўненні з прыназоўнікам *замест*?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх дапаўненні адасабляюцца.

1. Усе дзеці за выключэннем Міхася пабеглі да рэчкі.
2. Хтосьці выканае гэта заданне і акрамя вас.
3. На голых дрэвах замест лісця паклалі шэрань маразы.
4. У пакоі замест стала паставілі шафу.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх дапаўненні адасабляюцца.

1. Замест сонца і гарачыні ўвесь май ідуць дажджы.
2. Увесь дзень за выключэннем перапынку на снеданне і абед быў прызначаны агляду гаспадаркі.
3. У маці хапае клопату і акрамя гаспадаркі.
4. Бабуля замест маці забірала дачку з дзіцячага сада.

## Адасобленыя акалічнасці

Акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, а таксама дзеепрыслоўнымі зваротамі, адасабляюцца і на пісьме аддзяляюцца ці выдзяляюцца коскамі: *На маўклівыя нізіны бяжыць, шалеючы, вада* (П. Глебка); *Добра ў садзе хадзіць, сустракаючы сонечны ранак* (П. Панчанка).

Заўсёды адасабляецца акалічнасць са значэннем уступкі, калі яна выражана назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на*: *Нягледзячы на позні час, ніхто з пасажыраў не спаў* (І. Шамякін).

Не адасабляюцца:

1) акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, якія сваім значэннем набліжаюцца да прыслоўяў спосабу дзеяння і размешчаны ў канцы сказа: *Песні салаўіныя льюцца не сціхаючы* (П. Глебка);

2) акалічнасці, выражаныя фразеалагізмамі, у складзе якіх ёсць дзеепрыслоўі: *Маці працуе не разгінаючы спіны* (К. Чорны).

**<u>Заўвагі</u>**:

1. Калі акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным зваротам, адносіцца да аднаго з аднародных выказнікаў, звязаных адзіночнымі злучнікамі *і*, *ды* (у значэнні *і*), *ці*, *або*, то коска перад гэтымі злучнікамі не ставіцца: *Конь не крануўся з месца і, перабіраючы пярэднімі нагамі, намагаўся звярнуць убок* (М. Лынькоў).

2. Перад злучнікам *і*, які звязвае дзве акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі ці адзіночнымі дзеепрыслоўямі, коска не ставіцца: *Хлопцы маўчалі, седзячы на беразе рэчкі і думаючы аб сваіх планах* (М. Лынькоў); *Дзеці, смеючыся і штурхаючыся, выбеглі на стадыён*.

3. Калі паміж выказнікам і акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, ёсць часціцы *і*, *толькі*, *нават*, то такія акалічнасці не адасабляюцца: *Яны перабраліся цераз раку і не ўмеючы*

*плаваць* (С. Баранавых); *Маўчаць звычайна толькі сплючы* (Х. Шынклер); *Ён кудысьці знік нават не развітаўшыся з сябрамі* (Я. Маўр).

## Практыкаванні

**43.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Раскажыце пра ўмовы, пры якіх акалічнасці ў сказах адасабляюцца або не адасабляюцца.

1. Не сціхаючы, усю ноч шумеў вецер (*З. Бядуля*). 2. Смеючыся і жартуючы, дзеці ішлі да рэчкі (*Я. Колас*). 3. Лена бегла не азіраючыся (*М. Лынькоў*). 4. Навалу цяжкіх хмар стрымалі, выгнуўшыся, хвоі (*М. Танк*). 5. Пчолы, упіўшыся ў зрэнкі кветак, адчулі вясны цяпло (*А. Вялюгін*). 6. Ганна тупала каля печы не спускаючы з вока квактуху з куранятамі (*З. Бядуля*). 7. У небе цёмным, рассыпаўшы вясёлкі, зорка згасла (*М. Машара*). 8. Стары пайшоў нават не адпачыўшы як след (*К. Чорны*). 9. Штосьці трэба рабіць і не атрымаўшы звестак (*А. Кулакоўскі*).

**44.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

1. Развітаўшыся з Панасам дзед Талаш павольна ішоў балотамі прыслухоўваючыся да шолаху і галасоў палескай ночы (*Я. Колас*). 2. Самалёт даляцеўшы да лесу павярнуў назад і зніжаючыся пачаў набліжацца да возера (*М. Гамолка*). 3. Пішучы пад дыктоўку я на ляту адшліфоўваў чужыя фразы надаючы ім бляск красамоўства (*З. Бядуля*). 4. З асаблівай заўзятасцю насядае вецер на двор і сядзібу Пракопа Дубягі наносячы туды цэлыя гурбы снегу пранятага марозам (*Я. Колас*). 5. З-за небасхілу выйшла шырока займаючы неба цёмная хмара (*П. Галавач*). 6. Яны не змаўляючыся пабеглі на голас (*І. Мележ*). 7. Разгрузіўшы воз і паставіўшы каня чалавек увайшоў у хату (*К. Чорны*). 8. Антон умее гаварыць і не падумаўшы як след (*П. Галавач*). 9. Дрэмле прынікшы да шыбаў ноч (*В. Таўлай*).

**45.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

Званы Сафіі... Калі абуджаўся в..лікі звон і густы чысты гул яго падымаўся над саборам і (у) след за ім на адно імгненне ап..рэджва-

ючы наступную магутную хвалю працяглага тр..вожна(?)урачыстага гуку праз спалоханы пошум крылаў узл..талі ў паветра б..зважкія чаро(д/т)кі галубоў усё (н..) рухомела і ў Полацку і ў яго ..аколіцах. І вось ужо а(д/т)гукаліся іншыя мен(?)шыя званы а(д/т)гукаліся здавалася б..зладна таропка быццам даганяючы гук і вось ужо іх п..вучае бомканне злівалася ў (н..) стрымнае (н..) абдымнае гучанне прасторы. І ў кожнай жывой душы страпянуўшыся білі крыламі тр..вога і радасць (*Паводле Т. Бондар*).

**46.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

Ёсць такая задума напісаць гісторыю маёй дружбы з кнігай. Не напісаўшы цяжка пераканаць каго-небудзь што гэта будзе цікава. Хачу пісаць пра Чэхава пра пачатак нашай дружбы пра маю сардэчную любоў. З радасным пачуццём давялося нядаўна спыніўшыся перад адным з кніжных магазінаў Рыма распазнаць на стэндзе сярод залітых сонцам каляровых вокладак «Вайну і мір» і зборнік чэхаўскіх навел. Зрэшты і не бачачы на ўласныя вочы не так ужо цяжка ўявіць шматтысячную а то і шматмільённую армію жыхароў Зямлі ўлюбёных у творчасць Чэхава (*Паводле Я. Брыля*).

## Кантрольныя пытанні

1. Якія акалічнасці заўсёды адасабляюцца?
2. Пры якой умове не адасабляюцца акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі?
3. Якія знакі прыпынку ставяцца ў сказе, дзе злучнікам *і* аб'яднаны дзве адасобленыя аднародныя акалічнасці?
4. Якія знакі прыпынку ставяцца ў сказе з двума аднароднымі выказнікамі, аб'яднанымі адзіночным злучальным злучнікам, калі да аднаго з гэтых выказнікаў адносіцца адасобленая акалічнасць?

## Тэст

*І варыянт*

**І.** Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі.

1. Па вуліцы рыпаючы палазамі паўзлі вазы з рознай паклажай (*І. Грамовіч*).
2. Не век жа сядзець злажыўшы рукі (*Я. Колас*).

3. У турысцкі паход мы адправіліся толькі добра вывучыўшы яго маршрут.

4. Вячэраючы Ганна спасцярожліва паглядала на мачыху (*І. Мележ*).

**ІІ.** Адзначце сказы, у якіх коска перад злучнікам ***і*** не ставіцца.

1. Чалавек падышоў і ўсміхаючыся прывітаўся з жанчынамі.

2. Хлопцы спыніліся ўзняўшыся на невялікі ўзгорак і ўбачылі перад сабой вёску.

3. Нерухома стаяў густы лес шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін і пераплёўшы галіны.

4. Машына пранеслася па вуліцы падняўшы слуп пылу і спынілася на краі сяла.

*ІІ варыянт*

**І.** Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі.

1. Ішла доўгая восеньская ноч шырока займаючы мясцовасць (*К. Чорны*).

2. Пайшоў Амелька нос павесіўшы (*М. Лынькоў*).

3. Спаць можна лажыцца і не вячэраўшы.

4. Прыгнуўшыся ідуць пад небасхілы асеннія маўклівыя дажджы (*А. Пысін*).

**ІІ.** Адзначце сказы, у якіх коска перад злучнікам ***і*** не ставіцца.

1. Пятро ўздрыгануўся пачуўшы добра знаёмы голас і не азіраючыся рынуўся наўцёкі.

2. Тузаючы лейцы і круцячы пугай Іван доўга гнаў каня берагам.

3. Паміж лясамі ўзбягаючы на ўзгоркі і знікаючы ў нізінах ляжалі нівы.

4. Валя выйшла з хаты пагутарыўшы з сяброўкай і заспяшалася ў школу.

## Адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці

У якасці такіх членаў сказа часцей за ўсё ўжываюцца адзіночныя акалічнасці месца, часу, радзей — спосабу дзеяння, якія выражаны прыслоўямі або назоўнікамі ўскосных склонаў і размешчаны пасля другіх акалічнасцей у сказе. Пры інтанацыйным і сэнсавым выдзялен-

ні яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе коскі: *Васіль пайшоў назад, дадому* (І. Мележ); *Адтуль, недзе з-за ўзгорка, даносіліся невыразныя гукі* (К. Крапіва).

Калі такія акалічнасці інтанацыйна і па сэнсе не выдзяляюцца ў сказе, то яны не адасабляюцца і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Высока за хмарамі гудзеў самалёт* (М. Лынькоў); *Учора вечарам я вярнуўся ў роднае сяло* (Б. Мікуліч).

Найбольш часта не адасабляюцца і не аддзяляюцца знакамі прыпынку акалічнасці, выражаныя тымі ж часцінамі мовы, што і акалічнасці, якія яны ўдакладняюць: *Сёння раніцай прайшоў добры дождж* (В. Каваль); *Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка* (Я. Колас).

Калі ўдакладняльнымі з’яўляюцца дзве і больш акалічнасцей, размешчаных адна за другой у сказе, то яны звычайна адасабляюцца і выдзяляюцца коскамі: *Тут, на палянцы, сярод цёмнага лесу, панавала незвычайная цішыня* (З. Бядуля); *Там, далёка, за дамамі, разляглося поле* (Я. Колас).

Але ў залежнасці ад сэнсу апошняя з такіх акалічнасцей можа не адасабляцца, калі цесна звязана з выказнікам асноўнай часткі сказа: *Далей, за берагам, на ўзвышшы хваіны лапамі калышуць* (А. Астрэйка).

## Практыкаванні

**47.** Выпішыце з тэкстаў сказы з адасобленымі ўдакладняльнымі акалічнасцямі. Падкрэсліце іх. Растлумачце ўмовы іх адасаблення.

Хораша летам у лесе! Стаіць млосная, з густым пахам соснаў і ягад цішыня. Недалёка ад дарогі, пасярод лесу, на невялікай палянцы, — чырвоныя россыпы суніц. Буйныя, як клубнічныя, галоўкі суніц усцілаюць яркім агнём зямлю. Аня збірае ягаду за ягадай у вязаны лазовы кораб, час ад часу кладзе сунічку ў рот. Аня любіць і ведае лес. Ёй тут, у гэтым вялізным лесе, бадай, знаёмая кожная паляначка, кожная сцяжыначка (*Паводле І. Мележа*).

Перад тым як засяваць гароды, у нашай вёсцы заўсёды паляць трэскі, шумавінне. Выграбаюць з дрывотняў, падворкаў, паветак — адусюль, куды толькі ні пазакідае іх гнілая восень і лютая зіма. Выграбаюць доўга, з прадвесня. І неяк раптоўна, надвячоркам, абавязкова ў суботу, калі навокал ціха-ціха, не дзьме ніадкуль вецер, па ўсёй вёсцы ўспыхваюць агні (*Паводле Б. Сачанкі*).

**48.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ўдакладняльныя акалічнасці. Вусна растлумачце ўмовы іх адасаблення.

1. На другім краі поля за рэчкай ледзьве-ледзьве вызначалася купка дрэў (*Р. Няхай*). 2. Там на ўзлессі на высокім дубе з разгалістай вершалінай было гняздо чорных буслоў (*Т. Хадкевіч*). 3. У вышыні блакітнай далі гучна жаўранкі спявалі (*З. Бядуля*). 4. На ўзгорку непадалёк ад асфальтаванай дарогі выраслі карпусы новага завода (*І. Гурскі*). 5. Дзесьці там далёка ў правым канцы гасцінца чуліся спевы жней (*Ц. Гартны*). 6. Мы спалі мала ўсяго дзве гадзіны (*М. Зарэцкі*). 7. На загуменні вёскі на сухенькім пяску крокаў са тры ад возера каля альховага куста варушыцца патрэсквае невялікае вогнішча (*Я. Брыль*).

**49.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ўдакладняльныя акалічнасці. Укажыце іх значэнне (часу, месца, спосабу дзеяння).

Зіма так і (не) заладзілася. Пратрымаўся гл..бокі і ран..і снег (н..) доўга толькі да (Н/н)овага года потым задажджыла быццам на поўдні. І так дзень за днём з туманам з пахмурным ні..кім небам (не) упрыкмет без в..лікай вады і сонечных дзён пры..шла в..сна. Добра(?)такі па(?)в..сноваму змеркла пац..гнула хала..ком моцным нейкім спрадвечным які прыходзіць (у) восень (у) зазімкі і доўга трымаецца ў старым мокрым лесе. Адразу за вёскай узбоч дарогі пачаліся ні..кія маладыя з сухімі паламанымі ніжнімі галінамі вербы. Яны былі ў пра..чуванні радасці дружна наважыліся выкінуць да сонца м..дова(?)залацістыя «коцікі» і здавалася толькі і чакалі таго аднаго апошняга самага патрэбнага цёплага сонечнага дня (*Паводле А. Жука*).

## Кантрольныя пытанні і заданне

1. Якімі часцінамі мовы выражаюцца адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці?
2. Пры якіх умовах адасабляюцца ўдакладняльныя акалічнасці?
3. Калі не адасабляюцца ўдакладняльныя акалічнасці?
4. Пастаўце знакі прыпынку ў сказах. Растлумачце ўмовы адасаблення ўдакладняльных акалічнасцей.

1. Кожнае лета Колас выязджаў у якую-небудзь вёску звычайна ў Пухавіцкі раён бліжэй да лесу да Свіслачы (*М. Лынькоў*). 2. Кіламет-

раў за трыццаць пяць на поўдзень ад Мазыра на правым беразе Прыпяці раскінулася па-над ракой невялікае мястэчка Нароўля (*У. Краўчанка*).

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ ПАРАЎНАЛЬНЫХ ЗВАРОТАХ

Параўнальныя звароты ў вуснай мове выдзяляюцца інтанацыйна, а на пісьме — коскамі: *Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за лесу* (К. Чорны); *Пырскі крохкія, як шкло, узлятаюць над вяслом* (Я. Колас).

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальных слоў, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Такіх, як ён, у вёсцы было многа* (К. Чорны); *Вецер свішча так, як звер* (Я. Колас).

Коска ставіцца перад словам *як* у выразах *не хто іншы, як* і *не што іншае, як*: *На гарызонце віднеецца не што іншае, як горы* (Т. Хадкевіч); *У хату ўвайшоў не хто іншы, як цётка Аўдоля* (А. Чарнышэвіч).

Заўсёды ставіцца коска, калі для прымацавання параўнальных зваротаў ужываецца злучнік *як* у спалучэнні з узмацняльнай часціцай *і*: *Ластаўка, як і ўсе птушкі, радуецца цёпламу дню* (Я. Колас).

Коска і іншыя знакі прыпынку не ставяцца:

1) калі параўнальныя звароты з'яўляюцца ўстойлівымі або непадзельнымі па сэнсе выразамі: *Усё відаць як на далоні* (М. Лынькоў); *Дождж паліўся як з вядра* (Я. Колас);

2) калі перад параўнальным зваротам стаяць часціцы *не*, *амаль* і прыслоўе *зусім*: *Міхась трымаўся не як сталы чалавек* (Я. Колас); *Сонца прыгравала зусім як летам* (М. Паслядовіч);

3) калі параўнальны зварот мае значэнне 'ў якасці': *Чмаруцьку ўсе ведалі як чалавека з фантазіяй* (М. Лынькоў); *Лапко прыглядаўся да работы як гаспадар* (Я. Колас);

4) калі параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ спалучэннямі *больш як* (*не больш як*), *больш чым* (*не больш чым*), *менш як* (*не менш як*), *менш чым* (*не менш чым*), *не бліжэй як*, *не далей як*, *усё роўна як*: *Менш чым праз хвіліну Несцяровіч вярнуўся ў хату* (К. Чорны); *Размова не спыніцца раней чым праз паўгадзіны* (М. Лынькоў).

**Заўвага**. Коска ставіцца тады, калі параўнанне суправаджаецца супастаўляльным адценнем: *Людзей у лесе было больш, як грыбоў* (Я. Колас); *Яна была занята сабой больш, чым усім іншым* (К. Чорны).

Не лічацца параўнальнымі зваротамі і не выдзяляюцца знакамі прыпынку словаформы і словазлучэнні, якія маюць пры сабе параўнальныя злучнікі (або часціцы) і ўваходзяць у склад выказніка або займаюць пазіцыю дапаўнення ці акалічнасці (спосабу дзеяння і месца): *Хата была як цацка* (А. Чарнышэвіч); *Паветра нібы расплавілася ад гарачыні* (І. Навуменка); *Чалавек як чалавек*; *Гукі даносіліся да нас як бы здалёк* (І. Шамякін); *Хлапчук як бы нехаця падняўся з лаўкі* (К. Чорны).

**Заўвага.** Перад параўнальнымі часціцамі *як*, *нібы*, *быццам* і іншымі коска не ставіцца: *Між дзяцей дачку са школы як прыемна сустракаць* (П. Броўка).

## Практыкаванні

**50.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку перад словамі ***як***, ***нібы***, ***чым***. Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца гэтыя словы.

1. З гулкай пушчы, як з радыёстудыі, салавей вясну абвясціў на ўвесь свет (*В. Вітка*). 2. Глыбіня ў небе стала бяздоннаю — як крыніца чыстай вады (*К. Чорны*). 3. Усё стала нібы на сваё месца, зрабілася ясным, зразумелым (*М. Лынькоў*). 4. Першым на дапамогу прыйшоў не хто іншы, як Аляксей (*М. Паслядовіч*). 5. Юныя садаводы Дзяржынскага раёна пасадзілі больш чым сто пладовых дрэў у сваім эксперыментальным садзе (*«Рэспубліка»*). 6. Летняй раніцай някідкія лугавыя кветкі ўсё роўна як усміхаюцца мне (*І. Грамовіч*). 7. Маці шкадавала Уладзіка болей, як мяне (*Б. Сачанка*). 8. Усё навокал як бы дыхала святочна-радасным настроем вясновага абуджэння (*Т. Хадкевіч*). 9. На ўсе пытанні Максімка адказваў зусім як дарослы (*І. Гурскі*). 10. Вочы нібы васількі (*З. Бядуля*).

**51.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры параўнальных зваротах.

1. Дні в..лікай народнай вайны праз г..рояў сваіх відны, і як хвалі в..сновай вады даплываюць да нас праз гады (*М. Хведаровіч*). 2. Вее верш мой дзіўнай казкай, і ясны ён як зорак сны (*М. Багдановіч*). 3. Дуб сцв..рдзеў бы кам..нь пад слотай, спёкай, мар..замі (*А. Бялевіч*). 4. Блакіт н..бёс празрысты нібы ў маі (*П. Панчанка*). 5. Я пам..ць сваю нібы кнігу гартаю (*А. Астрэйка*). 6. Паміж лес.. расцёгся туман нібы

спушчаны з неба дыван (*Ц. Гартны*). 7. Поле роўнае такое бы стол габляваны (*Я. Купала*). 8. Мы с..дзелі пад аховай дзюн як сцішаныя вандроўнікі (*К. Кірэенка*).

**52.** Складзіце і запішыце па два сказы са спалучэннямі ***менш чым***, ***не часцей як*** так, каб у адным выпадку коска перад ***чым*** і ***як*** ставілася, а ў другім — не.

**53.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце, чаму ў адных выпадках коска перад параўнальнымі злучнікамі ставіцца, а ў другіх — не.

1. Мястэчка відаць адсюль як на далоні (*І. Навуменка*). 2. Вакзал бы ўзварушаны вулей гудзе (*А. Вольскі*). 3. У вокнах нібы на экране ўжо загараецца ранне (*С. Грахоўскі*). 4. Некаторы час як зачараваны стаяў тут Сцёпка і любаваўся горадам (*Я. Колас*). 5. Дрэвы шумелі так ціха як ніколі (*Я. Колас*). 6. Параска стаяла як аслупянелая, не магла і слова вымавіць (*М. Лобан*). 7. Нават ісціне як зерню нялёгка часам прарасці (*А. Бачыла*). 8. Міколка калаціўся як асінавы ліст (*Я. Колас*). 9. Навокал нібы дываны раскінуты цёмна-зялёныя сенажаці (*І. Гурскі*). 10. Махнач як агню баяўся Бародкі, і таму Лемяшэвіч вырашыў пайсці на хітрыкі (*І. Шамякін*).

**54.** Спішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце параўнальныя звароты адной лініяй.

Лета выдалася мокрае (н..) пагодлівае. Амаль кожны дзень увесь май і чэрвень з неба сыпаўся дождж то дробны касы як восен..ю то ц..лымі днямі шумела навальніца. Дождж ліў як з в..дра бывала што і (у) перамешку з градам. Толькі ў самым пачатку ліпеня ўстал..валася ц..пло перасталі ісці дажджы. Со..нца быццам а..чуваючы сваю віну пясціла і грэла з..млю ў лес.. па..шлі расці грыбы. Дзеці неслі з лес.. больш за ўсё лісічкі. Любіў лісічкі і я ведаў патаемныя м..сціны дзе яны раслі. Я наведаўся на светлую палянку. На ёй расла густая па самае калена трава. Асцярожна ступаючы пра..шоў крокаў сем.. і натрапіў на ладную с..мейку лісічак. Лісічкі пахаваліся ў траве як мален..кія сонейкі. У вёску вяртаўся з п..ўнюсенькім в..дзерцам грыбоў. Ішоў і радаваўся як малы вельмі хацелася каб хто(?)небудзь сустрэўся мне па дарозе. Але на жаль гэтага не здарылася (*Паводле Я. Галубовіча*).

**55.** Напішыце невялікае сачыненне на тэму «Вясна ў горадзе (вёсцы)», выкарыстоўваючы сказы з параўнальнымі зваротамі.

## Кантрольныя пытанні

1. Калі параўнальныя звароты аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі ў сказе?

2. Калі пры параўнальных зваротах знакі прыпынку не ставяцца?

3. Якія знакі прыпынку ставяцца пры параўнальных зваротах, што ўводзяцца ў сказ з дапамогай спалучэнняў *больш чым*, *больш як* і інш.?

4. Якія словаформы і словазлучэнні, што маюць пры сабе параўнальныя злучнікі (або параўнальныя часціцы), параўнальнымі зваротамі не з'яўляюцца і коскамі на пісьме не аддзяляюцца?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце сказы з параўнальнымі зваротамі, пры якіх трэба паставіць коскі.

1. Вясною падалі пялёсткі нібы сняжынкі на мурог (*П. Панчанка*).
2. Дзень выдаўся як на заказ (*І. Шамякін*).
3. Жыта як лес шуміць залатою ракой (*П. Панчанка*).
4. Голас нібы срэбны званочак (*А. Васілевіч*).

**II.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх коска не ставіцца.

1. Плылі мне насустрач хмары нібы цяжкія беласнежныя зубры.
2. Шчокі быццам расквечаныя макам.
3. Пры апошніх словах прамоўцы быццам ветрык прайшоў па зале.
4. За плотам чырванела спелымі ягадамі гнуткая як у лесе рабіна.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказы з параўнальнымі зваротамі, пры якіх трэба паставіць коскі.

1. З клёна як з календара лісты зрывае восень (*А. Вялюгін*).
2. Расце ўдовін сын як на дражджах (*Казка*).
3. У полі як і ў лесе многа розных птушак (*Я. Маўр*).
4. Гукі музыкі даносіліся як бы здалёк (*В. Хомчанка*).

**II.** Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх коска не ставіцца.

1. Дубы вялізныя як зялёныя хмары.
2. Пасля дажджу ўсё здаецца як бы абноўленым.
3. Абоз расцягнуўся больш як на вярсту.
4. Навокал свет як песня прыгожы прывабны.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПАМІЖ ПРЭДЫКАТЫЎНЫМІ ЧАСТКАМІ СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫХ СКАЗАЎ

Прэдыкатыўныя часткі ў складаназлучаным сказе аддзяляюцца адна ад другой коскай: *Застылі на дарогах сінія туманы, і здзіўлена ўзыходзіць сонца над зямлёй* (П. Пестрак).

Калі адна з прэдыкатыўных частак мае форму аднасастаўнага або няпоўнага сказа, а ў самім сказе перадаецца хуткая змена з'яў ці падзей, вынік або супрацьпастаўленне, то паміж прэдыкатыўнымі часткамі ставіцца працяжнік: *Узмах вясла — і сонны бераг адразу пачынае жыць* (П. Глебка); *Ступіў адзін крок — і сцяна* (Я. Колас); *Няма працы — і сэрцу млосна* (Ц. Гартны). Калі прэдыкатыўныя часткі маюць ускладненую будову і свае знакі прыпынку, а сэнсавая сувязь паміж імі аслаблена, яны раздзяляюцца кропкай з коскай: *Вее вецер, свішча ў коміне, горка плача, надрываецца; і цяпер мне тая музыка, як жывая, успамінаецца* (Я. Колас).

Калі ў складаназлучаным сказе з адным спалучальным або размеркавальным злучнікам ёсць агульны даданы член сказа, пабочнае слова або часціца, коска паміж прэдыкатыўнымі часткамі не ставіцца: *У глыбі кватэры зараз жа грукнула крэсла і пачуліся крокі* (Я. Колас); *У небе спявалі жаваранкі ці шчабяталі ластаўкі або маланкай праносіліся стрыжы* (З. Бядуля).

### Практыкаванні

**56.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі складаназлучаных сказаў.

1. Прагуляемся па гэтых мясцінах — і настрой стане лепшым (*Э. Самуйлёнак*). 2. У кожным слове шумелі мільёны калосся і звонка звінела сталь вострая кос (*М. Танк*). 3. Некалькі хвілін — і коннікі павярнулі назад (*М. Лынькоў*). 4. Верабейку сцюжа зморыць або ястраб схопіць (*Я. Купала*). 5. Праходзіць ноч, і меркнуць зоры (*Я. Колас*).

6. Ярка свеціць над полем веснавое сонца, ці нечакана выплывае аднекуль цёмная хмара і палівае яго сваім дажджом (*М. Гарэцкі*). 7. Лета закончылася, ды спёка ніяк не спадала (*Т. Хадкевіч*).

**57.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Пісьмова растлумачце іх пастаноўку.

1. Рэчку жывіла некалькі крыніц і вада ў ёй заўсёды была халодная (*І. Гурскі*). 2. Хмары развеяліся і над галавой купалам цямнела высокае зорнае неба (*У. Карпаў*). 3. Наліліся сокам спелыя брусніцы і каля дарогі выраслі грыбы (*С. Грахоўскі*). 4. Багата адгуло паводак і адцвіло на лузе траў (*А. Вялюгін*). 5. Над берагам чайка бядуе і падае сонца ў ліман (*А. Вялюгін*). 6. Цвітуць кветкі і зелянеюць травы (*Я. Брыль*). 7. То падніmaліся Карпаты то мчаў Дунай удалячынь (*П. Броўка*). 8. У зелень апрануўся сад а ў садзе яркі квецень мая (*А. Астрэйка*). 9. Ні колас на ніве не ўскалыхнецца ні ліст на дрэве не ўзварухнецца (*М. Багдановіч*).

**58.** Спішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы прэдыкатыўных частак складаназлучаных сказаў.

Звечарэла. Неба тугое і цёмнае і на в..ршыні маладой елачкі з..лёна свеціцца ран..яя адзінокая зорка. Паветра па(?)в..снавому марознае і яго хочацца ўдыхаць на поўныя грудзі ў ім н..ўлоўны водар і а(д/т)талага каля дрэвавых ствалоў снег.. і хвоі і б..розавага вец..я. Самыя в..ршыні б..роз яшчэ асветлены со..нцам і белая кара мя..ка пя..чотна ружовіцца а снег такі бела(?)калючы (у) дзень а(д/т)свечвае тугой гл..бокай сінечай неба.

На ву..кай л..сной сце..цы цёмна і зацята-глуха і ад гэтай глухаты неяк не па с..бе сярод кашлатых ялін пад сагнутымі як аркі над сце..кай б..розкамі.

На дарозе ціха і пустэльна толькі недзе далёка пафырквае конь і парыпваюць гужы. Ва ўсю свеціць мес..ц ды зоркі яркія і па(?)в..снавому буйныя. Поле пад мес..цам не такое прасторнае як (у) дзень і ніжэйшым здаецца неба і бліжэйшым неба(?)край. Снег не слепіць вочы а свеціцца адзінокімі крупінкамі і ў мес..чным сумным св..тле ў полі кожны снежны ўзгорачак бачыцца (з) даля.

У вёсцы ўрачыстая цішыня і толькі ярка і спакойна высвечваюць ..окны (*Паводле А. Жука*).

**59.** Выпішыце з тэксту складаназлучаныя сказы. Пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх. Вусна растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

Часамі ў *позняе* лета пачынае хмурнець дзень, і гэта не збіраецца на дождж, а незаўважна падплылі павевы восені. Лёгкая плынь ветру зноў заціхне, і дзень зноў зіхаціць сонцам, але ўжо застаецца пячаць летняга *адцвітання*. У поўнай сіле сваёй цвітуць летнія кветкі, і трава адрастае пасля касы, а сэрца чуе, што не так ужо гудзе пчала над жоўтым малачайнікам, і вада ў рэчцы плыве, здаецца, цішэй. Яшчэ ў пачатку ліпеня, бывае, *зжаўцее адзін-адзінюткі* лісток на бярозе, і так ён адарвецца і кружыцца ў паветры, пакуль ляжа ў траву. Пад вечар пакідае звінець неабдымная шырыня летняга дня і кладзецца цішыня на зямлю. Жоўты лісток бярозы ляжыць у траве і відзён *здалёку*, і без яго, здаецца, не пахнуў бы так чабор, не такі прывабны здаваўся б верас і не было б такога вялікага шчасця ў душы бачыць траву і дрэвы, сіратлівы куст шыпшыны і вершаліну высокай хвоі, на якой ціха ляжыць праменне блізкага да заходу сонца (*К. Чорны*).

**60.** Выпішыце з твораў мастацкай літаратуры пяць складаназлучаных сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

## Кантрольныя пытанні

1. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучанага сказа ставіцца працяжнік?
2. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучанага сказа ставіцца кропка з коскай?
3. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучанага сказа не ставіцца коска?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх трэба паставіць коску.

1. Балота скончылася і сябры неўзабаве выйшлі на дарогу.
2. Зрэдку па шашы праязджалі машыны або праходзілі людзі.
3. На палях цямнелі сланечнікі і чырванелі пераспелыя памідоры.
4. Узыходзіць сонца над прасторамі і красуе ніва за далінаю.

**II.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх трэба паставіць працяжнік.

1. Трапяталі матылькі і гулі мошкі.
2. Апускаецца туман або сыплецца дождж.
3. Адзін неасцярожны позірк і расніцы хаваюць глыбокія вочы.
4. Ёсць мора і чайкам прастор.

*II варыянт*

**I.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх трэба паставіць коску.

1. Зашуміць высокая пшаніца і зацвіце блакітны лён.
2. Білі ў бераг Нёманавы хвалі і плыты загнала на мель.
3. Навокал хвалюецца гордая Волга і бераг губляецца воддаль.
4. У пакоі гучыць музыка і танцуе моладзь.

**II.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх трэба паставіць працяжнік.

1. Хай шчасце куецца на свеце і вечная дружба расце!
2. Хмара хутка закрыла неба і секануў густы дождж з градам.
3. Выхадны дзень і работы няма.
4. Тыдзень хады і дома.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПАМІЖ ПРЭДЫКАТЫЎНЫМІ ЧАСТКАМІ СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАЎ

Паміж галоўнай і даданай часткамі складаназалежнага сказа ставіцца коска: *Вы ўяўляеце, як над Бугам пачынаецца плынь вясны...* (М. Калачынскі).

У складаназалежным сказе з некалькімі даданымі часткамі адна частка ад другой найчасцей аддзяляецца коскай: *Калі ўвайшлі на двор, маці адразу заўважыла, што Алёшкі няма дома, бо на дварэ быў непарадак* (А. Якімовіч).

Калі даданыя часткі звязаны адзіночнымі злучнікамі *і*, *ці*, *або*, то паміж гэтымі часткамі коска не ставіцца: *Хоць даўно развіднела і ўзышло сонца, на полі нікога не відаць* (А. Стаховіч); *Чалавек ніколі не скардзіўся, што ў яго ныюць ногі ці ломіць паясніцу* (З. Бядуля); *Я люблю пазіраць туды, дзе шумяць каласамі шырокія нівы або рассцілаюцца бясконцыя зялёныя лугі* (Я. Колас).

Калі аднародныя даданыя часткі развітыя і маюць свае знакі прыпынку, яны могуць аддзяляцца кропкай з коскай: *Я не знаю меся-*

*ца больш за май шчаслівага, калі пушчы цешацца з гоману шумлівага; калі вербы ніцыя рвуцца ўвысь галінамі; калі скрозь пшаніцаю пахне над далінамі...* (П. Глебка).

Пры паслядоўным падпарадкаванні даданых частак можа быць збег падпарадкавальных злучнікаў. Калі ўключаная даданая частка далучаецца да наступнай даданай часткі пры дапамозе адзіночнага падпарадкавальнага злучніка, то яна выдзяляецца з двух бакоў коскамі: *Максім паабяцаў, што, калі ён паспее падрыхтавацца, зробіць цікавае паведамленне на канферэнцыі.*

Калі ўключаная даданая частка далучаецца да наступнай даданай часткі пры дапамозе парнага падпарадкавальнага злучніка (*каб... то*, *калі... то*, *хоць... але*), коска паміж злучнікамі перад пачаткам уключанай даданай часткі не ставіцца: *Вецер узмацніўся настолькі, што хоць мы і былі цёпла апрануты, але адчулі сябе няўтульна на беразе возера.*

## Практыкаванні

**61.** Запішыце складаназалежныя сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вызначце тыпы даданых частак.

1. Нездарма кажуць людзі што жыццё не такое ўжо лёгкае як здаецца яно спачатку (*М. Лынькоў*). 2. Усякі хто зірнуў бы на старшыню адразу вызначыў бы што гэты чалавек прыйшоў з палёў ад зямлі з якою ён змалку мае справу (*М. Лупсякоў*). 3. Чуецца ў песні як шасцяць спелыя каласы і шуміць стары бор (*В. Каваль*). 4. Дзяўчына думала што вось-вось яна ўбачыць таго каго так хацелася ўбачыць (*А. Стаховіч*). 5. Дзяўчаты хацелі каб кветкі што ўвабралі прыгажосць беларускіх земляў і неба аздобілі наша вяселле (*М. Лужакоў*). 6. Ісціна што няма нічога тайнага якое не зрабілася б яўным была вядома куранёўцам, мусіць, больш за ўсякую іншую (*І. Мележ*).

**62.** Запішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Як пры..дзе зіма тр..шчыць мароз ды кружыць м..целіца (*П. Галавач*). 2. Хоць ветр.. не было шумелі дрэвы ці гудзелі правады (*М. Лынькоў*). 3. Калі браты дабеглі да Сцёпкі то яны моцна стаміліся ад шпаркага бег.. але твары іх былі в..сёлыя (*Я. Колас*). 4. Маеўскія садзіліся абедаць калі на ..уліцы загурчалі маторы і каля хаты спынілася машы-

на з н..мецкімі салдатамі (*І. Шамякін*). 5. Старшыня спадзяваўся што калі н.. будзе даждж.. то ўборку збож..а ўдасца закончыць св..ечасова (*У. Краўчанка*). 6. Ён быў такі скупы што як яго н.. прасілі нічога не даваў у доўг (*Э. Самуйлёнак*).

**63.** Выпішыце з тэксту складаназалежныя сказы. Пабудуйце іх схемы. Вызначце тыпы даданых частак.

Еўфрасіння Полацкая. Без гэтага імя немагчыма ўявіць не толькі панараму духоўнага жыцця на ўсходнеславянскіх землях у XII ст., але і ўсю гісторыю беларускай культуры. Ігуменнія, ды найперш выдатная асветніца, усё жыццё якой было прыкладам самаадданага служэння роднай зямлі, Еўфрасіння пакінула пра сябе глыбокую памяць у душы народа.

Паміж намі і часам, калі жыла знакамітая палачанка, ляжыць больш за восем стагоддзяў. Не дзіва, што гісторыя захавала пра яе не вельмі багатыя звесткі, але і яны дазваляюць убачыць агульнаеўрапейскую значнасць асобы таленавітай жанчыны-падзвіжніцы. Ахвярная праца Еўфрасінні, як і яе сучаснікаў Кірылы Тураўскага і Клімента Смаляціча, сведчыць пра высокі культурны ўздым на зямлі нашых продкаў.

Ужо ў юнацтве Еўфрасіння перапісвала і перакладала з іншых моў кнігі. Пазней, заснаваўшы ў Полацку два манастыры, яна надала пашырэнню пісьмовага слова вялікі размах. Вельмі верагодна, што асветніца і сама пісала арыгінальныя творы.

Знаходзячыся ў цэнтры культурнага жыцця тагачаснай Полацкай зямлі, асветніца выступала ў ролі збіральніцы талентаў, своеасаблівай мецэнаткі. Па яе заказе дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якую лічаць дасканалым узорам полацкай архітэктурнай школы.

Вялікім быў уплыў князёўны-ігуменні на палітыку Полацка. Яна ўздымала свой голас супраць княскіх усобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Радзіму да гібелі. Прыклад асветніцы натхняў яе землякоў і наступнікаў Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага... (*Паводле У. Арлова*).

**64.** Спішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычную аснову прэдыкатыўных частак складаназалежных сказаў. Пабудуйце схемы складаназалежных сказаў.

Лёс быў (н..) асабліва спагадлівы да яго. Жыц..ёвы шлях Францішка Багушэвіча (н..) усцелены ружамі. На творчым шляху Мацея

Бурачка мы ведаем толькі асобныя вехі ма..чыма самыя значныя якіх дастаткова для таго каб зразумець убачыць куды вёў гэты шлях.

Можна в..дома са зразумелай упэўненасцю сказаць сён..я (н..) змоўклі песні тыя што іграў на ду..цы (н..) забылі паэта. Але яму было вельмі балюча бо ўбачыў пры жыц..і ў друку адно толькі сваё апав..данне (н..) ведаў які лёс чакае праз гады яго гатовыя зборнікі прозы і паэзіі (н..) прапушчаныя ц..нзурай што будзе праз гады з матэры..-ламі да слоўніка ў якім меў намер пераўзы..сці самога Насовіча. І як хочацца думаць што паэт меў усё (ж) суц..шэнне надзею быць патрэбным у будучым свайму народу сваёй літаратуры (*Паводле М. Стральцова*).

**65.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах.

Янка Сіпакоў піс..меннік р..знастайных творчых ма..чымасцей талент якога шчодры і шматгран..ы. Асноўнае поле яго творчай дзейнасці галоўная сфера клопатаў і турбот арыгінальная паэзія і проза. Тут у піс..менніка ёсць ужо свае адметныя дз..лянкі пазначаныя арыгінальнасцю талент.. высокай культурай працы. І ця..ка сказаць на якой з гэтых творчых дз..лянак больш значныя дасягнен..і да чаго больш хінецца яго душа да паэзіі ці да прозы дзе талент знаходзіць арганічнае і поўнае ўвасаблен..е.

Чытаючы кнігі Сіпакова бачыш а..чуваеш што ў кожным канкрэтным выпа..ку піс..меннік вырашае свае мастацкія задачы ўласцівыя толькі гэтай кнізе. Арыгінальнасць свежасць формы для яго пастаянны клопат (*С. Андраюк*).

## Кантрольныя пытанні

1. Якія знакі прыпынку ставяцца ў складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі?

2. Якія знакі прыпынку ставяцца ў складаназалежных сказах, дзе дзве аднародныя часткі аб’яднаны адзіночнымі злучнікамі *і*, *ці*, *або*?

3. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў ставіцца кропка з коскай?

4. Якія знакі прыпынку ставяцца ў складаназалежных сказах пры збегу падпарадкавальных злучнікаў?

## Тэст

*І варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх пры збегу падпарадкавальных злучнікаў ставіцца коска.

1. Людзі завіхаліся на лузе бо пакуль з захмарнага неба не лінуў дождж трэба было звезці сухое сена пад павець.
2. Чалавек ведаў што каб жыццё наладзілася то трэба шмат працаваць.
3. Вясной дзеці шукалі ў лесе сонечныя палянкі бо дзе не было снегу там цвілі пралескі.
4. Іван любіў пару позняй восені таму што калі блізіцца зіма прырода пaціху замірае.

**II.** Адзначце сказы, у якіх паміж дадзенымі часткамі коска не ставіцца.

1. Ты чуеш калі першыя лісты адкінуць халадок яшчэ слабога ценю што трэба глебам парным і густым каб прарасло працуючы насенне.
2. Я змалку зведаў як гамоняць рэкі як ціха плачуць вербы над вадой.
3. Чуецца ў песні як шасцяць спелыя каласы і як шуміць стары бор.
4. Хоць апошнія тыдні лютавала зіма і шалелі завірухі рабочыя пабудавалі завод у тэрмін.

*ІІ варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх пры збегу падпарадкавальных злучнікаў ставіцца коска.

1. Настаўнік сказаў вучням што калі будзе добрае надвор'е яны паедуць на экскурсію ў Нясвіж.
2. Я не магу цябе доўга чакаць бо калі спазнюся на аўтобус то не паспею своечасова прыйсці на працу.
3. Кожны ведае што калі добра ўзарэш то і ўраджай добры збярэш.
4. Хлопец спадзяваўся што пакуль надыдзе пара экзаменаў ён паспее добра падрыхтавацца.

**II.** Адзначце сказы, у якіх паміж дадзенымі часткамі коска не ставіцца.

1. Не стаў скупейшым у жаданнях хоць сам я сталы чалавек бо свежасць веснавога рання палюбіў навек.
2. Раман прыехаў на востраў вечарам калі ўжо заходзіла сонца і дарожка на даляглядзе здавалася залацістай.

3. Вера маўчала хоць ёй так хацелася выкласці ўсё што думала.

4. Была толькі радасць і турбота якая мяшалася з гэтай радасцю і з якой невядома што было рабіць.

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПАМІЖ ПРЭДЫКАТЫЎНЫМІ ЧАСТКАМІ БЯЗЗЛУЧНІКАВЫХ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ

У бяззлучнікавых складаных сказах адна прэдыкатыўная частка аддзяляецца ад другой коскай, калі ў частках ідзе пералік падзей і з'яў, якія адбываюцца адначасова ці паслядоўна: *Белыя хмаркі над намі гулялі, беглі ў няведамы край, чыстыя росы, як срэбра, блішчалі, гоманам поўніўся гай...* (Я. Колас).

Калі дзве або некалькі прэдыкатыўных частак бяззлучнікавага складанага сказа нагадваюць адносна самастойныя ўскладненыя простыя сказы і маюць свае знакі прыпынку, яны могуць раздзяляцца кропкай з коскай: *Ціха трапечуцца лісці зялёныя, з ветрыкам мову вядуць; вішні, узяўшыся белай каронаю, быццам дзяўчаты, цвітуць* (Я. Колас).

Двукроп'е ў бяззлучнікавых складаных сказах на мяжы частак ставіцца:

1) калі другая частка раскрывае, паясняе ці дапаўняе змест папярэдняй: *Дума неспакойная жыла ў майстра: ён хацеў пакінуць пакаленням след жыцця свайго* (М. Танк);

2) калі другая частка ўказвае на прычыну таго, пра што гаворыцца ў першай: *Саша пачырванела: ёй цяжка было хлусіць* (І. Шамякін);

3) калі другая частка дапаўняе першую, а паміж часткамі можна ўставіць спалучэнне слоў са значэннем успрымання тыпу *ўбачыў, адчуў, падумаў, разважыў* і г. д.: *Прыглядзьцеся: новыя дні на вас пазіраюць у іскрах світання* (Я. Колас);

4) калі другая частка выражае прамое пытанне: *Ты скажы мне, цьма глухая: доўга будзеш ты ляжаць?* (Я. Колас);

5) калі першая частка заключае ў сабе абагульняльны сэнс, а наступныя гэты сэнс раскрываюць. У такіх выпадках двукроп'е ставіцца пасля першай часткі: *Звыклыя гукі напоўнілі лясныя гушчары: у галлі заварушылася сонная птаха, піскнуў заяц, бязгучна мільгануў кажан* (М. Лынькоў).

**<u>Заўвага</u>.** Калі абагульняльны сэнс заключае ў сабе апошняя частка ў адносінах да папярэдніх, перад ёй ставіцца працяжнік: *Звоняць пілы, гудуць тапарышчы, стогне дрэва — будуецца дом* (П. Глебка).

Працяжнік у бяззлучнікавых складаных сказах на мяжы частак ставіцца:

1) калі часткі ўказваюць на хуткую змену падзей або другая частка паведамляе пра нечаканы вынік: *Мінута — батальён на нагах* (Я. Колас); *Бліснула маланка — стала відна як удзень* (І. Грамовіч);

2) калі змест наступнай часткі супрацьпастаўляецца зместу папярэдняй часткі: *Пастукалі ў акно — з хаты ніхто не абазваўся* (К. Чорны);

3) калі ў сказе выражаюцца ўмоўна-выніковыя адносіны: *Настане лета — паедзем адпачываць*;

4) калі другая частка заключае ў сабе параўнанне: *Засмяялася — срэбны званочак зазвінеў* (Я. Брыль).

**<u>Заўвага</u>.** Працяжнік ставіцца, калі другая частка пачынаецца са слова *гэта*, якое ўмяшчае ў сабе змест папярэдняй часткі: *Андрэй быў у добрым настроі — гэта адразу кідалася ў вочы* (М. Зарэцкі).

Калі часткі бяззлучнікавага складанага сказа аб'ядноўваюцца з дапамогай слоў *то не — гэта*, *то не — то*, паміж імі заўсёды ставіцца коска з працяжнікам: *То не Нарач высока коціць хвалі на травы, — то шырока, далёка наша коціцца слава!* (А. Бялевіч).

## Практыкаванні

**66.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў.

1. Заўсёды ў лесе добра мне: у ім так ціха, урачыста (*Я. Колас*). 2. Пад цёплым ветрам шумелі таполі, на шэрым небе цьмяна святлелі затуманеныя буйныя зоры (*Я. Маўр*). 3. На падворку парадак: усё прыбрана, дагледжана (*М. Ракітны*). 4. Наступіла вясна — пачаліся палявыя работы (*І. Шамякін*). 5. Цеплынёй вясна дыхнула — засінелі кветкі (*З. Бядуля*). 6. Вялікае шчасце пачынаецца з малога: Аня сустрэла надзвычай добразычліва (*І. Шамякін*). 7. На развітанне яна моцна паціснула мне руку; далонь яе была шурпатая, мазолістая — жанчына не цуралася любой працы (*І. Шамякін*).

**67.** Выпішыце з тэксту бяззлучнікавыя складаныя сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялікая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак. І хаты няроўныя тут, як і людзі:

адна большая, другая меншая, старэйшая ці навейшая. Але хата дзеда Талаша ўсё ж такі звяртае на сябе ўвагу не так знадворным выглядам, як адзіноцтвам: стаіць яна наводшыбе і ў блізкім суседстве з хмызняком ускрай балота. Побач з хатай, прыкрываючы яе ад летняга сонца, красуецца высокая разложыстая груша. Вясною, усыпаная белым цветам, як маладая дзяўчына, яна проста аздабляла дзедаў двор, і не толькі дзед Талаш, а і бусел з гнязда, змайстраванага на дзедавай клуні, залюбуецца ёю.

...Дзед Талаш любіць лес, балоты і сваю родную Прыпяць, дзе ён так спрытна ездзіў на чаўне ды лавіў рыбу. І стралок з яго быў не кепскі: які ж ён быў бы паляшук, каб не ўмеў добра страляць? На тое ж яно і Палессе — без стрэльбы там абысціся трудна (*Паводле Я. Коласа*).

**68.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1. Здаецца мне выходжу росным следам у паплавы суседняга сяла (*С. Грахоўскі*). 2. Не вятрыска з поўначы павявае ціха сон у камору ўступае (*М. Багдановіч*). 3. Справа ў яго складаная кожны няўдалы рух ці недахоп увагі могуць сапсаваць дэталь (*А. Кулакоўскі*). 4. Нездарма кажуць людзі чалавек на рабоце харашэе (*П. Броўка*). 5. У душу запала кропля боязі ці правільна нам выпісалі пропускі? (*І. Шамякін*). 6. Ніна раней на танцы не прыходзіла не было святочнага ўбрання, добрых чаравікаў (*І. Шамякін*). 7. То не ў лесе стогнуць сосны, не шуміць зялёны бор гэта нашы рэжуць вёслы хваль успенены прастор (*М. Танк*).

**69.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычную аснову прэдыкатыўных частак бяззлучнікавых складаных сказаў.

Цішыня ў ..асен..ім лесе спакой і царства фарбаў кол..раў. (Н..) зварухнецца (н..) адна галінка на дрэве. Вось прал..цеў б..розавы лісток апусціўся ціха на з..млю. Раптам такі лісток лёг мне на пл..чо я асцярожна ўзяў яго. Яшчэ засталіся на дрэвах яго браты а ён ужо а(д/т)жыў сваё пакінуў родную галінку. Але ж угледз..цеся ў гэты лісток колькі сонечнага ц..пла падаравала яму лета! І мне здаецца часцінка гэтага ц..пла так і засталася ў ім.

Крочу па з..лёным мя..кім моху далей. Б..розы рас..тупаюцца быц..ам хочуць даць камус..ці месца. На (н..) в..лікай палянцы стаіць магутны дуб. Ён узнёс сваю в..ршаліну высока ў неба і ва ўсёй яго постаці столькі важнасці гонар.. што б..розы нават баяцца пады..сці да яго блі..ка. Яны тоўпяцца навокал такія стройныя бела(?)ногія як тыя дз..ўчаты ў карагодзе.

Раптам у лесе штос..ці загуло. Я зірнуў (у) гору в..ршаліна дуб.. (з) лё..ку варухнулася потым яшчэ і яшчэ. Там (у) версе нал..таў вецер. І дуб першы прыняўшы яго на с..бе як бы пап..рэджваў сваіх суседак(?) б..розак будз..це напагатове бярэцца вецер я прыкрываю вас як магу але ж і вы трымайцеся. І ў тую ж хвіліну дробна зашамацела лісце на б..розках. Быц..ам дзякавалі яму дубу за перасцярогу за клопат пра іх.

Я доўга ўспамінаў гэту сустрэчу з б..розавым гаем у вушах маіх так і стаяла яго тр..вожная песня. Я бачыў перад сабой зграбныя пя..-чотныя б..розкі чуў іх прыглушаны шэпт. А над б..розамі быц..ам закрываючы іх ад ветр.. стаяў асілак(?)дуб. І мне падумалася жыц..ё лес.. шмат у чым падобнае да жыц..я людзей (*Паводле Б. Сачанкі*).

**70.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Выпішыце з тэксту бяззлучнікавыя складаныя сказы. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Яўхім Фёдаравіч Карскі — з тых людзей, што сваёй нястомнай і высакароднай працай пры жыцці пакідалі сабе помнікі. Сын настаўніка з вёскі Лаша каля Гродна, філолаг-славіст, фалькларыст, этнограф, усё сваё падзвіжніцкае жыццё прысвяціў ён навуковай дзейнасці, шматграннай і вельмі плённай. Галоўнае ў яго спадчыне — трохтомная праца «Беларусы», яе называлі энцыклапедыяй беларусазнаўства. Вывучыўшы велізарную колькасць матэрыялаў, Карскі ўпэўнена сказаў: беларускі народ існуе як нацыянальная адзінка, ён стварыў сваю арыгінальную культуру, родную мову, багатыя традыцыі і невычэрпную скарбніцу вуснай паэтычнай творчасці. Ён лічыў, што беларусы жывуць на зямлі, якая была прарадзімай усіх славян. Яўхім Фёдаравіч меркаваў, што аснову нашай народнасці склалі плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, і стварыў этнаграфічную карту беларускага племені... (*«Беларускі каляндар»*).

Карыстаючыся энцыклапедыяй «Беларуская мова» (1994), падрыхтуйце пісьмовае паведамленне на тэму «"Беларусы" Я. Ф. Карскага — энцыклапедыя беларусазнаўства» з выкарыстаннем бяззлучнікавых складаных сказаў.

## Кантрольныя пытанні

1. Калі ставіцца коска паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў?

2. Калі ставіцца кропка з коскай паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў?

3. Калі ставіцца двукроп’е паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў?

4. Калі ставіцца працяжнік паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў?

## Тэст

### *I варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць двукроп’е.

1. Дзятлы заняты звычайнай работай яны шукаюць у кары на абед чарвякоў.
2. Пахне ціхі прасёлак лясной канюшынай ціха бусел садзіцца на стог.
3. Мы знаем у нашай краіне няма непрыгожай зямлі.
4. Стол белым абрусам засланы дыміцца абед на стале.

**II.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць працяжнік.

1. Павее ветрык шурхнуць травы.
2. Прачнецца ў звонкім лесе кветка-сон расплюшчыць вочы сіняя пралеска.
3. Вельмі хутка падыходзіць аўтобус я заходжу ў яго і выбіраю сабе месца бліжэй да акна.
4. Вецер носіць лёгкія сняжынкі гэта восень ходзіць павай.

### *II варыянт*

**I.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць двукроп’е.

1. У садзе за хатай спяваюць берасцянкі свішчуць шпакі.
2. Тут вее водарам сасны бары з усіх бакоў.
3. Касавіца на лугах мурожных сінявокі зацвітае лён.
4. Аксіння ішла павольна спяшацца не было куды.

**II.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць працяжнік.

1. Ападае з пшаніцы раса надышоў час гарачы жніва.
2. Змоўклі шэрыя зязюлі змоўклі ў небе жаўрукі.
3. Было б добрае надвор’е ўсё б магло наладзіцца.
4. Рыпалі вароты ахвотна скідваючы з сябе снег нахіляліся калодзежныя жураўлі.

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПАМІЖ ПРЭДЫКАТЫЎНЫМІ ЧАСТКАМІ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ З РОЗНЫМІ ВІДАМІ СУВЯЗІ

Паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставяцца такія ж знакі прыпынку, як і ў складаназлучаных, складаназалежных і бяззлучнікавых складаных сказах. Найчасцей ставіцца коска: *Нам стала холадна, трэба было раскладаць касцёр, каб крыху пагрэцца, дый каля агню неяк весялей чалавеку* (І. Гурскі).

Двукроп'е ставіцца тады, калі наступная частка раскрывае сэнс папярэдняй: *Некалі ў нас быў добры звычай: калі прыязджаюць госці, дык частаваць іх* (М. Зарэцкі).

**<u>Заўвага</u>**. Двукроп'е ставіцца тады, калі наступныя часткі раскрываюць прычыну таго, пра што паведамляецца ў папярэдняй частцы: *Работа спачатку не ладзілася: то перашкаджала надвор'е, то не хапала патрэбнага матэрыялу* (У. Краўчанка).

Працяжнік ставіцца тады, калі наступная частка паказвае вынік таго, пра што гаворыцца ў папярэдніх частках: *Ці то кожная частка адзежыны мела свой колер, ці то матэрыя была такая стракатая — Валя Іваноўская не магла разгледзець* (К. Чорны).

Паміж прэдыкатыўнымі часткамі, калі яны маюць развітую будову або слаба звязаны сэнсам, ставіцца кропка з коскай: *Над ракой, дзе каліна, сенажаць церабілі; у сяле, дзе хлапчына, у паход затрубілі* (Я. Купала).

**<u>Заўвага</u>.** Коска з працяжнікам ставіцца тады, калі прэдыкатыўныя часткі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі звязваюцца ў блізкія па сэнсе групы і пераход ад адной групы прэдыкатыўных частак да другой характарызуецца рэзкай зменай інтанацыі: *Ці коска зазвоніць у час касавіцы, ці песню дзяўчо запяе, ці неба заззяе ў агнях бліскавіцы, ці вецер у палях зазлуе, ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах, ці грукне над лесам пярун, — усё водгук знаходзіць у вольных абшарах, усё іх дакранаецца струн* (Я. Колас).

## Практыкаванні

**71.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Пабудуйце іх схемы.

1. Часам крылы ветрака круціліся, і мне здавалася, што ён махае рукамі, нібы некага кліча (*Я. Брыль*). 2. Цяпер зноў чуваць, як чахкае

сякера: дзядзька цярэбіць на зваленым дрэве галлё (*Я. Брыль*). 3. Ужо ўзышоўшы на двор, Драздовіч заўважыў, што перамяніўся напрамак ветру, значыць, не мінуць навальніцы (*І. Гурскі*). 4. Падоўгу раніца ў туманах сонца носіць, антонаўкаю грукаюць сады, ідуць са свежым збожжам паязды, а павуцінне ўслед, як быццам толькі з кросен, — так неўзаметку падступае восень (*М. Лужанін*). 5. Іллюк углядаўся ў прадаўгаваты бялёсы твар Шведа, і ў сэрцы ўзнікала глыбокая прыязнасць да яго: чалавек гаварыў пра агульныя справы так, быццам у іх заключалася ўсё яго жыццё (*Т. Хадкевіч*). 6. Ужо пара мне дадому збірацца: вечар позні, а час не стаіць (*М. Багдановіч*). 7. Высокія хвалі білі ў бераг усё часцей і часцей — па ўсяму відаць было, што хутка пачнецца шторм (*А. Кулакоўскі*).

**72.** Запішыце складаныя сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

1. А бацька моўкне і чакае што скажа дзядзька або маці і ціха стала ўраз у хаце чутно як муха пралятае (*Я. Колас*). 2. Стаяла дзіўная цішыня нідзе жывога гуку хоць была сярэдзіна асенняга дня (*І. Шамякін*). 3. Я іду па маёвым лесе і ўсё мне здаецца вось-вось расцвіце сэрца мільёнамі ландышаў (*К. Кірэенка*). 4. Валя прачнулася ёй здалося што заскрыпелі дзверы (*І. Шамякін*). 5. Калі іду я ноччу родным краем не заблуджуся між густых лясоў дарогу тут заўсёды адшукаю па звоне соснаў шуму каласоў (*П. Прыходзька*). 6. У цемры постаць Ганны ледзь значыцца а твару зусім не відаць але Васіль ведае гэта яна (*І. Мележ*). 7. Прыпадзі да зямлі цёмнай ніцма да ўзоранай плугам раллі ты пачуеш як б'ецца крыніцай сэрца вечна жывое зямлі (*А. Звонак*).

**73.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў. Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Чытаючы і перачытваючы творы народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, не перастаеш здзіўляцца таленту першаадкрывальніка нашай рэчаіснасці: яго вершы — гэта споведзь мудрага майстра, які не страхуецца ад бяды і памылак, а па-салдацку, па-сялянску разумее жыццё як абавязак, як пошук ісціны, як шлях да другога чалавека-аднадумцы.

Лёс паэта цесна звязаны з лёсам народа, ад якога Панчанка быў неадлучны на працягу ўсяго свайго жыцця. На пачатку дарогі ён — вяс-

ковы настаўнік, а пасля — воін, абаронца Радзімы. Пакаленне, да якога належыць паэт, выпрабавана на грамадзянскую сталасць найперш вайной: яно зведала горыч адступлення, але яно і ўзнеслася потым на крылах перамогі ў вышыні гістарычнага трыумфу, здзейсніўшы сапраўдны подзвіг у імя чалавецтва.

Вершы Панчанкі ваеннага часу — гэта не факты гісторыі, а жывыя і незабыўныя старонкі народнай памяці. Сваёй усхваляванасцю, праўдзівасцю, глыбінёй уражанняў і перажыванняў яны надзвычай адпавядалі душэўнаму стану кожнага чалавека.

Пімена Панчанку — паэта, грамадзяніна, чалавека — нарадзіў, паставіў на службу людзям сам час (*Паводле М. Стральцова*).

**74.** Спішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычную аснову ў прэдыкатыўных частках складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Пабудуйце схемы гэтых сказаў.

Зіма была на дзіва марозная і снежная не так ужо часта зам..тае хаты па самыя стрэхі а ля калодзежаў паўтыканы ў снег жэр(д/т)кі каб (не) уваліцца як зам..це.

Ціха і б..злюдна такімі днямі на дарогах ды дарог тых няма пра..шла пара калі на санях ехалі далёка і набоісты след не зам..таўся ўсю зіму. Цяпер у раён..ы гарадок адна дарога па пол.. з якога лютаўскія в..тры (з/с)ганяюць снег на дарогу. І чым больш ра..чышчаецца дарога чым вышэйшыя сн..гавыя валы (з/с)сунутыя бульдозерным нажом тым больш снег.. на дарозе з кожнай завірухай а яны дзень пры дні. Павел прывык ужо і да завірухі і да таго што толькі раз на тыдзень а то і радзей дабіраецца дадому ў Слуцк у свой дом пастаўлены пасля вайны ў якім пражылося шчасліва. Выгадаваліся па..шлі ў людзі дзеці і дом нібы пачужэў.

Павел пачаў прывыкаць рэдка бываць дома і хоць рабіў ранейшую работу ўсё больш і больш начаваў на людзях у вёсках праз якія ішла дарога якую ён ра..чышчаў ад снег.. . Яго за многа год ведалі тут усе (*Паводле А. Жука*).

**75.** Выпішыце з тэксту складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, пісьмова растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх. Пабудуйце схемы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

Грамніцы, або Стрэчанне, — зімовае свята народнага календара, час сустрэчы зімы і лета. Лічылася так: калі на Грамніцы вялікі мароз —

снег паляжыць нядоўга, а лета будзе пагоднае і сухое. Мяцеліца ў гэты дзень прадказвала доўгую вясну, пацяпленне — раннюю вясну, а лета чакалася непагоднае, неўраджайнае. Меркавалі і так: якое надвор'е на Стрэчанне, такая і вясна. «На Стрэчанне сняжок — вясной дажджок». «Капеж на Грамніцы — ураджай на пшаніцу». Асноўным рытуалам на Грамніцы было асвячэнне ў царкве свечак. Іх потым запальвалі ў навальніцу ад маланак, ставілі каля хворых, хатняй жывёлы ад шкоды. Пасля свята сяляне пачыналі рыхтавацца да веснавых работ (*«Беларускі каляндар»*).

## Кантрольныя пытанні

1. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставіцца коска?
2. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставіцца кропка з коскай?
3. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставіцца коска і працяжнік?
4. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставіцца двукроп'е?
5. Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі ставіцца працяжнік?

## Тэст

*I варыянт*

**I. Адзначце сказ, у якім паміж прэдыкатыўнымі часткамі трэба паставіць наступныя знакі прыпынку: [, : ,].**

1. Калі Алёшка выскачыў на дарогу дык убачыў проста на яго імчаўся аўтамабіль.
2. Рыпнуць дзе дзверы зарыпяць цяжкія боты ці перасунецца дзе крэсла ўсё скрыгатам аддаецца ў сэрцы.
3. Калі падарожнікі ўзабраліся на бераг іх позірку адкрыліся маляўнічыя краявіды кругом прасціраўся лес векавыя дрэвы шумелі ад павеву ветру.
4. Падступіцца да берага было няпроста але гэта ўзрадавала спадарожнікаў якія ўжо некалькі дзён плылі ўверх па цячэнні ракі.

**II.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку расстаўлены правільна.

1. У Аляксея да горла падкаціўся тугі камяк: ён адчуў усю глыбіню гора гэтых спрацаваных маладзіц, чые мужы не вярнуліся з вайны.

2. Аголеныя дрэвы і кусты ў лістападзе ствараюць уражанне празрыстасці наваколля — ападанне лістоў абумоўлена фізіялагічнымі працэсамі ў раслінах, якія ў ходзе эвалюцыі прыстасаваліся да неспрыяльных кліматычных умоў.

3. Ф. М. Дастаеўскі — аўтар шматлікіх раманаў, якія з'яўляюцца вяршыняй філасофскіх, сацыяльных і псіхалагічных пошукаў у сусветнай літаратуры, асобныя канцэпцыі аўтара сталі папярэднікамі будучых плыняў у чалавечай культуры.

4. Сонца ўзнялося ўжо над лесам — і ўвесь жывы свет, што гуў і звінеў, паўстаў перад чалавекам у сваёй ранішняй прыгажосці.

*II варыянт*

**I.** Адзначце сказ, у якім паміж прэдыкатыўнымі часткамі трэба паставіць наступныя знакі прыпынку: [: , ,].

1. Людзі стаяць у праходах у калідоры дзверы насцеж дыхаць няма чым а ў ногі цягне холад.

2. З жудасцю я заўважыў што Ваня выбіваецца з сіл на сярэдзіне ракі ён лёг на спіну і паплыў па цячэнні.

3. Позняй восенню ў лесе яшчэ нават познюю кветку можна напаткаць свеціцца сіняе ці жоўтае вочка і цяжка растлумачыць як гэтая далікатная раслінка вытрымала замаразкі.

4. Вялікага парадку ў лесе няма сосны растуць як папала хоць і былі некалі пасаджаны пад шнур валяецца ламачча сям-там параскіданы спарахнелыя дрэвы.

**II.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку расстаўлены правільна.

1. Дружа Дняпро, прыпыні свае воды, паслухай, як мы жывём, гаспадарым; ты не ўсё яшчэ ведаеш, таму і такі адкрыты, даверлівы.

2. Хоць камень і далекавата ад сядзібы, але ніхто з наведвальнікаў яго не міне: да яго заўсёды прывядзе маляўнічая каштанавая прысада.

3. Эпоха Адраджэння была эпохай, калі свет ставіў вучоным іншыя, чым сёння, пытанні, часта загадваў загадкі, на якія ведае адказы сёння кожны пісьменны чалавек.

4. За горадам яшчэ ляжаў снег і былі праталіны, што пахлі зямлёй — але тут здавалася, што зіма сканала, што вось-вось заквітнеюць чаромха і бэз.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКАЗАХ З ЧУЖОЙ МОВАЙ

Калі простая мова стаіць пасля слоў аўтара, перад ёй ставіцца двукроп'е, а ў канцы — знак прыпынку, якога патрабуе мэта выказвання і інтанацыя: *Пчаляр кажа: «Слухайце, людзі: пчаліны сяголета год»* (А. Бялевіч); *Небу цёмна-сіняму і ветру скардзіліся чорныя палі: «Сонцам мы вясновым абагрэты, а дажджу даўно ўжо не пілі!»* (П. Панчанка).

Калі простая мова стаіць перад словамі аўтара і мае апавядальную інтанацыю, то пасля яе ставіцца коска і працяжнік: *«Некалькі чалавек не маглі абняць прыгажуна-дуба, цара пушчы», — успомніў Гарбачэня словы бабкі* (І. Гурскі). Калі простая мова з'яўляецца клічным ці пытальным сказам, то пасля яе ставіцца клічнік або пытальнік, а перад словамі аўтара — працяжнік. Словы аўтара пасля простай мовы пішуцца з малой літары: *«Засвішча човен мой стралою!» — так думаў дзядзька сам з сабою* (Я. Колас); *«Хіба ж так іграюць?» — падумаў Сымон* (А. Чарнышэвіч).

Словы аўтара могуць знаходзіцца ў сярэдзіне простай мовы і разрываць яе на месцы кропкі, пытальніка або клічніка. У такіх выпадках пасля першай часткі простай мовы ставіцца (у залежнасці ад інтанацыі) пытальнік або клічнік, а на месцы кропкі — коска. Другая частка простай мовы пішацца з вялікай літары: *«Ты чуеш мяне, Грышка? — павучаў унука дзед. — Ты павінен быць такім, каб цябе паважалі твае таварышы»* (М. Паслядовіч); *«Добры дзень, Лена! — радасна прывітаўся Сцяпан. — Ты, напэўна, у бібліятэку ідзеш?»*; *«Маладосць, — неяк міжвольна падумаў Міканор. — Цяпер ужо часам яе цяжка зразумець»* (А. Кулакоўскі).

Калі словы аўтара разрываюць простую мову, дзе не трэба ніякага знака прыпынку ці маглі стаяць коска, кропка з коскай, працяжнік або двукроп'е, словы аўтара выдзяляюцца з двух бакоў коскамі і працяжнікамі. Другую частку простай мовы пачынаюць пісаць з малой літары: *«Чалавек з розумам і з навукай, — некалі гаварыў бацька, — можа шмат больш прынесці карысці, чым невучоны чалавек»* (І. Гурскі).

У дыялогу простая мова кожнай асобы заўсёды пачынаецца з новага абзаца і перад ёй ставіцца працяжнік. У канцы простай мовы ставіцца адпаведны яе будове і інтанацыі знак прыпынку (кропка, клічнік, пытальнік або шматкроп'е):

*— Адкуль вы?*

*— З-пад Мазыра.*

*— Ого, здалёк. А ў сталіцу па якой справе?*

*— У камандзіроўку* (У. Шыцік).

Калі простая мова мае пры сабе словы аўтара, то яны выдзяляюцца знакамі прыпынку на аснове агульнага правіла:

*Рабочыя часам пыталіся:*

*— Хлопцы, што вы тут робіце?*

*— Практыку праходзім, — адказвалі мы* (І. Шамякін).

Калі простая мова розных асоб у дыялогу ўжываецца без слоў аўтара і пішацца ў адзін радок, то мова кожнай асобы бярэцца ў двукоссе з адпаведным яе будове і інтанацыі знакам прыпынку ў канцы і аддзяляецца адна ад другой працяжнікам: *«Дзе старшыня?» — «Не прыехаў». — «Чаму?» — «Работы ў яго шмат»* (І. Пташнікаў).

Цытаты ў пісьмовай мове, як правіла, бяруцца ў двукоссе або выдзяляюцца іншым шрыфтам: *П. Глебка з поўнай падставай пісаў: «Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў»* (У. Юрэвіч).

Калі цытата — вершаваны тэкст, то ў двукоссе яна не бярэцца: *Я. Купала звяртаўся да беларускіх партызан:*

*Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*Рэжце гітлерцаў паганых,*
*Каб не ўскрэслі век яны!*

(К. Чорны).

Цытата можа ўключацца ў аўтарскі тэкст як частка сказа. У такіх выпадках яна бярэцца ў двукоссе, але пішацца з малой літары: *Якуб Колас справядліва ўказваў, што «роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет»* (ЛіМ).

Калі цытата прыводзіцца не поўнасцю, то на месцы прапушчаных слоў ставіцца шматкроп'е: *Кузьма Чорны не раз звяртаў увагу на тое, што «фарміраванне літаратурнай мовы павінна ісці з крыніц жывой, сапраўды народнай мовы... мовы мільёнаў рабочых і калгаснікаў»* (У. Юрэвіч).

Эпіграф у двукоссе не бярэцца:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
Я. Колас.

## Практыкаванні

**76.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры простай мове.

1. «Ваш край — прыгожы, зялёны край, — гаварыў, мройна, летуценна мружачы вочы, стары, сівы як лунь, казак, даведаўшыся, што я з Беларусі, з Палесся. — На ўсё жыццё запомніўся ён мне. А найбольш, найярчэй — вашы ягады. Чаму? Вось паслухайце...» (*Б. Сачанка*). 2. Я лагодна ўсміхаюся маламу, ківаю галавой і кажу: «Добра жыць на свеце, браток?» (*Я. Майр*). 3. Зірнеш угору, туды, дзе бягуць шпаркія воблакі, бягуць здалёк ці зблізку, і падумаеш: «Гэта жыццё імклівa бяжыць» (*І. Грамовіч*). 4. Азаровічу раптам прыгадалася, як у маленстве баяўся цемнаты, і на яго пытанне: «Адкуль яна бярэцца?» — бацька, пасміхаючыся ў вусы, адказваў: «З лесу» (*Д. Нічыпаровіч*). 5. «Тата, тата! Пайшлі на рэчку», — пачаў прасіцца старэйшы сын (*С. Александровіч*). 6. «Чалавек, які сустракаецца з вучнямі толькі на ўроку, па адзін бок настаўніцкага стала, — не ведае дзіцячай душы, а хто не ведае дзіцяці, той не можа быць выхавацелем», — так лічыў Сухамлінскі (*В. Вітка*).

**77.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры простай мове.

І ў гэту раніцу над Шчарай было высокае бясхмарнае неба. І хоць яшчэ сонца не выкацілася з-за лесу а ўсё было відаць як удзень. Відаць былі і два чалавекі. Яны павольна набліжаліся. Неўзабаве мы разгледзелі ішла пара якая мабыць перажыла сваё залатое вяселле. Перад кладкай бабуля прысела на кошык а дзядуля нешта паціху гаварыў.

Мы падняліся насустрач дошка-кладка на ручайку нешырокая і тонкая трэба падсабіць перанесці кладзь з якой старыя не вельмі спраўляліся. Памаглі разгаварыліся. Бабуля перадыхнуўшы і без рэчаў ахвотна гаварыла расказвала

Спяшаемся на аўтобус. Каб не спазніцца. Да сына хочам. Праведаць надумалі. Адзін наш у Гародні а другі аж у Мінску. Стары казаў у нядзельку трэба нядзелькаваць рукам спачыну знайсці. А я разважыла не што там нядзелькаваць. Ехаць не працаваць. Дойдзем да аўто-

буса а там і ў Слонім і ў Мінск... Трэба дапамагчы дзецям. І без нашага абышліся б ды хочацца ж дапамагчы...

Моўчкі вярталіся мы пакінуўшы старэнькіх на аўтобусным прыпынку чакаць аўтобус. І чулася нам абодвум бацькоўскае Хочацца дапамагчы... (*Паводле Ф. Янкоўскага*).

**78.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Вызначце сэнсава-стылістычную ролю простай мовы ў тэксце.

Дамоў у Бацькавічы я прыехаў перад Сёмухай. Як здавён вядзецца ўжо ў суботу ва ўсіх хатах мыецца падлога падмятаюцца падворкі покуці і вокны прыбіраюцца свежымі адбеленымі ручнікамі ложкі засцілаюцца сваёй работы з вясёлкавымі пералівамі коўдрамі-посцілкамі. Столь уквечваецца галінкамі рабіны і ясеню галінкі бярозы сцябліны аеру раскідваюцца па падлозе ўся гэта ўкраса зелянінай называецца май.

Учора калі маці ўзялася шараваць падлогу бацька звярнуўся да мяне

Алёшка можа б ты сходзіў у Крывалессе Прынясі трохі маю Хай і ў нас як у людзей свята будзе

Не тата запярэчыў я Мне няёмка неяк гэта ж свята рэлігійнае Не пайду я Я ж студэнт заўтрашні настаўнік і мне ніяк не выпадае ісці з сябрамі ў лес па той май

Бацька насмешліва пакпіў з мяне

Дзівак ты хлопец Гэта ж самая што ні на ёсць народная завядзёнка Явар зяленіва чаромха Гэта ж прыгажосць Сабе прыемна і чалавеку можна зайсці ў хату Што ж калі не маеш ахвоты тады пайду сам

Пад вечар бацька прынёс з Крывалесся вялікую ношку зяленіва і нават выкапаў дзве невялічкія з празрыстымі клейкімі лісточкамі бярозкі (*Паводле С. Кухарава*).

**79.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Укажыце прыметы гутарковага стылю ў простай мове.

У вагоне я слухаў чужую гаворку. Дз..ве жанчыны — пажылая і маладзейшая. Маладзейшая едзе ў Мінск праведаць сына ён вучыцца ў рамесным ..учылішчы.

Даўно н.. бачыла кажа яна Дома мама хворая дык н.. было на каго пакінуць Усё чакала пакуль паправіцца

Паправілася

Ды не але ж бачыць што мне ўжо магаты няма едзь кажа дачушка а са мной н..чога н.. зробіцца я трывушчая

«Трывушчая». Н.. раз чуў гэта слова сам гаварыў н..калі дома а вось н.. прыпомню каб дзе пакарыстаўся ім у сваіх творах (*Я. Скрыган*).

**80.** Запішыце простую мову ў форме дыялога, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

Ты памочнік машыніста пытаў Міколка бацьку.
Ну, а што
Вось табе і што. На паравозах ездзіш?
Езджу. А што з таго?
А нічога... Павінен і я ездзіць... (*М. Лынькоў*).

**81.** Напішыце сачыненне на тэму «Якой бы музыкай гучала наша слова, калі б умелі слова шанаваць» (Я. Непачаловіч), выкарыстоўваючы цытаты з твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

## Кантрольныя пытанні

1. Якімі знакамі прыпынку афармляецца простая мова, размешчаная перад словамі аўтара?
2. Якімі знакамі прыпынку афармляецца простая мова, размешчаная пасля слоў аўтара?
3. Якімі знакамі прыпынку афармляецца простая мова, калі словы аўтара размешчаны ў яе сярэдзіне?
4. Якімі знакамі прыпынку афармляюцца рэплікі дыялога?
5. Якімі знакамі прыпынку афармляюцца цытаты?

## Тэст

*I варыянт*

**I.** Адзначце, які знак прыпынку ставіцца на месцы пропуску.

«Трэба, трэба паехаць у родную вёску, — уздыхнуў Сяргей Іванавіч_— Сорам, пяць гадоў не быў».

1) Коска;
2) кропка;
3) кропка з коскай;
4) двукроп'е.

**II.** Устанавіце адпаведнасць сказаў правільным варыянтам пастаноўкі знакаў прыпынку. Адказ запішыце.

1. Стрэлачнік не адыходзячы ад Сцёпкі запытаўся Едзеш куды

2. Мамачка галубка просіць сын так міла можа б ты на рэчку пагуляць пусціла

3. Калі рана ўзарэш то і ўраджай добры збярэш кажуць людзі

А. Двукоссе, коска, коска, працяжнік, коска, працяжнік, пытальнік, двукоссе.

Б. Коска, коска, двукроп'е, двукоссе, пытальнік, двукоссе.

В. Двукоссе, коска, двукоссе, коска, працяжнік.

Г. Двукроп'е, двукоссе, пытальнік, двукоссе.

*II варыянт*

**I.** Адзначце, які знак прыпынку ставіцца на месцы пропуску.

Убачыўшы ў адным месцы пры сцяжынцы, па якой даўно ніхто не хадзіў, натапыранае леташняе лісце, спыніўся, падумаўшы_«Няўжо грыб?».

1) Коска;
2) кропка;
3) кропка з коскай;
4) двукроп'е.

**II.** Устанавіце адпаведнасць сказаў правільным варыянтам пастаноўкі знакаў прыпынку. Адказ запішыце.

1. За астраўком успомніў Толя рукаво рэчкі вузенькае

2. Малайцы хлопцы пахвальвае іх Сцёпка Вучыцеся гуртам працаваць

3. Сэрца наша гатова плакаць па ўтрачанай вясне і нам хочацца крыкнуць Пастой вясна не пакідай нас вярніся яшчэ хоць на момант

А. Коска, двукроп'е, двукоссе, коска, коска, коска, клічнік, двукоссе.

Б. Двукоссе, коска, клічнік, працяжнік, коска, працяжнік, двукоссе, кропка.

В. Двукоссе, коска, працяжнік, коска, працяжнік, двукоссе, кропка.

Г. Двукроп'е, двукоссе, двукоссе, кропка.

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ ВЫВУЧАНАГА

## Практыкаванні

**82.** Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сярэдзіне сказаў.

Як непарыўная сувязь вякоў, каб асвятляць нашы мары і дзеянні, расцвітаюць у вечаровым небе адвечныя зоркі, сярод якіх на небасхіле ўзыходзіць самая цудоўная і такая блізкая нам зорка Багдановіча. Святло яго паэзіі — не толькі ў нябёсах. Яно разгараецца і ярка свеціць у душах людзей.

Шчаслівы народ, які мае такога Паэта. Шчаслівы Паэт, якога разумее народ.

На вятрах стагоддзяў, у сэрцах людскіх шугае полымя Максімавых песень. Б'ецца гарачы пульс яго радкоў, мудрых і мужных, суровых і пяшчотна адчайных, часам журботных. Паэзія яго высока грамадзянская, музычная, простая і такая прыцягальная. Яна — у нашых душах, у нашых сэрцах, на вуснах...

Паэзія Багдановіча, Цёткі, Купалы, Коласа перад усім светам на ўвесь голас засведчыла высокую дасканаласць беларускай мовы — выказніцы духу.

Душы і сэрцы нашы асвятляе самая цудоўная зорка. І мы, а за намі дзеці нашы, унукі і праўнукі і апошнія з чалавечага роду засведчаць: ёй, гэтай зорцы, належыць наша любоў!

Выйдзіце ў вечар. Выйдзіце ў ноч. Зірніце на кветнік — зорнае неба... Зоры ніколі не гаснуць. І заўсёды свяціць будзе ясная зорка паэзіі Максіма Багдановіча (*Паводле Н. Загорскай*).

**83.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце сінтаксічныя канструкцыі, якія ўскладняюць сказ (аднародныя, адасобленыя члены сказа), у адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй. Пабочныя словы абвядзіце.

Запаветную хату з белымі аканіцамі мы пазналі здалёк нават не давялося пытаць нікога.

Старажыха адчыняе дзверы. Музей зусім невялікі але тут у гэтай мясціне дыхаюць успамінамі аб паэце хата сяло навакольныя пушчы. Магчыма хату трэба было б пакінуць такой якой яна была ў той час

калі нарадзіла ў ёй простая беларуская маці свайго сына. Хай бы падлога была земляная хай бы мядзведзь-печ панура глядзела на ўсіх хай бы стаялі ў куце кросны. Ён жа вырас у беднай хаце каб вывесці з тысяч такіх хат на святло людзей якія не бачылі сонца.

Ля хаты цвітуць кветкі гудуць пчолы. На другім беразе рачулкі ходзяць важныя буслы шуміць лес...

Тут паэт праходзіў сваю навуку гэтыя палі ўлівалі яму ў грудзі сваю песню (*Паводле У. Караткевіча*).

**84.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычную аснову прэдыкатыўных частак складаных сказаў. Пабудуйце схемы складаных сказаў. Вызначце іх тыпы.

Вёсачка да якой я дабраўся напэўна не толькі самая далёкая але і самая малая сярод бліжэйшых вёсак. Аб яе велічыні я меў уяўленне ўжо тады калі мне сказалі што школа тут аднакамплектная на ўсе чатыры класы адна настаўніца.

Вёсачка з’явілася перада мной нечакана. І першая мая думка была той хто першы пасяліўся тут напэўна меў паэтычную натуру. З трох бакоў вёскі падступаў лес. Ды які лес! Адны бярозы. Я нават здзівіўся як ён уцалеў такі беразняк.

Вёска адна вуліца але на дзіва роўная і шырокая. Уздоўж хат дзве роўныя шарэнгі маладых бяроз. І толькі школа я ўбачыў яе і беспамылкова пазнаў стаяла ўбаку за гародамі бліжэй да лесу. Школьную сядзібу абкружалі не бярозы а тонкія таполі большасць таксама маладыя.

Напрасцяк цераз поле я пайшоў да школы і яшчэ здалёк пачуў голас настаўніцы і хор дзяцей. Ішоў урок. Каб не перашкодзіць я непрыкметна сеў на лаўку пад старой таполяй якая тут жа абсыпала мяне лісцем. Агледзеўся. Школьны будынак хоць і быў пасляваеннай пабудовай але вельмі ж нагадваў той які дэталёва апісаны Якубам Коласам класны пакой калідор пасярод у другой палавіне кватэра настаўніцы (*І. Шамякін*).

**85.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і ставячы знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор простага сказа.

Колькі лю..кіх лёсаў характ..раў колькі розных падзей і здарэн..яў жыло ў пам..ці К. Чорнага!

(3) малку з малале..тва і юна..тва ён увабраў у с..бе столькі скарбаў што іх яму хапіла (б) на самыя вялікія а..крыцці ў маста..кім даслед..-ванні (н..) толькі сваіх сучаснікаў а цэлых пакален..яў.

Ён (н..) меў такіх ма..чымасцей якія мае цяпер кожны піс..меннік ездзіць па ўсёй з..млі і далёка за яе межамі.

Засяроджанасць увагі пранікнен..е ў сферу лю..кіх дачынен..яў лю..-кіх драм трагедый і камедый нават абм..жаваных роднымі Цімкавічамі былі той вышынёй абсяг бачан..я з якой залежыць ад самога мастака а н.. ад колькасці ўражан..яў сабраных ім (*Паводле В. Віткі*).

# СЛОЎНІК

*Адасобленыя акалічнасці* — акалічнасці, якія выдзяляюцца ў сказе інтанацыйна і па сэнсе.

*Адасобленыя дапаўненні* — дапаўненні, якія выдзяляюцца ў сказе інтанацыйна і па сэнсе.

*Адасобленыя прыдаткі* — прыдаткі, якія выдзяляюцца ў сказе інтанацыйна і па сэнсе.

*Адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці* — акалічнасці месца, часу, спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі або назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў, якія выдзяляюцца інтанацыйна і па сэнсе ў сказе.

*Бяззлучнікавыя складаныя сказы* — складаныя сказы, прэдыкатыўныя часткі якіх аб'яднаны без дапамогі злучнікаў і злучальных слоў.

*Выдзяляльныя знакі прыпынку* — знакі прыпынку, якія выдзяляюць у сярэдзіне сказа адасобленыя члены сказа, параўнальныя звароты, звароткі, пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы, простую мову.

*Параўнальны зварот* — слова ці словазлучэнне, якое шляхам параўнання раскрывае і ўдакладняе змест астатняй часткі сказа.

*Простая мова* — чужое выказванне, якое перадаецца даслоўна, без лексічных ці граматычных змен.

*Пунктуацыя* — 1) сукупнасць знакаў прыпынку ў пісьмовай мове; 2) правілы іх выкарыстання ў пісьмовай мове; 3) раздзел мовазнаўства.

*Раздзяляльныя знакі прыпынку* — знакі прыпынку, якія раздзяляюць самастойныя сказы ў тэксце, прэдыкатыўныя часткі складанага сказа, асобныя члены простага сказа.

*Складаназалежныя сказы* — складаныя сказы, у якіх прэдыкатыўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў або злучальных слоў.

*Складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем* — складаныя сказы, у якіх наступная даданая частка непасрэдна залежыць ад папярэдняй даданай часткі.

*Складаназалежныя сказы з сузалежным падпарадкаваннем* — складаныя сказы, у якіх кожная даданая частка непасрэдна залежыць ад адной галоўнай часткі.

*Складаназлучаныя сказы* — складаныя сказы, у якіх прэдыкатыўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальных злучнікаў.

*Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі* — складаныя сказы, у якіх прэдыкатыўныя часткі аб'яднаны з дапамогай злучнікавай і бяззлучнікавай сувязі.

*Словы аўтара* — словы, якія ўводзяць простую мову ў сказ і паказваюць, каму яна належыць.

# ЛІТАРАТУРА

1. Беларуская мова : вучэб. дапам. для 9 кл. устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання, з 12-гадовым тэрмінам навучання (базавы і павышаны ўзроўні) / Л. А. Антанюк [і інш.]. — 2-е выд. — Мінск, 2005.

2. *Бурак, Л. І.* Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. — Мінск, 1982.

3. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. — Мінск, 1987.

4. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. — Мінск : Нац. цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008.

5. *Сямешка, Л. І.* Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. — Мінск, 1996.

# ЗМЕСТ